**Алег Грузьдзіловіч. Мае турэмныя муры.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2023. 430 с.: +12 с. іл.

Бібліятэкар Свабоды
*Аляксандар Лукашук*

Перапоўненыя палітвязьнямі камэры, катаваньні,
этапы, штрафныя ізалятары. Гэта ня сталінскія 1930-я.
Гэта Беларусь 2020-х. Пра свой турэмны досьвед востра,
дасьціпна, з надзеяй на дэмакратычную будучыню краіны
апавядае журналіст Свабоды Алег Грузьдзіловіч.
У кнізе выкарыстаныя малюнкі аўтара.
Імёны вязьняў калёніі, дзе знаходзіўся Алег Грузьдзіловіч,
зьмененыя дзеля бясьпекі.


FOL

ISBN 978-1-948784-02-3

# Зьмест

**3. Цягне на ўспаміны**

**6. Зона аховы**



**7. Вяртаньне з Гулагу**

## Валадары пустаты

Спынілі ўсё
Апроч часу,
Забралі ўсё
Апроч веры,
Забаранілі ўсё
Апроч памяці,
Задушылі ўсё
Апроч надзеі,
Перакрэсьлілі ўсё
Апроч мінулага,
Зьнішчылі ўсё
Апроч будучыні,
Бясьсільныя валадары пустаты.

*Аляксандар Лукашук,*
*Бібліятэкар Свабоды*

# I.
# «Ты мне за ўсё адкажаш!»



## Абмочаны на старце

У нос шыбае чалавечай мачой, і я ціхенька аглядаюся вакол, спрабуючы вызначыць, адкуль узяўся такі рэзкі пах. Моршчу нос ад агіды, пах муціць галаву. Што такое? У турэмным жа сарціры такога няма. Раптам бачу, як пад нагамі старога зэка, што стаіць побач са мной, насупроць кабінэта з надпісам «Псыхоляг», іртутнай плямай расьцякаецца лужына.

«Вы каго мне прывезьлі?! Ты што тут робіш?! Маўчаць!» — па калідоры грыміць хрыплы голас зь нейкага кабінэта наперадзе. Бачу, што старога зэка яшчэ і калоціць ліхаманка. У гэты момант ягоная чарга рушыць наперад. Сусед бокам робіць крок уздоўж сьцяны, і ўжо мая чарга займаць тое мокрае месца, якое ён вызваліў. Тут ужо ў мяне пачынаецца паніка. Калі ў гэтую хвіліну хто выйдзе з кабінэта псыхоляга, мяне ж запішуць яшчэ і ў сцыкуны! Блін!

Добра, што шэраг зноў зрушыў, і за сэкунды, як дзьверы сапраўды адчыніліся і ў калідоры

зьявіўся даўжэзны афіцэр, я пасьпяваю абыйсьці лужыну ды замерці на адной назе праз крок за ёю. Афіцэр утаропліваецца ў лужыну, лыпае вачыма, потым падымае галаву да столі і задае пытаньне, ад якога я ледзь ня падаю са сьмеху: «У нас што тут, дах цячэ? Днявальны!!!»

Яшчэ сэкунду таму на другім паверсе штабу 15-й магілёўскай калёніі было стэрыльна і ўрачыста, як у радзільні. І вось табе маеш — насцалі! Уздоўж калідора стаяць прыблізна два дзясяткі зэкаў, усе ў чорных строях, мнуць рукамі дзіўныя шапкі-таблеткі. Частка сярод зэкаў — тыя, каго прывялі з карантыну на разьмеркаваньне па атрадах. Гэтыя зэкі ў новых бліскучых строях, але самі выглядаюць як пабітыя цюцькі: твары шэрыя, вочы долу, плечы зьведзеныя як мага бліжэй да грудзей. Зэк з такіх жа «нававбранцаў» побач са мной і абмачыўся ад страху, калі пачуў роў начальніка.

Але тут ня толькі нававбранцы. Адначасова з разьмеркаваньнем навічкоў «хазяйка» — так паміж зэкамі заведзена называць начальніка калёніі — праводзіць сёньня «суды» і над тымі асуджанымі, на каго ахоўнікі склалі рапарты за розныя парушэньні ўнутранага парадку. Выглядаюць гэтыя парушальнікі сьмялейшымі за навічкоў з карантыну, ухмыляюцца адзін аднаму і нават на мянтоў кідаюць дзёрзкія позіркі. Хоць іх у рэдкім выпадку пазбаваць спатканьня з роднымі ці якой перадачы, а найхутчэй — пасадзяць на колькі сутак ва ўнутраную турму, так званае ШЫЗА — штрафны ізалятар.

І цень будучага ШЫЗА ўжо выразна бачна на іх тварах. Пра начальніка калёніі ў чарзе кажуць, што ён чалавек настрою, зь ім можа адбыцца шчырая размова, але можа і абмацюкаць як апошняга забойцу ды адправіць на перавыхаваньне ў кутузку. І сёньня якраз такі дзень, калі на літасьць нікому разьлічваць не выпадае. Начальнік толькі выйшаў з адпачынку, яму сёньня пад руку не трапляйся.

«Вы каго мне прывезьлі?! Ты чаго вярнуўся?! Маўчаць!» — зноў рве цішыню ў калідоры хрыпучы фальцэт. Неўзабаве з кабінэта начальніка выводзяць вязьня, якога ведаю па карантыне. На чорнай куртцы ліхтаром палае чырвоная бірка асуджанага за забойства. Дагэтуль віны ён не прызнаваў, і вось пачынае пажынаць наступствы: праз хвіліну пад канвоем яго ўжо вядуць па калідоры, потым ледзь ня бегам цягнуць па лесьвіцы.

Куды, мне стане зразумела праз некалькі хвілін, калі самому давядзецца прайсьці тым жа шляхам і спазнаць той жа цёплы прыём «хазяйкі» калёніі.

## Пасылаюць у Амэрыку

Даўгі стол з шчыльна пристаўленымі да яго мяккімі крэсламі. На другім баку стала — афіцэры ў сьветлых пясочнага колеру мундзірах, нібыта вось-вось адправяцца ў пустэльню ваяваць з бэдуінамі. Пад вялікім партрэтам маладога Лукашэнкі сядзіць чалавек сярэдняга веку з чырвоным тварам, з палкоўніцкімі пагонамі.

Вакол вачэй палкоўніка прыпухла, нібы ён ня спаў некалькі начэй запар. Галава вэртыкальна не трымаецца, зноў і зноў валіцца на грудзі. Ну, цяжка чалавеку пасьля адпачынку… Гэта відаць і па хуткасьці, зь якой ён усьведамляе, хто перад ім стаіць навыцяжку.

«Асуджаны Грузьдзіловіч Алег Анатольевіч па артыкуле 342 частка 1 Крымінальнага кодэксу на 1,5 года пазбаўленьня волі. Пастаўлены на прафіляктычны… Не, пачатак тэрміну 10.05.2022, канец тэрміну 30.03.2023 году. Пастаўлены на прафіляктычны ўлік як схільны да экстрэмісцкай ды іншай дэструктыўнай дзейнасьці», — стараюся прагаварыць стандартную справаздачу вязьня без памылкі, а як не ўдаецца, разумею, што ўсё, мне канец.

Паўза, ад якой становіцца яшчэ моташней. Чалавек з чырвоным тварам падымае вочы ад папер і з паўшэпту адразу пераходзіць на роў: «Што, журналіст? Радыё Свабода? Вы каго мне прывезьлі? Адвакаты і журналісты — самыя дрэнныя людзі… Ну, ты патрапіў! Ты за ўсё мне адкажаш, рыхтуйся! Ты чаго сюды прыехаў, вяртайся ў сваю Амэрыку!»

Пасьпяваю ўставіць, што я грамадзянін Беларусі і заўсёды жыў тут. «Маўчаць! Рот свой паганы закрый!» — палкоўнік пераходзіць на шалёны крык, але раптам паварочвае твар да аднаго з афіцэраў і ківае на маю асабістую справу: «А што ў яго там напісана? Што ён ужо пасьпеў нагаварыць?» Афіцэр падскоквае і зачытвае нейкую паперу, верагодна, запіску стукача. Невя-

домы стукач падслухаў, як зь сябрам Валодзем мы абмяркоўвалі парадкі і ўмовы ў карантыне. З зачытанага вынікала, што я ўшчэнт скрытыкаваў усё, што там убачыў.

Карантын, ведама, турма яшчэ тая, але з Валодзем мы гаварылі пра іншае. Што ў карантыне спачатку можа спадабацца, бо нарэшце атрымліваеш і станоўчыя эмоцыі. Інакш і ня можа быць. Узяць мяне: пасьля пяці месяцаў ізалятараў нарэшце змог дыхаць чыстым паветрам, пастаяць пад дажджом, адчуць на твары цеплыню сонечных промняў. А якая асалода ноччу расьцягнуцца на ложку з нармальнымі спружынамі, а не на жалезных пласьцінах шконкі, як у ізалятары! Такімі ўражаньнямі мы і дзяліліся з Валодзем, а стукач яўна прыдумаў для сваіх куратараў тое, што яму замаўлялі.

Відаць, недавер да сакрэтнага дакумэнту адбіўся на маім твары, бо палкоўнік нібы ўключыўся і зноў нешта зароў. А потым прагучаў загад, пра які не забудуся цягам усіх наступных месяцаў у 15-й калёніі. Загад рыхтаваць мяне да ПКТ, а калі будзе патрэба, дык «прапусьціць і празь петушыную хату».

Пасьля такога ў кабінэце зноў павісла паўза. Па маўчаньні калег-турэмнікаў палкоўнік яўна адчуў, што прагаварыўся альбо перагнуў палку, і адразу пачаў адкручваць назад. «Ладна, там паглядзім, што зь ім рабіць», — скарэктаваў загад грамадзянін начальнік і раптам згадаў пра данос стукача.

«А каму ён гэта казаў пра карантын? Не сабе ж ён казаў?» — начальнік вытарашчыўся на афіцэра, які сядзеў справа пад вакном. Той, нібы ўджалены, зноў падскочыў: «Вінаваты! Разьбяромся!» — і злосна зыркнуў вачыма ў мой бок. Цяпер яму прыйдзецца выцягнуць на суд яшчэ аднаго вязьня, здагадаўся я — і не памыліўся. Недзе праз гадзіну, калі ўжо сядзеў у ШЫЗА, чуў, як у суседнюю камэру некага прывялі. Праз хвіліну па голасе пазнаў сябра Валодзю, зь якім абмяркоўваў жыцьцё ў карантыне.

Але вернемся ў кабінэт начальніка калёніі. Фармальна тое, што апісаў, было паседжаньнем камісіі, якая выносіць нібыта сумеснае рашэньне — вінаваты зэк ці не, а калі караць яго, дык як. Але насамрэч начальнік ні з кім нічога не абмяркоўвае. Мне дык палкоўнік, накрычаўшыся, проста назваў лічбу — дзесяць сутак. Вымавіў стомленым голасам і падсунуў падпісаць нейкую паперу. На выхад!

## Вітаем у пекле!

Ужо ня памятаю, як выводзілі з кабінэта ў калідор. Памятаю толькі вытарашчаныя вочы хлопцаў, якія стаялі пасьля мяне ў чарзе на камісію і ўсё чулі. На тварах страх, у вачах пытаньне: колькі?

Адказаць не пасьпяваю. Ці то пасьміхнуўся, ці то плячыма паціснуў наконт падзей у кабінэце начальніка. Найбольш ашаламіў, вядома, загад рыхтаваць мяне да ПКТ, а можа і да «петушынай

хаты». Ніяк не даходзіла, што гэта можа быць усур'ёз. Цягнуць па калідоры, ззаду нехта падпіхвае ў сьпіну.

І літаральна празь некалькі крокаў даводзіцца ўцяміць, што сапраўды справа сур'ёзная. Як павялі ўніз па лесьвіцы, ззаду пасыпаліся кухталі — можа тры ці чатыры моцныя ўдары далоньню ў карак, потым у патыліцу. Як аўтаматная чарга. Хацеў азірнуцца, «Вы чаго?!» — пасьпеў абурыцца, як зноў атрымаў у карак і ледзь не пакаціўся зь лесьвіцы. «Ён яшчэ пасьміхацца будзе», — зашыпеў голас ззаду.

Апошнім быў удар у хрыбет, калі ўжо заводзілі ў ШЫЗА. Ляснулі ў той момант, як перад носам адчыніліся дзьверы, і гэтак моцна, што літаральна ўляцеў галавою ў сьцяну насупраць уваходу.

Праз шэсьць дзён у штрафным ізалятары зноў пабачыў начальніка калёніі, але не адразу яго пазнаў. Ня дзіва, бо за тыя дні сутыкнуўся з новай рэальнасьцю.

Падымаюць у ШЫЗА на гадзіну раней, чым у калёніі — а пятай. Праўда, да таго гадзіну побач з ізалятарам, у гадавальніку, брэшуць аўчаркі, і нармальна спаць ужо немагчыма. Але мозг яшчэ адмаўляецца ўключацца, да апошняга трымаецца за салодкія мроі.

І раптам запальваецца сьвятло, прадольныя грукаюць у дзьверы, і ты мусіш падхапіцца з драўляных нар, бо трэба як мага хутчэй іх прышпіліць да сьцяны. Гэта робіцца праз паварот даўгіх мэталічных кранштэйнаў, канцы якіх выведзеныя ў калідор. На тым баку загнуты

канец паварочвае ахоўнік, і ты ў камэры можаш падняць свае тры дошкі, абабітыя жалезным вугалком, да сьцяны. «Крышч» — спрацавала зашчапка, і зноў маеш прастору тры на шэсьць мэтраў, на якой да адбою ў дзевяць вечара будзеш гаспадарыць зь невялікімі перапынкамі на ранішнюю і вечаровую праверкі. Хочаш — хадзі як заведзены, хочаш — стой як укапаны. Альбо размахвай рукамі, калі не ляніва. Ці сядзі арлом на высокім зэдліку ля маленькага стала, на якім адначасова могуць умясьціцца толькі два худыя зэкаўскія азадкі, хоць адкідных нараў у камэры можа быць і шэсьць штук. Тры ўнізе і тры над імі, на другім паверсе. Але заплюшчваць вочы нельга — за гэта складуць рапарт.

І вось ты прычапіў да сьцяны свае нары і пачынаеш чаўнаком хадзіць туды-сюды. Мінае менш як паўгадзіны, і ў калідоры чуеш грукат вазка. Гэта баландзёры развозяць сьняданак, на вазку ў іх армейскія флягі з кашай і гарбатай, стосы алюмініевых талерак і ахапак лыжак.

Ноч у ШЫЗА, нават чэрвеньская, халодная. Пасярэдзіне ночы я заўсёды прачынаўся ад калатуну, нібы спаў зімой у лесе. Таму раніцай, каб сагрэцца, спачатку робіш зарадку. Потым мыесься. А як раздадуць гарачую кашу, найчасьцей панцак, праглынаеш яе як мага хутчэй ды запіваеш кубкам салодкай гарбаты. Нарэшце ў страўніку пацяплела, а тады і настрой падняўся.

Ранішняя праверка пачнецца яшчэ праз паўгадзіны, і ў цябе ёсьць час на прыборку: трэба падмесьці падлогу венікам, які адмыслова выдае

прадольны, выцерці пыл з усіх гарызантальных паверхняў мізэрнай дзіравай анучкай, асабліва падбаць аб чысьціні «таўчка» — так называюць санвузел у выглядзе чыгуннага карыта зь дзіркай, якім карыстаюцца, седзячы на кукішках.

Як прыбіраюць туалет? Тут ёсьць свае сакрэты, бо ў лепшым выпадку для гэтага знойдзеш старую зубную шчотку ці кавалак анучкі. Але можа ня быць нічога. Тады мый «ачко» чым хочаш, хоць туалетнай паперай. Карыстайся туалетнай паперай, венікам, папрасі ў дзяжурнага хлёркі, парашку. Лі больш вады, каб зьнішчыць пах.

Праўда, мый ня мый, калі ёсьць загад начальства, заўсёды лёгка ўлепяць рапарт за нібыта не прыбранае «ачко». Або за пыл на паліцы, якую ты перад гэтым старанна працёр. У канцы першага ШЫЗА меў ужо два рапарты менавіта за непрыбраны санвузел і пыл на палічцы. Спрачацца з афіцэрамі наконт праўдзівасьці гэтых рапартаў было бессэнсоўна. Адзіны лайфхак, які можа дапамагчы, гэта прыпіска ў канцы тлумачэньня: «Прашу строга не караць». Дзякуючы такой прыпісцы некаторыя пазьбягаюць яшчэ аднаго ШЫЗА.

Але пра гэта я даведаюся пазьней. Пакуль я навічок.

Прыбраўшы ў камэры, чакаеш праверкі. Што яна набліжаецца, чуваць па грукаце ў канцы калідора. Гэта як цунамі. Дзьверы камэр па чарзе адчыняюць, гучыць каманда «Рапарт!», зэкі рапартуюць дзяжурнаму афіцэру, які праводзіць праверку. «У камэры… знаходзіцца… асуджаны…

прыборка праведзена… скаргаў няма». Часьцей галасы зэкаў напружаныя, глухія. Відаць, адпавядаюць настрою, які ахоплівае падчас праверкі. Мне дык заўсёды было страшэнна непрыемна. Бо кожная праверка — гэта як сустрэча з тым, ад каго чакаеш новых праблем, а то і пакутаў. Нават дробная памылка ў рапарце можа прывесьці да дадатковага тэрміну.

Псыхалягічны ціск працягваецца і пасьля рапарту. Зэк мусіць адвярнуцца да сьцяны і стаць да яе, падняўшы рукі ды расставіўшы ногі. У гэты час у камэру ўваходзяць кантралёры з драўлянымі калатушкамі ці дручкамі і пачынаюць калаціць па каркасах нараў, кратах вакна, батарэі ацяпленьня. Шукаюць схаваныя цыгарэты ці яшчэ што забароненае. Таксама абшукваюць насельнікаў камэры, нават прамацваюць іх рэчы на паліцы, хоць тых рэчаў усяго нічога — толькі ручнік, мыльніца і зубная шчотка з пакуначкам пасты. Перад сыходам з камэры дзяжурны афіцэр цікавіцца, ці ёсьць пытаньні і просьбы. У мяне ніколі просьбаў не было.

Бывае, зэку шанцуе і можна не дагаворваць даклад. Афіцэр, які праводзіць праверку, можа стаміцца, ці яму сумна, ці што іншае прыйшло ў галаву, і ён можа рапарт спыніць. Са мной так і адбылося на шосты дзень сядзеньня ў ШЫЗА, у панядзелак, 6 чэрвеня.

Тая ноч выдалася зусім цяжкай. Ледзь ня кожную гадзіну праз праблему з пухіром мусіў хадзіць да прыбіральні. Плюс косткі ад ляжаньня на дошках як ніколі разбалеліся, і праз кожныя

10–20 хвілін мусіў варочацца з боку на бок. Фактычна ноч ня спаў, і ня дзіва, што калі пачалася ранішняя праверка, нібы яшчэ драмаў. Можа таму, як пачаў даклад, стаў запінацца і забывацца на цэлыя сказы. Пасьля чарговай замінкі ўнутры ўсё пахаладзела. На карантыне ўжо атрымаў рапарт за адно хібнае слова ў дакладзе. Дык могуць жа і цяпер уляпіць яшчэ 10 дзён ізалятара. Начальнік жа загадаў «рыхтаваць да ПКТ»…

Але ў вачах правяраючага афіцэра, якому рабіў даклад, здаецца, ня ўбачыў агрэсіі. Цікаўнасьць, крыху спачуваньня, яшчэ больш абыякавасьці, але дакладна начальнік не настроены дабіваць беднага зэка.

Што да мяне, дык таксама асабліва не зьвярнуў на афіцэра ўвагі. Мент і мент. Нават не заўважыў, колькі зорак на пагонах. І ў твар не ўглядаўся, тым больш сьвятло з вакна біла ў вочы. Толькі голас падаўся нібы знаёмым. «Хопіць, — афіцэр спыніў мой даклад на паўслове. — Пытаньні ёсьць?» — «Пытаньняў няма».

Скончыўся агляд камэры, ляснулі завалы дзьвярэй, і я зноў застаўся ў мёртвай цішыні. Пачынаю хадзіць з кута ў кут, як раптам задумваюся: хто ж гэта прыходзіў мяне правяраць? Згадваю, што гэты ўсё ж неяк дзіўна трымаўся ў параўнаньні з ранейшымі правяраючымі. У камэру так і не зайшоў. Тыя заўсёды заходзілі і прыдзірліва ўсё аглядалі. А гэты — не, нібы толькі вывучаў мяне здаля. Згадваю, што і ахоўнікі паводзілі сябе неяк інакш. Ня лезьлі наперад, лавілі ягоны позірк. А-а-а. Дык можа гэта і быў

начальнік калёніі? Той, які роў на мяне і пагражаў прапусьціць праз «петушатню» ды рыхтаваць на ПКТ? Можа, вырашыў асабіста праверыць, як выконваюць ягоны загад, ці трэба мяне дацісьнуць?

Але потым засумняваўся ў такой вэрсіі. Падумалася: чаго гэта раптам начальніку калёніі асабіста хадзіць па камэрах штрафнога ізалятара? Ён аддасьць загад і чакае выкананьня, а самому чаго тут пэцкацца?

## Новая камісія

Яшчэ ня скончылася дзесяцідзёнка ў ШЫЗА, як мяне зноў павялі на «суд» да начальніка калёніі.

Ну, не адразу зразумеў куды… Бо там жа як? Падыходзіць дзяжурны па калідоры, ляскае «кармушкай» і крычыць у дзірку: «На выхад!» Выходзіш, становісься да сьцяны. Як аблапаюць, кудысьці вядуць. Можа і на расстрэл, хто іх ведае.

Ідзеш па калідоры, рукі за сьпінаю. У калёніі можна хадзіць з рукамі ўніз, а тут — не, толькі за сьпінаю, як у СІЗА. Ідзеш хутка, бо падстройваесься пад маладога ахоўніка. Памятаю пафарбаваныя густым бардо сьцены, з правага боку закратаваныя вокны, праз іх ліецца сьвятло з дворыку. Шэрая бэтонная падлога, шэрыя трубы замест плінтусаў. І лёгка пахне пацукамі. Дзіўлюся гэтаму паху, бо нібыта ўсё блішчыць армейскай чысьцінёй. Але не памыляюся. Праз тыдзень, падчас другога сядзеньня ў ШЫЗА, змагу пераканацца, што па ізалятары начамі бегаюць

пацукі, а ахоўнікі за імі ганяюцца з палкамі. Але гэтае адкрыцьцё наперадзе, а пакуль мяне вядуць у невядомасьць, і мне становіцца ўсё трывожней. Можа, вядуць у тую «петушатню», пра якую казаў начальнік? Паніка ў мозгу. Што рабіць?

На такі выпадак бывалы зэк у магілёўскім сьледчым ізалятары так інструктаваў нас, першаходаў. Калі закінулі ў камэру, пра якую падазраеш, што там арыштанты зь нізкім статусам, рукі нікому не падаваць, адразу абвясьціць, што ты мужык, а не «п….», а калі тыя не пацьвердзяць таго самага адносна сябе, грукаць у дзьверы і патрабаваць іншай камэры.

Разумею, тут на ўсё воля адміністрацыі, што захочуць, тое і зробяць. У любой камэры можа чакаць сюрпрыз.

Але мяне вялі не ў «петушатню», а на чарговую камісію. Гэтым разам камісія на чале з палкоўнікам засядала ня ў штабе калёніі, а проста ў будынку ШЫЗА. Заходжу ў малы кабінэт. Там вакол сьцен набілася можа чалавек восем у форме. Зь іх за сталом сядзіць адзін — той самы чырванатвары, які на першай камісіі пагражаў «петушынай хатай», а нядаўна прыходзіў у камэру з праверкай. Разумею, гэта і быў начальнік калёніі!

Зноў раблю даклад, і гэтым разам атрымліваецца без запінкі — наблатыкаўся. Начальнік уключае відэазапіс, і мне зачытваюць складзеныя на мяне рапарты. Адзін — за пыл на паліцы, другі — за дрэнна прыбраны санвузел. Што праўда, даюць выказацца ў сваё апраўданьне. Кажу, што пылу не было, гэта лухта, камэру пры-

бiраю кожны раз да бляску. І наконт санвузла не пагаджаюся, але менш катэгарычна. Кажу, прыбiраў як мае быць, але праз асаблiвасьцi здароўя, бо падпрастыў, мушу часта хадзiць па-малому, i пах мог зьявiцца ўжо пасьля прыборкi. Бачу на тварах афiцэраў недаверлiвыя ўхмылкi, але начальнiк з рашэньнем не сьпяшаецца. Падумаў-падумаў i абвяшчае: за санвузел — пазбавiць доўгатэрмiновага спатканьня, за пыл — вялiкай рэчавай пасылкi. Расьпiшыся!

## ШЫЗА i карцар

«Штрафной изолятор». Так па-расейску расшыфроўваецца абрэвiятура ШИЗО. Апошнiя 20 гадоў свайго журналiсцкага жыцьця даводзiлася рэгулярна пiсаць пра ШЫЗА, калi туды траплялi палiтычныя вязьнi. Пры гэтым слова «iзалятар» стараўся не ўжываць i замяняў яго словам «карцар». Чаму? Бо ў рэдакцыi лiчылася, што розьнiцы памiж карцарам i ШЫЗА няма, цi яна зусiм нязначная, а каструбаватае слова «ШЫЗА» шмат каму незразумелае, таму лепш ужываць «карцар».

Збольшага так i ёсьць, але калi трапляеш у ШЫЗА i параўноўваеш умовы там з умовамi ў карцары, розьнiца аказваецца iстотнай. І цяпер шкадую, што столькi гадоў нехаця, хоць у дробязi, але падманваў сваiх чытачоў-слухачоў. Уяўляю палiтвязьня, якi выходзiць на волю i чытае пра сябе мой артыкул, дзе пазначана, колькi дзён ён правеў у карцары. А насамрэч ён сядзеў у ШЫЗА альбо ў ПКТ, дзе ўмовы ўсё ж iнакшыя. Сорамна!

Пачнем з таго, што карцараў у калёніі не бывае, яны існуюць толькі ў сьледчых ізалятарах. А там, нагадаю, утрымліваюць чалавека, які яшчэ не асуджаны альбо чакае апэляцыі, то бок арыштанта, адносна якога прысуд не ўступіў у сілу, ён ня лічыцца злачынцам, і таму караюць яго крыху лягчэй. А як толькі прыходзіць з суду ліст, што апэляцыйны суд пацьвердзіў вырак і ты абвешчаны злачынцам, тады чакай, што праз некалькі дзён паедзеш па этапе ў калёнію. І вось там ужо за нейкае парушэньне могуць дадаткова пакараць зьмяшчэньнем у ШЫЗА альбо адправіць у ПКТ — «памяшканьне камэрнага тыпу». Туды на працяглы час, нават на некалькі месяцаў трапляюць тыя вязьні, хто раней ужо быў пакараны штрафным ізалятарам, але, паводле адміністрацыі, «ня стаў на шлях выпраўленьня».

Дык чым розьняцца ўмовы ў карцары і ў штрафным ізалятары?

Пачну пералічаць. Можа, для мяне было галоўным — у ШЫЗА на ноч зусім не выдаюць матраца і коўдры, там сьпіш на голых дошках, пад галаву можаш пакласьці хіба што шлёпкі ці рулён туалетнай паперы. Нават няма плястыкавай бутэлькі з вадой, якой можна было замяніць падушку ў вязьніцы на Акрэсьціна.

Яшчэ ў ШЫЗА не выводзяць на прагулкі. Увогуле. Нават арыштантам, зьмешчаным у ПКТ, дазволеная гадзінная прагулка, але ня тым, каго пакаралі штрафным ізалятарам. Тое самае зь лістамі — іх не прыносяць. Кнігі, газэты таксама пад забаронай. Нават радыё, якое ледзь-ледзь грае

недзе ў канцы калідора, у камэры ШЫЗА не працуе. Карацей, поўная ізаляцыя, якую немагчыма не параўнаць з катаваньнем. Чалавек, якога на шмат дзён зьмяшчаюць у ШЫЗА, рызыкуе тым, што проста можа звар’яцець, ня кажучы ўжо пра непазьбежныя ўдары па здароўі ад холаду, недасыпаньня, бытавых праблем.

Умовы побыту ў ШЫЗА і ў карцары сьледчага ізалятара амаль аднолькавыя. Такія ж звышспартанскія. Ложкі не стаяць на падлозе, а прычапляюцца ўдзень да сьцяны, як у цягніку, і адкладаюцца толькі на ноч. Вопратка, у якую прымушаюць пераапрануцца вязьняў, пакараных карцарам ці ШЫЗА, таксама фактычна аднолькавая: чорныя штаны, куртка без каўняра, шлёпанцы на нагах. Толькі ўзімку дазваляюць паддзяваць пад куртку майку з даўгімі рукавамі, а ў іншы час толькі з кароткімі, нават у міжсэзоньне, калі на вуліцы па начах ужо мінус, але батарэі яшчэ халодныя. Вынікае, што ўсё робіцца дзеля таго, каб пакаранаму было ў камэры максымальна няўтульна і холадна.

З асабістых рэчаў арыштанту ў штрафным ізалятары і вязьню ў карцары таксама дазволена адно і тое ж: ручнік, кавалак мыла, рулёнчык туалетнай паперы, зубная шчотка, зубная паста. Але ў ШЫЗА магілёўскай калёніі зубную пасту ў цюбіку праносіць не дазваляюць, толькі калі выціснеш крыху ў поліэтыленавы пакуначак. А станка галіцца не даюць ні ў якім разе. «Паголісься, як выйдзеш», — пачуў я ў другі дзень сваёй адседкі ў ШЫЗА.

Ужо казаў, што ў ШЫЗА чытаць не дазваляюць нічога, хоць могуць прынесьці на азнаямленьне якую паперу з суду ці пракуратуры. Пакажуць, дадуць расьпісацца і забяруць. Ведаю, што такія ж абмежаваньні дзейнічаюць і ў карцарах сьледчых ізалятараў. На час азнаямленьня з судовымі дакумэнтамі мне выдавалі мае акуляры, якія трымалі на адмысловай палічцы ў калідоры. І тое — толькі з дазволу лекара, і каб не з шклянымі лінзамі, а з плястыкавымі.

Мінімальнае абсталяваньне камэр — таксама агульнае паміж ШЫЗА і карцарам: жалезная палічка на некалькі ячэек, кароткі столік і вузкая лаўка пры ім. Вось і ўся мэбля. Прычым ножкі стала і лаўкі абавязкова прымацаваныя да падлогі. А лаўка завышаная, прыдатная толькі для людзей вельмі высокіх. Калі ж чалавек сярэдняга ці малога росту, а такіх большасьць, дык ім на такой лаўцы доўга ўседзець немагчыма. Мяркую, так робяць наўмысна, каб пакараныя ШЫЗА і карцарам былі вымушаныя амаль увесь час праводзіць на нагах.

Дарэчы, сесьці ці легчы на падлогу лепш не спрабаваць. Дзяжурны па калідоры рэгулярна глядзіць у «вочка», і за гэтае парушэньне пагражае напісаньнем рапарту. Акрамя таго, за вязьнем няспынна сочыць відэакамэра.

«Тут відэазапісы захоўваюцца сама меней тыдзень», — расказаў мне асуджаны Марат, калі нам давялося апынуцца ў адной камэры падчас майго другога дзесяцідзённага тэрміну. Сукамэрнік раней ужо сядзеў і ў ШЫЗА, і ў ПКТ, меў багаты

досьвед. Казаў, што відэазапісы часта праглядае начальнік калёніі, і калі ўбачыць, што арыштант сядзіць ці ляжыць на падлозе, яшчэ колькі сутак такому парушальніку рэжыму забясьпечаныя.

Марат падзяліўся зэкаўскім сакрэтам. Аказваецца, ёсьць у камэры зона, недасяжная для відэа, якое ўсталяванае над вакном. Гэта вузкая палоска падлогі ўздоўж тарцавой сьцяны камэры, каля батарэі. Вось там, хоць і ў нязручнай позе, можна хоць нейкі час паляжаць. Але ўвесь час трэба прыслухоўвацца, каб не прапусьціць набліжэньне прадольнага. Некаторыя кантралёры могуць падабрацца да камэры «на цырлах», каб засекчы парушэньне. Тады не крыўдуй.

## Голас народу

Ці сьмяюцца людзі ў турме, ці жартуюць? І з чаго сьмяюцца, з каго?

Звонку падаецца, што за кратамі зусім не да сьмеху, і, па вялікім рахунку, яно так і ёсьць. Першыя некалькі дзён на «Валадарцы» ўсё вакол бачылася ў настолькі змрочных фарбах, што ўсьмешка ўспрымалася як нешта дзікае, недарэчнае. Але жыцьцё хутка бярэ сваё.

Калі на «Валадарцы», на другі дзень ад арышту, упершыню пачуў з калідора сьмех, ажно крыху ўздрыгануўся. Сьмяяліся дзьве маладыя жанчыны-кантралёркі. Яны былі акурат за дзьвярмі нашай камэры, на прадоле (прадоламі ў турмах завуць калідоры, а тых, хто на іх працуе, завуць прадольнымі). Саміх рагатушак-прадольных

дагэтуль ня бачыў, але вельмі захацелася іх неяк уявіць. І вырашыў, што адна абавязкова маленькая, таўстушачка-бляндынка, а другая, зь ніжэйшым голасам, мусіць быць высокай, зграбнай брунэткай. Рагаталі яны, відаць, з хлопца-ахоўніка, бо чуліся словы «мне ён, такі, кажа… а я яму… ды пайшоў…» А за гэтым — такі даўжэзны ланцужок матаў, што ўжо я пра сябе пасьмяяўся. Дык тут нічым людзі не адрозьніваюцца ад тых, якія ходзяць на волі. Ёсьць разумныя і дурні. Ёсьць сьмяшлівыя і нахабныя. Прычым гэткі камплект можна сустрэць ня толькі на прадоле, але і ў сваёй камэры.

У камэры, аднак, сьмяюцца часьцей з гісторый пра мінулае, бо ў ёй самой амаль нічога не адбываецца. Калі ў камэры ёсьць добры апавядальнік, а яшчэ лепш знаўца анэкдотаў — усім радасьць. Зь ім весялей, і час хутчэй бяжыць, і атмасфэра больш прыязная.

Натуральна, густ на жарты ўва ўсіх нас розны, шмат што залежыць і ад узросту. Калі табе за 60, ты сьмяесься з таго, што маладому незразумела. І наадварот. Вось прыклад.

23-я камэра магілёўскага сьледчага ізалятара, калі я туды трапіў, мела тэлевізар. Для мяне за тры месяцы ў СІЗА гэта было ўпершыню, таму спачатку глядзеў бесьперапынна ўсё спрэс. Але потым пачаў спрачацца з хлопцамі, калі тыя перад клясычнымі фільмамі аддавалі перавагу мульцяшкам ці «баевікам». І вось неяк у суботу, націскаючы кнопкі каналаў, хлопцы натрапілі на камэдыю рэжысэра Эльдара Разанава «Сьце-

ражыся аўтамабіля». Памятаеце — «Дзетачкін, канечне, вінаваты. Але ён не вінаваты»? І гэтак далей.

Хвілін пяць глядзім, некалькі чалавек, і я ў тым ліку, уголас сьмяюцца, але хутка для большасьці фільм становіцца нецікавы. «Старызна!» Бачу па некаторых тварах, што для іх тэма фільму ўсё ж незразумелая, сьлізкая — праўдалюб трапіў за краты, бо краў і аддаваў накрадзенае дзецям. А ў камэры нашай — крадуны, алімэнтшчыкі, хуліганы, толькі тры вязьні палітычныя. Хіба такая тэма тут можа быць папулярнай? У выніку хлопцы знаходзяць чарговы мульцік і большасьцю галасоў вырашаюць глядзець далей яго. Добра яшчэ, што ўсё ж зладзілі нейкае кшталту галасаваньне. Але ў выніку 16 здаровых мужыкоў з адкрытымі ратамі ўперыліся ў мульцяшку і на паўтары гадзіны забыліся пра ўсё на сьвеце! Як на мяне, дык адно гэткае відовішча было вартае ўсьмешкі. Вядома, горкай.

Можа, яшчэ такі эпізод. Генадзю 40 гадоў, служыў у ПДВ — парашутна-дэсантных войсках, і сярод нас адразу атрымлівае мянушку Дэсантура. У турму трапіў за тэлефонны званок у міліцыю, што нібыта замінаваная школа. Атрымаў два з паловай гады. Прычым ёсьць у ягоным прысудзе і палітычны складнік — зьнявага прэзыдэнта. Як так атрымалася?

Урэшце Дэсантура неяк раскрыў сукамэрнікам у СІЗА, як усё было. Пасьля чарговай п’янкі, калі душа запатрабавала прыгод, ён здуру набраў нумар МНС і расказаў прыдуманую гісторыю пра

замінаваную школу. Але яму не паверылі, можа таму, што быў моцна нецьвярозы. Тады накіраваў пажарных на тры літары, пазваніў у міліцыю і паўтарыў сваю гісторыю. Яму і там параілі адсыпацца — і ён зноў выказаўся моцна, ужо пра міліцыянтаў. Падалося мала, набраў нумар хуткай дапамогі, але ўжо панесла, і дабраўся да самога Лукашэнкі. Адзваніўся і пайшоў да школы паглядзець, ці адрэагавала міліцыя на ягоны званок пра замінаваньне. Там яго і прыхапілі.

А на працэсе судзьдзя вырашыў праслухаць кожны званок, зроблены Генадзем. Той як мог адгаворваў. «Прасіў іх: ня трэба, я ж і так прызнаю віну. Але ня слухаюць. Уключылі запіс, і, натуральна, як пачаў выказвацца, дык ахоўнікі і пракурор пакаціліся са сьмеху. А як дайшло да Лукашэнкі — дык цішыня. Перапалохаліся. Ну што, кажу, я ж вас папярэджваў! Маўчаць. І ўляпілі мне два з паловай за некалькі мацюкоў».

Гэтую гісторыю Генадзь шмат разоў паўтараў пад рогат усёй камэры, у тым ліку на біс тое, што казаў пра беларускага дыктатара. Пад кожным словам усе былі гатовыя падпісацца. «Цябе трэба прыняць у палітвязьні». «Не, — адказваў асьцярожны цяпер Дэсантура, — лепш сам па сабе».

Паверце, у кожнай камэры знойдзецца не адзін, а два-тры такія балакі, якія прынясуць палёгку ў душэўным адзіноцтве і трывозе за будучыню.

## Кіеў бамбілі

На «Валадарцы» мне давялося прынесьці ў нашу 89-ю камэру жахлівую навіну аб пачатку вайны ва Ўкраіне. Гэта было 25 лютага 2022 году. Мяне выклікалі на сустрэчу з адвакатам, і першае, што ад яе пачуў, — што расейскія войскі б'юць па Кіеве ракетамі і што наступ на сталіцу Ўкраіны пайшоў зь Беларусі. «Верагодна, прайшлі праз нашы чарнобыльскія раёны, захапілі атамную станцыю. Усё бамбяць». Мы, уласна, і пра справу маю амаль не гаварылі. Толькі пра новую вайну.

І вось я вяртаюся ў камэру. А ад таго, хто пайшоў «на кабінэты» (так кажуць пра вязьняў, якіх забралі на допыт ці на сустрэчу з адвакатам), уся камэра чакае любой навіны з волі. Навіны — гэта ж як глыток сьвежага паветра.

Толькі ня гэтым разам. Навіну пра вайну камэра сустрэла магільным маўчаньнем і яшчэ больш змрочнымі ды шэрымі тварамі. А ўявіце — чатыры чалавекі сядзелі на «Валадарцы» больш за год, і выгляд мелі адпаведны. Адзін, той, які прабыў за кратамі ўжо паўтара года, напеў радкі савецкай песьні: «Киев бомбили, нам объявили, что началася война…»

Але маўчалі мы нядоўга. Паступова ў камэры зайшла спрэчка наконт таго, чым станецца для Пуціна ягоны напад на Ўкраіну — моцным ходам, які прынясе перамогу, ці фатальнай памылкай. Адна з думак была такая, што расейскі прэзыдэнт, хоць ён і апошняя пачвара, але па-свойму разьлічыў усё дакладна, хутка ўрад Украіны

абрынецца, ужо варта падумаць пра тое, хто стане наступнай ахвярай. Але іншы бок з гэтым не пагаджаўся. Пазыцыя была тая, што Пуцін і ягоная каманда недаацанілі ўкраінцаў, і гэтая памылка прывядзе да паразы ўсяго пуцінскага рэжыму. І беларускага таксама.

Вакол апошняй тэзы камэра аб'ядналася. У хуткую паразу лукашэнкаўскага рэжыму былі гатовыя паверыць усе без выключэньня і нават бяз важкіх аргумэнтаў. Зьявілася прадчуваньне, што інакш ня можа быць, бо вялікая пліта зрушыла нарэшце зь мёртвай пазыцыі і, спаўзаючы, разбурыць усё на сваім шляху.

З гэтага дня ўкраінская тэматыка стала ў турме галоўнай. Навіны прыходзілі да нас запозьнена, па грамулечцы, але даходзілі. Ад сваякоў, адвакатаў, нават ад сьледчых. «Ну, так, ад Кіева адышлі», — прызнаў сьледчы скрозь зубы, калі ў сакавіку спытаў яго пра сытуацыю ва Ўкраіне.

Наступнай важнай навіной стала тое, што Ўкраіна вярнула пад свой кантроль Чарнобыльскую АЭС. Пра гэта паведаміў турэмны тэлеграф. Тэхналёгія тут простая. На кабінэты цябе вядуць не аднаго, а па дарозе далучаюць іншых вязьняў, з розных паверхаў, з розных карпусоў. Так удаецца пакамунікаваць і нешта цікавае ўведаць.

## Спрэчка з «русским миром»

У сакавіку з «Валадаркі» мяне перавялі ў Магілёў, у турму № 4, дзе трымаюць ня толькі асуджаных на адмысловы турэмны рэжым, але і тых,

хто чакае апэляцыі і фармальна яшчэ ня лічыцца злачынцам. Тут інфармацыі пра вайну было значна больш — у 23-й камэры, куды спачатку трапіў, стаяў тэлевізар. Акрамя беларускіх каналаў, ішлі і расейскія, нашпігаваныя, як сялянская каўбаса салам, ваеннай прапагандай. Але ўжо з геаграфіі баёў стала зразумела, што расейскі бліцкрыг праваліўся. Гэта ўцямілі і прыхільнікі Пуціна, якіх таксама можна сустрэць у беларускіх турмах.

З Уладзімірам, грамадзянінам Расеі, якога ў Беларусі судзілі за бойку зь цялесным пашкоджаньнем, аднойчы ўзьнікла спрэчка, якая асабіста для мяне мела пэўныя наступствы, даволі паказальныя што да турэмных парадкаў.

Неяк увечары па «скрыні» пачаліся навіны НТВ, у якіх паказалі чарговы рэпартаж з Данецку, з самай лініі фронту. Расейскія журналісты расказваюць пра ўкраінскія снарады, якія трапляюць у жылы дом, пра ахвяры сярод мірных жыхароў. Зразумела, цякуць сьлёзы, у камэнтарах гучаць абурэньні простых людзей.

Такія кадры сапраўды ня могуць не выклікаць спачуваньня да пацярпелых. І добрага настрою нікому з арыштантаў нашай камэры ў магілёўскім СІЗА яны не дадавалі. Наадварот. Але заўважу, што ніводнага разу ня бачыў на НТВ хаця б кароткае згадкі пра тое, што адбываецца зь мірнымі жыхарамі на другім баку лініі фронту. Што расейская артылерыя мэтадычна, дом за домам, руйнуе Харкаў і Марыюпаль, што ракетамі абстрэльваюць Кіеў, Адэсу, Дніпро ды іншыя ўкраінскія

гарады, што і там, ня толькі ў Данецку, гінуць і гінуць мірныя жыхары, прычым значна больш.

Але Ўладзімір, паглядзеўшы такія навіны НТВ, уголас пачаў называць украінскіх вайскоўцаў фашыстамі ды абяцаць ім розныя кары. А на довад, што яны абараняюць сваю радзіму ад агрэсара, бо гэта Расея напала на Ўкраіну 24 лютага, заявіў наступнае: «А мы іх з 14-га году папярэджвалі, каб не ішлі ў NATO, яны не паслухаліся, таму давялося ўжыць сілу».

Пачалася спрэчка. Нехта падтрымаў мой бок, нехта процілеглы. Па турэмных мерках сытуацыя даволі незвычайная. Але спрачаліся нядоўга і збольшага на нармальных тонах. Я хутка зразумеў, што справа можа дайсьці да канфлікту, і спыніўся, Уладзімір таксама замаўчаў. Але, відаць, і гэтага хапіла. У той жа дзень пасьля вячэры, калі звычайна ўжо няма ніякіх перасоўваньняў па камэрах, мне раптам загадалі зьбіраць рэчы: «Каб праз пяць хвілін быў у калідоры!»

У сьледчых ізалятарах такі парадак: калі будуць пераводзіць у іншую вязьніцу, дык прыносяць паперу складаць вопіс рэчаў. А калі проста выклікаюць з рэчамі — значыць, перавядуць у іншую камэру. Але так адбываецца не праз нейкую ратацыю — пераводзяць за пэўную правіннасьць, альбо каб не разгарэўся канфлікт.

Мяне дык перавялі непадалёк, у 17-ю камэру на тым жа першым паверсе, ужо без тэлевізара. Пэўна, каб з маім удзелам не было ніякіх дыскусій, пагатоў на тэму вайны. Тое, што ад-

міністрацыя так хутка адрэагавала на спрэчку, ня дзіва. Паўсюль відэакамэры, дый стукачы ня сьпяць у шапку. Адзін малады вязень, асуджаны па артыкуле 328, праз гадзіну пасьля спрэчкі пра Ўкраіну выходзіў нібыта «на кабінэты». Магчыма, мой пераезд — справа ягоных рук.

## Балбатуны надакучылі

Зноў тэлевізар пабачыў толькі праз два месяцы, ужо ў магілёўскай калёніі № 15. Па-ранейшаму найперш цікавіла вайна ва Ўкраіне: што новага на франтах «за нашу і вашу свабоду»?

Зразумела, што ў такім ракурсе навінаў на беларускіх тэлеканалах ня знойдзеш, на расейскіх тым больш. Але па драбочку інфармацыю ўсё ж можна было атрымаць, адно што даводзілася з галавой акунацца ў прапагандысцкі бруд. Цярпеньне трэба было мець моцнае!

У нашым 9-м атрадзе, у якім было шмат моладзі з 328-м наркатычным артыкулам, глядзець так званыя аналітычныя перадачы аказалася амаль немагчыма. Гэтую аўдыторыю цікавілі толькі відэакліпы ці фільмы-фэнтэзі, і на навіны тэлевізар удзень нават не пераключалі. Таму я зь сябрамі-палітычнымі ішоў у суседні пяты атрад, паверхам ніжэй, дзе кантынгент падабраўся больш удумлівы. Вядома, і там гледачы падзяляліся на тых, хто быў за Ўкраіну, і тых, хто за Расею, прыблізна 50 на 50. Прычым адметна, што прыхільнікі «русского мира» не лічылі неабходным хаваць сваё стаўленьне да ўбачанага па

тэлевізары, а вось тыя, хто спачуваў украінцам, пераважна стрымліваліся. Дзякуючы гэтаму да разборак не даходзіла, і нас, гасьцей зь іншага атраду, ніхто не выганяў. Можна было глядзець і рабіць высновы.

Кожны штодзённы выпуск «60 хвілін» са Скабеевай і Паповым па-ранейшаму пачынаўся пераважна з абстрэлаў «мірнага Данецку». Украінскіх ваяроў прапагандысты і іх госьці ў студыі называлі то «баевікамі», то «нэафашыстамі», то «нацыяналістамі». Воінаў, якія з усяго сьвету прыехалі ва Ўкраіну змагацца за яе незалежнасьць, звалі «наймітамі», а пра расейскіх вагнэраўцаў спачатку ўвогуле ня згадвалі.

Вядома, у кожных «60 хвілінах» абавязкова выступаў расейскі генэрал Канашэнкаў з навінамі ад свайго Генштабу, але ўжо праз тыдзень сьмешна стала яго слухаць — настолькі яўна завышанымі лічбамі нібыта зьнішчаных ворагаў ён пахваляўся. Пры гэтым карцінкі генэрал выкарыстоўваў часта адны і тыя ж. «Ды ня слухай гэтага балбатуна. Мы даўно яго раскусілі», — сказаў пра Канашэнкава мой новы сябра Сяргей яшчэ на пачатку ліпеня, і меў рацыю. У канцы ліпеня рапартам Канашэнкава ўжо ня верылі і тыя, хто быў за Расею.

Яшчэ адной агульнай тэмай на расейскіх тэлеканалах, калі заходзіла пра вайну ва Ўкраіне, была тэма нетрадыцыйнай сэксуальнасьці. Абавязкова ў кожнай падборцы навінаў мусіў зьявіцца зьдзеклівы рэпартаж пра які гей-парад ці нейкую ЛГБТ-падзею ў Эўропе альбо ЗША.

А ў зьвязцы з такім рэпартажам — навіна пра пастаўкі Ўкраіне заходняй зброі ці пра антырасейскія захады ў краінах Балтыі, у Польшчы.

Ня дзіва, што па аўдыторыі ў «ленцы» («ленкай» у калёніі завецца пакой, дзе глядзяць тэлевізар — па аналёгіі зь «ленінскімі пакоямі» часоў СССР) можна было бачыць, як на розум чалавека дзейнічае такая прапаганда. Аднаго разу хлопец пасьля прагляду навінаў НТВ уголас заявіў, што сам бы завэрбаваўся ў вагнэраўцы, каб «мачыць гэтых п…ў». І частка гледачоў яго падтрымала. «Так! Так! Дакладна!»

Мяне як прафэсійнага журналіста такая яўная маніпуляцыя абурала — проста брыдка было глядзець. Хацелася сказаць хлопцам: «Вас падманваюць, вамі маніпулююць. Ня верце!»

Але прымушаў сябе не ўступаць у дыскусію. І ня толькі таму, што мог трапіць у іншы атрад. У турме тэма гейства пад негалоснай забаронай. Гэта табу, мяжа, за якую лепш не пераходзіць. Сабе даражэй выйдзе.

Часьцей мы з аднадумцамі даседжвалі да заканчэньня праграмы ды ішлі ў дворык абмяркоўваць пачутыя навіны. Падчас прагулкі да нас мог нехта далучыцца ды дадаць яшчэ нешта цікавае. Што прачытаў у газэце, што расказала жонка ў тэлефоннай размове, што перадаў адвакат. Пра флягман Чарнаморскага флёту «Масква», які ўсё ж падбілі, а ня сам ён патануў. Пра ўцёкі расейскіх захопнікаў ад Харкава. Пра тое, што ўкраінцы ўзялі Купянск і наступаюць на Ізюм. Што ад Данецку не адышлі далёка, трымаюцца за Пяскамі.

І што Амэрыка дае «Хаймарсы», значыць, украінцам будзе чым адказаць агрэсарам. Карацей, змаганьне «за нашу і вашу свабоду» працягваецца.

Пасьля такіх навінаў нават ШЫЗА ўжо ня так палохала, як раней, бо паступова мацнела перакананьне ў канчатковай перамозе Ўкраіны. Хоць поруч з добрымі навінамі ў калёнію даходзілі і трывожныя. З пачатку восені ўсё часьцейшымі сталі ўдары расейцаў бомбамі і ракетамі па аб'ектах энэргетыкі Ўкраіны. Генэрал Канашэнкаў, паведамляючы пра чарговы ўдар па Ўкраіне, не хаваў радасьці. І нічога, што наперадзе восеньскія халады, потым зіма з маразамі. Мільёны ўкраінцаў застануцца безь цяпла і сьвятла, без кватэр і дамоў. Гэта як? Вы што?

Глядзець такія навіны было балюча. Мой сябар Сяргей, чалавек зь сярэдняй тэхнічнай адукацыяй, зь лёсам, паламаным ад злоўжываньня алькаголем, але па-жыцьцёваму, як мне падалося, мудры, казаў наконт выніку вайны так: «Тэрыторыя ва Ўкраіне вялікая, калі трэба, можна пакрыху і адступаць. Галоўнае — мэтадычна малаціць ворага «Джавэлінамі» і «Хаймарсамі». Толькі б Амэрыка і Эўропа паставілі Ўкраіне танкі ды самалёты, інакш перамагчы не атрымаецца. Калі яны ўжо гэта зразумеюць!»

Гэта чалавек казаў, седзячы ў вязьніцы, яшчэ ў жніўні 2022 году.

## Белае і чорнае

Са сьледчага ізалятара ў калёнію вязень прыяжджае з торбай, у якой, акрамя харчоў ды цыгарэт, назапасілася і шмат рэчаў. Розныя штаны, швэдар, каляровы джэмпэр, некалькі спартовых маек, красоўкі. У торбе з гэтымі рэчамі ляжаць і неабходныя зэку бытавыя прылады: кіпяцільнік, плястыкавы кубак, плястыкавая лыжка, туалетныя рэчы. А што з гэтага не прапусьцяць на кантролі ў калёнію? Давайце разьбярэмся.

Вось перад кантралёрам пакладзеныя дзьве вельмі патрэбныя зэку адзежкі. Сьветлы джэмпэр і чорны швэдар з каўняром пад горла. Што з гэтага ён дазволіць узяць у атрад?

Нічога. Сьветлага джэмпэра ці швэдра, тым больш каляровага, увогуле нельга. Скажуць, што можна толькі цёмныя, але яшчэ ёсьць правіла, каб горла швэдра не тырчала з-пад каўняра кашулі. Бо гэта ўжо парушэньне формы адзеньня. Таму і чорны швэдар, найхутчэй, не прапусьцяць. Але нічога страшнага. Потым падчас спатканьня з сваякамі можна будзе атрымаць ад іх такі швэдар, але насіць яго давядзецца асьцярожна — падварочваючы каўнерык.

Таму лепш адразу мець цёмны джэмпэр. Адзін дакладна прапусьцяць. Другі, на зьмену, давязуць сваякі. А больш і ня трэба.

Колькі ў вас спартовых штаноў? Прапусьцяць адны. І колькасьць маек скароцяць да адной. Скажуць, што белыя ўвогуле нельга, толькі цёмныя.

Цывільную кашулю, спартовыя тапкі таксама не дазволяць. Без тлумачэньня.

Пра кіпяцільнік скажуць, што кантакт сапсаваны. Плястыкавы кубак паляціць у сьметніцу разам з лыжкамі.

Гэта я падзяліўся сваім асабістым досьведам, але, мяркуючы па расказах сяброў, зь імі было амаль тое самае.

## «Ужо гулялі»

Але на рэчы напляваць. Куды горш, што калёнія запатрабуе ад чалавека адмовіцца ад пэўных звычак, традыцый, пачуцьцяў. Як быць са спачуваньнем? Што рабіць з патрэбай дапамагчы таму, каму горш, чым табе? Слабейшаму. Старэйшаму. Недасьведчанаму. Што рабіць з гэтымі пытаньнямі ў атрадзе, дзе кожны вымушаны адчуваць сябе ваўком сярод ваўкоў? Ці патрэбная і ці магчымая там салідарнасьць?

Зь першым выпадкам турэмнай салідарнасьці сутыкнуўся адразу, як апынуўся на «Валадарцы». Уявіце: у цябе няма цёплых рэчаў, няма спартовага строю, у якім зручней у камэры, няма нават зубной шчоткі і брытвы. А галоўнае, туман у галаве, разгубленасьць ад арышту, які зваліўся як гром зь яснага неба. Але ў камэры ёсьць чульлівыя людзі, адзін зь іх — знаёмы калега. І мяне імгненна акружаюць увагай, выдаюць з запасьнікаў патрэбныя рэчы, частуюць гарбатай, прапануюць з «абшчака» пернікі і цукеркі. Адначасова наперабой праводзяць лікбез — як сябе

паводзіць, чаго нельга, а што можна. Праз гадзіну я ўжо тэарэтычна падрыхтаваны зэк, засталося паступова набірацца досьведу.

Наступны выразны ўрок турэмнай салідарнасьці атрымаў праз некалькі дзён, калі камэра адмовілася выходзіць на абавязковую прагулку, бо сукамэрнік захварэў, а дазволу на «пасьцельны рэжым» атрымаць не ўдалося. «Ужо гулялі», — абвясьцілі хлопцы прадольнаму, калі той прыйшоў выводзіць камэру на прагулку.

Божа, як прыкра было чуць гэтае «гулялі»! Так хацелася пабачыць неба, падыхаць сьвежым паветрам! Дагэтуль праз дождж ужо прапусьцілі некалькі прагулак запар, а сёньня раптам стала сонечна — толькі гуляй. Але давялося падпарадкавацца волі калектыву. Затое праз месяц, калі сам захварэў і таксама быў ня ў змозе выйсьці на прагулку, уся камэра зноў не пайшла гуляць, каб мне дапамагчы. Вось калі ацаніў салідарнасьць сяброў.

Яшчэ пра прагулкі. Мне падалося, што асноўная праблема для навічка ў зьняволеньні — нават не турэмнае харчаваньне, ня новы распарадак дня ці бытавыя невыгоды. Найбольш прыніжае і засмучае тое, што ты ня можаш па сваім жаданьні выходзіць на прагулкі, нават проста глядзець у вакно, бачыць неба, сонца, дыхаць сьвежым паветрам. А як жа заявы адміністрацыі, што ў іх вязьні гуляюць штодня ня менш як гадзіну?

А гэта хлусьня. За мае амаль тры месяцы на «Валадарцы» прагулка даўжынёй гадзіну была толькі раз. І толькі таму, што ў той дзень у турму

з праверкай зьявіўся нейкі генэрал, і нас, каб ня трапіліся яму на вочы, нібыта «забылі» забраць з турэмнага дворыку. Вось тады гулялі больш за гадзіну. А звычайна сярэдні час прагулкі — 30–40 хвілін. Шкада, але бывае, што ад прагулак вязьні адмаўляюцца самі. У нас звычайна спасылаліся на дождж, дрэннае надвор'е. Ахоўнікі не пярэчылі — ім усё роўна, гуляла камэра ці не, абы самім было менш працы.

Застаецца дадаць пару словаў пра якасьць прагулкі ў СІЗА. У магілёўскай Т-4 пад прагулкі прыстасаваны дах будынку. Прагулачныя дворыкі там прасторныя, чыстыя, сьвятла ўсім хапае — не замінаюць і краты над галавой.

А вось у менскім СІЗА, на «Валадарцы», здараецца, што прагулка — проста выхад з камэры, праход пакручастымі калідорамі да адной зь вежаў турэмнага Пішчалаўскага замку, побач зь якой, як соты — рознакалібэрныя прагулачныя дворыкі. Калі не пашанцуе, можна апынуцца ў каменным мяшку два на чатыры, а то і два на тры мэтры ў колькасьці восем, дзесяць ці болей чалавек. Бывае, што зямля ў дворыку залітая па костачку вадой пасьля дажджу ці адлігі, а абутак у большасьці арыштантаў зусім не адпаведны, і ў выніку ўвесь час прагулкі даводзіцца стаяць гурбой на высокім месцы, перамінаючыся з нагі на нагу. У такім выпадку нічога не застаецца, як глядзець праз краты ў неба. Разглядаеш хмары, чакаеш пралёту якой птушкі ці лятака. Шукаеш любы знак, прыкмету таго, што пашанцуе і хутка

выйдзеш на волю. Але шанцуе адзінкам, можа, з тысячы.

Мне ў СІЗА давялося такога арыштанта сустрэць.

## Чаму канфліктуем

Паміж вязьнямі ня толькі сяброўства і салідарнасьць, бываюць і канфлікты. Зь якіх прычын?

На «Валадарцы» да нас у камэру завялі высокага чалавека сярэдняга веку. У чырвонай куртцы, спартовых штанах, сьмешна выцягнутых на каленях. Круглы, загарэлы твар. Арыштант выглядае разгубленым, нават прыгнечаным, але відаць, што ня бомж які ці гуляка, а салідны чалавек. Так і ёсьць — старшыня гаспадаркі ў Капыльскім раёне. Завуць Паўлам. Арыштавалі Паўла за хабар, які атрымаў ад камэрсанта. Пра сваю справу расказвае сукамэрнікам вельмі ляканічна. Нібыта грошы былі невялікія, якая тысяча рублёў, а сам момант перадачы хабару, маўляў, і ня памятае. «Сунуў мне нешта ў кішэню, я і не заўважыў».

Нішто сабе, думаю. Хіба такое магчыма? Гэта як заклінаньне Сямёна Сямёнавіча Гарбункова з «Брыльянтавай рукі», які «пасьлізнуўся, упаў, страціў прытомнасьць, ачуўся — гіпс».

Далей Павел пачаў дзяліцца некаторымі дэталямі. Што так, як і яго, узялі за хабар яшчэ чатырох кіраўнікоў гаспадарак, і ўсе, акрамя аднаго, адразу прызналіся, што рэгулярна атрымлівалі грошы ад аднаго і таго ж камэрсанта. Які

іх, найхутчэй, і здаў. А той адзіны, які адразу не прызнаў віны, цяпер ужо на волі, яго адпусьцілі.

«Эх, — уголас шкадаваў Павел. — Навошта тады так разгубіўся! Проста гэта ж ня нашы былі міліцыянты, а зь Менску. Узялі адразу ў абарот, паабяцалі, што калі прызнаюся, дык на судзе залічыцца». Прызнаўся. Паехалі дамоў, зрабілі вобшук, знайшлі тысяч дзесяць даляраў сямейных ашчаджэньняў. І адправілі сюды, на «Валадарку».

Складана было ўсё ж назіраць за гэтымі перажываньнямі. Вось пра што ён думае? Што дарэмна папаўся — ці што больш ня зможа сумленна глядзець людзям у вочы, бо таўро хабарніка ўжо ня змые ніколі?

Мы некалькі разоў усёй камэрай абмяркоўвалі цяперашнія справы ў сельскай гаспадарцы. Ва ўяўленьні часткі з нас справы гэтыя ідуць дрэнна — зямлю сялянам так і не аддалі, трымаюць іх у былых калгасах і саўгасах за прыгонных, толькі што назвы гаспадарак зьмянілі, а па сутнасьці засталося ўсё як было. Заробкі нізкія, праца цяжкая, таму хто можа, зь вёсак уцякае ў гарады. Вёска гіне, а Лукашэнка працягвае выціскаць зь яе апошнія сокі.

Але Павел з намі не пагадзіўся. Гаспадарка яму дасталася моцная, дае добры прыбытак. Надоі высокія. Казаў, што заробкі ў даярак — пад тысячу даляраў. «У мяне на фэрмах абсталяваньне стаіць замежнае. Даеньне толькі стацыянарнае. Лазэр дапамагае захапіць каровіну цыцку, апарат яе падмывае, і толькі потым пачынаецца даеньне.

Па ходу бярэцца аналіз на якасьць малака, калі будзе нават малое адхіленьне ад нормы, даеньне спыняецца», — хваліўся сучаснымі тэхналёгіямі на сваіх фэрмах дырэктар. На яго перакананьне, калі б не Лукашэнка, такіх посьпехаў бы не было. «Краіна ніколі на малочцы мільярд не зарабляла, а цяпер зарабляе!» — казаў задаволена Павел.

Хлопцы задаюць пытаньне ў лоб: дык навошта ён пэцкаўся тым хабарам усяго ў тысячу рублёў, калі так добра жылося?

Павел пасьміхаецца і адводзіць вочы.

## Бойка за месца

Калі ў камэры сядзіць адразу некалькі палітычных, вядома, не абыдзецца без размоваў на палітычныя тэмы. Неяк Павел слухаў нас, слухаў, ды ня вытрымаў і далучыўся. І выявілася, што ён ня лічыць, што мінулыя выбары Лукашэнка сфальшаваў. «Мае даяркі галасавалі нармальна, за яго», — быў перакананы. А тое, што Лукашэнка ўжо 27 гадоў запар пры ўладзе, ня важна. Як і тое, што палітычных супернікаў кінуў за краты, а тысячы пратэстоўцаў рассоваў па зонах ці давёў да эміграцыі. «Затое саўгасы падтрымлівае», — паўтараў дырэктар. Пра прычыны і наступствы такой падтрымкі сукамэрнікі рэгулярна зь ім спрачаліся. Дайшло і да маленькай бойкі, хоць фармальна не праз палітыку.

Перад выхадам у лазьню ўся камэра з патрэбнымі рэчамі зьбіраецца ля дзьвярэй. Але

пятачок там мэтар на мэтар, даводзіцца стаяць вельмі шчыльна. І вось атрымалася, што адзін з нас ненаўмысна замінаў Паўлу, той пхнуў рукой чалавека ў плячо і атрымаў у адказ па карку. Праз хвіліну наступіў мір, але мне падалося, што сутнасьць канфлікту была глыбейшая, чым проста асабістыя прэтэнзіі.

Яшчэ не аднойчы быў сьведкам падобных канфліктаў. Стаўленьне да асобы Лукашэнкі і ягоных памагатых дастаткова выразна дзеліць зэкаў на два варожыя лягеры.

А што да лёсу Паўла, мяркую, ён склаўся больш удала, чым у іншых сукамэрнікаў з «Валадаркі». Бо праз два тыдні сядзеньня ў нашай камэры дырэктар у чырвонай куртцы паехаў дадому — сьледчы зьмяніў яму меру стрыманьня на падпіску аб нявыезьдзе. Раней у размовах Павел прызнаваўся, што мае сувязі ў кіраўніцтве вобласьці, і, відаць, не хлусіў.

## Мы ці ябацькі?

Сапраўды, а калі б у атрадзе дайшло да бойкі сьценка на сьценку паміж праціўнікамі Лукашэнкі і ягонымі прыхільнікамі? Каго (ня лічачы адміністрацыі) больш, хто б перамог?

Мне падаецца — пасьля амаль 10 месяцаў нявolі ў ізалятарах часовага ўтрыманьня Менску і Баранавіч, у Менскім СІЗА і ў 4-й турме Магілёва, а потым у магілёўскай 15-й калёніі, — што сілы б падзяліліся ў прапорцыі прыблізна 5 да

2. Пяць праціўнікаў Лукашэнкі на двух ягоных прыхільнікаў.

Але не магу выключаць, што нейкі аматар беларускага дыктатара перакананы ў адваротным. Што ў турме, наадварот, большасьць за Лукашэнку. Бо ўсё залежыць ад таго, што за людзі вакол, і ад таго, ці адчувае ён сябе сярод іх сваім, ці не хаваюць людзі ад яго сваіх думак.

Асуджаны ў калёніі ня мае магчымасьці камунікаваць з усімі, з кім хоча. І ўвогуле кола людзей вакол асуджанага абмежаванае, меншае, чым атрад. Гэта суседзі па пакоі (так званым «кубрыку» ці «хаце»), суседзі па сталоўцы, тыя некалькі чалавек, хто стаіць побач у калёне, яшчэ некалькі, хто працуе разам з табой у прамысловым цэху (на «промцы»). Застаецца дадаць некалькі землякоў, знаёмых па карантыне, магчыма, яшчэ па сядзеньні ў адной камэры ў СІЗА. Усё. Але і з гэтых людзей праз натуральны адбор у сябрах застануцца ўсяго некалькі чалавек, у асноўным аднадумцы, зь якімі вязень будзе шчыра камунікаваць. Зь іншымі — толькі выпадкова.

Але, пагадзіцеся, каб адчуць агульныя настроі людзей, зусім не абавязкова з кожным праводзіць анкетаваньне. Што да калёніі, дастаткова ў «ленцы» прагледзець некалькі выпускаў навінаў па Беларускай тэлевізіі ды паслухаць, як вязьні брыдкасловяць і рагочуць, калі чуюць выступы Лукашэнкі, і тады не застанецца сумненьня, што думае пра яго вялікая частка асуджаных.

Што яшчэ, акрамя жоўтай біркі, дапамагае іншым асуджаным вызначыць палітычных?

Усё проста. У калёніі, як на вёсцы, працуе ўмоўны тэлеграф. Толькі трапіў у атрад, хутка ўсе будуць ведаць, хто ты і за што тут апынуўся. Памятаю, толькі «заехаў», разьбіраю рэчы, заходжу ў пакой зь лядоўняй, а наглядчык ужо сустракае пытаньнем: ці праўда, што я журналіст? Паслухаў мой адказ і пра сябе заўважае, што сеў за рабунак ювэлірнай крамы. Хваліцца: «Гучная была справа, шмат пра яе пісалі».

Але зь ім пра палітыку ніколі не гаварылі, ён — відаць, наўмысна — нічым не цікавіўся. Турэмны актывіст. А бывае інакш. Пазнаёміўся з асуджаным, на бірцы пазначаны артыкул 328 (гэта распаўсюд наркотыкаў), а як паразмаўлялі, кола зацікаўленьняў выявілася самае шырокае. Пасьля некалькіх размоваў склаліся даволі сяброўскія адносіны. Аднойчы ўбачыў яго з кнігай «Гісторыя Беларусі» Доўнар-Запольскага. Вось табе і наркатычны артыкул!

## На місцы — «Жыве Беларусь!»

Тэма палітычных надпісаў у вязьніцах — таксама цікавая. На «Валадарцы» фактычна ва ўсіх дворыках, дзе тапталіся на прагулках, бачыў на сьценах невялічкія надпісы «Жыве Беларусь!», «ЖБ», або на цаглінах можна было адшукаць вывявы бел-чырвона-белых сьцяжкоў. За чырвоную паласу бралася цэгла, а з бакоў — плямкі сьнежак. Сымболіку замазвалі, нішчылі, але ў розным выглядзе яна ўзьнікала зноў і зноў. У тым ліку і пасьля майго гуляньня ў дворыках.

У камэрах — там з гэтым складаней. Вядома, у патайных месцах можна было пабачыць маленечкія літары ЖБ, але навідавоку — не. Нават да любога спалучэньня белага і чырвонага колераў ахоўнікі ставіліся падазрона, і ніхто з палітвязьняў не рызыкаваў.

Хоць трапляюцца адчайныя людзі. У турме Магілёва сядзеў з маладым чалавекам, Анатолем, які неяк падчас вячэры ўціхую надрапаў лыжкай на шлёмцы (па-турэмнаму так завецца міска) словы «Жыве Беларусь!». Мы, сукамэрнікі, гэтага нават не заўважылі і вельмі былі зьдзіўленыя, калі пасьля вячэры да камэры прыбег дзяжурны і запатрабаваў, каб прызнаўся той, «хто гэта зрабіў». У міліцыянта нават не хапіла сьмеласьці прагаварыць крамольны лёзунг. Аказваецца, баландзёрам (так завуць арыштантаў, якія развозяць па камэрах ежу і пасьля зьбіраюць брудныя міскі) адміністрацыя загадала пасьля кожнай раздачы ежы правяраць здадзеныя міскі, вось яны і заўважылі на адной зь іх сьвежы надпіс. Хлопец ня стаў хавацца за нашы сьпіны, спакойна прызнаўся, што гэта ён зрабіў, і назаўтра атрымаў 10 сутак карцару.

Дарэчы, маглі яшчэ і пабіць. Паводле другога сукамэрніка, які прыехаў з жодзінскага СІЗА, там за надпіс «Жыве Беларусь!» на шлёмцы ці на сьцяне ў дворыку зьбівалі на горкі яблык.

Яшчэ адзін эпізод на гэтую тэму. Хлопцы ў камэры папярэджвалі новенькіх на выпадак пераезду ў іншую вязьніцу, што трэба ўважліва праверыць дно «кругаля» (кубак па-турэмнаму).

Расказвалі пра выпадкі, калі вязьню выдавалі для карыстаньня кубак ужо з забароненым надпісам на дне, а ён гэтага не заўважаў, а потым здае «кругаль» і… папаўся. Крыўдна.

## Арышты розныя, як адбіткі пальцаў

23 сьнежня 2021 году — гэта першы дзень майго апошняга арышту. Неяк на «Валадарцы» задумаўся: а колькі разоў мяне як журналіста затрымлівалі ў роднай Беларусі і за што?

Налічыў ня менш як дзясятак выпадкаў. Зь іх дзевяць за час працы на Радыё Свабода. Сукамэрнікі, пачуўшы такую лічбу, папрасілі расказаць падрабязнасьці. Але ж гэта надоўга, бо кожнае затрыманьне — гісторыя са сваім, як цяпер кажуць, бэкграўндам, разьвязкай і наступствамі. Арышты, жартаваў, як адбіткі пальцаў — у кожнага чалавека ўнікальныя. У мяне вось 10 пальцаў і 10 затрыманьняў. Чатыры ў 2011 годзе і пяць пасьля 2020-га. Гатовыя слухаць пра самыя цікавыя?

## Рэфлекс імя Лябедзькі

Упершыню мяне затрымалі ў 2000 годзе. Дакладна памятаю, што ў Дзень Волі.

Тады ў Менску прыхільнікі дэмакратыі і незалежнасьці вырашылі сабрацца на плошчы Якуба Коласа і правесьці шматтысячнае шэсьце, але сілавікі зьмянілі тактыку што да сьвятаў пад сьцягамі з Пагоняй. Людзей зь бел-чырвона-бе-

лай сымболікай пачалі хапаць ужо на падыходзе да плошчы, на ходніках альбо ў дварах. Так да абеду затрымалі рэкордныя на той час пяць соцень дэманстрантаў, а таксама дзясяткі журналістаў, праваабаронцаў, незалежных назіральнікаў. Памятаю, што «хапуном» каля філярмоніі асабіста камандаваў генэрал Юры Сівакоў, які дзеля такой нагоды нацягнуў на галаву крапавы бэрэт і гэтым вылучаўся сярод амапаўцаў.

Потым нас прывезьлі на тэрыторыю часткі ўнутраных войскаў на вуліцы Маякоўскага і зьмясьцілі ў спартовай залі, дзе ўжо трымалі сотні дэманстрантаў. Там спачатку правялі «фільтрацыю» — праверылі дакумэнты. Журналістаў, праваабаронцаў і дыпляматаў пасьля праверкі пасьведчаньняў вызвалілі, у тым ліку выйшаў на волю Джон Паніка з амэрыканскай амбасады, якога добра ведалі журналісты. Што да мяне, я схітраваў і падчас праверкі журналістам не назваўся. Вырашыў на свае вочы пабачыць, як будуць абыходзіцца з затрыманымі. Бо некалькі гадоў раней, калі сталічнай міліцыяй яшчэ кіраваў генэрал Барыс Тарлецкі, здарылася, што пад хапун трапілі і журналісты, дык потым пацярпелых прадстаўнікоў мэдыя запрашалі ў кабінэт да генэрала на пачастунак, выбачаліся «за перагібы»… Сам быў сьведкам. А як будзе зараз?

У выніку нешта пабачыў, хоць ня шмат. Спачатку сядзеў, што той ваеннапалонны, на падлозе спартовай залі. Вады не давалі. У прыбіральню не пускалі. Потым пад аховай павялі ў асобны кабінэт, сфатаграфавалі ў фас і профіль ды ўчынілі

допыт на відэакамэру. Тады і давялося ўсё ж прызнацца, што працую ў газэце «Навіны», выконваў рэдакцыйнае заданьне. Афіцэр міліцыі, які мяне дапытваў, кудысьці зьбегаў, а як вярнуўся праз паўгадзіны, загадаў шарагоўцам мяне выпусьціць. Дык вось калі выводзілі з часткі, я і пабачыў самае цікавае — як абыходзіліся з тымі, каго затрымалі. Напрыклад, бачыў, як зьдзекаваліся з палітыка Анатоля Лябедзькі.

Чатыры вайскоўцы, схапіўшы Анатоля за рукі і ногі, несьлі яго ўздоўж казармы. А пяты, міліцыянт, раз-пораз біў палітыка наском нагі зьнізу па сьпіне, спрабуючы трапіць, дзе больш балюча. Анатоль трымаўся, ніводнага разу нават не падаў голасу, хаця бачна было, што яму даставалася вельмі моцна. Гэтая сцэна настолькі ўразіла, што ў мяне сфармаваўся своеасаблівы рэфлекс. Называў яго ўмоўна «рэфлексам Лябедзькі». Гэта прадчуваньне, што на Дзень Волі пасьля радасных пачуцьцяў абавязкова будзе балюча і давядзецца трываць. Гэты рэфлекс бездакорна потым нагадваў пра сябе перад «маўклівымі серадамі» ў 2011 годзе і перад маршамі пратэсту ў 2020-м. Будзе балюча, але трэба трываць.

## Як уцякаў з «маўчунамі»

Цяпер гэта немагчыма ўявіць, але ў 2011 годзе мне ўдалося ўцячы з лап міліцыянтаў ужо пасьля затрыманьня. Было так.

Нагадаю, 19 сьнежня 2010 году, па завяршэньні прэзыдэнцкіх выбараў, якія Ярмошына з кам-

паніяй зноў сфальшавалі, у цэнтры Менску на пратэст выйшлі дзясяткі тысяч чалавек. Шматтысячны мітынг быў брутальна разагнаны, сотні пратэстоўцаў кінулі за краты, у тым ліку чатырох кандыдатаў на прэзыдэнта. Але незадаволенасьць людзей нікуды ня зьнікла. Улетку, пасьля скачка курсу даляра і шалёнага росту цэнаў на бэнзін, зноў паднялася хваля пратэсту, якую мала хто прадказваў. Праз пагрозы рэпрэсій пратэст набыў своеасаблівую форму. Незадаволеныя рэжымам Лукашэнкі маладыя людзі зьбіраліся групамі ў знакавых месцах сталіцы, але лёзунгаў не выкрыквалі, сымболікі не трымалі, а проста ішлі ці стаялі ўздоўж дарогі ды пляскалі ў ладкі.

Першая маўклівая акцыя адбылася ў адну зь серад чэрвеня, на Кастрычніцкай плошчы, і скончылася адносна мірна. Здаецца, менавіта на ёй мяне затрымалі другі раз у жыцьці. За тое, што здымаў акцыю на відэа. Зацягнулі ў міліцэйскі аўтобус ды завезьлі ў пастарунак, адкуль праз пару гадзін адпусьцілі пасьля высьвятленьня асобы. А пакуль сядзеў у аўтобусе, міліцыянты дазволілі перадаць мне тапак, які зьляцеў з нагі, пакуль цягнулі па плошчы.

Праз тыдзень пляскаць у ладкі сабралася ўжо разоў у пяць болей пратэстоўцаў, прычым у розных месцах у цэнтры гораду. Ня меней за тысячу чалавек. Яшчэ праз сераду «маўклівыя акцыі» праходзілі ўжо ня толькі ў Менску. Гэтак жа імкліва расла і колькасьць затрыманых і асуджаных на штрафы ці суткі.

Падчас разгону чарговай «маўклівай акцыі», непадалёк ад цырку, мяне зноў схапілі людзі ў цывільным і зацягнулі ў міліцэйскі аўтобус. Памятаю, там ужо было шмат затрыманых, але салён яшчэ ня быў забіты пад завязку. Два дужыя хлопцы, якія прыцягнулі мяне з вуліцы, адразу пабеглі па новых «маўчуноў». Стаю на праходзе і заўважаю, што ў дзьвярах нікога зь міліцыянтаў не засталося. Падумалася раптам: а чаго гэта я чакаю? І скочыў на газон, а сьледам за мной — яшчэ некалькі затрыманых.

Міліцыянты ў форме, якія стаялі звонку, прыпусьцілі былі за намі, толькі мы — урассыпную. Ногі на свабодзе бягуць хутка. Міліцыянты адсталі. Тым больш чаго ім старацца? Відаць, узамен нахапалі іншых мінакоў, хто нават ня ведаў, што там адбываецца.

## Рэпартаж з аўтазаку

Гэтую гісторыю пра яшчэ адно затрыманьне расказваць сваім турэмным сябрам было асабліва прыемна. Бо ў ёй ішлося пра момант журналісцкай удачы. Плюс два фактары, якія цяпер, у 2022 годзе, проста было немагчыма ўявіць. Але па чарзе.

6 ліпеня 2011 году падчас «маўклівай акцыі» каля Нацыянальнай бібліятэкі мяне закінулі ў аўтазак у кампанію да іншых ахвяраў «зачысткі». Але пакуль нас везьлі ў міліцыю, я ўключыў відэакамэру і запісаў зь імі кароткія інтэрвію проста ў аўтазаку. Міліцыянты, што сядзелі ў кабіне,

гэтага не заўважылі, такой дзёрзкасьці, пэўна, не чакалі. Ва ўсякім разе, як выводзілі з аўтамабіля, мяне нават не абшукалі. Дарэмна хаваў флэшку ў шкарпэтку. Гэтае відэа ў той жа дзень Радыё Свабода выклала ў інтэрнэт, а наступным днём яго паказалі некалькі замежных мэдыя, у тым ліку расейскі тэлеканал РТР.

«У Менску карэспандэнту Радыё Свабода ўдалося зьняць відэарэпартаж у аўтазаку…» Падобным быў анонс вядучага вечаровых навінаў РТР да сюжэту пра акцыі пратэсту, якія працягваюцца ў Беларусі. А далей на экране ўзьніклі мае кадры: нутро міліцэйскага аўтамабіля, краты на мутным вакне, спалоханыя твары затрыманых каля Нацыянальнай бібліятэкі маладых людзей. Адзін кажа, што выходзіў зь бібліятэкі, у яго ёсьць чытацкі білет, а яго затрымалі. «Ну, нічога, дарослыя ўсе людзі, разьбяруцца», — спадзяецца малады чалавек. Паводле другога героя рэпартажу, ён сядзеў на лаўцы, чакаў некага, а яго забралі. Дзяўчына абураецца, што заступілася за хлопца — і вось сама ў аўтазаку.

Гэты факт, пра РТР, — першая неверагодная рэч, пра якую я казаў сукамэрнікам. Бо ўявіць, што расейскае дзяржаўнае тэлебачаньне магло даваць зь Беларусі рэпартажы пра акцыі пратэсту супраць Лукашэнкі, у наш час, пасьля выбараў 2020 году, было ўжо проста немагчыма.

А другой неверагоднай рэччу было тое, як дзейнічала тагачасная міліцыя. Бо мяне мала што выпусьцілі, але яшчэ і не праверылі відэаздымкі. Памятаю, калі прывезьлі ў Першамайскі

райаддзел, затрыманых хлопцаў павялі складаць пратаколы, а мяне пакінулі чакаць у калідоры. Тады па мабільным тэлефоне набраў нумар прэсавага сакратара гарадзкой міліцыі Аляксандра К. і расказаў яму, дзе я і чаму. Пасьля размовы перадаў слухаўку дзяжурнаму. Праз хвіліну ўжо быў на вуліцы.

«Вось гэта, — жартую з хлопцамі, — была міліцыя! Праўда, пачыналі нібы карэктна, а чым скончылі?!»

Хлопцы пагадзіліся і засыпалі ўспамінамі пра тое, як іх затрымлівалі ў 2020–2021 гадах. Зь зьбіцьцём, кайданкамі, «мордай у падлогу». Пра гэты час і я таксама мог бы апавядаць зусім іншае.

## Споведзі ў баранавіцкай турме

У лістападзе 2020 году, калі ў Менску яшчэ праходзілі маршы пратэсту, мне давялося пасядзець у Баранавіцкім цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў. Атрымаў 15 сутак адміністрацыйнага арышту за марш, пра які вёў рэпартаж на сайт і ў тэлеграм Радыё Свабода. Час быў яшчэ рамантычны. Нас трымалі ў старым, царскіх часоў будынку, падобным да стайні. Празь дзірку каля падлогі мы перагаворваліся з жанчынамі з суседняй камэры, захапляліся іх беларускамоўнымі сьпевамі. Хто ведаў словы, падпяваў, прычым ахоўнікі нават кароткай заўвагі нам не рабілі. Відаць, і яны ня менш за нас былі пераканаmaking, што пратэсты ня спыняцца.

Памятаю, у той камэры былі ажно два «вочкі» назіраць за арыштантамі. Адно ў дзьвярах, звычайнае, другое — у цэнтры вялікай нішы-лінзы на сьцяне справа ад дзьвярэй. Казалі, гэтае прыстасаваньне засталося з даваенных часоў, калі ў былой царскай казарме разьмяшчалася польская турма.

А яшчэ вось што запомнілася. Амаль штодня пасьля адбою празь дзірку ва ўнітазе ў камэру пралазіў пацук. Адзін і той жа, бо меў прыкмету — паламаны хвост. І паводзіны нязьменныя: прабяжыць уздоўж плінтуса, зробіць крук да стала, зьбярэ хлебных крошак, кінецца куляй да прыбіральні і — бультых у дзірку. У гэты момант тыя, хто яшчэ ня спаў, дружна рагаталі ды паўтаралі пацуку наўздагон папулярныя на маршах крычалкі «Сам ты крыса!» і «Крыса, сыходзь!».

У адну з начэй нашу камэру, у якой дзевяць чалавек спалі на нарах у тры ярусы, абудзіў шалёны брэх сабак і крыкі ў турэмным двары: «Выхадзіць, б…ць!», «У калёну па аднаму!», «Пайшлі!». І праз хвіліну раздаўся грукат дзясяткаў ног, што бягуць па калідоры, бразгат дзьвярэй, жахлівыя мацюкі… Мы зразумелі, што гэта прывезьлі чарговую сотню ці нават болей затрыманых зь Менску. Бо вельмі доўга грукаталі крокі ў калідоры. Адно не маглі зразумець, чаму так шмат людзей, якая была акцыя?

Гэта ўжо праз тыдзень з суседняй камэры перадалі навіну пра забойства Рамана Бандарэнкі і пра шматтысячны марш — разьвітаньне з маста-

ком. Але тады мы гэтага ня ведалі і часта абмяркоўвалі, што будзе, калі выйдзем праз дзесяць дзён на волю. Ніводзін зь дзевяці не сумняваўся, што маршы працягнуцца. Хлопцы казалі: «Добра, мы якраз адпачылі, набраліся сілаў. Яшчэ паглядзім».

Але паступова да нас пачалі даходзіць дэталі разгону дэманстрацыі на вуліцы Чарвякова, надзвычай брутальных дзеяньняў АМАПу і тое, пры якіх абставінах загінуў Бандарэнка. Для мяне паваротнай стала вестка пра тое, што нейкая дзяўчына назвала кацяня імем Раман і гэта шырока абмяркоўваюць. Падумалася: да перамогі яшчэ далёка.

Наступным днём спытаў у сукамэрнікаў: вось яшчэ адзін загінуў, мастак, а ці ведаюць яны што пра першых ахвяр рэжыму, палітыкаў Карпенку, Захаранку, Ганчара?

Першым адгукнуўся Віктар — прадпрымальнік зь Менску, векам пад 40 гадоў. Упэўнена назваў пасаду, якую да адстаўкі займаў Юры Захаранка — міністар унутраных справаў. Пра Віктара Ганчара згадаў, што той узначальваў Цэнтравыбаркам і адмаўляўся прызнаваць вынікі рэфэрэндуму, які незаконна зладзіў Лукашэнка. А пра Генадзя Карпенку — што кіраваў ценявым урадам. «Але няўжо і Карпенку забілі? — перапытаў Віктар. — Вы былі знаёмыя?»

# 2.
# Тэрыторыя выпрабаваньняў



## Генадзь Карпенка

А хто з парлямэнцкіх карэспандэнтаў ня ведаў Генадзя Карпенкі, ня быў зь ім знаёмы асабіста? Здаецца, такіх у нашым цэху не было. Яшчэ зь ягонага дэпутацтва ў Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня лепшага суразмоўцы было не знайсьці. І сур'ёзна пагаварыць, падзяліцца важнай інфармацыяй, і пабалакаць, чарку выпіць — Карпенка быў майстар. Праўда, магчыма, крыху занадта гаваркі, даверлівы.

У мяне з памяці ўсё не ідзе апошняя зь ім размова. Магчыма, таму, што яна кідае сьвятло на загадкавую сьмерць Карпенкі ў красавіку 1999 году.

Быў, здаецца, люты ці ўжо сакавік. У Менскім цэнтры IBB праходзіла міжнародная канфэрэнцыя, у якой браў удзел Генадзь Карпенка — на той момант старшыня Нацыянальнага выканаўчага камітэту, фактычна ценявога ўраду, сфармаванага зь ліку дэпутатаў Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, які Лукашэнка разагнаў у 1996 го-

дзе, адпомсьціўшы за спробу абвясьціць яму імпічмэнт.

Зборам подпісаў пад імпічмэнтам кіраваў менавіта Карпенка. Былі сабралі подпісы, патрэбныя для адхіленьня Лукашэнкі ад улады, але да імпічмэнту справа не дайшла праз Валера Ціхіню. Той заблякаваў рашэньне, скарыстаўшыся сваімі паўнамоцтвамі як старшыня Канстытуцыйнага суду. Тагачасны сябра Канстытуцыйнага суду Міхаіл Пастухоў распавядаў потым, што Ціхіня апраўдваўся пагрозай крывавага грамадзянскага канфлікту.

І вось мы сядзім з Генадзем Карпенкам у буфэце ІВВ, на століку перад лідэрам апазыцыі кубачак кавы і мой дыктафон. Спыніў Карпенку ў гардэробе, ужо апранутага ў чорны скураны плашч, які вельмі пасаваў яму, чалавеку высокага росту, самавітай постаці, і зацягнуў сюды, у пусты буфэт.

Карпенка ўжо нагаварыў на дыктафон свой камэнтар, але не спыніў размовы, сам вярнуўся ў 1996 год. Тады так па-дурному загубілі надзею на мірную перамогу над яшчэ кволай дыктатурай Лукашэнкі. Няўжо і цяпер нічога не атрымаецца?

Карпенка мружыць вочы, усьміхаецца сваёй лёгкай усьмешкай, сыпле жартамі, але бачна, што на душы ў яго цяжка, ён ня можа сабе нечага дараваць. Мне ня трэба тлумачыць чаго. Што так лёгка тады, у 1996-м, абвялі яго вакол пальца Лукашэнка разам з расейцамі Строевым і Селязьнёвым.

Але раптам у вачах Карпенкі міргае агеньчык, і ён пераходзіць на паўшэпт. «Нядаўна сустракаўся з Маргарэт Олбрайт. Нібы прыглядалася да мяне, лічы, на агледзінах пабываў. Абяцала падтрымку нашым новым выбарам. Будзем праводзіць іх ужо гэтым годам, не чакаць лукашэнкаўскіх, а ягоных выбараў прызнаваць нельга. То бок улетку будзе горача», — сказаў з шырокай усьмешкай Генадзь Карпенка. Было бачна, яго проста расьпіралі радасныя надзеі пасьля размовы зь дзяржсакратаром ЗША.

Мінуў які месяц, можа крыху болей, як прыйшла ашаламляльная навіна — Генадзя Карпенку з кровазьліцьцём у мозг паклалі ў шпіталь. Яшчэ праз тыдзень, 6 красавіка 1999 году, лідэр беларускай апазыцыі памёр. Вакол гэтай сьмерці хутка ўзьніклі самыя розныя чуткі, пераказвалі і гісторыю пра ўкол ад невядомага чалавека ў падʼезьдзе, нібыта пасьля якога Карпенка, які да таго ня скардзіўся на здароўе, трапіў у шпіталь. Але гэта пакуль толькі чуткі. Дакладна ж вядомы такі факт: на памінках па Генадзю Карпенку ягоны сябар, былы міністар унутраных спраў генэрал міліцыі Юры Захаранка публічна прамовіў: «Гэта забойства, і хай ведаюць тыя, хто гэта зрабіў, што мы не даруем».

## Юры Захаранка

Фатограф Уладзімер Кармілкін, які пераказваў мне вышэйзгаданыя словы Захаранкі, меркаваў, што сваёй прамовай экс-міністар падпісаў сабе

сьмяротны прысуд. Магу пагадзіцца з Кармілкіным. Хаця б таму, што ў Захаранкі хапіла сьмеласьці публічна зрабіць заяву, яўна скіраваную на адрас Лукашэнкі.

Юры Захаранка стаў міністрам унутраных спраў улетку 1994 году, адразу пасьля інаўгурацыі Лукашэнкі. А да прэзыдэнцкіх выбараў ён узначальваў Сьледчую ўправу пры МУС, і папярэднюю кар'еру зрабіў менавіта як сьледчы. Верагодна, гэты сьледчы ў ім заставаўся да канца ягоных дзён. Бо і пасьля адстаўкі Захаранка скрупулёзна, дакумэнт да дакумэнту, зьбіраў доказы злачынстваў Лукашэнкі.

А вось чаму ён не дапускаў, што зь ім за гэта могуць паквітацца і на кану ўжо будуць не генэральскія зоркі, а жыцьцё, для мяне сакрэт. На чым грунтавалася самаўпэўненасьць Захаранкі?

Недзе зімой 1999-га, пасьля нашай сустрэчы для інтэрвію, я не ўтрымаўся і спытаў яго пра гэта наўпрост. Момант быў нязручны, але чамусьці ня стаў адкладаць размову.

Мы ехалі ў ягоных даволі патрапаных «Жыгулях», здаецца, цёмна-вішнёвага колеру, па вуліцы Заслаўскай. Захаранка сядзеў за стырном. З машынай ён упраўляўся лёгка, нібы граў на баяне. Калі адказваў, глядзеў мне ў вочы, не на дарогу. Але, мне падалося, яму было цесна ў гэтай невялічкай машыне і няёмка перада мною за яе стан. Можа, таму ён амаль не збаўляў хуткасьці на паваротах.

Гадзінай раней, у інтэрвію, былы генэрал рэзка выказаўся на адрас Лукашэнкі, і тыя словы

не выходзілі ў мяне з галавы. Не таму, што іх немагчыма будзе даць у этэр, а таму, што яны выдалі настрой Захаранкі. Цяпер, праз шмат гадоў, мяркую, што гэта быў такі ж настрой, як і ў Карпенкі падчас нашай апошняй зь ім размовы. Вось і Захаранка чамусьці быў перакананы, што наперадзе ў яго яшчэ шмат барацьбы.

А тады я наважыўся і спытаў: «А вы не баіцеся, што вас проста заб'юць? Навошта ім вас арыштоўваць, прыдумляць справу, праводзіць суд, калі ўсё роўна ніхто не паверыць? Яны ж могуць вас проста зьнішчыць. Учыняць тую ж аварыю. Вы ж ведаеце, як гэта робіцца. Як з Анатолем Майсенем было. Хіба не?»

Юры Захаранка пасьміхнуўся і адказаў зьдзіўлена і ўпэўнена адначасова, прыблізна такімі словамі: «Ты што! Ты не ўяўляеш, што тут пачнецца, якія сілы падымуцца. На гэта яны ніколі ня пойдуць, гэта выключана». «Што выключана? Хто ім перашкодзіць?» — настойваў я ў спадзяваньні, што былы міністар прыадкрые прычыну сваёй упэўненасьці. Але Захаранка рашуча паклаў размове канец: «Усё. Ты не ўяўляеш, што будзе. А больш нічога сказаць не магу».

Захаранка таямніча зьнік у Менску празь месяц пасьля сьмерці Генадзя Карпенкі, 7 траўня 1999 году. Позна ўвечары паставіў аўтамабіль на стаянку і пайшоў да дому. А па дарозе яго схапілі невядомыя, гвалтам зацягнулі ў легкавік і вывезьлі ў невядомым кірунку. Так сьцьвярджала афіцыйнае сьледзтва ўжо праз некалькі дзён

пошукаў Захаранкі, якія і праз 24 гады не пасунуліся наперад ані на крок.

Няўжо да апошняга не падазраваў, што над ім навісла небясьпека? Мне ў гэта цяжка паверыць. Той жа Ўладзімер Кармілкін, які сябраваў з былым міністрам, расказваў, што свой апошні на волі вечар Захаранка правёў у яго ў гасьцях, у кватэры на вуліцы Веры Харужай. Праз вакно Кармілкін убачыў у двары падазроны аўтамабіль і паказаў на яго Захаранку. «Ды ведаю, хай езьдзяць», — адмахнуўся Юры Мікалаевіч. Значыць, да апошняга спадзяваўся на заступніцтва некага нашмат мацнейшага за Лукашэнку. І пралічыўся.

Ведаю, у Юрыя Захаранкі былі сябры сярод высокапастаўленых сілавікоў у Расеі. Можна меркаваць, што менавіта на іх заступніцтва ён разьлічваў, таму і паводзіў сябе так упэўнена, нават зухавата. Але ў Крамлі сытуацыя імкліва мянялася, Барыс Ельцын усё далей адыходзіў ад рэальнага кіраўніцтва Расеяй і яе беларускім «дамініёнам». Масква ніяк не адрэагавала на заўчасную сьмерць Карпенкі, а значыць, у Менску маглі вырашыць, што і далей ня будзе рэагаваць, што б тут ні здарылася. Рукі былі канчаткова разьвязаныя.

А тая наша размова для мяне працягваецца. «Ты не ўяўляеш, што пачнецца», — чую голас Захаранкі і спрабую яму запярэчыць: «І што адбылося? Нічога. Анічога».

## Віктар Ганчар

Былы дэпутат Вярхоўнага Савету, віцэ-прэм'ер у першым пры Лукашэнку ўрадзе, былы старшыня Цэнтравыбаркаму Віктар Ганчар зьнік напачатку восені 1999 году разам з сваім сябрам, бізнэсоўцам Анатолем Красоўскім. Гэта адбылося 16 верасьня ў Менску на вуліцы Фабрычнай, дзе знаходзілася лазьня, у якой ня раз адпачывалі Ганчар і Красоўскі. Але гэтым разам яны па дамах не вярнуліся. Прапаў і аўтамабіль «Гранд Чэрокі» Анатоля Красоўскага, на якім сябры ўвечары прыехалі на Фабрычную. На месцы выкраданьня — толькі кавалкі шкла ад дзьвярэй аўто, сьляды крыві на асфальце, паламанае дрэва з плямкай чырвонай аўтамабільнай фарбы...

Расказваў пра гэта хлопцам у камэры з такімі дэталямі, бо наступным днём пасьля зьнікненьня апазыцыянэраў упершыню ў жыцьці прысутнічаў пры аглядзе меркаванага месца здарэньня прафэсійным сьледчым. Толькі агляд праводзіў ня дзейны, а былы сьледчы пракуратуры, тады ўжо праваабаронца Алег Воўчак. «Верагодна, нападнік разьбіў бакавое шкло нейкім прадметам, адразу нанёс кіроўцу ўдар па твары і пацягнуў з машыны. Таму крыві пралілося больш у адным месцы, на дробныя шкляныя аскепкі», — прафэсійна камэнтаваў убачанае Алег Воўчак.

Сумненьняў у нас не было: гэта дзёрзкі напад, і паводле почырку падобны да таго, як захапілі ў палон Юрыя Захаранку. Да засады прыехалі на чырвоным аўтамабілі (меркавана, гэта быў

BMW Дзьмітрыя Паўлічэнкі, камандзіра групоўкі сілавікоў, якую назавуць «эскадронам сьмерці»), гвалтам зацягнулі ахвяраў у сваю машыну, хутка зьехалі. Сумненьняў не было і адносна таго, што выкрадальнікаў ня знойдуць, як і ахвяраў. Ва ўсякім разе, пакуль пры ўладзе Лукашэнка.

Але чаму Віктар Ганчар? Чым ён стаў небясьпечны для ўлады ў верасьні 1999 году?

## Сямён Шарэцкі перасьцярогся

Улетку таго самага году канчаўся першы прэзыдэнцкі тэрмін Лукашэнкі, але той і ня думаў праводзіць чарговыя выбары. Малады дыктатар абвясьціў, што паводле зьмененай Канстытуцыі тэрмін ягонага прэзыдэнцтва павінен скончыцца яшчэ праз два гады, у 2001-м.

Частка дэпутатаў Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, якія так і не прызналі вынікаў рэфэрэндуму 1996 году, у траўні паспрабавала правесьці альтэрнатыўныя выбары прэзыдэнта.

Кандыдатамі на прэзыдэнта зарэгістравалі былога прэм’ер-міністра Міхаіла Чыгіра і лідэра БНФ Зянона Пазьняка, які тады ўжо зьехаў у эміграцыю.

Апазыцыянэры абвясьцілі пачатак выбараў, але выбарчых участкаў не было. Актывісты з выбарчымі скрынямі самі прыходзілі да людзей на кватэры, прапаноўвалі прагаласаваць. Дарэчы, прыйшлі і да мяне. Мы з жонкай кінулі ў скрыню бюлетэні. Але нічога з тых выбараў не атрымалася.

Кандыдата Міхаіла Чыгіра яшчэ на старце выбарчай кампаніі арыштавалі. Зянон Пазьняк спачатку даў згоду на ўдзел у выбарах «дыстанцыйна», але потым зьняў сваю кандыдатуру. У выніку галасаваньне нібыта правялі, але новага прэзыдэнта не абралі. Сытуацыя, як кажуць, завісла.

А ў ліпені ў Лукашэнкі, паводле Канстытуцыі 1994 году, канчаўся тэрмін першага прэзыдэнцтва. І тады 21 ліпеня на паўпадпольным сходзе дэпутаты абралі выканаўцам абавязкаў прэзыдэнта старшыню мяцежнага парлямэнту Сямёна Шарэцкага, а замест яго выканаўцам абавязкаў старшыні — Віктара Ганчара. Маторам гэтых падзей быў, безумоўна, Віктар Ганчар, і цэліў ён не на гэтую пасаду, а яўна вышэй. Толькі як можна было зьдзейсьніць задуманае, калі сілавы блёк ужо цалкам кантраляваў Лукашэнка?

Сямён Шарэцкі праявіў дальнабачнасьць і зьехаў у Літву, дзе яму далі ахову як кіраўніку дзяржавы ў выгнаньні.

Тым годам я прыяжджаў у Вільню па журналісцкіх справах і выпадкова бачыў Шарэцкага на аўтавакзале. Невысокага росту, сівы, прысадзісты — абазнацца было немагчыма. Побач трымаўся дужы высокі мужчына ў строгім гарнітуры, тыповы ўраджэнец балтыйскай рэспублікі. Магчыма, гэта і быў літоўскі ахоўнік Шарэцкага. Побач зь ім выканаўца абавязкаў прэзыдэнта Беларусі выглядаў дзіўнавата. Заклапочаны, напружаны, некага чакаў на пэроне. Мяне Сямён Шарэцкі не пазнаў, ці нават і не заўважыў.

А вось Віктар Ганчар зь Беларусі ня зьехаў. Больш за тое, пасьля абраньня сьпікерам неафіцыйнага парлямэнту палітык разьвіў яшчэ больш бурлівую дзейнасьць. Зьбіраў дэпутатаў на сходы, праводзіў брыфінгі для журналістаў, рабіў гучныя заявы. Але што дакладна задумваў Ганчар, на што спадзяваўся ў барацьбе з Лукашэнкам — збольшага заставалася загадкай.

Недзе ў канцы жніўня ці ў першыя дні верасьня давялося апошні раз бачыцца зь Віктарам Ганчаром. Тая сустрэча якраз і спарадзіла здагадку, што важная падзея, да якой рыхтаваўся палітык, вось-вось адбудзецца.

Раптам праз тэлефон мяне запрасілі на сустрэчу зь Віктарам Ганчаром у рэстарацыю «Патсдам», што была на рагу вуліц Леніна і Рэспубліканскай. «Будуць палітыкі, журналісты. Спадар Ганчар будзе рады падзяліцца сваімі думкамі і плянамі», — казаў той, хто перадаваў запрашэньне. Здаецца, гэта быў ня сам Ганчар, інакш бы я запомніў. Тады не зьвярнуў вялікай увагі, хто менавіта званіў. Адкуль мог ведаць, што гэта будзе апошняя з Ганчаром сустрэча?

## Палітык шырокага дыяпазону

Зь Віктарам Ганчаром ніколі ня быў запанібрата, адносіны не выходзілі за рамкі камунікацыі журналіста з палітыкам, але за папярэднія дзесяць гадоў тае камунікацыі было ўжо столькі! У той час уявіць беларускую палітыку

бязь Віктара Ганчара было немагчыма, хоць маё стаўленьне да яго заўсёды было супярэчлівае.

На пачатку 1990-х Віктар Ганчар як дэпутат мне вельмі падабаўся — актыўны, дасьведчаны, дэмакратычных поглядаў. Але потым стаў расчароўваць: тым, што дапамог Лукашэнку абрацца прэзыдэнтам, што заняў у першым пры ім урадзе пасаду віцэ-прэм'ера. Гэта я расцаніў як здраду дэмакратыі.

Аднак заўсёды імпанавалі чалавечыя якасьці Ганчара, тое, што ягонай натуры чыноўніцкі футарал заўсёды быў замалы. Памятаю восень 1994 году, брыфінг для журналістаў у Саўміне, на якім Ганчар абвясьціў з усьмешкай, што сыходзіць у адстаўку. Абгрунтаваў гэта расчараваньнем ад палітыкі, якую праводзіць Лукашэнка, тым, што былы калега па дэпутацкім корпусе на вачах ператвараецца ў аўтакрата. А пасьля з крыўдай на твары паскардзіўся, што яго — былога сябра! — элемэнтарна не дапускаюць да Лукашэнкі ў кабінэт, не злучаюць праз тэлефон!

Але варта аддаць Ганчару належнае — пратрымаўся ён побач з Лукашэнкам-прэзыдэнтам меней за ўсіх сяброў перадвыбарчай каманды. Ня стаў прыстасоўвацца, як іншыя, ды рабіць выгляд, што ўсё ідзе як мае быць.

## «Прававая вакханалія»

Наступны запамінальны выпадак з удзелам Віктара Ганчара адбыўся ў 1996-м і зьвязаны быў з рэфэрэндумам аб зьменах у Канстытуцыю

1994 году. Тымі зьменамі Лукашэнка прабіваў сабе дарогу да аднаасобнай улады, але на ягоным шляху паўстаў парлямэнт — Вярхоўны Савет 13-га скліканьня на чале зь Сямёнам Шарэцкім, у якога намесьнікам быў Генадзь Карпенка. Намесьнікам мог стаць і Віктар Ганчар, але зьняў сваю кандыдатуру. Затое дэпутаты абралі яго старшынём ЦВК (Цэнтральнай выбарчай камісіі).

Рэфэрэндум быў прызначаны на 24 лістапада, але яшчэ да асноўнага дня галасаваньня Віктар Ганчар засумняваўся ў законнасьці дзеяньняў выканаўчай улады. 14 лістапада на паседжаньні Вярхоўнага Савету Ганчар заявіў пра шматлікія парушэньні закону і на гэтай падставе прапанаваў дэпутатам скасаваць ранейшую пастанову аб прызначэньні плебісцыту. Старшыня ЦВК папярэдзіў, што ня зможа падпісаць выніковы пратакол рэфэрэндуму, які праходзіць ва ўмовах «прававой вакханаліі». Але Вярхоўны Савет не прыняў ніякага рашэньня.

У той жа дзень Лукашэнка выдаў указ аб зьняцьці Віктара Ганчара з пасады старшыні Цэнтравыбаркаму, хоць законнага права на гэта яшчэ ня меў, новая Канстытуцыя не пачала дзейнічаць. Ганчар не пагадзіўся і адмовіўся пакідаць службовы кабінэт. Лукашэнка прыслаў сілавікоў з асабістай службы аховы, каб ачысьцілі кабінэт гвалтам.

ЦВК тады месьціўся ў будынку на вуліцы Кастрычніцкай, 5, дзе канцэртная заля «Мінск». Добра памятаю той момант, калі ў калідоры, заблякаваным міліцыянтамі і службоўцамі, зьявіўся

старшыня Вярхоўнага Савету Сямён Шарэцкі ў суправаджэньні групы дэпутатаў. Але Шарэцкага — тады другую асобу ў дзяржаве — нават не прапусьцілі ў кабінэт да Віктара Ганчара, і тады сьпікер назваў сілавікоў злачынцамі ды заявіў пра пераварот, які «на вачах ува ўсіх адбываецца ў Беларусі».

З будынку Цэнтравыбаркаму Віктара Ганчара вывелі пад вартай. Журналісты разьбегліся па рэдакцыях пісаць рэпартажы, я таксама сышоў. Неўзабаве старшынёй ЦВК стала Лідзія Ярмошына, чыю ролю ў фальшаваньні другога рэфэрэндуму і ўсіх будучых выбараў, спадзяюся, вызначыць суд у дэмакратычнай, незалежнай Беларусі.

## Зонд у страўнік

Сьведкам яшчэ адной знакавай падзеі ў жыцьці Віктара Ганчара стаў у сакавіку 1999 году, за паўгода да ягонага зьнікненьня. Тая падзея канчаткова пераканала, што Ганчар не саступіць, бо да ягоных палітычных амбіцый дадаўся чалавечы фактар. Прага рэваншу і крыўда. Гаворка пра арышт Віктара Ганчара і ягоную галадоўку пратэсту.

На самым пачатку сакавіка Віктар Ганчар быў затрыманы і зьмешчаны ў спэцпрыёмнік на Акрэсьціна. Там палітык абвясьціў сухую галадоўку, якая працягвалася дзесяць дзён — пакуль турэмны лекар гвалтам ня ўліў яму ў страўнік амаль паўлітра глюкозы. 11 сакавіка Ганчара, які

ў турме ўжо пачаў мачыцца крывёю, вывезьлі за горад і выкінулі на ўзбочыну, у сумёт. Мокры, без паліто, з траўмаванай ад кайданкаў рукой Ганчар неяк дабраўся дамоў і паведаміў пра сябе журналістам.

У доме непадалёк ад Камароўскага рынку, дзе жыў Віктар Ганчар, у пад'езьдзе і на пляцоўцы каля ягоных дзьвярэй, некалькі гадзін дзяжурылі дзясяткі журналістаў недзяржаўных беларускіх і замежных мэдыя. Усе мы чакалі, калі выйдзе Віктар Ганчар, але ён не выходзіў, і гэта было да яго вельмі не падобна.

Памятаю, да нас выйшла жонка Ганчара Зінаіда. У хатнім халаце, разгубленая, з дрыготкімі вуснамі: «Калі ласка, ён вельмі слабы, яму трэба адпачыць. Ён ня можа выйсьці. Ідзіце, калі ласка, потым сустрэнецеся».

Ужо ўлетку, пасьля чарговай прэсавай канфэрэнцыі, пацікавіўся ў палітыка, як яго выводзілі з галадоўкі. «Як — як? Зьвязалі і трубку ў рот запхнулі па самыя… Як!» — павысіў голас Віктар Ганчар і бліснуў вачыма. Яшчэ столькі ярасьці ў ім заставалася з таго сакавіцкага дня, што мне стала зразумела: пераўжытай зьнявагі ён Лукашэнку не даруе. Адстаўку, можа, і дараваў бы, але зонд у страўнік не даруе.

## Брыфінг у «Патсдаме»

І вось я заходжу ў «Патсдам», на ўваходзе сустракае Віктар Ганчар. Гарнітур паводле апошняй моды, на галаве валасок да валаска, шчырая ўсь-

мешка, рукі разьведзеныя шырока, як сустракаюць дарагіх гасьцей. Але за сталом, накрытым недзе пэрсон на дзесяць, толькі Ганчар, былы дэпутат Валер Шчукін, з журналістаў, здаецца, Генадзь Кесьнер з DW і, відаць… усё. Віктар Ганчар не падае выгляду, што нешта ня тое, але ў паветры адчуваю недасказанасьць, напружанасьць. Бачу, што няёмка не аднаму мне. Стол занадта багаты, па ім бачна, што Ганчар спрабуе задобрыць журналістаў. Але дзе калегі зь іншых мэдыя, дзе абяцаныя палітыкі? Для каго гэтыя незанятыя крэслы?

Размова, дарэчы, так і ня склалася. Віктар Ганчар ці то передумаў, ці то і не зьбіраўся расказваць штосьці новае пра свае палітычныя пляны. А проста слухаць анэкдоты, выпіваць і закусваць бутэрбродамі з чырвонай ікрой не ўваходзіла ў мае пляны. Недзе праз паўгадзіны я разьвітаўся і пайшоў.

Для мяне ён застаўся неразгаданай загадкай. Дэпутат-рэфарматар ці кар'ерыст? Змагар з дыктатурай ці палітычны авантурыст? Палітык з патэнцыялам прэзыдэнта ці проста пакрыўджаны чыноўнік, апантаны прагай рэваншу? Магчыма, у ім было ўсяго патроху. Пэўнага адказу дагэтуль ня маю.

## Новая рэальнасьць

Маё знаходжаньне ў Баранавіцкім ізалятары ў лістападзе 2020 году скончылася ковідам. Як выходзіў з турмы — хістала. Памятаю, ішоў доў-

гімі калідорамі за мужчынам у цывільным, адчыніліся мэталічныя дзьверы — і мы ў дворыку. Ноч. Холад.

Не выключаю, што давядзецца ісьці разам да вакзалу. Кажу мужчыну: «Ну, віншую з воляй! Вы таксама зь Менску?»

А ён дастае з кішэні ключ зь бірулькаю, націскае на пімпачку — піпс! — і на аўтамабілі побач з намі спрацоўвае сыгналізацыя. Шляхі нашы разышліся.

Аказваецца, на той час міліцыянтам загадалі выходзіць на вуліцу толькі ў цывільнай вопратцы — так забаяліся нападаў «партызанаў» на свае пэрсоны. Новая рэальнасьць.

## Бацькаў твар

Жнівень 2022 году. Калёнія. Раніцай гляджу на сябе ў люстэрка і бачу твар бацькі. Такія ж маршчыны па твары. Абвіслыя шчокі. Палінялыя вочы. Скура на скронях у пігмэнтных плямках, уласьцівых толькі старым. Мне 63, але ў люстэрку бачу яго, 90-гадовага.

На пачатку сьнежня 2021 году, за дваццаць дзён да майго арышту мой бацька, Анатоль Грузьдзіловіч, памёр ад ковіду ў Берасьцейскім гарадзкім шпіталі. За тыдзень да таго я адвёз яго ў шпіталь, дзе ўжо ляжалі з ковідам брат Сяргей і ягоная жонка Марына. Яны, амаль на 30 гадоў маладзейшыя, перахварэлі і выйшлі, а цела таты я забіраў з бальнічнага моргу. Калі ў пахавальнай краме пры бальніцы заказаў таблічку зь імем ня-

божчыка, напісаць па-беларуску адмовіліся — у друкарцы не знайшлося шрыфту.

Атрымаўшы вестку са шпіталя, праз некалькі гадзін пазваніў у прыёмную Берасьцейскага гарвыканкаму і паведаміў пра бацькаву сьмерць. Анатоль Грузьдзіловіч працаваў старшынём гарвыканкаму з 1970 па 1979 год, да таго яшчэ пяць год намесьнікам старшыні. Пры ім будаваўся мэмарыял «Берасьцейская крэпасьць-герой», узьніклі новыя прадпрыемствы. Мне з братам, пакуль яшчэ былі малыя, тата душу выеў расказамі пра свае новабудоўлі. Цяпер ня стала каго слухаць.

Разам зь іншымі «мэрамі»-пэнсіянэрамі, хто жыў у Берасьці, бацьку рэгулярна запрашалі ў гарвыканкам на сустрэчы зь дзейным кіраўніцтвам гораду. Тата згадваў, як аднойчы на такой сустрэчы скрытыкаваў былых калег за тое, што зусім закінулі справу пашырэньня ў гарадзкім асяродзьдзі беларускай мовы. На пачатку 1990-х мова пачала адраджацца, а цяпер… На вуліцах абласнога цэнтру ня ўбачыш беларускай назвы. Трэба нешта рабіць. Гаварыў, яму не пярэчылі,ківалі галовамі. Але гады ішлі, а нічога не зьмянілася.

Пасьля выбараў 2020 году бацька сказаў, што на падобныя сустрэчы больш ня пойдзе. Падман на выбарах дабіў ягоную веру ў цяперашніх чыноўнікаў. У жніўні быў ня супраць запісаць відэазварот супраць гвалту, толькі сямейнікі не адважыліся. «Каб не зашкодзіць».

У другой палове дня пазванілі з гарвыканкаму. Памочнік старшыні пытаўся, дзе адбудзецца пахаваньне, у які час. Калі даведаўся, што разьвітвацца зь нябожчыкам праз ковід вырашылі каля дому, на вуліцы, памочнік прапанаваў падвезьці адмысловую падстаўку пад труну, крэслы для запрошаных і выкарыстаць бусік з апаратурай для трансьляцыі жалобнай музыкі. «Магчыма, на разьвітаньне прыедзе старшыня гарвыканкаму спадар Рагачук», — папярэдзіў супрацоўнік у канцы размовы.

Наступнай раніцай з гарвыканкаму паведамілі, што «мэр» сапраўды будзе на грамадзкім разьвітаньні. Потым Аляксандар Рагачук пазваніў сам, выказаў спачуваньне і пацьвердзіў намер прыехаць. Падчас гэтай размовы я адзначыў, што спачатку старшыня гаварыў са мной па-расейску, але ў канцы ўжо спрабаваў перайсьці на беларускую мову.

Спроба перайсьці на беларускую паўтарылася праз некалькі гадзін, калі старшыня прамаўляў сваё слова на грамадзянскім разьвітаньні. Сярод іншага, спадар Рагачук нагадаў такі факт: літаральна пару гадоў таму ў Берасьці адкрылі вялікі пуцепровод з аўтамабільнай разьвязкай, якім злучылі два вялікія раёны гораду. Пра будаўніцтва гэтага аб’екта «мэр» Анатоль Грузьдзіловіч пачаў дамаўляцца яшчэ ў канцы 1970-х, пацьвердзіў прамоўца.

У турме, зноў згадваючы бацькава пахаваньне, вяртаўся да таго пуцепроводу. Думалася: нішто сабе разьбежка ў часе! Толькі цяпер пабудавалі

тое, што насьпела ўжо 50 гадоў таму. Топчамся на месцы. «Пуцеправод» часу заблякаваны.

## Лукашэнка-экскурсавод

У ліпені 1994 году, калі Аляксандра Лукашэнку абралі прэзыдэнтам, мой бацька нечакана паведаміў сямейнікам, што пазнаёміўся з новым кіраўніком краіны яшчэ ў 1970-х гадах. Калі ў калёніі размова заходзіла пра Лукашэнку і пра эпізод ягонай біяграфіі, які тычыўся службы на дзяржаўнай мяжы, я пераказваў хлопцам тую гісторыю.

Нагадаю, тата ў тыя гады працаваў старшынём Берасьцейскага гарвыканкаму. Ягоны аповед быў прыблізна такі.

«Да нас рэгулярна прыяжджалі розныя афіцыйныя дэлегацыі. Звычайны маршрут візыту — крэпасьць і на дадатак нейкі завод. Але аднойчы высокапастаўленыя госьці пажадалі чагосьці новага — наведаць памежны атрад, дзе быў свой музэй. І вось прывожу тую дэлегацыю ў музэй, а там экскурсаводам — малады высокі афіцэр. Я сам насаты, таму і яго запомніў па даўгім носе. А цяпер бачу на фота Лукашэнкі — дакладна ён. І паводле біяграфіі ўсё сыходзіцца — якраз у той час служыў там інструктарам палітаддзелу. На мяжы. Ну якая там мяжа ў горадзе? Так, пры штабе, з указкай», — расказаў тата. І, пасьміхнуўшыся, дадаў: «Але як экскурсавод быў нармальны».

У канцы 1970-х, студэнтам, я сам пабываў у тым музэі. Памятаю стэнды пра герояў-памежнікаў, якія з дапамогай службовых сабак затрымлівалі «шпіёнаў і парушальнікаў мяжы». Тых парушальнікаў былі тысячы, і большасьцю — землякі, што ўцякалі з «калгаснага раю».

Такія, як цяпер сам, як тысячы новых уцекачоў-беларусаў. А нехта па-ранейшаму ходзіць з указкай па тым музэі, расказвае пра дасягненьні.

## Паратунак: ліставаньне з жонкай

Марыяньне за час зьняволеньня адправіў больш за 100 лістоў. Ад яе за той жа час атрымаў больш за 60. Гэтае ліставаньне было для мяне паратункам: напісаць ліст — ня меншая асалода і патрэба, чым атрымаць. Хаця ўсё ж не. Атрымліваць прыемней.

Калі ў камэру прыносяць пачак лістоў, сэрца замірае: ці будзе каторы табе? Не — робіш выгляд, што не засмуціўся. Так — у душы скачаш ад радасьці. Шмат разоў бачыў па сукамэрніках, што яны адчуваюць роўна тое ж самае: гэтаксама ня хочуць паказваць смутак і гэтаксама ня ў стане стрымаць радасьць.

Жонцы пісаў кожны дзень. З маіх лістоў Марыянна не атрымала, можа, пяць-шэсьць, прыблізна столькі ж і я недалічыўся. Цэнзура ці што яшчэ, ня ведаю.

Але лісты, і мае, і жончыны, — гэта ўсё ж рэч інтымная. Пішучы гэтую кнігу, параіўся з Марыяннай, і вырашылі ніводнага не цытаваць.

Хай яны застануцца з намі, дзецям ці ўнукам пакажам, калі зацікавяцца. А пасьля нас самі вырашаць, што зь імі рабіць.

Пакуль я сядзеў у турме, Марыянна ня толькі знаходзіла час ліставацца са мной, але і пачала пісаць успаміны. Кавалак зь іх, пра тое, як пачалося наша каханьне, яна прапанавала для гэтай кнігі.

Але спачатку яшчэ адна заўвага, магчыма, карысная іншым вязьням і іх сваякам. Штодзённае пісаньне лістоў мела і практычны эфэкт. Калі мяне пасадзілі ў ШЫЗА і лісты перасталі прыходзіць, Марыянна адразу зразумела, што нешта здарылася са мной, а ня пошта сапсавалася, і пачала дзейнічаць. Да таго ж нашы лісты мы заўсёды нумаравалі, што дазваляла дакладна ведаць, каторы зь іх не дайшоў.

А цяпер абяцаны кавалак з успамінаў Марыянны.

## Як пачалося каханьне

«Мы былыя аднаклясьнікі. Я нарадзілася ў Расеі і пяць зь дзесяці клясаў школы скончыла там. З шостай клясы мы пераехалі ў Берасьце, у Беларусь. Паколькі ў Расеі я хадзіла ў спэцшколу па ангельскай мове, і тут мяне маці адправіла ў такую ж. Сярэдняя школа № 9 была новабудоўляй, з басэйнам, па тых часах вельмі крутая.

У клясе я адразу пачала зьвяртаць увагу на нязвыклыя для мяне беларускія прозьвішчы. І вось кажуць адзін раз: „Грузьдзіловіч“, — выходзіць адзін хлопец да дошкі, другі раз: „Грузь-

дзіловіч“, — іншы. Потым я разабралася, што, аказваецца, я вучуся ў клясе з братамі-двайнятамі. Гэта былі Алег і ягоны брат Сяргей.

У дзявятай клясе ён мне пачаў падабацца, але я выгляду не паказвала. Пасьля мы высьветлілі, што ў дзясятай і я яму падабалася, але і ён нічога не казаў. Выпускны ў нас быў 25 чэрвеня, як і па ўсёй краіне, а ў Берасьці была традыцыя напярэдадні, 24-га, ладзіць гуляньні для выпускнікоў у цэнтральным парку.

Кожнаму выпускніку выдавалі кантрамарку, зь якой можна было пакатацца на розных атракцыёнах, паступова адрываючы чатыры ражкі кантрамаркі. Усе, канечне, выкарыстоўвалі тры ражкі на розныя арэлі-каруселі, а чацьвёрты пакідалі на вячэрнюю танцпляцоўку, якую называлі пляцам.

Спачатку мы клясай пайшлі на арэлі-„лодачкі“, сталі там у чаргу. Заўважыла, што паводле чаргі я трапляю ў пару на арэлі з братам Алега, а сам Алег стаяў на адлегласьці і глядзеў у іншы бок, на аўтадром. Я тут жа зьмікіціла гэта і за долі сэкунды зрабіла, можа, самыя важныя крокі ў сваім жыцьці: набралася адвагі і падышла сама да яго. Ды як мага больш нязмушаным тонам сказала: „Алежка, а давай з табой разам пойдзем на «лодачкі!»“ Ён павярнуўся і сказаў: „Давай!“

І так мы зь ім і пайшлі на „лодачку“. Нам настолькі спадабаліся тыя першыя пяць хвілін, што мы вырашылі выкарыстаць на гэты атракцыён яшчэ адзін ражок кантрамаркі. Тым часам усе аднаклясьнікі пайшлі на іншыя атракцыёны.

Так мы ўпершыню аддзяліліся ад клясы і потым ужо паўсюль хадзілі, узяўшыся за рукі. Ну, а ўвечары, зразумела, танцавалі „медлякі“ на пляцы. А пасьля парку, калі пайшлі ўсёй клясай гуляць па горадзе, то мы ішлі ззаду, і пачаліся нашы першыя пацалункі.

На наступны дзень быў выпускны. Я вельмі хвалявалася, ці сур’ёзна Алег настроены на нашы стасункі, ці тое было толькі на ўчора. Хвалявалася, але загучаў першы павольны танец, і ніхто яшчэ не пачаў танцаваць, а Алежка першы прайшоў залю па дыяганалі і навідавоку ва ўсіх запрасіў мяне на танец. Падчас танцу ён сказаў, што ягоныя пачуцьці сур’ёзныя. Я была шчасьлівая. Так і пачалося наша каханьне».

## На «Валадарку» з Вашынгтону

На пачатку лютага ў канвэрце зь лістом ад жонкі знайшоў дадатковы аркуш са словамі на ангельскай. Падпісана было — Флай. Здагадаўся, што гэта ліст ад прэзыдэнта міжнароднай мэдыякарпарацыі Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода Джэймі Флая, які ён даслаў з Вашынгтону адмыслова для мяне праз калег з Прагі.

За пяць месяцаў у сьледчых ізалятарах Менску і Магілёва меў ажно пяць спатканьняў з жонкай, прычым на апошняе, якое было ў магілёўскай Т-4, у траўні 2022 году, разам з Марыяннай прыехалі сын Павел і ўнукі Ева, Сафія і Кастусь. Гэта сапраўдны цуд, што жонка дамаглася столькі разоў атрымаць дазволы на сустрэчу, бо, паводле

сукамэрнікаў, адно-два спатканьні за ўвесь час СІЗА — норма. А бывае, калі сьледзтва ўсё ніяк не завершаць, дык і гадамі людзі сядзяць за кратамі без сустрэч з роднымі. Не ўяўляю, як бы вытрымаў! Гэта неймаверна цяжка — ня бачыць столькі часу родныя вочы, твар, рукі. А людзі ж неяк цярпяць.

На кожнай сустрэчы Марыянна перадавала прывітаньні ад калегаў з Радыё Свабода. Гэты шле табе прывет з Прагі, мы зь ім заўсёды на сувязі. Гэты — зь Менску, гэтая — зь Вільні. А гэты ўжо ў Варшаве, перабраўся з Кіева і таксама зычыць здароўя і хутчэйшага вызваленьня!

Было неверагодна прыемна, але я перастрахоўваўся. Прыкладаў палец да вуснаў і прасіў не называць імёны гучна, мала што, тут жа ўсё праслухоўваецца.

А як было спатканьне ў сакавіку, адразу пасьля суду, сам не ўтрымаўся і пахваліўся: «Ты дасылала ліст з Вашынгтону. Дык вось ён дайшоў сюды, на „Валадарку“! На ангельскай мове нічога не даходзіць, нават звычайныя лісты цэнзура не прапускае, а гэты дайшоў!».

Вось тэкст таго ліста, які нейкім чароўным чынам я атрымаў у менскай вязьніцы.

*«22 студзеня.*

*Дарагі Алег: Кожны на Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода думае пра цябе і моліцца за цябе. Мы робім усё, каб дамагчыся твайго вызваленьня, і дапамагаем тваёй сям’і.*

*Твая адданасьць сваёй працы і гатоўнасьць пацярпець за свае прынцыпы насамрэч уражваюць.*

*Тыя, хто зь цябе зьдзекуецца, робяць гэта дзеля страху, а не з пачуцьця сілы. Праўда ўсё роўна пераможа.*

*Гляджу наперад, калі змагу павітаць цябе пасьля выхаду на волю.*

*Усяго лепшага, Джэймі».*

Гэты ліст паказваў хлопцам у камэры як доказ таго, што цуды магчымыя. Хлопцам таксама было прыемна. Значыць, на волі думаюць пра тое, як нам дапамагчы. Яшчэ мы дзякавалі цэнзару, які прапусьціў гэты дзейсны інструмэнт салідарнасьці ў галоўны сьледчы ізалятар краіны. Ці, можа, цэнзар ня ведаў ангельскай мовы? Такая вэрсія мне таксама падабалася.

## Што чытаюць за кратамі

Цяпер магу ўявіць, чаго хочацца больш чытаць у няволі: для душы ці для розуму. Але ўсё ж ёсьць розьніца, калі што чытаць.

Спачатку, як толькі трапіў у СІЗА, пацягнула да сур'ёзнай літаратуры. Якая дапамагае засяродзіцца, абдумаць былое жыцьцё. І дзе ж узяць такія кнігі?

У СІЗА ёсьць бібліятэка, але гэта гучна сказана. Бібліятэкі той ніхто з арыштантаў ніколі ня бачыў, бо туды нікога ня водзяць. Проста ў камэры ляжыць паперка са сьпісам кніг, якія нібыта можна заказаць. Кажу «нібыта», бо калі азнаёміўся з гэтым сьпісам і зрабіў замову, прынесьлі толькі палову з таго, што хацеў прачытаць.

Маўляў, астатняе на руках у іншых. Але праверыць гэта ніяк немагчыма.

Некаторыя кнігі сапраўды зацікавілі, і іх удалося прачытаць. Людміла Ўліцкая, Дзьмітрый Быкаў, якіх у Расеі ўжо залічылі ў «замежныя агенты». Наш Віктар Марціновіч. Нават пашанцавала прачытаць аповесьць Мойшэ Кульбака «Зельманцы». Гэтую кнігу калега па журналісцкім цэху Андрэй атрымаў на замову і прапанаваў мне.

Як браў «Зельманцаў», ня верылася сваім вачам. Божухна! Мойшэ Кульбак, адзін з тых маладых пісьменьнікаў Беларусі, яе новы гонар, каго сталіністы расстралялі ў «ноч паэтаў», 30 кастрычніка 37-га году! І яго можна прачытаць тут, у турме на Валадарскага, дзе, магчыма, ён сам адбыў апошнія гадзіны перад сьмерцю?!

Зразумела, хто любіць лёгкі жанр, фэнтэзі ці дэтэктывы, ім гэта таксама прынясуць. Выбар невялікі, але заняць галаву ёсьць чым. Дарэчы, на «Валадарцы» шмат кніг з былой 17-й калёніі на вуліцы Кальварыйскай. Калёніі даўно няма, а кнігі зь яе бібліятэкі па-ранейшаму дапамагаюць арыштантам вытрымліваць першыя, самыя цяжкія месяцы няволі. Бо праз месяц-другі ў любога арыштанта пачынаецца пэрыяд дэпрэсіі. Чалавек страчвае першыя дурныя ілюзіі, што разьбяруцца і хутка выпусьцяць, бытавыя цяжкасьці прыгнятаюць, блізіцца тэрмін, у некаторых вельмі вялікі, і ўжо не да прыемных думак. Вось тады і мяне пацягнула пачытаць нешта лёгкае, простае.

## Досьвед графа Монтэ-Крыста

Самай папулярнай кнігай у нашай камэры на «Валадарцы» быў «Граф Монтэ-Крыста» Аляксандра Дзюма. Першы том «Графа» заставаўся ў нас тры месяцы, яго трымалі ўсякімі праўдамі і няпраўдамі. Зьяўляліся новыя вязьні — і ставіліся новымі чытачамі Дзюма. Для сябе адкрыў, як шмат людзей гэтую кнігу, аказваецца, яшчэ не чыталі. «Гэта пра нас. Эх, уцячы б адсюль, як Эдмон Дантэс!» — марыў распаўсюднік анаболікаў, які ўсяго за пару дзён праглынуў першы том, дзе якраз вядзецца пра зьняволеньне і ўцёкі з турмы.

А вось іншы чытач «Графа Монтэ-Крыста» прызнаўся, што яму больш спадабаўся другі том рамана — дзе Дантэс помсьціць тым, хто вінаваты ў ягонай няволі. Заўвага прыйшлася даспадобы палітычным. Тэму пачалі абмяркоўваць і нават спрачацца наконт таго, як у пасьлялукашэнкаўскай Беларусі варта разьбірацца зь вінаватымі ў масавых рэпрэсіях. Ці дастаткова будзе люстрацыі для вінаватых у злачынствах чыноўнікаў, судзьдзяў і сілавікоў, ці не абыдзецца без судовых працэсаў. А калі прыйдзецца праводзіць суды, дык у якіх маштабах?

Адметна, што ніхто не прапаноўваў абмежавацца некалькімі паказальнымі працэсамі над галоўнымі дзеячамі рэжыму. Пагаджаліся, што суды патрэбныя і на абласным, раённым узроўні. І што судзіць давядзецца ня толькі сілавікоў, якія

парушылі закон, але і тых судзьдзяў, якія выносілі незаконныя прысуды.

Паслухаў гэтыя спрэчкі новы сукамэрнік, якога вінавацілі ў распаўсюдзе наркотыкаў, ды кажа: а я вось «Графа Монтэ-Крыста» не дачытаў. Як пачалося пра помсту, пра згрызоты сумленьня, стала нецікава.

На другі месяц сядзеньня ў СІЗА замовіў і атрымаў зь бібліятэкі «Вайну і мір» Льва Талстога. Перачытаў за некалькі дзён з захапленьнем, ня мог адарвацца, асабліва ад першага тому. Дзе вядзецца пра маральныя хістаньні, чалавечыя жарсьці, непадзеленае каханьне. Згадаў, што калі ў школе праходзілі «Вайну і мір», дык найперш зачытваўся старонкамі пра вайну, а лірыку прабягаў вачыма. Гэткі інтарэс не зьмяніўся і ў 40-гадовым узросьце, калі перачытваў славуты раман другім разам. А вось падчас трэцяга прачытаньня, у турме, старонкі пра вайну перагортваў амаль не чытаючы, затое лірыку, сцэны зь сямейнага жыцьця смакаваў, як дарагое віно. Усё ж сэрца ў турме хоча міру больш, чым вайны.

Праўда, праз тое, што бачыш вакол і сам перажываеш, насуперак гэтай патрэбе ўнутры міжволі назапашваецца злосьць і прага помсты.

Чаму гэтага не разумеюць тыя, хто арганізаваў рэпрэсіі над нязгоднымі з вынікамі выбараў 2020 году? Няўжо ім няўцям, што чым болей пасадзяць у турмы, тым большы гнеў потым абрынецца на Лукашэнку, ягоных сілавікоў і чыноўнікаў, якія дапамагаюць яму захаваць уладу?

## Чаму польская мова пад забаронай

У канцы чэрвеня, праз тыдзень пасьля таго, як вырваўся з ШЫЗА, упершыню наведаў бібліятэку. Ваў! Якое відовішча! Паліцы кніг, строгія бібліятэкары з фармулярамі, мудрагелістыя цытаты на плякатах. І пахне не сталоўкай і ня «хатай», а кнігамі, паперамі. Стаў вывучаць, якія кнігі стаяць на паліцах. Але хлопцы з брыгады прысьпешылі — усяго 20 хвілін, сьпяшайся.

На вока прыблізна прыкінуў, колькі можа тут быць кніг? Даўгіх паліц каля 20, іх агульная даўжыня блізкая да 100 мэтраў — такім чынам, у бібліятэцы каля 3 тысяч кніг. Большасьць зь іх — мастацкая літаратура, прыгоды, дэтэктывы, фантастыка, кнігі гістарычнай тэматыкі. Можна знайсьці і паэзію. Знаёмы хлопец узяў сабе кніжку Брусава і чытаў потым з захапленьнем. Яшчэ адна асобная група — розныя даведнікі, падручнікі, дапаможнікі па вывучэньні моваў — тое, што дае веды, якія спатрэбяцца на волі.

У пацьверджаньне знайшоў самавучкі італьянскай, чэскай і партугальскай моваў і адразу некалькі розных дапаможнікаў па ангельскай. А вось па-польску зусім нічога ў рукі ня трапіла. Чаму так?

Пазьней палітвязень Андрэй патлумачыў, што гэта не выпадкова: «У калёніі па руках ходзіць некалькі польскіх кніг, а ўсе самавучкі адміністрацыя зь бібліятэкі яшчэ летась прыбрала. Нібыта ёсьць тайны загад, бо чэргі пачалі станавіцца па

польскія падручнікі, шмат хто марыць эміграваць у Польшчу».

## Дапамога клясыка

Ёсьць у бібліятэцы 15-й калёніі і беларускія кнігі, але няшмат, толькі дзьве невялікія палічкі. На іх Васіль Быкаў, Уладзімер Караткевіч, Янка Купала, Максім Гарэцкі, нарысы па гісторыі Беларусі Ўсевалада Ігнатоўскага і падручнік Мітрафана Доўнар-Запольскага. Маім захапленьнем у калёніі стаў Максім Гарэцкі. Збор твораў Гарэцкага стаяў на паліцы непадалёк ад крэсла бібліятэкара, але зьнешне выглядала, што гэтыя кнігі здымалі з паліцы рэдка, такія чыстыя і некранутыя былі ў іх старонкі.

Кароткая біяграфія клясыка беларускай літаратуры заканчвалася датай ягонай сьмерці — 1938. Дзень, месяц, месца, дзе знайшоў спачын пісьменьнік, не ўказаныя. І, вядома, ані слова, што Максіма Гарэцкага рэпрэсавалі на пачатку 1930-х, выслалі зь Беларусі, а потым зноў арыштавалі і расстралялі як «ворага народу» на пачатку 1938 году ў Вязьме.

Пісьменьнік пасьпеў напісаць параўнальна няшмат, а яшчэ менш было надрукавана пры жыцьці. Але мова Гарэцкага адразу хапае за сэрца, яе хочацца смакаваць. А напісанае, падалося, дзіўным чынам перагукаецца з падзеямі, якія адбываюцца цяпер, праз 100 гадоў.

Спачатку прачытаў аўтабіяграфічную аповесьць Максіма Гарэцкага пра Першую сусьвет-

ную вайну, на якой будучы пісьменьнік, тады яшчэ землямер-каморнік, ваяваў як вальнапісаны («вольноопределяющийся») у складзе артылерыйскага палку. Жнівень 1914 году. Расейскія войскі пераможнымі калёнамі ўрываюцца ва Ўсходнюю Прусію, але сустракаюць мужны адпор германцаў, якія бароняць родныя нівы і гарады. Германцы б'юць царскае войска, як той казаў, «ня лікам, а ўменьнем», і вось ужо вальнапісаны разам са сваёй патрапанай артбатарэяй мусіць уцякаць да мяжы. А далей і ўвогуле бясслаўны разгром.

Якія падзеі з сучаснасьці мне, зэку ў калёніі, у ліпені 2022 году магла нагадаць гэтая аповесьць? Вядома, падзеі ва Ўкраіне.

Кніга Гарэцкага акурат улазіла ў кішэню маёй турэмнай курткі. Хлопцы дзівіліся, што хаджу зь ёю нават у сталоўку. «Навошта? — пыталіся. — Прыйшоў у казарму і чытай, калі ёсьць час».

Але мой разьлік быў хітрэйшы. Ня толькі каб можна было чытаць паўсюль і ў любую вольную хвіліну, нават на шыхтаваньні ці калі ўсіх зьбіраюць, каб выводзіць на прыём ежы.

Яшчэ прыдумаў паміж кнігай і ўнутранай тканінай кішэні хаваць кавалак хлеба. Белага альбо чорнага. Гэта важна таму, што трымаць хлеб у тумбачцы забаронена, і выносіць яго са сталоўкі таксама нельга, а без кавалка хлеба вытрымаць час паміж сьняданкам і абедам, ці паміж абедам і вячэрай, у мяне не атрымлівалася. Даводзілася хітраваць, шукаць спосаб, як схаваць хлебны запас.

Такім чынам Максім Гарэцкі забясьпечваў мяне ў калёніі ня толькі духоўнай, але і сапраўднай ежай.

## Малюю турму

Лыжка — адзіная рэч, якую асуджаны ў калёніі можа насіць з сабой паўсюль, як форму ці як бірку з нумарам артыкула і прозьвішчам. Лыжку бяруць з тумбачкі перад тым, як ісьці ў сталовую. Звычайна зэкі трымаюць лыжку ў адмысловым скураным ці палатняным футаралiку — каб была чыстая і каб ад яе ня пэцкаліся кішэні. Я ж у такім футаралiку, акрамя лыжкі, насіў набор каляровых алоўкаў, якія таксама нельга пакідаць у тумбачцы, бо алоўкі не ўваходзяць у сьпіс дазволеных рэчаў, і калі іх там знойдуць, таксама могуць пакараць.

Алоўкі мне былі патрэбныя, каб маляваць. Хацелася захаваць на малюнках памяшканьні вязьніцы, прадметы турэмнага побыту, твары вязьняў. Столькі экспрэсіі, схаванай журбы, крыўды бачыў у маршчыністых тварах зэкаў, у іх жылістых руках, худых плячах — як яшчэ захаваць гэтыя ўражаньні! Таксама хацелася адлюстраваць у малюнках пабытовыя сцэны зэкаўскага жыцьця. Як ядуць, як стрыгуць галовы, як пішуць лісты, як ідуць на прагулку. Уявіце карціну падчас абеду: лысыя галовы над сталамі, толькі лыжкі ды вочы блішчаць. Зэкі сьпяшаюцца. Есьці трэба за лічаныя хвіліны і ўвесь час азірацца, калі загадаюць пакідаць сталоўку.

Альбо ў пакойчыку перад лазьняй стрыгуць галовы. За якія дзесяць сэкундаў твая і без таго голая галава становіцца паголеная настолькі, што пачынае блішчэць. Навошта так каратка? А правяраюць. На тры мілімэтры валасы адрасьціў, і таксама можаш адправіцца ў ШЫЗА. Але як просіш зэка-цырульніка падстрыгчы яшчэ і бровы — рашучая адмова.

Яшчэ карцінка, як вязьні пішуць лісты дамоў. Не за сталом, бо сталоў у «хатах» проста няма, а паклаўшы паперу на кнігу ці зэдлік.

Знайшоў у бібліятэцы падручнік маляваньня і па ім спасьцігаў навуку, якая цікавіла даўно, а часу заняцца ёю ўсё не было. Патрапаная кніжка ў цьвёрдай вокладцы, парэпанай, як твар старога чалавека. Ужо па ёй бачна, што на зоне маляваньне запатрабаванае. Людзі прагнуць выявіць сябе, даказаць, што не здаліся, здольныя на новае жыцьцё.

## Камэра без вакна

Маляваць турэмныя сцэны пачаў яшчэ на «Валадарцы», аднак хутка высьветлілася, што дарэмна губляю час. Лісты з малюнкамі дамоў не даходзілі. Нарэшце атрымліваю назад свой жа канвэрт, а ў ім на малюнку прыпіска рукой цэнзара: «Не малюйце нічога пра турму знутры». Ясна. Аднак і пасьля гэтага некалькі разоў спрабаваў перахітрыць цэнзуру. Шкада, што ўдалося толькі адзін раз.

Зрабіў малюнак нашага вакна. А вакно ў 89-й камэры было незвычайнае. Мала таго, што на ім віселі вялікія краты, за імі сетка-рабіца, дык звонку яшчэ вакно закрывалася мэталічным шчытом зь дзіркамі. Праз гэтыя дзіркі ў камэру трапляла крышачку сьвятла, а ў сонечны дзень вакно моцна нагадвала душ зь сьветлымі струменямі, нібы вадзянымі.

Што я і намаляваў. І падазраю, што цэнзара такая вэрсія вакна павесяліла, таму ён і прапусьціў мой малюнак на волю. Але тым, хто сядзеў і цяпер сядзіць у 89-й камэры, не да жартаў. Бо ў камэры трывала не хапае сьвежага паветра. Нармальна дыхаць няма чым, нават калі ніхто зь вязьняў ня курыць, а такое бывае надта рэдка. Звычайна з васьмі чалавек курыць палова, а значыць, дым ніколі не зьнікае. Па ідэі, ратаваць павінна вэнтыляцыйная адтуліна на калідор, але яе часткова прыкрываюць ахоўнікі. І што рабіць? Нічога ня зробіш. Скардзіліся — не дапамагала.

Праветрываньне падчас прагулкі таксама мала што дае, ужо праз паўгадзіны па вяртаньні ў камэру зноў адчуваецца недахоп кіслароду. Бывала і такое, што ахоўнікі, каб адпомсьціць вязьням за нейкую правіннасьць, наўмысна перакрывалі вэнтыляцыйную адтуліну ў калідор. Тады хоць памірай.

Сукамэрнік Васіль аднаго разу ў такой сытуацыі ня вытрымаў, пачаў калаціць у дзьверы нагой і крычаць, каб адчынілі вэнтыляцыю, бо задыхаецца. На шум прыбеглі турэмнікі са спэцпадразьдзяленьня па барацьбе з бунтамі, узброеныя, з

дубінкамі ў руках. Пачалі пагражаць расправай ды карцарам. Добра што абышлося, Вася своечасова ўгаманіўся, і вэнтыляцыю ўсё ж адчынілі.

Што да нашай просьбы зьняць з вакна мэталічны шчыт, яна заўсёды ігнаравалася.

Згадваю чарговую праверку, якую ладзіў палкоўнік з Дэпартамэнту выкананьня пакараньняў МУС. Пасьля таго як усё агледзеў, пытаецца, ці ёсьць якія праблемы. Паказваем на шчыт на вакне, расказваем пра наша марнае зь ім змаганьне. Просім: «Можа вы дапаможаце? Загадайце, каб шчыт зьнялі». Чуем у адказ: «Гэта вырашае адміністрацыя ўстановы». — «Як так? Вы ж над імі начальства». — «Так, але да мяне як прадстаўніка дэпартамэнту просьбы ёсьць? Няма. Тады да пабачэньня».

Пасьля такога дыялёгу прыгадалася адна міжнародная праваабарончая канфэрэнцыя па пытаньнях паляпшэньня ўмоў у беларускіх вязьніцах. Гэта было ў канцы 1990-х гадоў, я тады ўжо працаваў на Радыё Свабода. Канфэрэнцыя праходзіла ў Менску, у нямецкім цэнтры IBB. Перад тым беларускі ўрад абавязаўся прывесьці ўмовы ў вязьніцах, у тым ліку ў сьледчых ізалятарах, у адпаведнасьць зь міжнароднымі нормамі. І вось на канфэрэнцыі міліцэйскія начальнікі зухавата адрапартавалі, што яны ўжо ўсё зрабілі. Што «вочкі», якія заставаліся на турэмных вокнах з часоў СССР, паўсюль пазразалі, таўшчэзныя краты замянілі на новыя, танчэйшыя, ніякіх дадатковых кратаў ужо няма, і дзённага сьвятла ў камэрах нібыта хапае, каб у вязьняў дастаткова

выпрацоўваліся рэчывы, неабходныя чалавечаму арганізму.

Можа, тады нешта сапраўды было зроблена для паляпшэньня ўмоваў у беларускіх вязьніцах, але з таго часу працэс яўна пайшоў у адваротны бок. Інакш адкуль бы ўзяўся на вакне 89-й камэры на «Валадарцы» мэталічны шчыт, адкуль «вочкі» і мэталічная сетка двума слаямі на вокнах 23-й, 17-й і 16-й камэр сьледчага ізалятара ў Магілёве?

Для добрага сну, ад якога залежыць псыхалягічная ўстойлівасьць, патрэбны гармон мэлятанін, які выпрацоўваецца толькі ў цемры. Але цемры ў камэрах «Валадаркі» не бывае, бо там нават уначы гараць даволі яркія ліхтары. Вязьні могуць прызвычаіцца да сну і ў такіх умовах, закрыўшы вочы адмысловай павязкай ці мэдычнай маскай. Толькі арганізм не падманеш. Мэлятаніну пад лямпай ён не выпрацоўвае, і праз нейкі час кожны арыштант пачынае адчуваць недахоп «гармону шчасьця». У чым гэта выяўляецца? У панічных настроях, апатыі, нэрвовых зрывах.

Аднойчы ў вечаровых прыцемках на «Валадарцы» (ці толькі ў нашым так званым «жаночым» корпусе, ня ведаю) здарылася аварыя з электрычнасьцю — прыблізна на паўгадзіны зусім зьнікла сьвятло. Памятаю, мы сядзелі ў камэры амаль у суцэльнай цемры і маліліся богу, каб сьвятло не вярнулі як мага даўжэй. А яшчэ клялі апошнімі словамі таго, хто зрабіў дзіркі ў шчыце на нашым вакне, бо праз іх усё ж ліліся «шэрыя струменьчыкі».

## Маляваў і рваў

У карантыне магілёўскай калёніі № 15 зноў пачаў рабіць замалёўкі сцэн турэмнага жыцьця і партрэты вязьняў. На адным з тых малюнкаў была сцэна зь «ленінскага» пакоя, які адначасова служыў за сталоўку і месца для адпачынку. Асуджаныя шчыльна сядзяць за сталамі, хто глядзіць тэлевізар, хто чытае, хто піша ліст дамоў, хто запівае сухар гарбатай. Якраз у тэлевізары ўзьнік твар Лукашэнкі — той злым голасам некага чыхвосьціць. Большасьць не зьвяртаюць на «скрыню» ўвагі, занятыя сваімі справамі. А я раблю замалёўку. І раптам сусед падымае галаву і з усьмешкай кажа: «Што значыць турма! Дома б выключыў тэлевізар, і ўсе праблемы. А тут мусіш слухаць гэтага сіплага». Нягучна заўважаю, што ўся краіна — турма, адключыць тэлевізар нельга паўсюль. Мужчына азіраецца па баках, ківае галавой, але далей размову не працягвае, замаўкае.

Штовечар вёў дзёньнік, у якім апісваў тое, што вакол мяне адбываецца і што думаю. Але ўжо празь пяць дзён я трапіў у ШЫЗА, а як выйшаў, аказалася, што запісы і малюнкі зьніклі. Перад тым як выпусьціць мяне з штрафнога ізалятара другі раз, начальнік калёніі асабіста папярэдзіў: «Грузьдзіловіч, канчай сваю выведную дзейнасьць».

Наступныя тры месяцы тое, што зноў намаляваў пра турму, спачатку хаваў у лістах, атрыманых ад сваякоў і жонкі. Паступова стос лістоў

у тумбачцы набухаў, і тады я пераносіў лісты ў торбу, якая хавалася на складзе асабістых рэчаў, у так званай «кешарцы». Там, ва ўсякім разе, малюнкі былі ў бясьпецы ад раптоўных праверак («шмону») тумбачак. Праўда, дасьведчаныя людзі папярэджвалі, што ніводнага ліста на волю ня вынесу, але працягваў цешыць сябе надзеяй.

Думаў, што як буду вызваляцца ў сакавіку 2023 году, калі скончыцца мой тэрмін, дык нешта зьменіцца. Але ў верасьні 2022-га нічога яшчэ не зьмянілася, наадварот, пільнасьць павялічылі. Мае рэчы, у прыватнасьці, перад вызваленьнем праверылі двойчы. Першы раз увечары 20 верасьня, а другім разам раніцай наступнага дня. У выніку ўсё пайшло ў сьметніцу, прычым рваць усе атрыманыя за дзевяць месяцаў лісты і схаваныя ў іх малюнкі мусіў сам.

## Горшы і лепшы час

Найлепшае ў турме — засынаць. Найгоршае — прачынацца. Расплюшчваеш вочы і бачыш над галавой жалезную сетку верхняй шконкі, пацёрты матрац, які нібы капіюе цела суседа. Збоку на дроціку вісіць чырвоная прышчэпка, забытая тым, каму загадалі вызваліць ложак і перабрацца ў іншы «кубрык». Асуджаныя ў калёніі — качэўнікі, у любы момант іх могуць ня проста перамясьціць на іншае месца, пазбавіўшы сяброў-суседзяў, а і перавесьці ў іншы атрад. Але хоць нешта сваё ты маеш?

Так. Гэта сны. А лепш сказаць, мроі. Пра дом. Пра каханую жанчыну ў нечым прыгожым. Пра дзяцей, якія зьнекуль прыбягаюць і весела гамоняць. Пра птушак, лес. А яшчэ сьніцца тое, чым займаўся.

Як мне падаецца, турэмныя сны чамусьці адрозьніваюцца ад сноў на волі. Нейкай большай канкрэтнасьцю. Ты ня толькі бачыш малюнкі з былога жыцьця, ты чуеш гукі, адчуваеш пахі, якіх раней не адчуваў. Неяк сярод ночы прачнуўся ад паху грэцкіх арэхаў, якія насамрэч амаль ня пахнуць, ну хіба толькі пустымі шкарлупінкамі, дый тое ў момант, калі нажом выкалупваеш зь іх «мозг» арэху. Хрась…

І вось ты прачынаесься і глядзіш на гадзіньнік: а колькі яшчэ засталося спаць? Колькі да пад'ёму ў цябе засталося гэтай ілюзіі свабоды? Паўгадзіны. О, дык яшчэ вечнасьць. Нацягваеш жоўтую пазамываную прасьціну ці сінюю пацёртую коўдру на вочы і спрабуеш зноў пераключыцца на пахі з волі.

Памятаю дакладна, як першую ноч на «Валадарцы» спаў нібы дзіця, без аніякіх думак і перасьцярог. Напярэдадні сукамэрнікі расказалі ў дэталях, чаго чакаць, што і як тут арганізавана, як сябе паводзіць, каб пратрымацца. З усіх бакоў пачуў шмат карысных парад. Ня дзіва, што клаўся з думкай пра тое, як пашанцавала з новымі сябрамі, і ўголас пажадаў камэры «Дабранач». У адказ пачуў гэткае ж шчырае «Дабранач» і зь лёгкім сэрцам заснуў.

І вось раніцай, недзе за пяць хвілін да пад'ёму, у камэры пачаліся першыя рухі. Дзіма саскочыў зь верхняй шконкі і шмыгнуў да прыбіральні. Андрэй пачаў дзень зь фізычнай зарадкі. Скача на месцы, як той конік. Злажу са сваёй шконкі і вітаюся зь ім уголас «Добрай раніцы», а ў адказ — цішыня, чалавек адварочваецца. Іншыя новыя сябры, зь якімі ўчора так душэўна пагаварыў, таксама адварочваюцца да сьцяны, закрываюць коўдрамі галовы. Нехта злосна шыпіць мацюкамі з-пад коўдры.

Пройдзе некалькі начэй, і ў мяне будуць тыя ж пачуцьці. І таксама навічок, які сваім дурным «Добрай раніцы» вярнуў цябе з вандроўкі па волі ў рэальнасьць турмы, на некалькі імгненьняў стане для мяне горшым за турэмніка. Што да мяне, я сьцярплю, уголас крыўды ня выкажу, але, аказваецца, звычка не вітацца раніцай, засвоеная ў СІЗА, застанецца.

І ў калёніі з табой раніцай спачатку ня будуць вітацца, і ты адвядзеш вочы ад знаёмага, зь якім сутыкнуўся ў «кубрыку» ці на калідоры па дарозе ў прыбіральню. Ну, не прынята. Людзі яшчэ сам-насам з сабой, яны жывуць у сваім асабістым сьвеце. Гэта сьвятое іх права, якое трэба паважаць, не разьбіваць гучным словам крохкую ілюзію.

А павітаецеся вы потым, калі прыйдзе час сустрэцца на ранішняй прагулцы ў «лякалцы» ці на праверцы падчас шыхтаваньня. Вось тады будзе моцны поціск рук, «добрай раніцы», паляпваньне па плячах ды іншыя знакі сяброўства.

А хто захоча, абмяняецца зь сябрамі мацюкамі на адрас надвор’я, вартаўнікоў ці каго з калегаў па няшчасьці, хто таго варты. Зона зажыве звычайным жорсткім жыцьцём, у якім мала месца хліпкім начным мроям аб волі.

## Суткі ў ШЫЗА

Ёсьць, праўда, адно месца, дзе гэтае правіла — не вітацца адразу па пад’ёме — не выконваецца. Гэта штрафны ізалятар, або ШЫЗА. Там пад’ём а пятай, але штрафнікі прачынаюцца нашмат раней, як забрэшуць вартавыя аўчаркі ў гадавальніку побач з усходняй часткай калёніі. Ляжыш на халодных дошках і молісься, каб не прыходзіў вартаўнік і замест начной «луны» не ўключаў зыркага сьвятла дзённае лямпы.

Ноч была кашмарным выпрабаваньнем. Ты спаў рванымі перапынкамі паміж пад’ёмамі ў прыбіральню, бо праз начны холад твая фізіялёгія зьбілася з рытму — за ноч ты падымаўся разоў дзесяць. Самы цяжкі быў экватар ночы, калі тэмпэратура ў камэры наблізілася ўсяго да некалькіх градусаў цяпла. Ва ўсякім разе, так падавалася, бо цябе пачынала трэсьці, як голага на марозе. Уласна, ты і быў амаль голы. У вязьня перад пасадкай у ШЫЗА забіраюць турэмную куртку з каўняром, турэмную кашулю і выдаюць замест іх чорную майку з напаўадкрытымі грудзьмі, толькі што з даўгімі рукавамі. Калі на табе цёплая бялізна, прымусяць зьняць. Дзьве пары шкарпэтак на ногі таксама нельга, толькі

адна. Усё. Яшчэ толькі гумовыя тапачкі, на якія ты будзеш класьціся галавой замест падушкі.

І вось ты чарговым разам саскочыш са шконкі і пачнеш прысядаць. Трэба прысесьці разоў дваццаць, каб стала крыху цяплей. Але скурчаныя ногі баляць, і ты пачынаеш махі рукамі. А потым ходзіш туды-сюды па кавалку камэры, які застаўся вольны пасьля адшпіляньня шконкі. Нарэшце перастаеш ляскаць зубамі і распраўляеш плечы. Тады зноў залазіш на ляжанку і кладзесься ў пазыцыю, пры якой косткі менш баляць.

Звычайна пачынаў чарговую спробу заснуць зь ляжаньня на правым баку. Дошкі пад рэбрамі пры мінімальным руху рыпяць на ўсю турму. Нацягваю на твар ручнік і спрабую «адключыцца». Недзе чвэрць гадзіны сапраўды нібы ў сьне, але пры гэтым чую кожны рух у калідоры. Але потым боль у костках тазу робіцца невыносны, і тады пераварочваюся на левы бок. Зноў рыпяць дошкі.

Цалкам разьбіты, пад раніцу спаць увогуле не магу і як вызваленьня чакаю пятай раніцы. Нарэшце гучыць «Пад’ём!», прачыняюцца дзьверы, і ахоўнік пытаецца: «Венік браць будзеце?». Наступае час прыборкі. Трэба зь ёю сьпяшацца, бо хутка пачнуць развозіць сьняданак, і тады венік забяруць.

Прыборка дапамагае сагрэцца. Можна падмесьці падлогу, а можна венікам памыць і прастору вакол санвузла. Калі веніка не дадуць, давядзецца драіць «ачко» малюсенькай анучкай альбо старой зубной шчоткай. Калі ж туалет не памыць,

застанецца пах, і праверка можа прычапіцца ды скласьці рапарт, які потым стане падставай для яшчэ аднаго пакараньня, а можа і новага тэрміну ў ШЫЗА. Таму ня толькі венікам падмятаю вакол санвузла, але старанна, з хлёркай, вымываю яго зубной шчоткай.

У той дзень стараннасьць не дапамагла: раніцай уваходзяць у камэру правяральнікі, усё аглядаюць, прастукваюць, а на выхадзе адзін зь іх кідае позірк на санвузел і заяўляе мімаходзь, што адчувае пах. Хіба гэта дзіва? Хіба «ачко» мусіць пахнуць ландышамі? Але спрачацца няма сэнсу. На разборы гэтага «парушэньня» паспрабаваў спрачацца — і, вядома, марна. У выніку за прыдуманую правіннасьць пазбавілі доўгатэрміновага спатканьня са сваякамі.

На гадзіньніку 7:30 раніцы. Ад мяне праверка пайшла далей, паступова адгрымелі дзьверы іншых камэр, і цяпер у калідоры толькі крокі вартаўніка. У мяне чатыры гадзіны часу да абеду. Пустая камэра, гулкая цішыня. Радыё няма, кніг няма, лістоў пісаць і атрымліваць не даюць. Ты як на льдзіне сярод мора. Нават вартавыя сабакі замоўклі, відаць, наеўшыся да адвалу зэкаўскай кашы зь мясам. Толькі часам цень птушкі відаць у вакне ці чуваць удалечыні рэзкае карканьне.

Колькі часу чалавек можа думаць бяз рызыкі, што пацярпіць ягоная псыхіка? Пакуль не сядзеў у ШЫЗА, меркаваў, што бясконца. Але гэта няпраўда. Праз тры дні сядзеньня ў адзіночцы ШЫЗА заўважыў, што думаю ўжо пра адно і

тое ж. Гэта напалохала, і тады пачаў прыдумляць разумовыя практыкаваньні.

Урэшце дадумаўся скласьці пэўны графік тэмаў для абдумваньня. Гадзіна — на думкі і ўспаміны пра сям'ю. Наступная гадзіна — пра сытуацыю ў Беларусі, зь якіх прычын абрынецца рэжым, які лёс чакае нас усіх. Яшчэ гадзіна — вайна ва Ўкраіне, роля Пуціна, імавернасьць распаду Расеі.

Зразумеў: калі неяк структураваць свой час, ён бяжыць і хутчэй і карысьней, а галоўнае — адчуваеш задавальненьне ад зробленай разумовай працы. Вяртаецца псыхалягічная ўстойлівасьць.

Плюс абавязкова кожную гадзіну трэба вылучаць некалькі хвілін на адпачынак: засьпяваць песьню, патанцаваць, згадаць і прачытаць уголас які верш.

## Сонечны гадзіньнік

Але ўзьнікла праблема: а як у ШЫЗА вызначаць час? Гадзіньнікі там забіраюць, тэлефонаў таксама няма. Што рабіць?

Сядзець двойчы па дзесяць дзён амаль запар у ШЫЗА давялося на самым пачатку чэрвеня. Травень выдаўся вельмі халодны і пахмурны, што ні дзень, то дождж і моцны паўночны вецер, таму ў першыя дні чэрвеня ўнутры вязьніцы яшчэ было холадна і даволі змрочна, як у сакавіку. З той толькі розьніцай, што батарэі ўжо ня грэлі. Але потым пачалося сапраўднае лета, і неўзабаве пасьля абеду ў камэры панавалі ўжо яркія

промні. Па руху сонечных плям на сьценах стала магчымым адсочваць бег часу.

На дзьвярах камэры вывешаны распарадак дня ў ШЫЗА і ПКТ. Пад'ём а 5-й, абед а 12-й, вячэра а 17-й. Ранішняя праверка а 7-й, вечаровая а 19-й. Прагулка для вязьняў ПКТ у 10:00. Гадзіньніка на руцэ няма, але і гэтая інфармацыя дапаможа арыентавацца ў часе. Калі вязьняў ПКТ выводзілі на прагулку, у дворыку пачынала граць музыка. Здаецца, круцілі FM-станцыю «Радыё цэнтар». Значыць, да абеду засталося дзьве гадзіны. А для вызначэньня часу па абедзе можна намаляваць сонечны гадзіньнік. Знаходжу каля батарэі белы кавалачак тынку, на зялёнай сьцяне адзначаю, куды падаюць сонечныя промні ў розныя моманты паводле турэмнага раскладу, наступным днём дзялю прамежкі на прыблізна роўныя кавалкі і атрымліваю дзённы гадзіньнік.

Ад гэтага гадзіньніка цяпер залежыць мой настрой. У кожную гадзіну прыблізна 45 хвілін адводжу на прамэнад, астатнія 15 — на сьпевы-вершы. У штодзённым рэпэртуары абавязковыя тры песьні: «Беларусь мая», якую запомніў у выкананьні Данчыка, «Песьня пра маладога гусара» Булата Акуджавы і «Разбуры турмы муры» ў перакладзе Андрэя Хадановіча. Сьпяваю, стаўшы перад відэакамэрай, прымацаванай над вакном. Хай бачаць!

Калі ў дворыку гучыць музыка — у мяне дыскатэка. Танцую як шалёны, бо праз паўгадзіны музыку адключаць, і ў турме да вечара будзе амаль мёртвая цішыня. А як па мне, гэта

ўзьдзейнічае на псыхіку горш за крыкі, пагрозы ціляскат дзьвярэй, калі некага прыводзяць ці выводзяць. Карацей, у ШЫЗА крытычна патрэбны нейкі рух, які дазволіць пераключыць увагу, прагнаць дрэнныя думкі.

Калі чалавек сядзіць у адзіночцы, зьяўляецца і вострая патрэба выказвацца, размаўляць. Але з кім?

Зь вязьнямі ў суседніх камэрах магчыма хіба што перакрыквацца, але тады пачуюць ахоўнікі і складуць рапарт. З ахоўнікамі таксама не пагаворыш. Гэтыя могуць адказаць на якое пытаньне, але збольшага кантакты зь вязьнямі ім, відаць, забароненыя. А вязьню размаўляць у адзіноце хочацца найбольш з роднымі, па кім сумуеш.

У мяне ўсё часьцей перад вачыма паўставаў твар жонкі, але хацелася гэты вобраз неяк матэрыялізаваць. І тады прыдумаў вось што: кавалкам тынку намаляваў партрэт жонкі на тарцы трубы ад батарэі, каля самой падлогі, і пачаў у думках зьвяртацца да яе, нібы яна побач. Так хадзіў і паглядаў у бок жонкі пару гадзін, пакуль не прынесьлі вячэру. Набліжалася вечаровая праверка, і тады падумаў, што кантралёры могуць убачыць малюнак і скласьці рапарт аб псаваньні турэмнай маёмасьці ці дрэннай прыборцы. Што прыдумаць?

Партрэт мусіў замазаць, але прыдумаў іншае — зьляпіў з хлебнага мякішу ляльку зь яе абліччам. Выйшла як жывая, але трэба ж было яе апрануць, неяк няёмка ж трымаць жанчыну ў такім выглядзе ў мужчынскай кампаніі. Згадаў,

як у баранавіцкай вязьніцы мы ляпілі з хлебнага мякішу шахматныя фігуркі і фарбавалі іх зубной пастай. Гэтаксама выкарыстаў пасту і цяпер, балазе паста ў мяне была замежная, у некалькі колераў, можна было іх зьмешваць і атрымліваць розныя адценьні. У выніку жонка стала амаль як сапраўдная: твар белы, кашуля ружовая, штаны блакітныя, абутак — чырвоныя тапачкі. Прыгажуня! І галоўнае, зь ёю мы зноў сталі неразлучныя, як цягам ранейшых 43 гадоў сумеснага жыцьця.

Цяпер кожны раз, як падыходзіў да паліцы, на якой схавалася мая пamaладзелая жонка, сэрца ёкала, усьмешка сама зьяўлялася на твары, станавілася хоць крыху весялей, а пра небясьпеку трапіць у турму ці нават у «петушатню», як пагражаў мне начальнік калёніі, зусім забывалася. У галаве складаліся дыялёгі з жонкай на самыя розныя тэмы. Час ішоў хутчэй.

Але як набліжалася праверка, вядома, любімую жоначку даводзілася хаваць пад уяўную коўдру — засоўваў ляльку ў поліэтыленавы пакунак з зубной пастай. Прыдумка надзейна працавала ўсе астатнія восем дзён. Ніводнага разу ў пакунак не залезьлі, мой скарб застаўся некрануты.

Але надыходзіў шчасьлівы час вызваленьня з ШЫЗА, і што рабіць зь лялькай? Зноў жа будуць прамацваць усе рэчы і абавязкова яе знойдуць. Калі толькі зьнішчаць, яшчэ палова бяды, а могуць жа рапарт скласьці, бо паводле правілаў

хлеб захоўваць у камэры ШЫЗА забаронена. Што рабіць?

Згадаў, што як заяжджаў у калёнію, падчас праверкі рэчаў усе кавалкі мыла кантралёры прадзіравілі шылам. Значыць, мыла выкарыстоўваюць як схованку? То бок кантралёры самі падказалі ўкласьці ляльку ў кавалак мыла. Астатняе зрабіць было няцяжка, але ўсё наскрозь праглядалася празь відэакамэру, падвешаную над вакном. Як ад яе схавацца?

Стаўшы сьпінаю да відэакамэры, падышоў да ўмывальні нібы памыць рукі, а сам чаранком зубной шчоткі пракалупаў ямку ў кавалку мыла, умасьціў туды ляльку, мылам жа зьверху замазаў, а кавалак мыла паклаў у чырвоную мыльніцу. Як выходзіў, ахоўнік на імгненьне затрымаў на ёй позірк. Жах! Падалося, што ўжо пацягнулася рука памацаць кавалак мыла пазногцем, але нешта здарылася, рука спынілася і, уф! Адчапіўся.

Так вынес мыльніцу зь «сюрпрызам» з будынку ізалятара. Прычым сюрпрыз у кавалку мыла заставаўся са мной да вызваленьня і праз чатыры месяцы так жа ўдала прайшоў апошні шмон, ужо перад выхадам на волю. Шылам кавалкі мыла ўжо ніхто не пратыкаў, і ў выніку чырвоная мыльніца разам зь іншымі рэчамі даехала са мной у вольную Вільню, дзе ўрачыста, пад воплескі жонкі і калегаў па працы, кавалак мыла быў растрыбушаны. Фігурка зь мякішу хлеба, скамечаная, пацягнутая шызай плесьняю, зьявілася на сьвятло. Ура! Гэта адбылося ў кавярні падчас першай на волі вячэры з доўгачаканым куфлем

піва. Наастачу падзякаваў хлебнаму мякішу за маральную дапамогу: калі ёсьць такі ўважлівы суразмоўца, шанцаў, што табой у турме авалодаюць журба і роспач, усё ж меней.

## Вязьні лукашэнкаўскіх турмаў

Незвычайна часам адбываюцца знаёмствы ў калёніі. Падыходзіць чалавек, нібы хоча пазнаёміцца, але нічога не пытаецца, а моўчкі счытвае зьвесткі зь біркі на тваіх грудзях і адыходзіць. Аказваецца, гэта распаўсюджаная практыка, і, трэба прызнаць, вельмі зручная. Ты ўведваеш імя навічка і колькі яму яшчэ сядзець. Значыць, можаш сплянаваць сваё стаўленьне да яго. А галоўнае, артыкул, па якім ён асуджаны, дакладна падкажа, ці варта заводзіць кантакт, ці абмежавацца шапачным знаёмствам. Бо людзі і ў калёніі збольшага гуртуюцца па інтарэсах, а твой артыкул — найлепшы індыкатар гэтых інтарэсаў.

І які ж зрэз беларускага грамадзтва я ўбачыў у 15-й калёніі?

Найбольшая па колькасьці група — асуджаныя па 328 артыкуле, за распаўсюд наркотыкаў. У нашым атрадзе такіх было недзе пятая частка. У асноўным моладзь. Большасьцю так званыя «закладчыкі» — тыя, хто хаваў у лясах, парках ці яшчэ дзе дозы наркотыкаў у разьліку, што пакупнікі іх знойдуць з дапамогай інтэрнэту. Гэтыя маглі самі і не ўжываць, але спакусіліся на нядрэнны заробак, пагадзіліся працаваць на «краму» і былі асуджаныя. Звычайна ў хлопцаў

немалыя тэрміны, сядзець ім па дзесяць ды больш гадоў. Заўважыў, яны лёгка і хутка пранікаюцца турэмнай маральлю, крымінальнымі звычкамі, і, на маю думку, на волі зь іх мала хто зможа прыстасавацца да жыцьця без наркотыкаў ці іншага крыміналу.

У калёніі гэтыя хлопцы зьбіраюцца ў групы, спрабуюць дамінаваць над іншымі вязьнямі. Палітычным, а таксама асуджаным сталага веку зь імі кантактаваць складана, на сабе гэта зьведаў. Хоць не бывае правілаў без выключэньняў. У магілёўскім сьледчым ізалятары пасябраваў з Андрэем, асуджаным на 13 гадоў па 328 артыкуле. Агульным у нас аказалася захапленьне маляваньнем, у Андрэя было чаму павучыцца. Цярплівасьць у хлопца была неверагодная — мог гадзінамі вымалёўваць, пакуль ня выйдзе, як задумана. Вельмі кранула і ягоная гісторыя.

Андрэй працаваў на будоўлі, нармальна зарабляў. Пакахаў маладую жанчыну з малым дзіцем, пачалі жыць адной сям'ёй, усё ішло да шлюбу. Але здарылася няшчасьце, атрымаў траўму, пасьля якой з будоўлі давялося звольніцца. У гэты час ягоная дзяўчына захварэла і трапіла ў шпіталь. Былі патрэбныя грошы на кватэру, лекаваньне, выхаваньне дзіцяці, і Андрэй вырашыў зарабіць хутка і шмат — праз закладку наркотыкаў. Аб'яву аб выгаднай працы нібыта ў «краме» знайшоў у інтэрнэце. Цяпер сядзіць у турме, раскайваецца, але што ўжо зробіш? Пры гэтым бачна, што чалавечага аблічча хлопец не губляе, да крымінальных не далучаецца. Але гэта ў СІЗА, а што будзе далей,

ніхто ня ведае і гарантыі ня дасьць. Турма можа так зацягнуць у багну, што ня выбрацца.

Ёсьць сярод «наркаманаў» і людзі ўжо не маладыя. Мікалай яшчэ хлопцам прызвычаіўся да марыхуаны, лічыць гэта бясшкодным — «нікога ж ня ўцягваў». Працаваў як ІП, плаціў падаткі, а на лецішчы вырошчваў для сябе траўку. І раптам міліцыя, некалькі кустоў травы, арышт, суд і тэрмін у 6 гадоў за распаўсюд. Цяпер мусіць з калёніі назіраць, як растуць ягоныя дзеці. Таксама чалавек выкрасьлены з жыцьця, сям'я бяз бацькі, дзеці гадуюцца на невялікі заробак маці. Чалавек перажывае, раскайваецца. Але такіх няшмат.

А збольшага пра асуджаных па 328-м артыкуле ў мяне склалася ўсё ж нэгатыўная думка — праз іх маральныя якасьці. Магу прыгадаць такую сустрэчу. На «Валадарцы» да нас у камэру перавялі Арцёма, маладога чалавека з артыкулам 328. Арцём быў дробным дылерам, у багажніку ягонага аўтамабіля пры вобшуку знайшлі наркотыкаў на сотні закладак. Яму пагражала 15 гадоў калёніі. Пры гэтым сабой ён ганарыўся. Казаў, што зарабляў за месяц больш як тысячу даляраў, і з тым, што апынуўся за кратамі, рашуча не пагаджаўся. «Я сам не ўжываю, я проста забясьпечваў сродкамі жонку і двух малых. А мяне ў турму. І каму стала лепш, што мяне пасадзілі?»

Паспрабаваў яго прысароміць, перапраграмаваць. Папракаў тым, што ён сьвядома разбураў жыцьці хлопцаў і дзяўчат, для якіх ягоныя закладкі — што кампутарная гульня. «А вось уяві, што праз дзесяць гадоў твайго сына гэтаксама

нехта падчэпіць на наркату. Ты б яму дараваў?» Але спрачаўся марна. «Я нікога не прымушаў. Куплялі што хацелі, кожны свой шлях выбірае сам», — застаўся Арцём пры сваёй думцы.

Высокі працэнт асуджаных за наркотыкі ў беларускіх турмах сьведчыць ня толькі пра сацыяльныя праблемы ў грамадзтве ці хібы з выхаваньнем. Наркаманаў хапае паўсюль, у тым ліку ў краінах з узорнай дэмакратыяй, разьвітай эканомікай і высокімі маральнымі нормамі. Але ўсё ж кідаецца ў вочы, што пераважная большасьць вязьняў-328, зь якімі сутыкнуў турэмны лёс, — з простых сем'яў, малаадукаваныя, зь невялікімі, а то і мізэрнымі магчымасьцямі добра зарабляць на жыцьцё, не парушаючы закон. А галоўнае — без матывацыі жыць і працаваць сумленна.

Неяк, прачнуўшыся ў калёніі сярод ночы, выпадкова пачуў размову паміж такімі вязьнямі пра тое, чым будуць займацца па выхадзе на волю. Фактычна ўсе зьбіраліся і далей зарабляць на жыцьцё продажам наркотыкаў, пытаньне толькі ў тым, як гэта рабіць па-разумнаму, без ранейшых памылак. Вось і ўвесь сакрэт. А маральныя прынцыпы, значыць, па барабану.

Дарэчы, для асуджаных па 328-м артыкуле тыповая сытуацыя, калі дзяўчына на волі не дачакалася і выйшла за іншага. Альбо маладая жонка, якая засталася адна гадаваць дзіця, у аднабаковым парадку разарвала шлюб. Цяпер закон гэта дазваляе. Дзяніс, сусед у маёй першай у калёніі «хаце», апынуўся якраз у такім

становішчы. Малады чалавек не хаваў, што перажывае, бо страціў ня толькі жонку, але і дачку.

## Алькаголікі — наш профіль

Згадаем, чым у нэгатыўным сэнсе, акрамя дыктатуры, адметнае жыцьцё ў Беларусі? Хіба не рэкордным спажываньнем алькаголю? Калі так, прыкмета мусіць пацьвердзіцца ў турме праз вялікую колькасьць асуджаных за цяжкія злачынствы на глебе п’янства.

Так і ёсьць, з гэтым сутыкнуўся ва ўсіх вязьніцах, пачынаючы з «Валадаркі». Там за тры месяцы сустрэўся з трынаццацьцю сукамэрнікамі, тры зь якіх трапілі за краты менавіта праз п’янства. Адзін п’яным пабіўся зь міліцыянтам, калі той прыехаў на выклік ягонай жонкі. Другі ў нецьвярозым стане зьбіў суседа, зь якім выпіваў за адным сталом. Падчас бойкі ножкай зэдліка прабіў грудзі сабутэльніку. Трэці да крыві зьбіў сужыцельку і пакінуў у двары сплываць крывёй. Сышоў, бо сам ледзь стаяў на нагах.

За два месяцы сядзеньня ў магілёўскай Т-4 сутыкнуўся яшчэ з чатырма хуліганамі, якіх на лаву падсудных прывяло сыстэматычнае п’янства, і двума алькаголікамі — тыя здабывалі на гарэлку крадзяжом мэталалому. У камэры сядзелі 18 чалавек, значыць, трэцяя частка — алькаголезалежныя злачынцы.

А потым была магілёўская калёнія, дзе сустрэўся ўжо ня проста з хуліганамі. Сярод новых

знаёмых аказалася некалькі забойцаў. У асноўным таксама на глебе сыстэматычнага п’янства.

На шыхтаваньні штодня стаяў побач з маладым чалавекам, які нажом у сэрца забіў сабутэльніка. Выпівалі-выпівалі, адзін сказаў другому крыўднае слова. Той за нож — гатова!

Іншага асудзілі ажно на 15 год за забойства знаёмай, цела якой знайшлі ў студні. Віны не прызнаў, спасылаўся на тое, што быў нецьвярозы, нічога ня памятае.

Яшчэ адзін забойца таксама нажом забіў сабутэльніка і таксама казаў, што пра здарэньне нічога ня памятае. Ведаю сама меней яшчэ пра чатырох забойцаў з нашага атраду, якія зьдзейсьнілі злачынствы пад градусам.

Заўгасам (фактычна галоўным самакіраваньня атраду) таксама быў вязень, асуджаны за забойства, прычым на вялікі тэрмін.

А на калідоры дзяжурыў забойца адразу двух людзей. Тут прычына — «кактэйль» з гарэлкі і рэўнасьці. З паляўнічай стрэльбы забіў маладую жонку і яе бацьку.

Або вось сем’янін, зь вялікім стажам, так зьбіў жонку, што тая памерла ў шпіталі. Прычым сам быў цьвярозы. Кажа, ня вытрымалі нэрвы. Жонка беспрабудным п’янствам давяла да злачынства.

Раз сустрэў яшчэ аднаго асуджанага за забойства, але абставінаў злачынства ня ведаю. Чалавек быў цалкам закрыты, кантактаваў толькі са сваёй групай, сфармаванай па нацыянальнай прыкмеце — такія групы ёсьць фактычна ўва ўсіх беларускіх калёніях. Асуджаныя там зболь-

шага за наркотыкі ці крадзяжы, але трапляюцца і забойцы.

Падвядзем вынік: пры колькасьці атраду 100–110 чалавек забойцаў сярод нас было ня менш за дзесяць. Гэта толькі каго я ведаў. 9–10% — вельмі немалы працэнт, які паказвае небясьпечны ўзровень агрэсіі ў беларускім грамадзтве.

Вызначыўшы тры амаль аднолькавыя па колькасьці вялікія групы асуджаных — наркаманы, палітычныя, забойцы — адзначу і чацьвёртую, крыху меншую па колькасьці, але найбольш уплывовую ў турэмным жыцьці. Гэта бізнэсоўцы, кіраўнікі гаспадарчых суб’ектаў, былыя чыноўнікі. Каго пасадзілі за хабарніцтва, каго за нясплату падаткаў, каго за эканамічныя злачынствы. Паводле маіх назіраньняў, такіх вязьняў недзе 5%, і менавіта яны займаюць самыя выгадныя месцы ў структуры самакіраваньня ў калёніі. Адзін наглядае за атраднай лядоўняй, дзе захоўваюцца прадукты (вельмі выгаднае, сытае месца), другі загадвае сховішчам торбаў з рэчамі асуджаных, так званай «капцёркай», а ёсьць яшчэ гаспадарчы, вытворчы, культурны, спартовы сэктары, якімі таксама кіруюць актывісты.

Актывісты часьцей жывуць у камфортных асобных пакоях, добра абсталяваных, разьлічаных усяго на 2–3 чалавек. У нашым атрадзе ў такім пакоі жылі тры вязьні: заўгас, старшыня вытворчага сэктару і асуджаны, які працаваў у штабе. Іх ложкі стаялі ў адзін ярус, а ня ў два, як у звычайных «кубрыках», а каля ўваходу быў вялікі акварыюм з залатымі рыбкамі. Памятаю, як быў

шакаваны, калі ўпершыню трапіў у гэты пакой і ўбачыў тых рыбак. О, карцінка як у дзяцінстве! Вялікая залаціста-чырвоная рыбка з пушыстым хвастом праплывае ў блакітнай вадзе сярод зялёных расьлінак, якія калыхае нябачны ветрык. Прыгажосьць! А як нэрвы супакойвае!

Дарэчы, паводле турэмных правілаў, якія нам убівалі ў галаву падчас рэгулярных заняткаў у карантыне, утрымліваць рыбак, таксама як іншых жывых істотаў, у турэмных памяшканьнях забаронена. Адзін хлопец у атрадзе паспрабаваў трымаць у слоіку рыбку, дык яе хавалі ад кантралёраў усім атрадам. А вось актывістаў, як відаць, забарона ня тычыцца.

## Колькі асуджаных у калёніі

Неяк зацікавіўся: колькі асуджаных у нашай калёніі?

Пачуўшы гэтае пытаньне, нават дасьведчаныя вязьні называлі прыблізную лічбу, бо з дакладнай статыстыкай там нікога не знаёмяць. Даводзіцца карыстацца ўласнымі падлікамі.

У калёніі 21 атрад, а ў кожным недзе па 100 чалавек. Атрымліваецца, што ў калёніі ня меней за 2 тысячы зьняволеных. Паўтаруся, дакладную лічбу на пэўны дзень ведае толькі адміністрацыя, і гэтая лічба штодня вагаецца.

У нашым 9-м атрадзе, калі я туды заехаў у чэрвені, спачатку было прыблізна 100 чалавек. Празь месяц на шыхтаваньні ўжо гучала лічба

105, у жніўні нас стала 110. А ў верасьні колькасьць вязьняў зноў пачала зьмяншацца.

Чаму такая цякучка? За чатыры месяцы, што я адбыў у атрадзе, штомесяц два-тры зьняволеныя выходзілі на волю па заканчэньні тэрміну.

Таксама асуджаныя выяжджалі праз замену пакараньня. Пераважна на мякчэйшае, са зьняволеньня на «хімію». Так з нашага пакоя паехаў на «хімію» хлопец, прафэсійны футбаліст. Ён быў капітанам каманды атраду, дапамог нашым выйграць чэмпіянат калёніі па футболе. Адмаўляў, што «хімію» заслужыў футболам. Але праўда і тое, што ў калёніі даюць ня толькі спагнаньні, але і заахвочваньні, якія потым улічвае камісія, калі вырашае, ці варты чалавек, каб яму зьмякчыць пакараньне. Той кубак, які заваявала каманда, застаўся стаяць у нашым «кубрыку». Магчыма, у ім цяпер хлопцы нешта хаваюць ад кантралёраў, якія любяць наляцець з раптоўным шмонам.

Таксама некага могуць перавесьці ў іншы атрад па асабістай заяве. Такое бывае, калі чалавек ня ўжыўся з суседзямі ці хоча зьмяніць месца працы, бо ў кожнага атраду свая працоўная спэцыялізацыя. Напрыклад, наш 9-ы атрад працаваў у асноўным на ачыстцы дратоў. Неяк адзін хлопец перавёўся ад нас у іншы атрад. Потым бачыў яго некалькі разоў у складзе будаўнічай брыгады, якая займаецца рамонтам па ўсёй калёніі і таму перасоўваецца па тэрыторыі адносна вольна.

Але найчасьцей адміністрацыя сама пераводзіць вязьня ў іншы атрад, звычайна праз канфлікт зь іншым зьняволеным. Так, у жніўні да

нас перавялі вязьня пасьля ягонага канфлікту з заўгасам. Казалі пра разьвязку той сутычкі ў сталоўцы: на галаве заўгаса апынулася талерка з кашай. А прычына канфлікту — ня склаліся адносіны. Без дэталяў. Ведаю дакладна, што парушальнік за свой учынак адбыў дзесяць сутак у ШЫЗА, але і заўгас пацярпеў — зьнялі з пасады.

Істотна на агульную колькасьць вязьняў у атрадзе ўплываюць пакараньні. Кагосьці за парушэньне адправілі ў ШЫЗА, хтосьці за некалькі парушэньняў запар апынуўся ў ПКТ, а некага паводле новага прысуду па 411 артыкуле адправілі ўвогуле ў іншую калёнію. Але такое — выключныя выпадкі.

Часьцей атрад нясе «страты» праз тое, што вязень адпраўляецца на вялікае спатканьне са сваякамі, і тады яго няма ажно тры дні.

У выніку атрымліваецца, што на шыхтаваньні ледзь ня штодня гучаць новыя лічбы. Збольшага, паводле дасьведчанага вязьня Сяргея, цякучка ў атрадзе амаль не залежыць ад пары году. Пры гэтым той жа вязень зазначаў, што ўлетку атрад нібы крыху разбухае, а восеньню робіцца меншым. Але што да зьяўленьня ў атрадзе новых палітычных вязьняў, дык тут зьмяншэньня восеньню 2022 году не назіралася. На пачатку лета ў атрадзе было сем палітычных, у верасьні — восем. Супраць нас судовы канвэер працаваў спраўна.

## Заўгас

Шыхтаваньне для ранішняй праверкі адбываецца ў сэктарах з разьбежкай недзе ў паўгадзіны. У сэктары, дзе разьмяшчаўся наш атрад, ранішняя праверка пачыналася а сёмай. Адчыняліся дзьверы з сэктару, і вязьні адразу трох атрадаў, як гусяняты, адзін за адным выходзілі на вуліцу ды шыхтаваліся ў калёны.

І кожны раз бачыў адну і тую ж карціну: маларослы, румяны асуджаны, як выйдзе на дарогу, спачатку бяжыць да заўгаса Аляксея, каб павітацца зь ім за руку, і толькі потым займае сваё месца ў калёне ды вітаецца з зэкамі вакол сябе. Пастунова пераканаўся, што рацыя ў такіх паводзінах для некаторых ёсьць, і немалая. Бо Аляксей — самая важная пэрсона ў атрадзе, зь ім лепш сябраваць.

Атрад складаецца зь некалькіх вытворчых брыгадаў, кожная зь якіх разьмешчана ў асобным пакоі, пад наглядам брыгадзіра. Яшчэ структуру атраду ўтвараюць грамадзкія сэктары, кшталту гурткоў, у якія вязьні ўступаюць нібыта добраахвотна. Вытворчы сэктар нібыта займаецца праблемамі вытворчасьці, выкананьня нормаў, тэхнікай бясьпекі на працоўных месцах. Гаспадарчы сэктар — гэта пра бытавы лад, пра рамонты, парадак на складзе рэчаў і ў лядоўні. Спартовы займаецца ўдзелам у спартовых спаборніцтвах, культурніцкі — гэта пра ўплыў на мазгі. Лічыцца, што вязень сам выбірае сабе сэктар, але нават калі асуджаны не захоча займацца грамадзкай

працай, яго абавязкова ў нейкі сэктар запішуць. Бо лічыцца, што безь сяброўства вязьняў у сэктарах немагчымы працэс іх перавыхаваньня. І самі асуджаныя нібыта зацікаўленыя быць прыпісанымі да сэктару, бо ад гэтага залежаць іх шанцы на датэрміновае вызваленьне.

Але можа атрымацца, што асуджанага не залічаць у сэктар наўмысна. Так, мне пэрспэктыва быць у складзе пэўнага сэктару была закрытая фактычна адразу, як трапіў у атрад. Падставай палічылі тое, што ў мяне ўжо чатыры пакараньні — два ШЫЗА, пазбаўленьне доўгатэрміновага спатканьня і пазбаўленьне вялікай перадачы. Хаця хто мне на загад зьверху ўляпіў гэтыя пакараньні? Хіба ня тыя ж афіцэры з адміністрацыі, якія потым разьвядуць рукамі і скажуць: ну, у цябе ж ужо чатыры «штрафы», ты ня хочаш выпраўляцца, дык ніякага табе сэктару, і трохкутнік з рукава ты здымі. Інакш зноў у ШЫЗА загрыміш.

І тое ж адбываецца з большасьцю палітычных. Мэта ясная: калі палітычны ня стаў на шлях выпраўленьня, значыць, яму не атрымаць датэрміновага вызваленьня. Нават калі абвесьцяць амністыю, хай на яе не разьлічвае.

Праўда, гэтае правіла тычыцца ня толькі палітычных. Сусед з артыкулам 328 пасьля трох ШЫЗА і ПКТ таксама быў пазбаўлены трохкутнай нашыўкі як такі, што ня стаў на шлях выпраўленьня, і пра датэрміновае вызваленьне ўжо ня марыў.

Калі сяброўства вязьня ў нейкім сэктары — справа фармальная, дык старшынства над сэкта-

рам надае асуджанаму рэальную вагу, пабытовыя прывілеі. Старшыня савету атраду, старшыні сэктараў — гэта і ёсьць атрадная эліта, тыя актывісты, на якіх адміністрацыя абапіраецца ў кіраваньні атрадам і кантролі над ім. Фактычна старшыню савету атраду і старшыняў сэктараў прызначае адміністрацыя. За свае «хлебныя» пасады актывісты мусяць расплачвацца ляяльнасьцю да адміністрацыі, паслугамі.

Галоўнае месца ў гэтай структуры займае ўсё ж не старшыня савету атраду, а заўгас. Фармальна гэты актывіст «курыруе» толькі гаспадарчыя і пабытовыя справы ў атрадзе, але ў рэальнасьці ён першая асоба, ад якой жыцьцё звычайнага зэка залежыць больш, чым ад якога іншага актывіста. Заўгас разьмяшчае цябе ў «кубрыку», прымае і перадае наверх тваю заявы адносна побыту, выводзіць атрад на рэжымныя мерапрыемствы, прымае заявы на спатканьні з роднымі.

У кожнай з гэтых спраў заўгас можа табе дапамагчы, а можа і нашкодзіць. Да прыкладу, скарэктаваць у пэўны бок атрадны графік спатканьняў, у якім тваё месца можа быць зручным ці наадварот. Раніцай і ўвечары менавіта заўгас на шыхтаваньні дапамагае афіцэру праводзіць штодзённыя праверкі. Здавалася б, ну што тут асаблівага? Трымаць скрыню пэрсанальных картак атраду і перадаваць іх пачак за пачкам дзяжурнаму, калі той праводзіць пераклічку. Хіба гэта прывілей, якім можна неяк скарыстацца?

А насамрэч так і ёсьць. Выглядала, што наш заўгас Аляксей быў знаёмцам усіх вартаўнікоў,

жартаваў зь імі, перакідаўся словамі пра надвор'е, пра навіны ў калёніі. Зразумела, мог пры патрэбе замовіць за каго слова, а мог і прамаўчаць, мог падказаць, хто варты паблажкі, а хто пакараньня. І для апэратыўных супрацоўнікаў, верагодна, менавіта Заўгас — галоўныя вушы і вочы адміністрацыі ў атрадзе. А тое, што гэтыя вочы і вушы звычайна належаць асуджанаму за забойства — ну дык апэратыўніку гэта якраз і лепш. Заўгасу на волю ня хутка, ён праседзіць у калёніі гадоў 10–15. Ня трэба мяняць, шукаць новага кандыдата на такую істотную пасаду.

## Грамадзянін начальнік

Нават малая доза самакіраваньня, вядома, лепш, чым ніякая, але галоўны ў атрадзе ўсё ж не калега па няволі, а чалавек у міліцэйскай форме пясочнага колеру з карычневымі плямамі. Ён можа ня мець з сабой зброі, яна ў калёніі забароненая ўсім, акрамя спэцыяльных падразьдзелаў для змаганьня з бунтамі. Ён можа нават не насіць дубінкі і ня мець з сабой кайданкаў, балёнчыка зь сьлезацечным газам ці ліхтарыка.

Службіст з пагонамі старшага лейтэнанта з тэчкай у руках толькі заходзіць у сэктар, а днявальны ўжо раве: «Начальнік на атрадзе!» І гэтым крыкам усё тлумачыцца. Тое, хто насамрэч у атрадзе гаспадар, ад каго залежыць, будзеш ты сёньня спаць спакойна ці будзеш варочацца ўсю ноч, разважаючы, складуць заўтра на цябе рапарт

за кавалак хлеба, знойдзены ў тумбачцы, альбо не складуць, пашкадуюць.

Бывае, такім жа гаспадаром у тваім атрадзе на нейкі вечар можа стаць начальнік суседняга атраду. Чамусьці яны любяць мяняцца дзяжурствамі, і суседні начальнік можа прыйсьці правяраць нас, каб прадэманстраваць, які ён строгі, але справядлівы.

## «Ня вер, ня бойся, не прасі»

Вось так у канцы жніўня начальнік суседняга атраду падчас вечаровай праверкі нашага атраду раптам заўважыў, што на мне ня форменная куртка, а кашуля. Тады ўжо тыдзень стаяла жудасная, пад 30 градусаў, сьпякота, а дазволу на кашулі так і не абвяшчалі. Між тым частка асуджаных ужо хадзіла ў кашулях, толькі тыя кашулі былі перашытыя пад курткі — зь лёгкай тканіны, але зь вялікімі гузікамі. Да такіх кашуль кантралёры не чапляліся, бо фармальна яны лічыліся курткамі. Але я пра такі сакрэт ня ведаў і таму спакойна выйшаў на праверку ў звычайнай кашулі, чым сябе і падставіў пад удар.

А яшчэ чаму, магчыма, начальнік зьвярнуў на мяне ўвагу, — гэта праз жоўтую бірку палітычнага на грудзях. Мяне папярэджвалі, што да палітычных кантралёры чапляюцца часьцей, чым да каго, але гэтым разам я папярэджаньня не ўлічыў. Вельмі было сьпякотна. І раптам — «Выйсьці з шыхту!»

Выйшаў. Стаю перад начальнікам. Крыху хвалююся, але за апошнія два месяцы ўжо абцёрся, пасьмялеў. Паміж намі адбываецца такі дыялёг.

— Чаму парушаеце?

— Дык сьпякота невыносная, мне немагчыма ў куртцы.

— А дазвол быў? Не было. Дык чаму ў кашулі?

У адказ маўчу.

— А што ў вас з выпраўленьнем?

— Ня стаўшы на шлях выпраўленьня.

— Ясна. Будзе складзены рапарт.

На гэта нічога не сказаў, толькі ўсьміхнуўся ды паціснуў плячыма. Пасьля праверкі хлопцы спыталі, чаму не прасіў не караць строга, не складаць рапарт. І патлумачылі, што гэта ў калёніі лічыцца нармальным. «Ды не западло прасіць аб літасьці», — падсумаваў за ўсіх актывіст Кірыл.

Адбой да сну ў калёніі абвяшчаюць а дзясятай вечара. Звычайна за паўгадзіны да адбою выходзіў на кароткую прагулку вакол корпусу, і гэтым разам каля ўваходу ў сэктар сутыкаюся з тым самым начальнікам. Падумалася, а чаму насамрэч не паспрабаваць «адкасіць» ад рапарту? Усё ж халодная камэра штрафнога ізалятара ў мае 63 гады ня вельмі добрае месца. Можа ўгавару, тым больш, верагодна, рапарт яшчэ ня складзены.

Цягнуў, зьбіраўся з духам і нарэшце ціха загаварыў: «Паверце, мне сапраўды было сьпякотна. Мог і прытомнасьць страціць. Можа не складаць рапарт?» Але начальнік пры маіх словах толькі паскорыў крокі, і ўжо здаля кінуў мне на хаду: «Не, позна піць баржомі».

Дарэмна саступаў. Кажуць жа, што ў турме — ня вер, ня бойся, не прасі.

## Асаблівыя

На наступны дзень паклікалі даваць тлумачэньне паводле рапарту ўжо да начальніка нашага атраду.

Наш начальнік — зусім малады афіцэр, векам мне быў ня тое што як сын, а як унук. «Чаго вы заўсёды ўсьміхаецеся?» — неяк злосна запытаўся ў мяне начальнік, паклікаўшы да сябе ў кабінэт. З таго часу стараўся заходзіць да яго з каменным тварам. Але гэтым разам зноў не ўтрымаўся. Начальнічак дастаўся мне нізенькі і худзенькі, а ў руцэ трымаў такі вялікі кубак з кавай, ды так грозна зморшчыў лоб, калі я ўвайшоў, што ўсьмешку стрымаць зноў не ўдалося.

Мы маўчалі, уперыўшыся адзін у аднаго, можа, вечнасьць. Нарэшце ён ледзяным голасам: «Ты што, асаблівы?»

Што быць асаблівым у калёніі нельга, гэта я ўжо добра ведаў. Прычым асаблівасьць тут могуць западозрыць ува ўсім, нават у самым звычайным. Пасьля абеду мыеш лыжку пад адзіным кранам з гарачай вадой, калі атрад ужо пашыхтаваўся ў калёну, — асаблівы. Вітаесься, як заходзіш раніцай ва ўмывальню, — асаблівы. Дзякуеш дзяжурнаму ў лядоўні, калі бярэш свае прадукты, — асаблівы. І ніхто ня ведае, пасьля якой яшчэ асаблівасьці ад цябе адчэпяцца ці, наадварот, пачнуць цкаваць.

Пытаюся ў начальніка, што ён мае на ўвазе.

— Кашулю чаго на праверку надзеў?! — раве начальнік. — Усім забаронена, значыць, і табе. Што, баісься перагрэву? Тады адправім у бальнічку.

Такі паварот не пакідаў сумневу, што пасьля разгляду на камісіі рапарту пра кашулю давядзецца сесьці ў ШЫЗА.

Што парушэньне формы адзеньня лічыцца цяжкім учынкам, мог пераканацца і раней, праглядаючы па тэлевізары штотыднёвыя навіны зоны. Там сярод адпраўленых у ШЫЗА абавязкова фігуравала некалькі парушальнікаў формы адзеньня. І хлопцы казалі, што ў сьпякоту кантралёры асабліва чапляюцца да кашулі ці тапачак, і рэгулярна хто-небудзь з атраду за гэта едзе «на кічу» — у штрафны ізалятар.

## Справа аб кашулях

Зразумела, што калі наступнай раніцай мяне сапраўды паклікалі на камісію, ішоў у штаб калёніі зь цяжкім сэрцам. На гадзіньніку было 10, а тэмпэратура паветра ўжо паднялася амаль да +30. На мне шчыльная турэмная куртка, каўнер зашпілены, кашуля зь цеснымі манжэтамі, на галаве чорная шапка. На нагах чорныя чаравікі, «гнуткія», як дубовыя калодкі. Каля штабу затрымаўся, чакаю загаду падняцца на другі паверх, дзе засядае камісія. Літаральна задыхаюся ад сьпякоты. І сэрца калоціцца ад дрэнных прадчуваньняў. Як і раней, перад пасадкай у ШЫЗА, падба-

дзёрваюся думкамі пра сваю маральную перавагу. Маўляў, адседжу і выйду, а вам усё жыцьцё тут… Але пашанцавала. Замест начальніка калёніі, які яшчэ ня выйшаў з адпачынку, камісіяй гэтым разам кіраваў ягоны намесьнік.

Уваходжу. Той жа даўгі лякаваны стол, чырвоныя сьпінкі крэслаў, на сьцяне партрэт маладога Лукашэнкі ў рамцы. За сталом сядзіць сярэдніх гадоў чалавек у званьні падпалкоўніка, у руцэ — асадка. Дазваляе мне выказацца, а потым, не перабіваючы, спакойна слухае маё тлумачэньне. Кажу пра сьпякоту, пра тое, што на шыхтаваньні людзі падаюць непрытомныя, што пасьля вячэры мне стала цяжка дыхаць, таму на вячаровую праверку памяняў куртку на лёгкую кашулю. Падпалкоўнік паварушыў кіпу паперак перад сабой, падняў вочы на падначаленага (таго ж самага начальніка суседняга атраду, які склаў рапарт і казаў мне пра баржомі) і запытаў яго: як прапануе мяне пакараць?

Афіцэр толькі што трымаўся самаўпэўнена, а тут пад цяжкім позіркам начальніка раптам абмяк і натуральна прамямліў: «Пазачарговы нарад на працы». Падпалкоўнік перавёў вочы на мяне і запытаўся пра мой узрост. Пачуўшы, што мне ўжо 63 гады, а гэта значыць, я пэнсіянэр і на працу мяне не бяруць, зьдзіўлена і крышку нават злосна глядзеў нейкі час на афіцэра, а потым абвясьціў рашэньне камісіі: «Выносім вам вымову. Але надалей будзьце больш уважлівы». Уф!

Дарэчы, празь дзень праблему з адзеньнем у сьпякоту вырашылі, проста дазволіўшы ўсім,

хто хоча, хадзіць у кашулях. Праўда, праз два дні пахаладала, але хоць так. А зэкі паміж сабой падводзілі вынік. Што кагосьці за кашулю адправілі ў ШЫЗА, кагосьці, як мяне, пашкадавалі і далі вымову, але былі і тыя, каму не пашанцавала больш. Бо хтосьці ад сьпякоты страціў прытомнасьць і паваліўся падчас праверкі. Прынамсі, на маіх вачах у нашым атрадзе так здарылася з двума вязьнямі.

Чаму ж у калёніі не навучыліся хутка прыстасоўвацца да асаблівасьцяў надвор'я?

У майго сябра Сяргея, зэка з шматгадовым стажам сядзеньня, быў на гэта такі адказ: «Для зэка няма добрага надвор'я, зэк заўсёды мусіць пакутаваць, інакш гэта не турма. А хто крыху распранецца — яму горш. Пакараюць, стане як шаўковы».

## Без каманды не распранесься

Што Сяргей меў рацыю, я пераканаўся празь месяц, калі сьпякотны жнівень зьмяніўся надзвычай халодным верасьнем. Сытуацыя паўтарылася люстэркава.

У сярэдзіне верасьня раніцамі стаяў лістападаўскі холад, і вязьні на праверку пачалі паддзяваць пад курткі шалікі, а на рукі нацягваць будаўнічыя пальчаткі. Між тым шалік і пальчаткі — адзеньне зімовага пэрыяду, а дазволу на зімовую вопратку яшчэ не абвяшчалі. І адразу пасыпаліся рапарты аб парушэньнях формы адзеньня, альбо, у лепшым выпадку, пагрозы ад

дзяжурных на адрас зэкаў, што такія рапарты будуць складзеныя. Але зэкі працягвалі вынаходнічаць, каб хоць крыху ўцяпліцца і пры гэтым не атрымаць пакараньня. Неяк на вечаровым шыхтаваньні начальнік атраду загадаў майму суседу Андрэю выйсьці наперад шыхту.

Андрэй выйшаў. Стаіць, не варухнецца.

«Што ў цябе там? На шыі што?» — крычыць начальнік.

Андрэй маўчыць. Начальнік крычыць яшчэ гучней: «Ды ты…»

І тады Андрэй, як той фокусьнік у цырку, пачынае выцягваць з-пад каўняра курткі нешта чорнае. Цягне, цягне. Сам круціць галавой. Шалік? Але яшчэ пару сэкундаў, і атрад сьмяецца, бо гэта ня шалік, а чорная казённая майка, якія выдаюць у калёніі разам зь сямейнымі трусамі і танюсенькімі шкарпэткамі.

Голас начальніка пад рогат усяго атраду, канечне, абрываецца. Андрэй, асьмялеўшы, пачынае з пакаяньня, а заканчвае наступам, які моўчкі падтрымлівае ўвесь атрад. «Вінаваты. Так, гэта майка. Але няма ў мяне шаліка лёгкага. Вы хочаце, каб я захварэў? А я не хачу».

І тады ўжо міралюбіва гучыць каманда стаць у шыхт.

Пасьля гэтага атрад на некалькі дзён расслабіўся, пачалі адкрыта насіць пальчаткі, шалікі, нават спартовыя чорныя шапкі. Мне Андрэева вынаходка спадабалася, і я таксама стаў паддзяваць пад куртку замест шаліка, якога ня меў, чорную казённую майку.

Але нядоўга музыка грала. Неўзабаве пачулі, што падчас выхаду з сэктару правяраючы ўбачыў на шыі аднаго з нашых хлопцаў сапраўдны шалік і склаў на яго рапарт. Шалікі і пальчаткі часова зьніклі. Як выходзіў на праверку, пачаў запіхваць пад куртку свой самаробны шалік, каб не тырчаў на шыі. Але тады шыя застаецца голая, і які сэнс у шаліку?

Ужо была сярэдзіна верасьня, тэмпэратура працягвала штодзень падаць. Па начах дайшло ўсяго да +2–3, удзень не станавілася цяплей за +5–6, і ўвесь час дзьмуў моцны ўсходні вецер. Нам нарэшце дазволілі апранаць зімовыя целагрэйкі, а пад іх і шалікі. На тым змаганьне зь недазволенымі адзежкамі часова скончылася.

…Я ўжо на волі, у мяне цёплы пакой, але зноў і зноў мучыць успамін пра праверкі на холадзе, і тады задаю рытарычнае пытаньне: чаму адразу, як пахаладала, нам не дазвалялі апранацца паводле надвор'я? Сапраўды каб мы болей памучыліся?

## Тыканьне

«А што ты пра прэзыдэнта пісаў?» Гэта было першае пытаньне, якое пачуў у 15-й калёніі, калі прывезьлі туды 27 траўня 2022 году этапам з магілёўскага сьледчага ізалятара. Найбольш зачапіла гэтае «ты» — як яшчэ адзін прысуд.

Да звароту на «ты» так і ня змог прызвычаіцца. Начальнік «Валадаркі» таксама ўсім вязьням тыкаў. «Чаму віну не прызнаеш?» — пытаўся ў

мяне, як ставілі на ўлік схільных да экстрэмізму. У магілёўскай турме нейкі адказны чын тыкаў падчас праверкі: «Патрыёт, кажаш? Паглядзім, які ты патрыёт». І ў калёніі № 15 з тыканьня ўсё і пачалося і працягвалася да канца.

Дарэчы, на «Валадарцы» тыкалі нават часьцей, чым у Магілёве. Здавалася б, сталіца, культурны цэнтар, але насамрэч вартаўнікі, што працуюць у сталічным СІЗА, грубейшыя за ўсіх, з кім давялося сустракацца падчас турэмных вандровак. Мацюгі, тыканьне, грэблівы тон — там для большасьці ахоўнікаў гэта норма, у тым ліку і для некаторых жанчын-вартаўніц. Сярод ахоўнікаў «Валадаркі» асабліва запомніўся дэманстрацыйнай грубасьцю адзін прыблізна 35 гадоў, росту вышэйшага за сярэдні, з тупым падбародзьдзем пад даўгім тварам, русымі валасамі, зь яўна вясковай гаворкай. Гэты мог папросту зачапіць тых, хто стаіць тварам да сьцяны ў калідоры, абкласьці мацюкамі толькі за за тое, што паварушыўся, ці накрычаць увогуле без прычыны. Там даволі такіх, у каго грубасьць у крыві, каму свавольства як наркотык. Зразумела, арыштанты баяцца пярэчыць такім ахоўнікам, а начальства закрывае на ўсё вочы і само дэманструе адпаведны прыклад.

Згадваю, як праз пару дзён на «Валадарцы» мяне павялі да начальніка СІЗА ставіць на ўлік як схільнага «да экстрэмісцкай ды іншай дэструктыўнай дзейнасьці». Вывелі ў калідор і цёмнымі пераходамі пагналі некуды ўніз, як потым даведаўся — у так званы «Шанхай». Гэта быў мой

першы праход па турме, таму круціў галавой па баках, як той турыст на экскурсіі. Яшчэ вельмі хацелася падзяліцца з кім з суседзяў уражаньнямі, але ахоўнік папярэдзіў, каб маўчаў, інакш складзе рапарт. Таму, як давялі да «Шанхаю» і паставілі тварам да сьцяны, стаяў моўчкі. З адчыненай «кармушкі» — вакенца ў дзьвярах камэры, праз якое падаюць ежу, — ідзе густы пах чалавечага жытла. Адначасова ежы, поту, прыбіральні. Ужо пазьней хлопцы раскажуць, што на «Шанхаі» камэры забітыя вязьнямі пад завязку, нараў тры ярусы, паміж нарамі ледзь працісьнесься бокам і дыхаць няма чым.

А тады, у калідоры «Шанхаю», убачыў праз вакенцы кармушак толькі шэрыя твары вязьняў і ўсьвядоміў, што, паколькі кармушкі знаходзяцца на ўзроўні не вышэй за мэтар, людзі за дзьвярмі сядзяць на бэтоннай падлозе, толькі каб быць бліжэй да паветра ў калідоры. Хоць і ў калідоры паветра не назавеш сьвежым. Там, да ўсяго іншага, пахне, як у вагоне, машыннай алівай.

У «Шанхаі» да нас далучылі яшчэ некалькі вязьняў і ўсіх пагналі наверх. Нарэшце трапляем у калідор, дзе з аднаго боку бальнічка, а ў канцы — актавая заля «Валадаркі». Вядуць туды праз вэстыбюль і там загадваюць спыніцца. На сьценах вісяць пэйзажы, убаку стаіць раскладны тэнісны стол. Праз вакно бачу белую калянаду Рускага тэатру, сьнег на ляпніне. Глядзі ты, у якое культурнае месца трапіў, — праносіцца думка. І тут афіцэр інструктуе, як трэба дакладаць, калі зойдзем да начальніка СІЗА. І ня дай бог забыць

павітацца. Чарга рухаецца хутка, вось і мне заходзіць.

Шэрагі крэслаў, сцэна. Усё падобна да тэатру, толькі сьвятло як на пляцы пад пражэктарамі. У залі на бліжніх крэслах сядзяць мужчыны і жанчыны ў шэрых мундзірах. Можа чалавек дзесяць. А вось на сцэне, за даўгім сталом, — усяго адзін чалавек. Сам шырокі, валасы кароткія, твар чырвоны, вачэй не падымае. Вітаюся па-беларуску. Працягвае глядзець у паперы і нарэшце задае пытаньне:

— Чаму віны не прызнаеш? На мітынгах быў?

— Быў. Працаваў як журналіст.

— Разьбяромся. Усё. Ставім на ўлік.

Такім чынам, суду яшчэ не было, а мяне ўжо прызналі схільным да экстрэмізму. Сябры камісіі, якія прысутнічалі на разглядзе маёй справы, так і адмаўчаліся, ніхто не задаў ніводнага пытаньня. Калі потым мы стаялі ля сьцяны і чакалі апошняга з групы, абмяняліся вынікамі. Ва ўсіх адно і тое ж: схільны ці схільная да экстрэмізму і дэструктыўнай дзейнасьці.

## Рыгор Кастусёў і Ўладзімер Мацкевіч

На адваротным шляху ўбачыў у калідоры апазыцыйнага палітыка Рыгора Кастусёва і філёзафа Ўладзімера Мацкевіча. Відаць, у той момант іх камэра вярталася з прагулкі. Уразіў бляклясьцю твару Рыгор Кастусёў, раней заўсёды такі ўсьмешлівы і рухавы. Пазьней, ужо ў магілёўскай

каленіі, даведаюся, што ў старшыні БНФ дыягнаставаны рак, але ніякая палёгка яго не чакае.

А чакае 10 гадоў няволі ва ўмовах узмоцненага рэжыму, бо такім будзе прысуд кандыдату на прэзыдэнта на выбарах 2010 году. За Кастусёвым ішоў Уладзімер Мацкевіч, вядомы беларускі філёзаф-мэтадоляг. Таксама схуднелы, шэры твар, сумны позірк. Толькі як паварочваў з калідора ў камэру, іскрамі ўпартасьці бліснулі акуляры. Пра Мацкевіча пазьней раскажуць, што на «Валадарцы» ён трымаў працяглую галадоўку пратэсту, моцна схуднеў і зьнясілеў, але вінаватым сябе так і не прызнаў.

## Праз 110 гадоў пасьля Коласа

Падчас амаль кожнага выхаду «на кабінэты» здаралася пабачыцца са знаёмымі журналістамі, палітыкамі, праваабаронцамі.

Прыходзілі думкі: што гэта значыць? У якім часе мы жывём?

Ужо больш за 110 гадоў таму на вырак царскага суду тут, у Пішчалаўскім астрозе, адбываў 3 гады зьняволеньня славуты беларускі пясьняр Якуб Колас. І вось лепшыя людзі краіны, яе гонар, зноў пакутуюць у няволі. Гісторыя паўтараецца. Беларусь перажывае новы вiток рэпрэсій, у нас зноў калечаць лёсы тысяч грамадзянаў, нішчаць надзею на цывілізаванае жыцьцё ў складзе Эўропы. Мы вярнуліся ўжо не на 110 гадоў назад, а на ўсе 160, у часы перад паўстаньнем Кастуся Каліноўскага.

Таму ня дзіва, калі ў наш такі вар'яцкі час дыплямаванаму ахоўніку «Валадаркі» можа падацца, што ён тут самы разумны і ўсёмагутны, можа ўсім тыкаць, распараджацца лёсамі і нават жыцьцямі, падмяняць сабой суд.

І яшчэ пра што падумалася, пакуль стаяў тварам да турэмнай сьцяны. Што працаваць сюды набіраюць па астаткавым прынцыпе. Найперш тых, каго ў іншыя сілавыя ўстановы браць сабе даражэй.

Гэтая здагадка хутка пацьвердзілася. Каля 89-й камэры, дзе прабыў тры месяцы, знаходзіўся пункт дзяжурных, абсталяваны тэлефонам. Штодня перад заканчэньнем чарговай зьмены там на 10–20 хвілін зьбіраюцца дзяжурныя зь іншых калідораў, чакаюць новай зьмены. Размовы паміж імі — гэта спрэс брыдкаслоўе, у тым ліку некаторыя жанчыны выказваюцца пахабнымі мацюкамі. І гэта паміж сабой, а ня толькі на адрас арыштантаў. І сэнс размоваў, ня толькі іх форма, проста, як той казаў, ніжэй плінтуса.

Дзіўна, але ў магілёўскай турме, не ў сталіцы, сытуацыя падалася ўсё ж іншай. Там і мацюкі ад супрацоўнікаў рэдка калі пачуеш, і абыходжаньне зь вязьнямі больш стрыманае, нават карэктнае. Гэта заўважылі ўсе хлопцы, якія адным этапам 23 сакавіка прыехалі зь менскага і жодзінскага сьледчых ізалятараў у Магілёў. Былыя арыштанты з Жодзіна, дзе рэжым мае рэпутацыю звышжорсткага, казалі, што кантраст іх натуральна шакаваў. У магілёўскай турме № 4 ахоўнікі зьвяртаюцца на вы, калі стаіш ля сьцяны

падчас праверкі — ня б'юць па нагах, у каго шмат рэчаў — дазваляюць пераносіць іх часткамі і цярпліва чакаюць. І ніякіх мацюкоў на адрас арыштантаў. Ну, можа, за рэдкім выключэньнем, на адрас асабліва неспакойных.

## За мацюкі — у ШЫЗА. З мацюкамі

А ці часта мацерная лаянка гучыць у калёніі? Мацюкі ў магілёўскай «пятнашцы» часьцей чуў ад ахоўнікаў. Ужо ў першым пакоі, дзе зэкі распранаюцца і аддаюць рэчы на праверку, ледзь ня кожны супрацоўнік ня можа абысьціся без забароненай у культурным асяродзьдзі лексыкі. «Х...я там стаіш, ідзі сюды», — падзывае правяраючы да сябе. «Апрануліся? Цяпер бярэм матрасы і торбы. І хутчэй, б..., ня шчоўкаць е...і», — апошняе, што чуеш перад адпраўкай у карантын.

У карантыне свая лексычная традыцыя. Там, акрамя таго што навучаць, як трэба запраўляць ложак (а гэта розьніцца нават ад войска), як рапартаваць начальству, шыхтавацца і перасоўвацца па тэрыторыі калёніі, ты таксама хутка ўведаеш, якія мацюкі дапушчальныя, а якія не. Сказанае зэкам у прысутнасьці афіцэра «б…ь» можа спарадзіць пакараньне, нават зьмяшчэньне ў ШЫЗА. А вось тое, што ў прысутнасьці зэкаў мацюкаюцца афіцэры ці шараговыя ахоўнікі, — гэта нармальна. Больш за тое. Лічыцца, што паколькі пры табе ахоўнік дазваляе сабе мацяршчыну, значыць, нібы раўняецца з табой, давярае. Можаш асклабіцца, усьміхнуцца, а то і парагатаць

зь нібыта ўдалага жарту. Зразумела, калі ахоўнік кпіць на твой адрас, дык лепш маўчаць. Ня важна, правініўся ў нечым ці проста трапіўся пад руку.

Паводле правілаў унутранага распарадку, зь якімі знаёмяць кожнага навічка па прыезьдзе ў калёнію, ужываць ненарматыўную лексыку забаронена цалкам, у тым ліку ў кантактах з калегамі-вязьнямі. Але на практыцы жыцьцё зэкаў цяжка ўявіць без мацюкоў, пра што начальству добра вядома. Адпаведныя крыніцы працуюць няспынна. У выніку што атрымліваецца? Калі асуджанага трэба пакараць, а віны не знаходзяць, дык лёгка сабраць доказы, што чалавек некаму сказаў дрэннае слова. «За ўжываньне нецэнзурнай лексыкі» — будзе напісана ў праграме навінаў лягернай тэлевізіі пра пакаранага штрафным ізалятарам.

Аднак калі ты падняўся (перавёўся з карантыну) у атрад, тваё жыцьцё там усё ж можна хоць крыху рэгуляваць і ў такой галіне, як лексыка вакол. Дастаткова самому не ўжываць мацерных словаў і папрасіць тых, хто жыве ў атрадзе побач, каб устрымаліся ад мацюкоў у тваёй прысутнасьці. Вынік будзе, бо ў турме збольшага прынята лічыцца з просьбамі суседзяў. Праўда, маладыя вязьні, найхутчэй, на такую просьбу адрэагуюць толькі зьдзіўленьнем, але хто старэйшы, тыя прыслухаюцца.

## Прасіце, і вас пачуюць

Увогуле заўвагі і просьбы ў вязьніцы больш эфэктыўныя, чым у звычайным жыцьці, толькі іх прынята абгрунтоўваць, а ня проста выказваць. І яшчэ важна выказаць іх у карэктнай, спакойнай форме. «Цябе пачуў», альбо «Зразумеў», — адкажа дасьведчаны ў турэмных традыцыях зэк і сапраўды ўлічыць тваю просьбу.

З гэтым турэмным правілам усю камэру ў магілёўскай турме азнаёміў малады вязень, якому раней ужо давялося пасядзець у калёніі. Хлопец патлумачыў, як трэба выказваць свае прэтэнзіі. Карэктна, у разумных межах і своечасова.

Напрыклад, асуджанаму нешта не спадабалася ў паводзінах іншага вязьня. Яму трэба пра гэта сказаць адразу, не адкладаючы на потым. Ня трэба цярпець і даводзіць справу да канфлікту, калі ўжо пачуеш у адказ: «А чаго ты раней маўчаў?».

У магілёўскай калёніі не аднойчы змог пераканацца, што правіла не маўчаць пра свае прэтэнзіі дзейнічае бездакорна.

Сярод маіх новых знаёмцаў быў асуджаны Сяргей. Чалавек шырокіх поглядаў, крытычна настроенага розуму і добры суразмоўца, пагаварыць зь ім была адна асалода. Але — мацяршчыньнік. Гэта, вядома, замінала ў камунікаваньні, і таму папрасіў яго пры мне не мацюкацца. Пасьля гэтага ў размовах са мной Сяргей ужо амаль не ўжываў мацюкоў, а калі што праскоквала, дык выбачаўся. І далей мы выдатна ладзілі. А зь іншымі ён працягваў гаварыць у звыклай манеры — ну

дык і калі ласка. А вось зь якім міліцыянтам такія нумары б не прайшлі. Міліцыянту заўвагу ня зробіш, на грубасьць не паскардзісься. Тут вынік непрадказальны. Ва ўсякім разе, я не рызыкаваў.

## Футбол як рэлігія

У жніўні калёнія перажыла ашаламляльную па накале жарсьцяў падзею — свой чэмпіянат па футболе. Можна сказаць, што назіраў за ім знутры, бо ў выніку чэмпіёнам стала каманда нашага, 9-га атраду. Юры, капітан каманды, пад воклічы сяброў па «кубрыку» прынёс і паставіў на паліцу кубак, які ўручаюць найлепшай камандзе.

А праз пару дзён Юры зьехаў на «хімію». Магчыма, «хімія» і была ягоным залатым мэдалём за перамогу на зэкаўскім мундыялі. Іншыя сябры каманды таксама атрымалі заахвочваньні: хто спатканьне, хто падзяку з занясеньнем у асабовую справу. Пазьней прыдасца на камісіі па ўмоўна-датэрміновым вызваленьні.

Але каб мы і прайгралі фінал, усё роўна гэта было незабыўнае відовішча. Уявіце калідор турэмнага будынку, а ў канцы калідора, дзе тарцавое вакно выходзіць якраз на стадыён, стаіць натоўп і не разыходзіцца па «кубрыках», нават калі дзяжурны крычыць: «Кантралёры на сэктары!». Больш за 20 галоваў вытыркнуліся з вакна і ўголас крычаць, калі нашы забіваюць, альбо мацюкаюцца, калі мяч ляціць міма брамы. На гэты час турэмнае жыцьцё нібы спыняецца. Пра кантралёраў забываюць, дый самі кантралёры да

нас ня лезуць, нікога за парушэньні не караюць, а проста адыходзяць у бок.

Футбол у калёніі сапраўды як нейкая агульная рэлігія, храм, у які абавязкова трэба прыйсьці памаліцца. Нават таму, хто ў бога ня верыць.

## Хакейны тэмп на стадыёне

Пасьвячэньне навічка ў гэтую рэлігію адбываецца ў самы цяжкі для яго момант. Ты трапляеш зь СІЗА ў карантын калёніі, дзе цябе муштруюць, як салагу ў войску, не даюць на хвіліну прысесьці, ганяюць туды-сюды, палохаюць штрафным ізалятарам. Ты марыў нарэшце прайсьціся па зялёнай траве, а перад вачыма толькі бэтонная агароджа, шэрая плітка дарожкі ўздоўж корпусу карантыну.

І раптам атрад вядуць у лазьню, ты ідзеш нібы па сапраўднай вуліцы, вакол — амаль цывільнага выгляду трохпавярховыя будынкі зь белай цэглы, у вокнах твары, праўда, ніводнага жаночага. Але ўсё роўна — нехта нават махае рукой, па дарозе людзі ў адзеньні рамонтнікаў цягнуць вазок зь пірамідай цэглы, на невысокай вышцы пасьміхаецца ахоўнік. Калёну даводзяць да вышкі, ахоўнік аддае каманду, і зь левага боку ад агароджы адчыняецца крывая жалезная брама, шчыльна абматаная дротам.

Нас заводзяць у браму, і вось па правую руку адкрываецца стадыён, па якім ганяюць мяч загарэлыя хлопцы ў рознакаляровых трусах і майках.

Стадыён пяшчаны, на ім ані травінкі. На процілеглым баку ўзвышаецца трыбуна, зь левага боку бачна табло. У гульцоў ногі па калені брудныя ад пяску, клубіцца пыл, твары гульцоў блішчаць ад поту, голеныя галовы — пясочнага колеру. І тэмп гульні не футбольны, а хакейны, шалёны, быццам таймы доўжацца ўсяго па пяць хвілін і трэба хутчэй аддаць гэтаму полю ўсю назапашаную за зіму энэргію барацьбы. Дагэтуль у вачах тое дзіўнае відовішча, і ад пражытых тады эмоцый, напэўна, значна перабольшваю ўражаньні. Але пасьля пяці месяцаў амаль нерухомага сядзеньня ў ізалятарах і не такое прымярэсьціцца.

Ня дзіва, што калі амаль праз месяц пасьля ШЫЗА мяне прывялі да будынку 9-га атраду, што якраз насупраць стадыёну, гэтыя пачуцьці зноў закружылі галаву. Памятаю, пакуль сядзеў у «ленцы» на сваім матрацы і чакаў разьмеркаваньня ў пакой, хлопцы мяне пра нешта пыталіся, а я не разумеў, чаго яны хочуць, перад вачыма быў толькі футбол.

І гэтае пачуцьцё ня зьнікла, тым больш за падзеямі на стадыёне цяпер мог назіраць ледзь ня кожны дзень. Часьцей па вечарах, але ў выходныя дык і цягам усяго дня. Найлепшае месца, зразумела, у вакне каля днявальнага, але падваконьне звычайна занятае ягонымі сябрамі. Ну і ладна, з дворыку таксама нешта бачна.

Нават ёсьць свае перавагі, бо часам мяч пералятаў праз два платы ды дарогу паміж імі і апынаўся ў нашым сэктары. Калі пасьпяваў першым, можна было мяч падняць, адчуць зна-

ёмую зь дзяцінства пругкасьць скураной сфэры. А потым, шырока размахнуўшыся, перакінуць мяч праз плот, а то і ўдарыць па ім нагой. Уяўляў сябе ў такі момант малым, які ў двары падкідае мяч старэйшым хлопцам. Праўда, зь першага разу дык і ня змог перакінуць. Плот высозны, за два мэтры. Яшчэ трэба пастарацца.

Неяк адзін хлопец шпульнуў мяч праз наш плот гэтак, што той праляцеў над дарогай, а другі плот не адолеў — зачапіў мэталічную стойку са сьцяжком, якая тырчыць яшчэ на паўмэтра вышэй. Ну і ўсё. Мяч нырк на дарогу, паскакаў і ляжыць. А па дарозе ніхто не ідзе. Гульня спынілася. Усе крычаць дзяжурнаму на вышцы, каб пультам адчыніў фортку з сэктару, выпусьціў каго па мяч, але дзяжурны ці то заўпарціўся, ці то захацеў пазьдзекавацца, — не адчыняе.

Тут з клюбу выходзіць грамадзянін маёр. Бачыць пад нагамі нічыйны мяч і, зразумела, таксама, як кажуць, у срацы дзяцінства зайграла — бац па мячы нагой у боце. Мяч і пакаціўся па дарозе ў напрамку штабу, далёка-далёка. Пад рогат і мацюкі зэкаў некалькіх атрадаў.

Магчыма, футбол таму і папулярны ў калёніі, што дорыць гульцам і гледачам ілюзію свабоды, вяртаньне ў дзяцінства, роўнасьць. Нібы мы зноў апынаемся там, дзе няма падзелу на правых і вінаватых, старых і маладых, чыстых і нячыстых.

Хоць ня буду і перабольшваць, прызнаю, што футбол усё ж не фаварыт у калёніі. На першым месцы — трэнажоры. Самаробныя трэнажоры ўсталяваныя на адмысловых пляцоўках каля

кожнага атраду, а яшчэ ёсьць вялікая пляцоўка з трэнажорамі на стадыёне. Мяне, праўда, туды не пускалі, як і іншых палітычных, жаўтабірачнікаў. Тым, хто пастаўлены на ўлік як схільны да экстрэмізму, знаходзіцца на стадыёне падчас спаборніцтваў забараняецца.

А на выходных стадыён заняты фактычна ўвесь час. Адны футбольныя каманды прыходзяць, іншыя сыходзяць. Робіцца графік, які нельга парушаць, бо ён зацьверджаны начальствам. У будзённы дзень, калі працы скончаныя, стадыён таксама заняты. Улетку бывае, што працы заканчваюцца каля 14 гадзіны, бывае і раней, тады вязьні адразу ідуць гуляць альбо заўзець.

У чым гуляюць футбалісты на зоне, ці дазваляюць ім мець адмысловую форму?

Звычайна вязьням нельга апранаць нічога каляровага, але на футбол забарона не распаўсюджваецца. У першыя ж дні ў атрадзе са зьдзіўленьнем заўважыў, што хлопцы на стадыёне пераадзяюцца ва ўсё рознакаляровае. Адкуль бярэцца гэтая форма? Аказваецца, атрымліваюць альбо ў пасылках, альбо на спатканьнях. Неяк умудраюцца мець. У выніку адна каманда бегае ў чырвоных футболках, другая ў белых. А ніз, гетры — ужо хто як. Каманда звычайна 6–7 чалавек. Буцаў няма, звычайныя красоўкі.

Замены таксама іначай адбываюцца. Пабегаў чалавек і адпачывае, замест яго выходзіць нехта іншы. Вырашаюць самі гульцы. Потым зноў мяняюцца.

Парадку на матчах пільнуюць адмыслова выбраныя судзьдзі, таксама зь ліку асуджаных. Яны нават маюць сьвісткі. Падчас чэмпіянату на наведваньне стадыёну ў пэўны час запісваюцца як гульцы, так і гледачы. А вось адмысловага агляду пры ўваходзе на стадыён у калёніі няма.

Дарэчы, футбольныя матчы ў калёніі адрозьніваюцца ад гульняў на свабодзе яшчэ і лексыкай. Падчас гульні матныя словы часам можна пачуць, але толькі з трыбуны, ад заўзятараў, і нягучна. Але барані бог ужываць словы, якія ганебна апісваюць асобаў нетрадыцыйнай сэксуальнай арыентацыі, што часта здараецца на стадыёнах ува ўсім сьвеце. У калёніі гэта катэгарычна нельга. Такі ўчынак можа мець самыя дрэнныя наступствы.

## Каста «недатыкальных»

Час пагаварыць пра тую частку кантынгенту калёніі, пра якую там гаварыць не прынята.

Сустракаеш на лесьвіцы звычайнага чалавека. Адзежа як ва ўсіх, чорная ці палінялая да шэрай, такія ж чорныя чаравікі, бляклы твар, паголеная да сіняга бляску галава. Але позірк зацкаваны, а ледзьве ўбачыць, як хто ідзе насустрач, вочы апускае, спыняецца і саступае дарогу. Нават стары чалавек перад хлопцам стаіць навыцяжку, паслухмяна. Чакае. Чаму такі парадак?

Бо маем справу з асуджанымі, якімі ў калёніі пагарджаюць, грэбуюць, старонецца іх, але і цалкам усё ж не адмаўляюць ім у праве на існа-

ваньне, бо ў пэўнай ступені ад іх залежаць. Гэта асобы нетрадыцыйнай сэксуальнай арыентацыі і тыя, каго далучылі да гэтай групы.

Адразу скажу, што рэпрэсіўны складнік пэнітэнцыярнай сыстэмы Беларусі, на маю думку, трымаецца на двух стаўпах: найперш на свавольстве і беспакаранасьці турэмных адміністрацый, а па-другое — на традыцыі падзелу турэмнага кантынгенту сама меней на тры групы: актывісты, «мужыкі» і «недатыкальныя». Самае ганебнае для краіны — якраз існаваньне гэтай апошняй групы, настолькі бяспраўнай, што яе сапраўды можна параўнаць зь ніжэйшай кастай.

Дагэтуль спрабую разабрацца ў сабе, чаму расказваць пра гэта балюча? Магчыма, таму, што не магу не спачуваць чалавеку, якога перасьледуюць, зьневажаюць, заганяюць у бяспраўнае становішча, хай сабе гэты чалавек і парушыў Крымінальны кодэкс, нават самыя «неганаровыя» яго артыкулы.

Паспрабую па чарзе.

У калёніі ёсьць некалькі няпісаных правілаў паводзінаў вязьняў за кратамі, і значная частка зь іх у большай ці меншай ступені зьвязаныя якраз з асобамі нетрадыцыйнай сэксуальнай арыентацыі, альбо тымі, каго прыраўнялі да гэтай групы. Магчыма, адно зь першых правілаў — гэта як дакладна адказваць.

Кожны асуджаны, калі прыяжджае ў калёнію, чуе да сябе пытаньне: «Як па жыцьці, у цябе ўсё роўна?» Першымі падчас праверкі пытаюцца пра гэта ахоўнікі. Потым тое ж пытаньне зададуць

заўгас і галоўны днявальны па карантыне. Прыйдзе час заяжджаць у атрад, і там зноў спытаюць, ці «ўсё па жыцьці роўна».

Адказ павінен быць праўдзівы і заўсёды гучаць упэўнена. Нават калі размова адбываецца ўжо ў атрадзе, а значыць, асуджанага сама меней ужо двойчы распытвалі пра сэксуальную арыентацыю, і калі б што было «ня так», пра гэта ўжо было б вядома, усё роўна жартачак у адказе не павінна быць. «У мяне ўсё роўна» — павінна прагучаць проста і ўпэўнена.

Ці мог бы хто падмануць? Верагодна, першапачаткова схаваць нетрадыцыйную сэксуальную арыентацыю магчыма, але гэтага ніхто ня будзе рабіць, бо падман абавязкова скончыцца для хлуса цяжкімі, а то і трагічнымі наступствамі. Паводле турэмнага закону вязьні, якія кантактавалі з асобай нетрадыцыйнай арыентацыі (хаця б віталіся праз поціск рук), таксама пераходзяць у катэгорыю «недатыкальных». Таму, як толькі няпраўда выявіцца, хлусу адпомсьцяць тыя, каго ён падставіў. Гэта таксама турэмны закон.

Але на практыцы да такога наўрад ці дойдзе, бо ўсе правілы адносна «недатыкальных» раскажуць сукамэрнікі яшчэ ў СІЗА. У тым ліку тое, што чалавек нетрадыцыйнай сэксуальнай арыентацыі мусіць па зьяўленьні ў камэру сам расказаць пра сваю асаблівасьць і ў будучыні папярэджваць пра сябе ўсіх, з кім сутыкаецца.

Зноў жа, зьяўленьне такога арыштанта ў звычайнай камэры — ужо надзвычайная рэч. Бо ў кожным СІЗА для гэтых людзей «забраніраваная»

адмысловая камэра, і ахоўнікі адразу мусяць зьмясьціць такога навічка туды. Але з боку адміністрацыі можна чакаць розных правакацый. Як быць у такім выпадку?

Тады камэра выклікае дзяжурнага альбо апэратыўніка і заяўляе, што з такім вязьнем ніхто знаходзіцца ня будзе. «За наступствы не адказваем», — гучыць папярэджаньне ў бок адміністрацыі. Пакуль начальства вырашае праблему, арыштант ціха сядзіць каля прыбіральні. Калі мае кубак, вады з крану набраць яшчэ дазволяць, але свайго «кругаля» (кубка па-турэмнаму) ніхто не падасьць.

Паводле вопытных вязьняў, сытуацыя вырашаецца цягам некалькіх гадзін. Непажаданага «госьця» адправяць у адмысловую камэру, дзе ён будзе знаходзіцца да пераводу ў калёнію.

А як жа там выходзяць са складанага становішча?

## Блакітная тэрыторыя

Калі ў СІЗА для «недатыкальных» ёсьць камэры, дык у калёніі, спачатку ў карантыне, а потым у атрадах, падобных умоваў для ізаляцыі няма. Там знаходзяць выйсьце ў тым, што прымушаюць гэтых людзей трымацца ад усіх асобна і на вельмі абмежаванай плошчы.

Пры шыхтаваньні яны займаюць месца ў канцы атраду, і потым у калёне гэтыя адна-дзьве

шарэнгі ідуць ззаду, але з прамежкам удвая большым, чым паміж звычайнымі шарэнгамі.

У казарме ім звычайна адводзяць такое месца, каб кампактна займалі нейкі кут ці тарэц пакоя.

У пакоі для прагляду тэлевізара ім таксама адведзены малы кавалак тэрыторыі вакол лаўкі, якая ўсталяваная асобна, каля задняй сьцяны пакоя. На гэтую лаўку ніхто зь іншых асуджаных не павінен сядаць, нават калі ідзе папулярны фільм і месцаў катастрафічна не хапае. Усесьціся на лаўку можа выпадкова толькі які недасьведчаны навічок. Але на таго ўсе вакол адразу пачнуць шыкаць, пасьля чаго ён увогуле пару дзён будзе абмінаць тую «ленку».

У «лякалцы», прыблізна пяці-васьмімэтровай паласе вакол будынку, яны таксама маюць свае маленечкія зоны, адкуль ім выходзіць фактычна забаронена.

У нашым сэктары такіх зонаў было дзьве. Адна ў левым куце сэктару, дзе гэтыя асуджаныя зьбіраліся пакурыць. Той пятачок быў тры на тры мэтры, затое ў цені магутнага ясеня. У сьпякоту, калі гуляеш па дворыку, гэта было вельмі прывабнае месца, але заходзіць на яго — ні-ні. А другі кавалачак недатыкальнай тэрыторыі быў на процілеглым баку лякалкі, там, дзе стаяла блакітная лавачка. Яны маглі туды падысьці і стаяць вакол, ці прысесьці, але нават не хадзіць побач туды-сюды. Бо зусім вольна гуляць па лякальнай зоне могуць толькі асобы традыцыйнай арыентацыі, а іншыя — з абмежаваньнямі. Гэта дыктуе негалосны турэмны закон.

А! Яшчэ ў іх быў адзін кавалачак сваёй тэрыторыі, куды дазвалялася хадзіць у любы час. Гэта сушылка побач з спартовай пляцоўкай, дзе на некалькіх вяроўках паміж двума слупамі сушылася іх памытая бялізна і адзежа.

Усё. На прыблізна 200 квадратных мэтраў — больш ані лапіка.

## Іх праца

Асобы нетрадыцыйнай арыентацыі ў калёніі ня ходзяць на працу разам зь іншымі асуджанымі, «промка» не для іх. Чым жа яны цягам дня займаюцца?

У нашым атрадзе было пяць такіх вязьняў, і яны па чарзе дзяжурылі на ўборцы прыбіральні, а таксама зьбіралі і выносілі сьмецьце. Ня толькі штодзённа па некалькі разоў мылі санітарныя вузлы і пісуары, але і рэгулярна прачышчалі каналізацыйныя трубы, якія па некалькі разоў за дзень забіваліся. Можна ўявіць, наколькі гэта непрыемная, брудная і прымітыўная праца.

У прыбіральні пяць «кабінак», кожная з «ачком» старога ўзору. (Дарэчы, кабінкі ня маюць дзьверцаў, толькі сьценкі па баках, таму ўвесь «працэс», якім займаецца чалавек у туалеце, адкрыты). Каб змыць, трэба тузануць за вяровачку, якая зьвісае з бачка, усталяванага над «ачком» у кожнай кабінцы. Але праблема яшчэ і тая, што ўсе туалетныя месцы пасьлядоўна злучаныя паміж сабой праз адну каналізацыйную трубу. У выніку,

калі забіваецца адно «ачко», брудная маса набіраецца і падымаецца ва ўсіх астатніх. Вось каб гэтую праблему вырашаць, а яна ўзьнікае рэгулярна, па некалькі разоў на дзень, і выкарыстоўваюць асуджаных зь нетрадыцыйнай арыентацыяй.

Як гэта робіцца? Чалавек бярэ ў руку палку з квачом-поршнем на канцы і пачынае туды-сюды прачышчаць забітую трубу туалета. Па законах фізыкі адначасова ва ўсіх іншых прыбіральнях, бо гэта сыстэма злучаных ёмістасьцяў, зьмесьціва падымаецца-апускаецца. Для чарговай прачысткі момант не выбіраюць. Калі забілася — тады і прачышчаюць. Няма чаго казаць: вельмі непрыемна, калі іншы асуджаны ў гэты час робіць сваю справу, а пад ім раптам пачынае хлюпаць і падымацца сьмярдзючая маса. Але няма рады — іншых выканаўцаў гэтай бруднай працы ў калёніях няма.

Яшчэ гэтыя вязьні падмятаюць пляцоўку перад уваходам у казарму, прыбіраюць на сэктары акуркі, якія паўсюль раскідаюць асуджаныя, заліваюць вадой сьметніцы, калі там ад непатушаных цыгарэт загараецца агонь. І перад адбоем выносяць бачкі са сьмецьцем, якое цягам дня зьбіраюць з усіх пакояў, прыбіральні і ўмывальніка. Бачок выносяць рукамі за тэрыторыю сэктару ў асобнае месца непадалёк ад лазьні. За гэтай працэдурай пільна сочаць вартавыя.

Чаму мяркую, што адміністрацыя яўна зацікаўленая ў тым, каб частка асуджаных была вось у такім прыніжаным, адасобленым стане? Усё проста.

Па-першае, прыклад гэтых вязьняў дапамагае падтрымліваць рэпрэсіўныя парадкі, бо робіць астатніх больш пакорлівымі. Ім ёсьць чаго баяцца: найменшая непакорнасьць можа прывесьці да правакацыі, у выніку якой любы асуджаны заўтра апынецца ў становішчы «недатыкальнага».

Па-другое, адміністрацыі выгадна мець у калёніі бясплатную і бяспраўную каманду прыбіральшчыкаў, на якіх можна перакласьці таксама і працу па абслугоўваньні і рамонце каналізацыі. Інакш бы давялося траціць дзяржаўныя грошы на прафэсійную сантэхнічную службу, а гэта альбо ў турэмным каштарысе не прадугледжана, альбо гэтыя грошы ідуць у зусім іншым кірунку.

Яшчэ ў карантыне навічкі цікавіліся, як можна па выглядзе пазнаць асуджанага з гэтай групы, ці ёсьць у іх нейкія прыкметы ў адзеньні?

Нам тлумачылі, што асобных вонкавых прыкмет няма, але гэтых людзей усім паказваюць, кажуць пра асаблівасьці іх рэжыму. І паказалі на чатырох асуджаных, два зь іх прыбылі ў карантын зусім нядаўна, а два іншыя абслугоўвалі прыбіральню карантыну ўжо шмат гадоў. Пра аднаго з навічкоў, чалавека ўжо пэнсійнага веку, сказалі, што яго судзілі па артыкуле аб «дзеяньнях сэксуальнага характару адносна непаўналетняй». Другі, чалавек гадоў сарака, нібыта разьмяшчаў у інтэрнэце парнаграфію, каб шукаць партнэраў сярод хлопцаў. Прычым адметна, што нікога ўжо не цікавіла, ці прызнавалі яны віну. Адразу асуджаных у карантыне папярэджваюць, каб не

кантактавалі з гэтымі вязьнямі, інакш самі могуць апынуцца сярод іх. І гэта дзейнічае.

Навічкі шыхтаваліся разам з усімі, толькі заўсёды трымаліся ў апошнім шэрагу і курылі асобна. Калі асуджаныя ў карантыне зьбіраліся ў «ленцы», каб паглядзець тэлевізар, паслухаць лекцыю, альбо вывучалі ПУР (правілы ўнутранага распарадку), гэтыя двое таксама трымаліся побач, недзе ў куточку. Нават харчаваліся яны з карантынам у адным памяшканьні, толькі за асобным сталом. Праз два тыдні, як усіх іншых вязьняў, іх таксама чакала разьмеркаваньне па атрадах.

А два вышэйзгаданыя старажылы былі замацаваныя за карантынам ужо некалькі гадоў. Яны мелі пэўныя прывілеі: трымаліся асобна, ня ўдзельнічалі ў занятках, на лекцыях не прысутнічалі, затое выконвалі тую ж неганаровую працу, што і ў атрадах — тры разы на дзень вымывалі прыбіральню і выносілі сьмецьце. Зробяць прыборку і сядзяць у сваім кутку ў агульным «кубрыку», куды цягам дня іншым увогуле заходзіць забаронена.

Пра аднаго казалі, што адбыў 15 гадоў за забойства і хутка будзе вызваляцца. Ад яго не было чуваць ані слова.

## Сэкс у «пятнашцы»

Пра другога старажыла карантыну зь нетрадыцыйнай арыентацыяй таксама інфармацыі мы ня мелі, пакуль аднойчы, пасьля адбою, у размове з

навічком ён сам не разгаварыўся пра сэкс у калёніі. Некалькі чалавек вакол сталі ненаўмыснымі сьведкамі той размовы. Са словаў «недатыкальнага» вязьня вынікала, што пры жаданьні партнэра для сэксу і месца для акту ў калёніі знайсьці магчыма. Бываюць раманы, нават працяглыя, а бывае аднаразовы сэкс дзеля нейкай выгоды. Як прыклад ён згадаў канфлікт, які нядаўна здарыўся паміж двума «калегамі па арыентацыі» за кліента. Нібыта нават пабіліся ў клюбе.

Тая размова адбывалася далей ад мяне, у пачатку «кубрыка», таму ўсіх дэталяў чуваць не было. Але па тоне і словах чалавека зразумеў, што ён моцна пакрыўджаны праз сваё прыніжанае становішча, толькі нічога зрабіць ня можа, зьмірыўся. Суразмоўцаў, якія заехалі ў карантын, ён пачаў інструктаваць, чаго ня варта рабіць, каб не апынуцца ў групе «недатыкальных». І пры гэтым дадаваў: «Хто мяне будзе слухаць, я ж для ўсіх п…с».

## Сашка мог стаць «гэтым»

А зь якой прычыны можна апынуцца сярод «недатыкальных»? У магілёўскім сьледчым ізалятары быў сьведкам гісторыі, калі вязьню рэальна пагражала такая небясьпека.

Прывялі ў камэру чалавека. Назваўся Сашкам. Па выглядзе было зразумела, што моцна выпіваў, абы-дзе бадзяўся, даўно ня мыўся пад душам. Частка камэры паставілася да новенькага

з агідай і нават усяляк гэта дэманстравала. Але да вялікага канфлікту справа ўсё ж не даходзіла, бо Сашка трымаўся ціха, як мыш, усяляк паказваў сваю карыснасьць, браўся па-за чаргой прыбіраць у камэры.

Мінула некалькі дзён, і раптам усіх выганяюць з рэчамі на калідор і большасьць засяляюць у іншую камэру, вязьні зь якой заехалі на нашы месцы. Такая ракіровачка. Трапіў у лік пераселеных і Сашка.

Аглядаемся вакол — памяшканьне падобнае, але сьцены даўно не фарбаваныя, на падлозе сьмецьце, пад нарамі пыл. Зразумела, людзі так жа раптоўна зьбіралі рэчы, як і мы. Вырашаем, што перад тым як парасьсьцілаць матрацы, памыем падлогу. І Сашка быў першым, хто ўзяўся за анучку.

Божухна, як ён намагаўся, як увесь аддаваўся працы, і… перастараўся. У новай камэры, як выявілася, не было ні вядра, ні нават тазіка. Мабыць, папярэднікі мылі анучку ў ракавіне ўмывальніка, але Сашка вырашыў, што за гэта на яго могуць накрычаць, таму ўпотай, пакуль мы ўсе займаліся сваімі рэчамі, стаў паласкаць анучу проста ў падлогавым унітазе, у так званым «ачку». Ды яшчэ ўмудрыўся выпусьціць анучу з рук, і тая амаль зьнікла ў дзірцы. Сашка, праўда, пасьпеў яе ўхапіць і выцягнуць, але было ўжо позна. Гэта ўбачылі, і адзін з хлопцаў, нібы задаволены тым, што адбылося, пачаў на Сашку крычаць. Усё, маўляў, ты цяпер будзеш вось «гэтым», бо ўва ўнітаз нельга залазіць рукой.

Камэра, праўда, паставілася да здарэньня неадназначна. Пачалася спрэчка. Адны былі за тое, каб Сашку даравваць, бо ён спрабаваў ўратаваць анучу дзеля агульнай справы, дзеля прыборкі, а іншы ніхто за яе ня ўзяўся. Але іншыя казалі, што дараваць нельга — парушэньне турэмных традыцый відавочнае. Больш за тое, калі Сашку дараваць, значыць, іншыя сукамэрнікі потым будуць пад пагрозай, бо з Сашкам давядзецца жыць побач.

І што ж у выніку вырашылі?

## Як уратаваўся

Першым чынам — паведаміць пра інцыдэнт адміністрацыі ізалятара, даведацца, як яны паставяцца да ўчынку Сашкі і да таго, што камэра патрабуе яго адсяліць. Паклікалі дзяжурнага па калідоры, а таго папрасілі прыслаць да камэры апэратыўнага супрацоўніка на «сур'ёзную размову». Праз нейкі час сапраўды прыйшоў апэратыўнік, выслухаў, але рашэньня не прыняў, папрасіў пачакаць. Маўляў, будзе раіцца з начальствам, а да тае пары Сашку не чапаць, але ніяк і не камунікаваць зь ім. Хай сядзіць ціхенька, чакае вырашэньня свайго лёсу.

Мінула амаль два дні. На Сашку было цяжка глядзець. Чалавек сядзеў шэры, нібы перад расстрэлам. Амаль не падымаў вачэй, не казаў ані слова. Калі раздавалі па місках ежу, ён свой посуд трымаў і вяртаў асобна. Пры гэтым папярэджваў

дзяжурнага, што гэта ягоны посуд, а ён у такім вось становішчы. На калідоры ўжо ведалі, што ў камэры чалавек на асаблівым становішчы, і ягоную міску з лыжкай не далучалі да іншых. Увесь час Сашка сядзеў на ложку і амаль не варушыўся.

Мы хадзілі па камэры, як звычайна, размаўлялі, спрачаліся, рагаталі зь нечага сьмешнага ці нечым абураліся, а ён сядзеў і маўчаў. Нават не ўздыхаў. Магло скласьціся ўражаньне, нібы мы ўсе вакол — людзі, а ён — нейкая іншая істота. Сэрца ў мяне разрывалася, але вырашыў, што зрабіць для яго нічога не змагу, нават калі б хацеў. Некалькі разоў я глядзеў на яго, каб злавіць позірк і вачамі выказаць падтрымку, але дарэмна, ён не падымаў вачэй.

Толькі яшчэ праз два дні да камэры прыйшоў апэратыўнік і выклікаў аднаго з хлопцаў да сябе. Вярнуўся хлопец з добрай для Сашкі навіной, што вырашана ягоны ўчынак «спусьціць на тармазах». Ад гэтага паведамленьня ня толькі Сашка, усе ўздыхнулі з палёгкай. Пастанавілі дапусьціць Сашку да агульнага стала, а пра тое, што здарылася, больш ня згадваць.

## «Труба-дело»

Яшчэ адно правіла суіснаваньня з асобамі, якіх у калёніі лічаць «недатыкальнымі», — нічым ім не дапамагаць і самому не карыстацца іхнымі паслугамі. Аднак выканаць гэтае правіла ва ўмовах жыцьця ў адным будынку даволі праблематычна, у чым мог асабіста пераканацца.

Прастора на сэктары фактычна ўвесь час занятая вязьнямі. Хто курыць, хто сядзіць на лавачках ці гуляе ў нарды пад навесам, а хто шпацыруе. Адны ўздоўж сьцен, другія ўздоўж агароджы, а нехта абраў месцам прагулкі лапікі дворыка каля сушкі бялізны. Карацей, прыстасоўваюцца хто як можа. Прычым самыя зручныя месцы негалосна разьмеркаваныя.

Зразумеў гэта ў першы ж дзень, як зьявіўся ў атрадзе. У стане эўфарыі ад прасторы вакол сябе ў параўнаньні зь цеснымі камэрамі СІЗА выходжу ў дворык, пачынаю шпацыраваць сюды-туды — і чую праклёны тых, хто шпацыруе побач на сустрэчных курсах. «Ідзі адсюль, знайдзі іншае месца, а тут ужо занята», — так можна перакласьці больш моцныя выразы на мой адрас.

Але ж усё даўно занята, і ў выніку адзінага трывалага месца для прагулак у мяне так і не зьявілася. Раніцай хадзіў па адным маршруце, у абед па іншым, а перад самым адбоем прыстасаваўся гуляць па трэцім, уздоўж будынку насупраць сушылкі. Месца было выдатнае, закрытае дахам, ратавала ў дождж і ад пякучага сонейка, але раніцай і па абедзе туды было ня ўбіцца. Я і не прэтэндаваў. Але часам да абеду сьцежка пуставала.

І вось аднойчы ў суботу бачу, што там нікога няма. Сонца шалёнае, значыць, можна пахадзіць у цяньку. Адно крыху замінае — ля самай сьцяны, ледзь не пад нагамі, ляжыць паўтарамэтровы кавалак вадасьцёкавай трубы, зь якой тырчыць кранштэйн. А над трубой у сьцяне дзірка, адкуль

гэты кранштэйн вылез. Зьверху навісае канец другой трубы.

Агледзеў сьцяну і вырашыў, што, відаць, кавалкі трубы зь нейкай прычыны расчапіліся і неўзабаве будзе рамонт. Ну і ладна, мне ж труба хадзіць тут асабліва не замінае.

І пачаў хадзіць туды-сюды. Побач на спартовай пляцоўцы хлопцы цягаюць свае штангі-гіры. Ярка сьвеціць сонейка. Зьняў кашулю, адначасова і загараю.

Раптам бачу, падыходзіць хлопец, падымае тую трубу і пачынае ўстаўляць кранштэйн у дзірку. Уставіў, паспрабаваў злучыць канцы труб, але ніжэйшы кавалак зноў выскачыў, і труба паваліласся на зямлю. Пры мне хлопец двойчы паўтараў тое самае, але з тым жа вынікам. Тады вязень ускараскаўся па сьцяне на падваконьне і, трымаючыся за краты вакна, хацеў зноў замацаваць трубу. І нібыта ўдалося.

Аднаўляю свой шпацыр, праходжу ўздоўж сьцяны ў адзін бок, вяртаюся, як раптам труба валіцца ледзь не на маю галаву. Падхопліваю трубу і ўжо сам прыстаўляю яе вэртыкальна на былое месца. У гэты час хлопец, працягваючы стаяць на падваконьні, нарэшце засоўвае канец ніжняй трубы ў верхнюю. Справа амаль зроблена. Каб пераканацца, б'ю кулаком па трубе, заганяючы кранштэйн у дзірку ў сьцяне. У гэты час хлопец саскоквае ўніз, таксама некалькі разоў лупіць па трубе і, задаволены, адыходзіць. А я працягваю гуляць і загараць яшчэ хвілін дваццаць.

Той загар мне ледзь ня вылез бокам. Увечары сусед па койцы, хлопец, асуджаны па 328 артыкуле, раптам выстаўляе прэтэнзію: «Стары, ты чаго п...м дапамагаеш?» — «Якім п…м, нікому я не дапамагаў», — адказваю зусім шчыра. Тады хлопец нагадвае выпадак з трубой. Відаць, нехта зь сяброў падзяліўся.

Пачынаем спрачацца, тон спрэчкі ўсё вышэйшы. Добра, што прыйшоў на дапамогу вязень, асуджаны за забойства. Дзьмітрый згадаў яшчэ пра адно важнае правіла: што «недатыкальны» пры кантактаваньні мусіць абавязкова пра сябе папярэдзіць, абазначыцца. «Ён табе казаў, хто ён?» Адказваю, як было: што хлопец ані слова пра сябе не гаварыў, дый іншыя, хто быў побач, не папярэдзілі пра ягоны статус.

На гэтым канфлікт вырашыўся. Паслухаўшы гэтую гісторыю, асуджаны Сяргей, які адбыў у калёніі больш за дзесяць гадоў, сфармуляваў для мяне наступнае правіла: «Начальнікаў можаш ня ведаць, а вось п…ў у атрадзе трэба ведаць кожнага ў твар». Парадаксальна, але дакладна. Бо асуджаных з гэтай катэгорыі сапраўды могуць, як было ў нашым атрадзе, прыцягваць для нейкіх рамонтных прац, альбо зь імі можна сутыкнуцца ў мэдычнай частцы, альбо ў штабе. Значыць, нічога не падазраючы, проста загаворыш з такім чалавекам, а потым чакай непрыемнасьцяў.

Адначасова адкрыў для сябе, што пры жаданьні так любога вязьня можна злавіць на нібыта парушэньні турэмнага «катэхізісу», і чалавек потым не адмыецца, нікому нічога не дакажа і будзе па-

кутаваць. І другая думка, ад якой таксама баліць: якія ж пачварныя гэтыя турэмныя парадкі, калі паводле іх элемэнтарную чалавечую дапамогу можна трактаваць як загану. Між тым як па мне, дык толькі чалавечыя ўчынкі — салідарнасьць, дапамога, удзячнасьць, дабрыня — і дапамагаюць у турме вытрымаць, захаваць самапавагу і выйсьці на волю не зламаным.

## Заява аб зьмяшчэньні ў ПКТ

І ўсё ж бываюць сытуацыі, калі, як кажуць, «нікому нічога не дакажаш». Да прыкладу, адміністрацыя атрымае загад зрабіць так, каб пэўнага чалавека лічылі «недатыкальным». Ці праявіць уласную ініцыятыву. Як тады будзе дзейнічаць?

Найхутчэй, абраную ахвяру справакуюць на парушэньне парадку, каб кінуць у ШЫЗА або ў ПКТ. Напрыклад, агент сярод асуджаных зладзіць канфлікт, нават бойку. Ды могуць і не ўскладняць задачу — проста за кавалак хлеба ў тумбачцы адправяць у ШЫЗА, а там у камэру падсадзяць вязьня з асаблівым статусам і праз «тэлеграф» распусьцяць вестку, што гэты кантактаваў вось з гэткім. Як абараніць свой гонар і становішча?

На такі выпадак турэмны закон таксама мае сваё правіла. Вязень, які змагаецца за свой гонар і ўжо не спадзяецца на справядлівы суд сукамэрнікаў, мусіць зрабіць спробу суіцыду — парэзацца. Звычайна гэта робіцца лязом аднаразовай

брытвы. Рэжуць альбо рукі, альбо жывот. Яшчэ да арышту адзін былы вязень паказваў тонкі шнар упоперак жывата, які зьявіўся ў выніку вось такога акту пратэсту. Паводле таго чалавека, парэз быў адмыслова неглыбокі і моцна жыцьцю не пагражаў, праз тыдзень шпіталя арыштант вярнуўся ў камэру. Але пасьля гэткай акцыі пратэсту адміністрацыя турмы кінула спробы перавесьці яго ў ганебную касту, бо для ўсіх іншых вязьняў ягоны ўчынак стаў доказам невінаватасьці.

Ёсьць і другі варыянт, меней шкодны для ўласнага здароўя. Гэта напісаць заяву на імя адміністрацыі аб пагрозе жыцьцю з боку сукамэрніка ці сукамэрнікаў. На такую заяву адміністрацыя мусіць зрэагаваць зьмяшчэньнем асуджанага ў адзіночную камэру ПКТ.

## Памяшканьне камэрнага тыпу

Зьмяшчаюць у ПКТ (памяшканьне камэрнага тыпу) на месяц, тры месяцы, а то і болей. Лічыцца, што ПКТ вартыя тыя, каго ШЫЗА ўжо выправіць ня можа.

Большасьць камэр шматмесныя, максымум на 6 чалавек. Знаходзяцца яны ў адным корпусе з камэрамі ШЫЗА, і ўмовы там падобныя, зь невялікімі адрозьненьнямі. Напрыклад, у ПКТ і ШЫЗА амаль аднолькавы распарадак дня, там і там шконкі адчапляюцца ад сьцяны толькі на ноч, у іншы час можна толькі сядзець на зэдліку ці хадзіць туды-сюды. Аднак у ПКТ на ноч выдаюць матрац і коўдру, а ў штрафным ізалятары і

гэтага няма. Яшчэ вязьняў ПКТ штодзень мусяць выводзіць на прагулку, у ШЫЗА такога таксама няма. Увечары перад адбоем сядзельцы камэр ПКТ маюць гадзіну асабістага часу, за якую могуць нешта пачытаць ці напісаць ліст, таксама ім могуць перадаць лісты і нават бандэролі.

Паводле былога палітвязьня Андрэя Б., зь якім даводзілася кантактаваць яшчэ да майго арышту, у ПКТ яму было «складана, але вытрымаць магчыма». «Раней мне даставаліся такія вар'ятысукамэрнікі, што пабыць пасьля такой кампаніі ў адзіночцы — гэта цалкам выноснае выпрабаваньне. Усё іншае можна сьцярпець», — тлумачыў Андрэй. Пры гэтым ён пэрыядычна пісаў новыя заявы пра небясьпеку і гэтым дамагаўся зноў, каб яго не пераводзілі ў атрад.

Але, відаць, ПКТ ня ўсім уяўляецца такім ужо «меншым злом». Падчас другога тэрміну ў ШЫЗА мне давялося некалькі дзён прабыць у адной камэры з Маратам (раней пра яго ўжо расказваў). Зьвяртаю ўвагу Марата на тое, што ў штрафным ізалятары няма радыё, а ў ПКТ — ёсьць. Кажу, што так усё ж весялей, і ў адказ атрымліваю выбух нэгатыўных успамінаў.

«Там радыё працуе зь пятай раніцы да дзявятай вечара, увесь дзень. Але гучнасьць рэгуляваць немагчыма. Радыё ўключаюць на ўсю моц, і ты нічога з гэтым зрабіць ня можаш. Праз паўгадзіны галава расколваецца. Таму не зайздросьцьце ПКТ, там горш, чым у ШЫЗА», — не пагадзіўся Марат. Паводле вязьня, у памяшканьні камэрнага тыпу яму не дапамагала і затыкаць

вушы паперай. «Спрабуеш закрываць вушы, але лепш не становіцца. Хваля адна і тая ж, бясконца круцяць тыя самыя песьні, у канцы кожнай гадзіны крыху навінаў, але лепш бы іх не давалі — усё пра Лукашэнку. За месяц ад гэтага можна звар'яцець. Колькі мы ні прасілі сьцішыць радыё, нас ня слухалі. Гэта такое катаваньне, рэальна».

А вось што вельмі падобнае ў ШЫЗА і ПКТ, паводле Марата, — гэта тэмпэратурны рэжым. З восені па лета ў камэрах вельмі холадна. Самы халодны пэрыяд — сярэдзіна восені і вясны, пакуль ацяпленьне не працуе, а ўжо стаяць халады. Але і пасьля таго як пачнуць грэць, цяплей станавілася не нашмат. Прычына — у канструкцыі батарэй, якімі абсталяваны корпус ШЫЗА і ПКТ, ды ў асаблівасьцях працы аўтаномнай кацельні ў калёніі.

«Батарэі тут бачыш якія — сталёвыя трубы, а не звычайныя чыгунныя каленцы. Сталёвыя трубы не трымаюць цяпла гэтак жа доўга, як чыгунныя, да таго ж кацельня працуе нераўнамерна. На паліва ідуць не звычайныя дровы, а нейкія адкіды ці старыя пафарбаваныя рамы, дошкі падлогі. Удзень можа быць градусаў дзесяць, ну дванаццаць, калі ад холаду не памрэш, але няўтульна. А ўначы зусім холадна. Асабліва калі на вуліцы моцныя маразы, тут таксама замярзаеш. Мы ратаваліся тым, што абдымалі батарэю. Але па чарзе, бо месца каля батарэі хапае толькі аднаму. І так усю ноч, выспацца немагчыма», — апісваў Марат зімовае сядзеньне ў камэры ШЫЗА. З успамінаў хлопца вынікала, што ў ПКТ зімой усё ж цяплей, бо ёсьць коўдра і матрац. Затое ў

ПКТ зьмяшчаюць на значна большы тэрмін, і таму нэгатыўнае ўзьдзеяньне на псыхіку большае. «Калі больш за месяц сядзіш адзін, сам пачынаеш заўважаць, што паступова вар'яцееш», — прызнаў Марат.

## Абысьціся без ШЫЗА

Калі адбываў другія дзесяць дзён у ШЫЗА, пасядзеў яшчэ з адным вязьнем, Віталем. Хлопец быў асуджаны за махлярства, а ў штрафны ізалятар трапіў праз канфлікт на «промцы». Дарэчы, за канфлікт у казарме пакаралі штрафным ізалятарам і Марата.

Вось якраз на гэтай падставе абодвум сукамэрнікам, але па чарзе, задаваў аднолькавыя пытаньні: ці ня лічаць яны ўмовы ў штрафным ізалятары занадта жорсткімі і ці ня варта адмовіцца ад гэтага пакараньня? Даводзіў ім сваё меркаваньне: што ШЫЗА патрэбна выключна для расправы з тымі, хто не пагаджаецца з адміністрацыяй, што гэта зьвяно ў агульнай сыстэме катаваньняў. А як інакш ставіцца да ўмоваў, пры якіх чалавек наўмысна пазбаўлены магчымасьці нармальна спаць і адпачываць, яго наўмысна трымаюць фактычна ў лядоўні і пазбаўляюць сонечнага сьвятла? Як на мяне, гэта катаваньне.

І што ж казалі мае маладыя сукамэрнікі?

Марат пагаджаўся, што цяперашнія ўмовы ў ШЫЗА блізкія да невыносных, асабліва што да тэмпэратурнага рэжыму і ўмоваў для адпачынку. Хлопец быў згодны і з тым, што бытавыя ўмовы

трэба палепшыць, парадкі лібэралізаваць. Пры гэтым, на погляд маладога чалавека, зусім адмовіцца ад такога пакараньня немагчыма, інакш «не ўтрымаць дысцыпліну ў калёніі, не засьцерагчы ад канфліктаў».

Віталь займаў яшчэ больш кампрамісную пазыцыю. «Сам вінаваты». Так, у турме цяжка, крыўдна ўвогуле, што сюды трапіў, але — даводзіцца цярпець. Ён зрабіў высновы і больш, спадзяецца, за краты ня трапіць. Тое самае і з ШЫЗА: паводзь сябе асьцярожна, не нарывайся, і сюды ня трапіш. Вось ён зрабіў памылку, цяпер расплачваецца. А зусім без ШЫЗА не абысьціся. «Сярод нас зашмат людзей вельмі агрэсіўных», — даводзіў Віталь. Размовы пра палягчэньне ўмоваў у ШЫЗА зь ім не атрымалася — хлопец «закрыўся».

## Футбол з Лукашэнкам

Футбольны чэмпіянат у калёніі стаў нагодай, каб падзяліцца ўспамінамі з маладымі вязьнямі. Неяк меў неасьцярожнасьць кінуць пару словаў пра тое, што калісьці гуляў у футбол з Лукашэнкам. «Што? А вось цяпер, спадар Алег, падрабязьней». І прыйшлося расказваць ад самага пачатку.

Была восень 1993 году. У паветры ўжо вісела ідэя прэзыдэнцкай рэспублікі, хоць яшчэ ня толькі выбараў не прызначылі, але і Канстытуцыю не прынялі. Ідэю прасоўвала тагачасная намэнклятура Беларусі ў выглядзе ўраду пад кіраўніцтвам Вячаслава Кебіча і апарату Саўміну, плюс камуністы ды іх хаўрусьнікі. З усіх сілаў

упіраліся толькі дэпутаты ад апазыцыі БНФ. Кажу пераканана, бо працаваў у той час парлямэнцкім карэспандэнтам друкаванага органа Вярхоўнага Савету — «Народнай газэты» — і добра памятаю, што менавіта на тэму выбараў прэзыдэнта былі ў парлямэнце самыя гарачыя спрэчкі.

Дэпутаты ад апазыцыі БНФ, якія не складалі большасьці ў тым парлямэнце, але былі рухавіком дасягненьняў першых гадоў незалежнасьці, ідэю прэзыдэнцтва адпачатку катэгарычна не прымалі. Пэўна, прадчувалі, якой бядой для краіны станецца гэтае прэзыдэнцтва, і, як цяпер вядома, у прадчуваньнях не памыліліся. А тады спрачаліся ня толькі ў сьценах парлямэнту. Як модна казаць цяпер — на кожнай магчымай пляцоўцы.

Неяк у лістападзе таго ж году менавіта так, жорсткай спрэчкай, скончылася чарговая гульня па футболе паміж камандамі дэпутатаў Вярхоўнага Савету. У адной камандзе, дзе давялося пагуляць, было некалькі дэпутатаў ад апазыцыі, у другой — цэнтрысты, дэпутаты-вайскоўцы, аграрыі. Быў у той камандзе і Аляксандар Лукашэнка.

Але па парадку. Спачатку патлумачу, як я там апынуўся.

На дзьве футбольныя дэпутацкія каманды парлямэнтароў звычайна не набіралася, альбо хапала ледзь-ледзь. Таму арганізатары гульні запрашалі далучацца маладых памочнікаў і акрэдытаваных пры Вярхоўным Савеце журналістаў. Я таксама некалькі разоў прымаў такую прапанову. З тых, з кім гуляў у адной камандзе, памятаю Анатоля

Лябедзьку (тэхнічны форвард), Юрася Беленькага, Лявона Баршчэўскага (самааддана стаяў на браме), Сяргея Антончыка (моцны паўабаронца). Са складу каманды-суперніка памятаю Аляксандра Лукашэнку і вайскоўца Валера Паўлава. Гэта ён дамаўляўся аб арэндзе спартовага палаца ва Ўручча і вырашаў транспартнае пытаньне.

Пасьля вось такой прэлюдыі ў расказе для маіх сукамэрнікаў я пераходзіў да асноўнага — гульні Аляксандра Лукашэнкі. Усіх найбольш цікавіла: якім ён быў гульцом?

Прыхільнікаў Лукашэнкі даводзілася расчароўваць успамінамі пра даволі грубую, на грані фолу, гульню будучага першага прэзыдэнта. Удакладняў, што тэхнічна Лукашэнка быў не найгоршы, гуляў на сярэднім узроўні. Збольшага валодаў прыёмамі абводкі, мог і нядрэнна ўдарыць. Памятаю ягоны трапны ўдар блізка ад лініі штрафной, нечаканы, з кароткім замахам, але моцны, акурат пад перакладзіну. Прыгожы быў гол.

Але такіх момантаў было адзін-два за гульню, а рэшта часу ў ягоным выкананьні — цягучая валтузьня зь мячом у цэнтры поля. Хуткія гульцы, як Анатоль Лябедзька ці Юрась Беленькі, лёгка абыходзілі Лукашэнку і беглі зь мячом наперад. І вось тут наступала тое, што таксама запомнілася з гэтых гульняў. Як Лукашэнка спрабуе тых форвардаў дагнаць, зразумела, што пры сваёй масе не пасьпявае, і тады проста б’е іх па нагах. Альбо штурхае рукой у сьпіну.

Мяркую, у яго гэта было нешта асабістае, сядзела ў падсьвядомасьці і не адпускала. Гуляў жа ў асноўным супраць сябраў апазыцыі БНФ. Тады Народны фронт быў на хвалі папулярнасьці, а Лукашэнка… Хто тады ведаў Лукашэнку?

Хлопцы сьмяяліся. Ну, казаў ім, не сьпяшайцеся з адказам.

Пры гэтым агульная атмасфэра ў камандах была даволі мірная, паважлівая. Звычайна аўтобус з гульцамі адпраўляўся на футбол з плошчы Незалежнасьці, ад будынку Дому ўраду. Хутка ўсе зьбіраліся, і аўтобус выяжджаў на праспэкт Скарыны (тады так зваўся галоўны праспэкт сталіцы), а потым спыняўся на Кастрычніцкай плошчы. Навошта? А каб падабраць дэпутата Аляксандра Лукашэнку, які жыў побач, у гатэлі «Кастрычніцкі».

У тыя разы, калі я езьдзіў на дэпутацкі футбол, Лукашэнка пазьніўся, але калегі яго цярпліва чакалі. Памятаю, аднаго разу чакалі хвілін дзесяць. Ён нарэшце прыбег, у сваіх чырвоных спартовых шараварах залез у салён праз пярэднія дзьверы. Яго пачалі крыху дакараць. Маўляў, усіх прымусіў столькі чакаць, гульнявы час ужо пачынаецца. Але Лукашэнка стаў адбрэхвацца, быццам гэта ён кагосьці чакаў, а не яго.

## «Які Саюз, б…і, развалілі»

У той дзень Лукашэнка на маіх вачах счапіўся з дэпутатамі ад Народнага фронту. Было гэта ўжо пасьля гульні, у лазьні. Дэпутаты сядзелі распара-

ныя, захутаныя ў прасьціны, выпівалі пад прынесеную з дому закуску. Каўбаска, сальца, агурочкі. Ня шмат, але, здаецца, пару бутэлек гарэлкі было. І Лукашэнка чаркі не адводзіў, падымаў як усе.

Але я не пра гэта. А пра спрэчку, што міжволі ўспыхнула паміж ім і дэпутатамі ад апазыцыі. Пачалі пра прычыны развалу Савецкага Саюзу, потым пра тое, хто лепш разумее інтарэсы народу, і, вядома, пра неабходнасьць прэзыдэнцтва. У нейкі момант дыскусіі Лукашэнка сказаў калегам, што зьбіраецца стаць прэзыдэнтам. Гэта выклікала кпіны, сьмех. І жарсьці зноў закіпелі.

Тлум стаяў моцны, як звычайна бывае ў п'янай кампаніі, гаманілі адразу ў некалькі галасоў. Спрэчка ад застольля перайшла і ў парылку. Удзелу ў спрэчцы я ня браў, таму хутка выйшаў з парылкі і залез у маленькі басэйнчык з халаднаватай вадой. Плаваю там, астываю, як раптам дзьверы лазьні нібы ад выбуху разьлятаюцца ў бакі, вырываецца белая пара, а зь яе выходзіць голы Лукашэнка.

Збольшага, звычайная сытуацыя ў лазьні. Твар чырвоны, сам таксама распараны. І адразу… бультых у той самы басэйнчык, дзе я. Акунуўся з галавой і нейкі час не падымаецца. Згадваю, што шчыра яго тады пашкадаваў і ўжо рыхтаваў словы падтрымкі. Падумаў, як паявіцца з-пад вады, скажу яму нешта кшталту: ну што вы, Аляксандар, так перажываеце? Ну ня верацць яны, што вы можаце быць прэзыдэнтам…

І вось нарэшце з вады паказалася галава Лукашэнкі. Прычым так рэзка, нібы субмарына

ўсплывае з глыбінь акіяну: спачатку чырвоная лысіна, потым твар, аблеплены даўгімі валасамі, якімі ён свой плех прыкрываў, каб выглядаць маладзейшым. Потым галава затрэслася, рука абцерла з твару ваду, а вусны прашыпелі: «Які Саюз, б…і, развалілі!»

На гэтым усё маё жаданьне суцяшаць суседа па басэйне адразу зьнікла.

## Народны прэзыдэнт

Але з майго боку будзе несумленным не згадаць заканчэньне гэтай гісторыі пра адзін футбольны дзень з удзелам Аляксандра Лукашэнкі. Заканчэньне было сымбалічнае.

Зьяжджалі з спарткомплексу позна ўвечары, і на выезьдзе затрымаліся каля шлягбаўма. Пакуль паласатае бервяно падымалася, у спадарожніцы папрасіліся дзьве сярэдніх гадоў жанчыны, мяркую, супрацоўніцы спарткомплексу. «Вы да цэнтру?»

Як адмовіць? І вось едзем, ужо за вокнамі прамінуў мікраараён Уручча, а дыскусія пра тое, хто лепш ведае, чаго трэба народу і хто лепш будзе яго абараняць, усё не сьціхае. Наадварот, гвалт стаіць, як на рынку. І сярод галасоў асабліва выдзяляецца адзін, сіплаваты, які часам пераходзіць у фальцэт.

І раптам адна з жанчын абарочваецца тварам да салёна і так радасна-радасна кажа: «А мы вас ведаем! Вы — дэпутат Лукашэнка! Вы ў парлямэнце так прыгожа прамаўляеце».

Галасы амаль адначасова змоўклі, потым раздаліся некалькі рэплік, але ўжо не такія задзірыстыя, а цішэйшыя. Скрып тармазоў, нехта выйшаў на прыпынку, нехта пасунуўся бліжэй да выхаду, і праз пару хвілін дыскусія ўвогуле памерла.

Да цэнтру пад'яжджалі ў магільным маўчаньні, хмурыя, нібыта і не было пасьляматчавага застольля. Нядаўнія застольнікі адзін за адным выходзілі, скупа разьвітваючыся. Лукашэнка ж сядзеў выпрастаўшыся, фанабэрыста пазіраў на іншых, нібы дэманструючы, што поле бою засталося за ім. Маўляў, вось вам і народ, пра які вы казалі, і ён сам разабраўся, хто за яго.

## Песьня балотных салдатаў

Пакуль пісаў гэтыя ўспаміны, удалося зьезьдзіць у ФРГ, у горад Котбус, дзе да 2002 году яшчэ дзейнічала турма, пабудаваная, як і менская «Валадарка», у першай палове XIX стагодзьдзя. Гэта тэрыторыя былой ГДР, Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, блізка ад мяжы з Польшчай. Да аб'яднаньня Заходняй і Ўсходняй Нямеччыны, якое адбылося ў 1990 годзе, у гэтай турме трымалі палітычных вязьняў. Тыя зь іх, хто дажыў да цяперашніх дзён, стварылі грамадзкую арганізацыю, выкупілі будынак турмы, дзе калісьці пакутавалі ў няволі, самі знайшлі фінансаваньне і трымаюць там музэй-мэмарыял у памяць аб ахвярах камуністычных рэпрэсій. Сярод іх пэнсіянэр Гільбэрт Фурыян, які цяпер праводзіць

экскурсіі па былых камэрах, майстэрнях і карцарах Котбусаўскага цэнтралу.

У суправаджэньні Гільбэрта Фурыяна па турме хадзілі нядаўнія вязьні беларускіх турмаў і, безумоўна, параўноўвалі ўбачанае і пачутае з тым, што самі перажылі. Умовы, прыёмы аховы і перавыхаваньня, побыт, правілы і звычаі.

Мы задавалі пытаньні, але на адну тэму гер Фурыян выйшаў сам. Гэта турэмная салідарнасьць.

«Вы, канечне, спытаеце мяне, ці была паміж намі салідарнасьць?» — зьвярнуўся да нас былы нямецкі палітвязень і, каб адказваць, засьпяваў. З паперкі, бо памяць ужо ня тая, як у маладосьці, у 1985-м, але добра пастаўленым голасам былога пеўчага ў царкоўным хоры. Называўся той турэмны гімн «Песьня балотных салдатаў», але чаму, былы вязень і сам ня ведаў. Толькі зазначыў, што першыя радкі арыштанты склалі задоўга да той пары, калі ён сядзеў за кратамі. Але дакладна, што за ягоным тэрмінам да песьні дадаўся новы тэкст, ужо пра ахвяр сацыялізму.

Чым тая песьня была яму такая памятная? Адказваючы, гер Фурыян згадаў, калі пачуў яе ўпершыню.

Неяк яны вярнуліся з прагулкі, а рэчы ў камэры выкінутыя на падлогу. Рэчы ўсіх 28 вязьняў, якія месьціліся ў малой камэры, пяць на пяць мэтраў, з чатырма ярусамі нараў. Так ахоўнікі паквіталіся зь імі за тое, што нехта адзін дрэнна прыбраў ложак.

Прыбраць у камэры — ня так і складана, але гэтым разам у некага ня вытрымалі нэрвы. І слабы голас завёў старую «Песьню балотных салдатаў», якую ахоўнікі ненавідзелі. За яе каралі карцарам, але гэтым разам не пасьпелі вызначыць, хто пачаў, а потым было позна. Песьню падхапіў яшчэ адзін голас, потым другі, трэці... Другі куплет сьпявалі ўжо камэрамі ўсяго паверху, трэці — усёй турмой. «Гэта была салідарнасьць. Яны маглі кінуць у карцар аднаго, але не маглі нічога зрабіць з усімі чатырма сотнямі асуджаных. І тады нікога не пакаралі», — завяршыў былы нямецкі палітвязень.

Ці бачыў я салідарнасьць у нашых, беларускіх турмах? На Акрэсьціна і ў Баранавічах, у менскім СІЗА і магілёўскім сьледчым ізалятары, у магілёўскай калёніі і яе штрафным ізалятары?

Гаворка не пра тую салідарнасьць, якую выяўляюць праваабаронцы, актывісты, сваякі палітвязьняў, дасылаючы ім бандэролі і перадачы, грашовыя пераводы, лісты ды сьвяточныя паштоўкі. Гэта было, і гэта сапраўды давала моцны зарад. Але я пра салідарнасьць сярод саміх вязьняў. Ці здольныя яны аб'яднацца і супрацьпаставіць карнай сыстэме сваё адзінства?

## Адзін за ўсіх, усе за аднаго

Ужо згадваў, як наша камэра на «Валадарцы» не ішла на прагулку, бо адзін з арыштантаў захварэў, але ня меў дазволу на пасьцельны рэжым, а прагулка магла яго «дабіць». Але нас ніхто не караў,

ахоўнікі былі ня супраць, што мы прапускаем прагулку — ім так лягчэй. Карацей, нам нічога не пагражала, і праз гэты ўчынак мы нічым не рызыкавалі. У вязьніцы Баранавічаў было, што мы падхоплівалі беларускую песьню, якую запявалі дзяўчыны ў суседняй камэры. Але і ў той сытуацыі нам карцарам не пагражалі. Дык няма чаго згадаць?

Было! На «Валадарцы» хлопец з нашай камэры атрымаў за некалькі дзён тры рапарты і ў выніку паехаў у карцар. Але падчас разбору камэра ўсё ж паспрабавала яго выручыць. Усе, за выключэньнем аднаго чалавека.

А сытуацыя была такая.

Спаць удзень на ложку на «Валадарцы» забаранялі, хоць дазвалялі чытаць лежачы. Здавалася б, ну якая розьніца, чым ты сябе займаеш у ложку? Проста ляжыш з заплюшчанымі вачыма і думаеш, насамрэч сьпіш ці чытаеш кнігу?

Але не. Нерухомае цела — гэта падазрона. У выніку за тым, каб і тут не было парушэньня, пільна сачыў праз вочка прадольны — ахоўнік, які дзяжурыць у калідоры. Як угледзіць каго з заплюшчанымі вачыма — складае рапарт. Пэўна, чым болей за зьмену складзе такіх рапартаў, тым лепей адпрацаваў і можа разьлічваць на прэмію.

У вязьняў свае інтарэсы. Заўсёды хочацца спаць, бо толькі ў сьне чалавек можа адпачыць ад цяжкіх думак, якія непазьбежна мучаць яго ў турме.

І ночы там кароткія, трывожныя, выспацца не ўдаецца.

Таму, каб абыйсьці забарону і ня быць пакаранымі, арыштанты ішлі на хітрыкі: укладаліся на бачок з кнігай у руцэ, ці трымалі кнігу на жываце, лежачы на сьпіне, а самі засыналі. Спачатку трымаць кнігу ўдаецца, але калі наступае моцны сон, рукі слабеюць, і кніга падае. Калі ў такі момант прадольны зазірне ў вочка — усё, рапарт гарантаваны. Вось гэта здарылася з тым хлопцам тройчы літаральна за пару дзён. Значыць, атрымае карцар?

Але ў сыстэме нібыта існуе нейкая магчымасьць апраўдацца. Арыштант мае права не прызнаць, што зрабіў парушэньне, і тады адміністрацыя бярэцца гэта даказаць. Адмысловы супрацоўнік праводзіць маленькае сьледзтва.

Калі б у нашай камэры працавала відэа, дык, можа, абышліся б без фармальнасьцяў, але відэа невядома калі зламалася, і мусілі апытаць сьведак. Гэта значыць — нас, сукамэрнікаў.

Першым выклікалі хлопца, чый ложак быў зьнізу. Як ён вярнуўся, пасьпеў расказаць, што яму прапаноўвалі даць паказаньні на сукамэрніка, нібыта той спаў. Але хлопец адмовіўся.

Праз пару хвілін выклікалі мяне. Тая ж прапанова. Кажу, што нічога ня бачыў. Гучыць пагроза, што будуць непрыемнасьці. У адказ паціскаю плячыма і вяртаюся ў камэру.

Па чарзе выклікаюць усіх, і дайшла чарга да Юрыя.

А калі Юры вярнуўся, дык кажа: падпісаў усё, што патрабавалі. У камэры запала цішыня. Потым нехта абурыўся: як так? Навошта здаў чала-

века? «Ды якое здаў? Кажуць жа, што ўсё роўна пасадзяць у карцар, а я толькі дарэмна атрымаю рапарт і адпраўлюся за ім. Мне гэта трэба?» — спрабаваў апраўдацца Юры.

Шкада, але што ў ізалятарах, што ў калёніі няма яшчэ, умоўна кажучы, нашай беларускай «Песьні балотных салдатаў». Ня склаліся яшчэ нашы традыцыі салідарнасьці. Ахоўнікі і опэрупаўнаважаныя гэта добра ведаюць і карыстаюцца гэтым.

Такой песьняй магла б стаць «Разбуры турмы муры» — своеасаблівы гімн пратэстаў 2020 году.

Разбуры турмы муры!
Прагнеш свабоды — то бяры!
Мур хутка рухне, рухне, рухне
І пахавае сьвет стары!
Разбуры турмы муры!
Прагнеш свабоды — то бяры!
Мур хутка рухне, рухне, рухне
І пахавае сьвет стары!

Ведалі словы на памяць — і сьпеў
Несьлі па вуліцах так,
Што кроў кіпела і гнеў кіпеў,
І сэрцы стукалі ў такт.
Білі ў сто тысяч далоняў — і рытм
Ворагаў біў напавал.
Ішлі на муры ва ўсім сьвеце старым…
А ён усё граў і сьпяваў.

Так паўстаў шматтысячны рух,
Воінаў цэлая раць,
Можна помнікі зносіць і брук
На камяні разьбіраць.
Кожны адчуў — прыйшоў яго час
Сілы аддаць барацьбе:
Хто ня з намі — той супраць нас!..

*Пераклад Андрэя Хадановіча.*

Ведаю, што песьня пэўна гучала ў магілёўскай Т-4. У красавіку да нас перавялі вязьняў іншай камэры, якую расфармавалі за тое, што хорам зацягнулі «Муры». Іван, які рыхтаваўся адзначыць шасьцідзясятыя ўгодкі, і Сяргей, якому нядаўна споўнілася трыццаць, хваліліся, што іх пакаралі менавіта за песьню пратэстаў.

Час зьявіцца ўласнаму гімну турэмнай салідарнасьці, інакш сядзець у тых жа вязьніцах, дзе сядзелі нашы бацькі ды дзяды, ужо нашым нашчадкам.

## Мае дзяды ў вязьніцах

Дзе пахаваны дзед па маці Кірыл Ігнатавіч Маркавец, ніхто ня ведае. У 1938 годзе яго расстралялі як «ворага народу», і вядома толькі, што гэта дакладна адбылося ў Беларусі. Пасьля арышту дзеда трымалі ў Бабруйскай турме, там жа судзілі і прывялі прысуд у выкананьне. Пра месца пахаваньня дзеда ягонай жонцы, Сафіі Васільеўне, ніхто не паведаміў. Мая маці, Галіна Кірылаўна, першую палову жыцьця пэўна ня ведала, што яе тата быў расстраляны. Думала, можа загінуў падчас вайны?

Тыя зьвесткі, што ёсьць, сталі вядомыя толькі ў 70-х гадах XX стагодзьдзя. Тут гісторыя няпростая.

Мой бацька, Анатоль Уладзімеравіч Грузьдзіловіч, карыстаючыся службовым становішчам, атрымаў зьвесткі пра цесьця праз запыт у КДБ. Мяркую, у берасьцейскую абласную ўправу

Камітэту дзяржаўнай бясьпекі, бо доўгі час працаваў старшынём Берасьцейскага гарадзкога выканкаму Савету народных дэпутатаў. Аброс, як тады казалі, патрэбнымі сувязямі. Сам бацька казаў, што простаму чалавеку ў тыя брэжнеўскія часы падобных зьвестак з КДБ ніколі б не далі, а яму ўдалося. Урэшце бацьку запрасілі ў абласную ўправу КДБ і паказалі некаторыя старонкі справы Кірыла Ігнатавіча Маркаўца. Зь яе вынікала, што ў 1938 годзе дзед «распаўсюдзіў паклёпніцкія зьвесткі пра савецкую ўладу», за што і быў пакараны сьмерцю.

У чым быў «паклёп»?

1938 год. Працягвалася грамадзянская вайна ў Гішпаніі. Сталінскі СССР дапамагаў сілам, супраць якіх падняліі мяцеж генэралы на чале з Франсіска Франка.

У той час у Беларусі жылося вельмі цяжка і нават галадна, а Кірыл Маркавец мог параўнаць гэтае жыцьцё з заакіянскім. Бо на пачатку XX стагодзьдзя працаваў у ЗША і вярнуўся дамоў пасьля рэвалюцыі, спадзеючыся на перамены да лепшага. Але таго лепшага так і не прычакаў.

Паводле справы дзеда, у Бабруйску ў прадуктовай краме ён уголас абурыўся: «Хлеб пастаўляем у Гішпанію, а самі галадуем». Паводле інструкцыі прозьвішча таго, хто данёс на дзеда, майму бацьку не паказалі, але сутнасьць такая — нехта данёс. У вёсцы Ражаноў, дзе жылі Маркаўцы, Кірыла называлі народным заступнікам. Да яго, пісьменнага і дасьведчанага, тутэйшыя ішлі, каб скласьці скаргу ці якія судовыя паперы. Я чуў

успаміны, што дзед нікому не адмаўляў у дапамозе. А як зь ім самім здарылася бяда, дапамагчы ня змог ніхто.

…Матрац на «Валадарцы» мне выдалі стары, патрапаны з бакоў, у брудных плямах і з праляжанай сярэдзінай. Ды яшчэ і шконка дасталася не падарунак — мэталічныя палоскі тырчаць, адна парыпвае. Пакуль тую палоску не заварылі, ляжаць на шконцы было вельмі нязручна, праз кожныя дзесяць хвілін даводзілася мяняць пазыцыю. На такім ложку, у камэры старога турэмнага замка, з вакном, цёмным ад кратаў, немагчыма было не згадаць дзеда Кірыла, які амаль 90 гадоў таму вось гэтак жа курчыўся на шконцы. А можа, ляжаў на каменнай падлозе.

Сябе, свой стан і ўмовы вакол увесь час параўноўваеш з тым, што, па зьвестках, было тады. Ты навічком апынаесься на «Валадарцы», адчуваеш сябе пабітым кацянём, якога чыясьці дужая рука з кіпцюрамі трымае за шкірку і можа закінуць у любы самы брудны кут ці лужыну. Ты ўжо прайшоў працэдуру першага распрананьня з зазіраньнем табе ззаду паміж ног.

Брыдка і крыўдна. Пакуль аглядалі, ты адчуў холад, як і тыя, каго прымушалі распрануцца перад расстрэлам. Холадна стала ўжо ня толькі целу, а і душы. Побач у калідоры бразгалі замкі, цягнула кіслай ежай і курывам.

Пасьля агляду як мага хутчэй апранаесься, бо ўжо чакае ахоўнік з ключамі. «Варушыся. Усё? Пайшоў наперад», — на першае «ты» ўжо не рэагуеш. Дзеду ў час арышту і расстрэлу было каля

40 гадоў, і яму пэўна ўсе тыкалі, бо з простымі сялянамі інакш не абыходзіліся. Мне цяпер 63, і мне таксама тыча вертухай. Нічога не зьмянілася.

## «Падводная лодка»

Валакуся праз турэмны двор. Пад нагамі брукоўка, на мурах двухпавярховага корпусу плямы, праз дзіркі тынкоўкі тырчаць цагліны, якім сама меней 200 гадоў. На хвілінку адчуваю сябе турыстам, аглядаюся. Вакол дзіўны развал і занядбаньне, быццам з XIX стагодзьдзя тут нічога не рамантавалі. Раптам гучыць рэзкая каманда «Сюды!», і мушу забегчы на паўразвалены ганак, а адтуль — нырк у чорны праём.

Гэты даўгі скляпеністы калідор, шэры і брыдкі, як выпатрашаная кішка, ніколі не забуду. Ужо шмат разоў сьнілася, як іду па ім, але, відаць, да канца жыцьця так яго мне і не прайсьці. Зьверху рэгулярныя лямпы, сьвятло ад іх падае круглымі плямамі ўніз, сьцены ў паўцемры. Па сьценах бягуць нашы цені. Справа адчынены дзьверы, сьвеціцца камэра, у яе вядуць тры прыступкі. На бэтоннай падлозе наваленыя матрацы, стосамі складзеныя коўдры і пасьцельная бялізна. Матрацы двух відаў — тонкія, зношаныя, і тоўстыя, нармальнага выгляду. «Гэта для жанчын», — ахоўнік спыняе мой намер атрымаць прывабны матрац, выдае самы тонкі, да яго пабітую падушку ды сінюю, месцамі празрыстую коўдру, дзьве шэрыя прасьціны.

Пачалася вандроўка па калідорах «Валадаркі», падчас якой да мяне даходзіць, наколькі зручней перасоўвацца, калі матрац у цябе не жаночы. Але як тады ўпраўляюцца жанчыны?

Да мяне хутка далучылі яшчэ двух арыштантаў, і ўжо такім караванам нас даволі доўга вадзілі па лябірынтах. Спачатку некуды ўніз, як потым даведаўся, у так званы «Шанхай». Карычневая фарба калідора, паўзмрок. Пахне кіслым баршчом і машыннай алівай. Падымаемся на паверх вышэй, потым зноў ніжэй. Цяпер пахне туалетам і мазутам адначасова. У другім калідоры ўпоперак праходу стаяць скрыні з прадуктовымі таварамі. Памятаю пачкі кавы і гарбаты, пакункі печыва, зэфіру, цукерак. Гэта па камэрах разносілі прадукты, якія вязьні могуць набыць за грошы, пераведзеныя на іх рахункі жонкамі, бацькамі, сваякамі, добразычліўцамі.

Тут мае асацыяцыі з гадамі, калі ў турме апынуўся дзед Кірыл, на нейкі момант адступалі. Дзеду ўсё ж было значна горш. Жонка з малымі дзецьмі жыла ў вёсцы непадалёк ад Глуску, за 60 кілямэтраў у Бабруйскую турму да дзеда наўрад ці хоць раз дабіралася, ані грашовых пераводаў, ані звычайнай харчовай перадачы дачакацца яму не было ад каго. А мне ўсё ж будуць прыходзіць і грошы, і перадачы.

## Сядзеў там, дзе цяпер Статкевіч

Яшчэ адзін мой продак, прадзед па бацькавай лініі Іпаліт Якаўлевіч Грузьдзіловіч, пасядзеў быў месяц у польскай турме ў Глыбокім. Калі я ў магілёўскай калёніі даведаўся, што Мікалая Статкевіча адправілі адбываць пакараньне ў глыбоцкую турму, гэта стала прычынай згадаць прадзеда яшчэ раз. Іпаліту Якаўлевічу яўна дасталася лягчэйшая адседка ў былым кляштары, дый зусім кароткая ў параўнаньні з апазыцыянэрам Статкевічам, якога лукашэнкаўскі беларускі суд пакараў 14 гадамі турмы. За тое, што нібыта рыхтаваў масавыя беспарадкі з мэтай зьвяржэньня ўлады. У калёніі Мікалая Статкевіча амаль адразу кінулі ў адзіночную камэру, потым у ШЫЗА, дзе палітык захварэў на пнэўманію.

Пабываўшы ў ШЫЗА магілёўскай калёніі, я часта спрабаваў уявіць умовы, у якіх цяпер у Глыбокім сядзіць Статкевіч. Мне толькі здаля даводзілася бачыць будынак былога Беразьвецкага кляштара, дзе цяпер турма. Мой дзед, Уладзімер Грузьдзіловіч, пераказваў, што чуў пра гэты будынак ад свайго бацькі Іпаліта. Пра цёмныя скляпеньні, таўшчэзныя сьцены, за якімі нават летам ледзяны холад. Ня дзіва, што з ШЫЗА Статкевіча павезьлі з пнэўманіяй у лякарню. А як вылечаць, бадай, зноў кінуць у змрочную вязьніцу.

Важна расказаць усё ж, за што палякі пасадзілі за краты майго прадзеда Іпаліта і чаму праз месяц ужо выпусьцілі на волю, а не расстралялі,

як за саветамі расстралялі другога дзеда, па маці (альбо, як у нас кажуць, па кудзелі).

## Прадзед Іпаліт і паход на Варшаву

Улетку 1920 году, калі Чырвоная армія празь Беларусь рушыла на Варшаву, прадзеда Іпаліта чырвоныя мабілізавалі на чыгунку. Прыдаўся ім як былы памочнік машыніста, які ў царскія часы працаваў на станцыі Балагое. Прызначылі машыністам паравоза, загадалі вазіць чырвонаармейцаў на фронт. А ўжо ўвосень, калі палякі пагналі армію Тухачэўскага назад на ўсход, прадзед са службы ўцёк, дабраўся да роднага дому ў вёсцы Пашкі Дзісенскага ўезду і там заціхарыўся.

Паводле Рыскай дамовы 1921 году гэтая беларуская тэрыторыя адышла да Другой Рэчы Паспалітай. Польская паліцыя пачала правяраць усіх, хто ваяваў супраць Польшчы, затрымалі і майго прадзеда.

У сямейных паданьнях засталося, што ў турму прабабця Эўдакія насіла перадачы, што прадзеда дакладна не катавалі, але сядзеў стары ўсё ж у цяжкіх умовах, і калі празь нейкі час выйшаў зь вязьніцы, выглядаў вельмі схуднелым. А вызвалілі палякі прадзеда Іпаліта таму, што не знайшлі ў ягоных дзеяньнях, як цяпер кажуць юрысты, складу злачынства. Зброі ў руках не трымаў, абслугоўваць чырвонае войска быў мабілізаваны прымусова. Карацей, разабраліся і адпусьцілі на ўсе чатыры бакі. Прадзед пражыў яшчэ 20 год і памёр ужо падчас 2-й сусьветнай вайны ад запа-

леньня лёгкіх. Прастыў, пераплываючы ў холад раку, калі ўцякаў ад нямецкага патруля.

У размовах зь вязьнямі шмат разоў параўноўваў свой лёс з фактам вызваленьня прадзеда Іпаліта ад адказнасьці за ўдзел у «паходзе на Варшаву». Яго палякі недзе праз месяц праверкі адпусьцілі. А мяне, беларуса, беларускі ж судзьдзя Шаціла пры падобных абставінах адправіў на паўтара года за краты. Ня мог судзьдзя дапусьціць думкі, што акрэдытаваны журналіст проста працаваў падчас маршаў пратэсту як карэспандэнт. Не, паводле ягонай лёгікі, я абавязкова мусіў «браць актыўны ўдзел, перагароджваць дарогу, выкрыкваць лёзунгі».

Падчас размоваў з сукамэрнікамі ўяўлялі, што б зрабілі чэкісты зь беларускім чыгуначнікам, які працаваў на польскім цягніку, а пасьля трапіў у іхныя лапы. Бадай што расстрэл такому «ворагу народу» быў бы яшчэ лёгкай карай.

## Народжаны ў Магадане

У вязьніцах некалькі разоў сустракаўся зь людзьмі, продкі якіх былі ў савецкія часы рэпрэсаваныя і адбывалі пакараньне ў ГУЛАГу. Зазвычай тое былі дзяды альбо браты ці сёстры дзядоў цяперашніх арыштантаў. Час жа даўно мінулы. Але на «Валадарцы» давялося сустрэцца з чалавекам, у якога быў рэпрэсаваны бацька. Дый сам Уладзімер нарадзіўся ў Магадане.

Бацьку Ўладзімера падчас 2-й сусьветнай вайны хлопцам вывезьлі зь Беларусі на працы

ў фашысцкую Нямеччыну, дзе ён трапіў на абаронны завод. Згадваў, што было вельмі цяжка і страшна. Але часам на выходныя немцы адпускалі з заводу ў горад. І яшчэ казаў бацька, што яму плацілі невялікія грошы, на якія ўдалося нядрэнна па тых часах апрануцца — набыць сапраўдны гарнітур.

Пасьля перамогі бацька Ўладзімера вярнуўся зь Нямеччыны на радзіму і адразу трапіў пад праверку кампэтэнтных органаў. Падчас той праверкі якраз набыты гарнітур яму паставілі ў віну як доказ нібыта супрацоўніцтва з фашыстамі і на 15 гадоў адправілі ў ГУЛАГ. Пасьля вызваленьня ў 50-х гадах застаўся ў Сібіры, працаваў нейкі час на залатых прыісках пад Магаданам. «Тата ведаў, што на «вялікай зямлі» яго нідзе на працу ня возьмуць, бадай што зноў арыштуюць, таму нікуды ня сунуўся. Там і мяне нарадзіў», — расказваў Уладзімер.

Сын рэпрэсаванага селяніна, просты рабочы, Уладзімер носіць памяць пра рэпрэсаванага бацьку ў сэрцы. Кажа, што ўлетку 2020-га ня мог не адгукнуцца на гарачыя падзеі, хоць раней ніколі палітыкай не займаўся. А цяпер вось — за кратамі.

Падобных сустрэч зь людзьмі, што помняць свой радавод, хапала і ў вязьніцах Магілёва. І цяпер я ведаю, што гэта няпраўда, быццам беларусы забыліся пра сваіх рэпрэсаваных продкаў, даравалі катам і гатовыя далей мірыцца зь няволяй, гвалтам ды свавольствам цяперашняй улады. Зразумела, хапае і такіх, хто нават ня ведае, што

такое Курапаты, альбо верыць дзяржаўнай лухце пра тое, што там людзей забівалі фашысты. У камёніі стаяў у шыхце побач з такім вязьнем, нібыта адукаваным, прадпрымальнікам. Калі зайшла гаворка пра Курапаты, той лыпаў вачыма: «А хіба там не фашысты нашых забівалі?»

І ўсё ж перакананы: памяць пра дзядоў, якія загінулі ад сталінскіх рэпрэсіяў ці былі дэпартаваныя зь Беларусі, яшчэ грукае ў нашы сэрцы.

## Вера ў цуд

Крымінальны перасьлед пачаўся для мяне ня ў сьнежні 2021 году, а на пяць месяцаў раней.

Ранкам 16 ліпеня, прыблізна ў адзін час, да чатырох супрацоўнікаў Радыё Свабода ўварваліся міліцыянты ў цывільным. Пазьбегнуць арышту ўдалося толькі кіраўніку менскага бюро Валянціну Жданко. Ён прадчуваў небясьпеку і пасьпеў зьехаць з дому да прыезду «брыгады». Трох карэспандэнтаў бюро — Іну Студзінскую, Алеся Дашчынскага і мяне — узялі па дамах, як той казаў, «цёпленькімі».

Чаму быў такі сьляпы і ня зьехаў сам раней? Ужо затрымалі журналістаў Tut.by, ужо схапілі «вясноўцаў», ледзь ня ўсім складам пасадзілі агенцыю навінаў БелаПАН і газэту «Наша Ніва», а мне ўсё верылася ў нейкі цуд. Што нас, свабодаўцаў, хапаць ня стануць, мы ж замежнае мэдыя. Вялі рэпартажы, пісалі артыкулы, зьбіралі камэнты. Але ж так думаць у той час было ўжо наіўна. Падобным чынам супакойвае сябе салдат на фронце:

кагосьці заб’юць, але не мяне, мне павінна пашанцаваць. А тут — бух! — і снарад на галаву.

## «Чаму вы на волі?»

Напярэдадні арышту са мной здарыўся проста анэкдатычны выпадак.

У тыя ліпеньскія дні стаяла неверагодная для нашых шыротаў сьпёка — за 30 градусаў у цені. Толькі загараць ды купацца. Але журналісцкай працы хапала, часу пад’ехаць куды на раку ці возера зусім не было. Нарэшце за пяць дзён да арышту, упершыню за лета, усё ж выбраўся на вадасховішча.

Садзілася сонца, а на маленькім пляжы на Вячы людзей было як у Ялце. Адплываю далей, дзе можна цешыцца цёплай вадой, прыгожым краявідам і не раздражняе дзіцячы віскат. Абмінуў буёк і вяртаюся да берага, плыву ўздоўж незнаёмай пары. Мужчына з жанчынай, абняўшыся, плюхаюцца ў хвалях. Як раптам чую ад мужчыны на мой адрас: «А вы ня з Радыё Свабода?» Спыняюся, задаволены, што пазналі: «Так, і што?» Далейшае магло б каго расьсьмяшыць, каго агаломшыць: «А чаму вас яшчэ не арыштавалі? Усіх жа бяруць, чаму вы на волі?»

Пагаварыў з новым знаёмцам, выказаў сваю вэрсію і забыў пра тую размову.

А праз некалькі дзён узгадаў пра яе ў міліцэйскім аўто, калі везьлі ў Сьледчы камітэт. Там ад допыту без адваката адмовіўся, і тады павезьлі на

Акрэсьціна, у ізалятар часовага ўтрыманьня — ІЧУ.

## Сьпякота на Акрэсьціна

Ужо потым даведаўся, што адбывалася ў тыя дні ў суседнім з ІЧУ будынку — у цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў, ЦІПе. Там у камэрах, разьлічаных на шэсьць чалавек, трымалі па 20 і болей вязьняў. Не выдавалі матрацаў і пасьцельных рэчаў, не прымалі з волі перадач, не дазвалялі сустрэч з адвакатамі. У нас у ІЧУ было тое самае (спалі на дошках, падклаўшы пад галаву замест падушкі плястыкавую бутэльку з вадой), але хоць абышлося без надзвычайнай перанаселенасьці.

Памятаю: заводзяць у першую камэру, а там — Валянцін Стэфановіч, праваабаронца зь «Вясны». Сядзіць на нарах, увесь абліваецца потам ад неймавернай сьпякоты. Толькі пачалі дзяліцца ўражаньнямі, як забіраюць і пераводзяць у іншую камэру. Тарцавую, маленькую — усяго з аднымі двухпавярховымі нарамі. Там — Андрэй Скурко з «Нашай Нівы». Празь дзень да нас дадаюць актывіста зь Вялейкі.

Адну з начэй, калі прыйшла мая чарга, спаў там на падлозе, а як у наступнай камэры расказаў пра гэта сукамэрнікам, мяне дружна абсьмяялі. «А на стале не хацелі б паспаць, ці пад сталом, скруціўшыся ўдвая? Ды ня ўсю ноч, а тры гадзіны, па чарзе», — згадваў свае прыгоды ў ЦІПе Мікалай, былы сьледчы, якога вінавацілі паводле палітычнага артыкула. У ЦІПе Мікалай адбыў

два ці тры тэрміны па пятнаццаць сутак і цяпер марыў пра адно — каб хутчэй адправілі на «Валадарку». «Там жа падушку даюць! Там тэлевізары ў некаторых камэрах!»

З матрацамі-падушкамі ў кожнага з тагачасных сядзельцаў Акрэсьціна свая гісторыя. Мая ж такая.

## Матрац і галадоўка

На сёмы дзень арышту, перад абедам, пачуў праз «кармушку» з калідора, што да Іны Студзінскай, калегі, якую трымалі ў камэры насупраць, не дапускаюць адваката, і таму Іна абвясьціла галадоўку пратэсту. Вырашыў яе падтрымаць і неўзабаве заявіў кантралёру, што таксама буду галадаваць. Турэмнік выслухаў, але нічога пэўнага не сказаў. Толькі: «Ня хочаце — ня ежце». І сышоў. Не, думаю, так сапраўдныя пратэсты ня робяцца.

Яшчэ праз гадзіну мяне перавялі ў іншую камэру, адкуль, па словах новых сукамэрнікаў, якраз у абед адправілі на «Валадарку» аднаго вядомага бізнэсоўца. Хлопцы казалі, што сьледчыя амаль тыдзень «выбівалі» зь яго вялікую суму нібыта нясплачаных падаткаў, але бізнэсовец аказаўся ўпарты, не саступаў, і таму, маўляў, перасялілі. Затое пасьля «крымінальніка» (так на Акрэсьціна называюць усіх непалітычных арыштантаў) засталіся матрац і падушка, якіх палітычным не выдавалі. Мне, як самаму старому ў камэры, хлопцы прапанавалі матрац. А падушкай я ўжо

сам падзяліўся з сукамэрнікам Вячаславам, пра якога згадваў вышэй. Да вечара мы зь Вячаславам яшчэ пасьпелі паляжаць на сваіх нарах, як багі!

Толькі пачынаецца вечаровая праверка, і я бачу, што афіцэр, пакуль робіцца справаздача, зыркае на мой матрац. Але нічога ў выніку ня кажа. Можа, чамусьці вырашыў зрабіць выключэньне, улічыў мой узрост? Дык выдатна!

Праверка скончылася, кантралёры ўжо павярнуліся, каб выходзіць на калідор, як тут мяне нібы хто за язык тузануў: «Даводжу, што абвясьціў галадоўку салідарнасьці зь Інай Студзінскай. Патрабую дапусьціць да яе адваката».

Жорсткі позірк, пару сэкундаў маўчаньня, і гучыць рэзкая каманда: «З рэчамі на выхад». Але рэчаў жа ў нас няма, толькі мой матрац ды падушка Вячаслава. «Матрац прыхапіце!» — апярэджвае афіцэр. Выходзім у калідор. «Да сьцяны! Матрац на падлогу!.. Вярнуцца ў камэру!»

Мяне зь Інай Студзінскай выпусьцілі з Акрэсьціна пасьля дзесяці дзён арышту, калі насьпеў час выстаўляць абвінавачаньне. Алесь Дашчынскі выйшаў з ІЧУ на тры дні раней. На ўсіх пазаводзілі крымінальныя справы «за ўдзел у дзеяньнях, якія груба парушаюць грамадзкі парадак», але да часу мы заставаліся ў статусе падазраваных, і меру стрыманьня нам зьмянілі на падпіску.

На волі даведаўся, што адваката да Іны Студзінскай у канцы яе арышту ўсё ж дапусьцілі.

## Пэсыміст і аптыміст

Ва ўмовах маўклівага цярпеньня, дысцыплінаванасьці і паслушэнства ці бывае ў турме гучная лаянка, скаргі, пратэсты і хаця б крыкі?

У мяне адназначнага адказу няма. Зразумела, што безь цярплівасьці жыцьцё за кратамі ператворыцца ў пекла, таму самі вязьні зацікаўленыя, каб вакол іх складалася спакайнейшая атмасфэра. І ў першыя гадзіны ў вязьніцы ты гэта адчуваеш скурай. Мяне дык крыху расчаравала, як спакойна сустрэла мяне першая мая камэра. Толькі потым уцяміў, што рэакцыя збольшага была натуральная — я чарговы сукамэрнік, ня больш. Паслухалі коратка маю гісторыю, і кожны заняўся сваімі справамі. Усе ж роўныя.

Але ў вялікім калектыве ўвесь час падтрымліваць атмасфэру нэўтральнасьці немагчыма. Па-першае, тэмпэрамэнт у людзей розны. Гэтак, зьявіўся ў камэры чалавек, Анатоль, які проста замучыў іншых пытаньнямі: «Як думаеш, мяне пасадзяць? А можа ўсё ж дадуць умоўнае пакараньне?» Чалавеку была патрэбная новая порцыя надзеі, а куды па яе зьвяртацца? Да сукамэрнікаў, якія і самі на нэрвах. У вязьніцы ўсё ж кожны ў сваёй шкарлупіне. Адказалі адзін раз, другі, трэці, а потым натуральна паслалі… Пачаліся ледзь не гістэрыкі. Калі неспакойнага навічка павезьлі на суд і ў камэру ён больш не вярнуўся, усе ўздыхнулі з палёгкай.

Або, наадварот, сядзеў у камэры вялікі аптыміст і жыцьцялюб Васіль. Апавядаў невера-

годныя гісторыі з свайго сэксуальнага жыцьця, жартаваў з ахоўніцамі, да адной міліцыянткі праз кармушку спрабаваў заляцацца. Дзяўчатам у форме яўна падабаўся малады арыштант, які ніколі не сумуе, жартуе, усьміхаецца. А 6-й раніцы ён ніколі адразу не падымаўся. Камэра ўжо адзелася ды схадзіла ў прыбіральню, вось-вось будуць сьнедаць, а Вася ўсё валяецца на сваім эксклюзіўным тоўстым матрацы. Ня надта і баіцца атрымаць заўвагу прадольнага. У выніку іншыя міліцыянткі выпісваюць яму тры рапарты, і ён адпраўляецца ў карцар на сем дзён. Вяртаецца, але сабе ня здраджвае. Усё такі ж вялікі аптыміст і жартаўнік.

## Як зрывае дах

Але ў адзін дзень гэтая прыгожая карцінка раптам разьбіваецца на кавалкі. Чалавек, які толькі што ўсьміхаўся, раптам выбухае і крычыць на ахоўніка толькі таму, што той з калідора сказаў грубае слова на адрас камэры. Між тым грубасьць з таго боку — звычайная рэч. Калі раней ставіўся да яе абыякава, то чаму цяпер інакш? Другім разам, яшчэ праз месяц, гэтак жа нечакана для ўсіх Вася пачынае біць нагамі і рукамі ў дзьверы камэры, патрабуючы шырэй адчыніць вэнтыляцыйны лючок, бо ў калідор не выходзіць цыгарэтны дым. А тое, што ён жа і накурыў у камэры, гэта як бы неістотна.

Пасьля такіх зрываў у настроі Васіля спрабавалі разам высьветліць іх прычыны. Чаму чала-

век нібы спакойны, а потым абавязкова выбух эмоцый? Васіль даваў такі адказ: «Калі ім можна з намі абыходзіцца як з быдлам, чаму мы мусім прытрымлівацца нейкіх правілаў?»

У мяне ж была свая вэрсія. Вырашыў, што кожны з арыштантаў-крымінальнікаў, нават апошні бадзяга-хуліган, глыбока ў сабе носіць віну за свой учынак. А да гэтай віны прымешваюцца і крыўда на ўвесь сьвет за няўдалы паварот свайго лёсу, і боязь турмы, і шкадаваньне доўгіх гадоў жыцьця, якія давядзецца страціць у вязьніцы. Няма тых, хто не перажывае, а можа, і не кляне лёс. Проста пачуцьці і думкі да часу хаваюцца пад бравадай, пад маскай аптыміста ці пафігіста. Але надыходзіць дзень, і, як лява зь нетраў вулькана, з глыбіні душы вырываецца агрэсія. Вось якраз тое і здарылася на маіх вачах з сукамэрнікам Васілём на «Валадарцы».

## Псыхалягічная служба

Прафіляктыкай падобных праяваў, па ідэі, павінны займацца ў вязьніцы штатныя псыхолягі. І яны там ёсьць. Як правіла — жанчыны. З адной такой сустрэўся на «Валадарцы», калі ставілі на ўлік як схільнага да экстрэмізму.

Цябе выклікаюць на размову да псыхоляга, вядуць у адмысловы кабінэт. Там сядзіць такая чысьценькая бляндыначка, міла ўсьміхаецца, задае пытаньні пра тое, ці схільны ты да агрэсіі, якая ў цябе сям’я ды ўсё такое. Па яе рэакцыі на твае адказы бачыш, што прыкмет схільнага

да экстрэмізму яна не знайшла. А потым цябе ўсё роўна прызнаюць схільным да экстрэмізму, значыць — проста выканала пастаўленую задачу.

Тое самае паўтарылася ў магілёўскім сьледчым ізалятары. Фармальныя пытаньні, і больш ніякай рэальнай працы. Хоць бы яшчэ раз за чатыры месяцы выклікалі да псыхоляга, пагаварылі пра жыцьцё, праблемы, што непакоіць. Такога не было. У кожнай з камэр — ледзь не траціна «схільных да экстрэмізму», а турэмнага псыхоляга гэта не цікавіць. Бо ведаюць, што ніякія мы не экстрэмісты. Але і пра тых, хто сапраўды схільны да праяваў нематываванай агрэсіі, клопату не заўважыў. Увага да такіх вязьняў адна — назьбіраў тры вымовы, ідзі адпачні ў карцар. Выйдзеш адтуль шаўковы.

Дарэчы, канфлікты ў вязьніцы непазьбежныя ня толькі паміж вязьнямі і адміністрацыяй, але і паміж самімі арыштантамі. Такія канфлікты нават часьцей здараюцца, бо ахоўнік — там, за дротам ці на калідоры, а чалавек, які цябе раздражняе тым, што гучна смаркаецца ў агульны ўмывальнік, — ён тут, побач. І яму сапраўды хочацца набіць пысу, калі нармальных словаў не разумее. І вось тут трэба, каб чалавеку загадзя патлумачылі, як сябе паводзіць, як кіраваць сваімі пачуцьцямі, у тым ліку агрэсіяй.

## Лекцыі ў калёніі

Як гэта зрабіць, упершыню за паўгода зьняволеньня пачуў падчас відэалекцыі ў калёніі. Некалькі псыхолягаў за паўгадзіны расказалі былым забойцам ды хуліганам, як кіраваць сваімі эмоцыямі, як не дазволіць агрэсіі авалодаць табой. Па выхадзе з клюбу асуджаныя казалі, што нарэшце пачулі сапраўды цікавыя і карысныя парады. Усе іншыя так званыя лекцыі былі проста пустазвонствам і прафанацыяй.

Ужо зазначаў, што канфлікты ў палітычных вязьняў найчасьцей узьнікаюць з тымі, хто асуджаны па наркатычным 328-м артыкуле. Усё іх раздражняе: як палітычныя ходзяць, якія выказваюць думкі, якія глядзяць тэлеперадачы. Але як па мне, глыбінная прычына, якая не называецца, але адчуваецца, — што гэтыя дзьве групы вязьняў па-рознаму ставяцца да прызнаньня віны. Палітычныя, як правіла, не прызнаюць віны і адчуваюць сябе ў вязьніцы па-ранейшаму сумленнымі людзьмі. Мала хто з палітычных сумняецца, што выйдзе значна раней за прызначаны судом тэрмін. Пагалоўна ўсе вераць, што ў краіне непазьбежныя кардынальныя палітычныя перамены.

А вось асуджаным за наркотыкі няма на што спадзявацца, акрамя як на амністыю, што тая скароціць іхныя пакуты хаця б на год. Нават прызнаўшы віну, яны не адчуваюць сябе ўпэўнена, баяцца вяртаньня на волю, бо ня ведаюць, ці змогуць далей жыць без наркотыкаў. З такімі

вязьнямі псыхолягі мусяць працаваць асобна, у жывым кантакце, але ў калёніі гэта фармальнасьць. У нашым атрадзе не было ніводнай жывой лекцыі — усе з экрана, запісаныя кандовай альбо, наадварот, «захмарнай» мовай, якую простыя вязьні не разумеюць. А калі ролю лектара браў на сябе начальнік атраду, дык проста зачытваў тэкст, напісаны на экране. Вязьні ўпотай зь яго сьмяяліся.

## Паклічце начальніка!

Ці абураецца хто ўголас умовамі ў вязьніцах, ціскам адміністрацыі, свавольствам опэраў?

Акрамя згаданага выпадку на «Валадарцы» быў сьведкам такога яшчэ ў ШЫЗА «пятнашкі». Малады (мяркуючы па голасе) асуджаны ўступіў у канфлікт зь дзяжурным.

«Паклічце начальніка!» — раптам раздалося з канца калідора, дзе пасьля камэр ШЫЗА пачыналася ПКТ, але ня ведаю, зь якой камэры дакладна. Агулам спрэчка працягвалася хвілін пяць. Спачатку арыштант крычаў і грукаў у дзьверы. Калі нарэшце зьявіўся дзяжурны, вязень пачаў даводзіць, што ягоную скаргу не прынялі, а ён патрабуе, каб яго выслухаў начальнік. Так шмат разоў, прычым тон, якім хлопец выказваў свае патрабаваньні, рабіўся ўсе вышэйшы. Памятаю свае пачуцьці ў той момант: проста быў шакаваны, нават пазайздросьціў сьмеласьці невядомага вязьня. Потым на дапамогу дзяжурнаму прыйшоў яшчэ адзін ахоўнік, старэйшага веку,

і цяпер яны абодва даводзілі, што асуджаны ня мае рацыі. Малады ж не супакойваўся.

Таксама зьдзівіла, што ахоўнікі на крык у адказ так і не перайшлі. Але скончылася разборка банальна. Дзяжурныя проста ляснулі «кармушкай», то бок зачынілі вакенца, і сышлі. А хлопец працягваў пратэставаць і дамагацца візыту начальніка.

У атрадзе мне потым казалі, што ведаюць пра непакорнага асуджанага, які даўно на нажах з адміністрацыяй. Што яго ўвесь час прэсуюць, з ШЫЗА і ПКТ амаль не выходзіць. Магчыма, гэта ягоны голас я чуў, як сядзеў у штрафным ізалятары. Хлопцы меркавалі, што вязьня, які сьвядома «ламае рэжым», лёс чакае адзін: паводле 411 артыкула атрымае новы тэрмін і пераедзе ў калёнію з горшым рэжымам ці ў турму.

І пэўна, што такі адважны быў не адзіны. Па тэлебачаньні калёніі кожную пятніцу паказвалі навіны і ў канцы, пасьля спорту ды канцэртаў, заўсёды была інфармацыя пра пакараньні. Пэрыядычна пяць-шэсьць чалавек на тыдні траплялі ў штрафны ізалятар ці памяшканьне камэрнага тыпу. За чатыры месяцы, што я быў у калёніі, сама меней двух вязьняў асудзілі на новы тэрмін і адправілі ў іншую калёнію альбо турму. Сярод іх быў і Сяргей Ціханоўскі.

## Ціханоўскі ў магілёўскай калёніі

Пра тое, што Сяргея Ціханоўскага прывезьлі ў нашу калёнію, паведаміў Мікалай — калега, які адбываў пакараньне па наркатычным артыкуле. Мы апынуліся ў суседніх атрадах, разьмешчаных у адным будынку, і маглі бачыцца падчас прагулак у дворыку. Быў пачатак ліпеня.

«Прывезьлі і зьмясьцілі ў карантын Ціханоўскага. Больш нічога ня ведаю», — сказаў Мікалай. Размова адбывалася ў дворыку, дзе звычайна побач гуляе некалькі дзясяткаў вязьняў. Сярод асуджаных хапае стукачоў, якія адсочваюць усе кантакты, спрабуюць падслухаць, пра што гаворка. Таму і перайшлі на паўшэпт. Пытаюся ў Мікалая, адкуль зьвесткі, і чую ўхілісты адказ пра сароку, якая на хвасьце прынесла. Абмеркавалі навіну. Сышліся на тым, што такое сапраўды можа быць. Па часе якраз падыходзіць: працэс над Ціханоўскім скончыўся недзе ў сярэдзіне вясны, месяцы два пайшло на апэляцыю, і цяпер ён мусіць апынуцца ў такой калёніі, як наша, бо першаход. Тады пачакаем недзе два тыдні, пакуль пройдзе карантын, і ён мусіць зьявіцца ў адным з атрадаў.

Мінула якраз два тыдні, і хлопцы расказалі, што ў чарговых навінах пра калёнію па мясцовай тэлевізіі бачылі навіну і пра Сяргея Ціханоўскага. Маўляў, што такі і такі асуджаны, які знаходзіўся ў карантыне, атрымаў дзесяць сутак ШЫЗА за непадпарадкаваньне.

Стаялі надзвычай цёплыя дні, а ў такое надвор’е пратрымацца ў штрафным ізалятары можна. Даюць там, як ва ўсёй калёніі, малакалярыйныя стравы, але міску напаўняюць кашай да краёў і гарбаты не шкадуюць, да таго ж яна заўсёды гарачая. А з астатнім дасьць рады, чалавек загартаваны — так падумаў. Але наступная зьвестка пра Сяргея шакавала.

«Ён ня проста так трапіў у ШЫЗА. Сам адмовіўся падымацца ў атрад, бо яму спрабуюць навесіць нізкі статус», — казаў суразмоўца. Паводле Мікалая, Ціханоўскаму закідаюць, што адзін зь сябраў выбарчай каманды меў нетрадыцыйную арыентацыю і ўсе пра гэта ведалі, але ад яго не адвярнуліся. «За тое цяпер і Сяргея мучаюць», — меркаваў асуджаны.

Ці магчымыя з боку ўладаў такія мэтады? Мой журналісцкі досьвед кажа: магчымыя. Падчас расправы над удзельнікамі прэзыдэнцкай кампаніі 2010 году такія захады ўжо ўжываліся. Так жа спрабавалі запляміць аднаго з былых кандыдатаў на прэзыдэнта, якому давялося адбыць у няволі значны час. Яму проста ў камэру падсадзілі вязьня зь нізкім статусам, пра што ён, зразумела, ня ведаў, і потым пусьцілі чутку па вязьніцы, што ён таксама мае такі ж статус. Разьлік быў на тое, што чалавек пры такой пагрозе маральна зламаецца і стане пакорлівым. Не спрацавала, палітык не саступіў.

Парадамі пра тое, як ратавацца ў падобным становішчы, са мной, калі быў яшчэ на волі, дзяліўся прадпрымальнік Андрэй, які ў 2008 го-

дзе спрабаваў балятавацца ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, але быў арыштаваны. Некалькі год Андрэй адбыў у турме і такія зьнявагі ды ціск зазнаў на сабе. Да яго ў камэру падсадзілі арыштанта, пасьля чаго Андрэй мусіў даказваць, што ён «не такі самы». Спачатку паспрабаваў апэляваць да крымінальнай супольнасьці. Даводзіў зэкам, што гэта была міліцэйская правакацыя. Паводле парадкаў сярод крымінальнікаў на такі выпадак прадугледжаны разбор. Асуджаныя, якія лічацца аўтарытэтамі ў сваім асяродзьдзі, разглядаюць зварот таго, хто аспрэчвае новы статус. Калі вырашаць, што сапраўды нізкі статус — вынік правакацыі, тады даюць сыгнал сядзельцам турмаў і калёній яго ня ўлічваць. Але дамагчыся такога разбору вельмі складана, бо крымінальная герархія ў Беларусі даўно разбураная, казаў мне Андрэй. Паводле яго, гэта даўно міт, што за кожнай зонай нібыта замацаваны свой «смотрящий».

Ва ўсякім разе, Андрэю дамагчыся ўмяшаньня аўтарытэтаў не ўдалося, а ўратаваў яго іншы спосаб — заява ў адміністрацыю калёніі аб пагрозе жыцьцю і здароўю, у якой ён папрасіўся ў адзіночную камэру. Паводле закону такую заяву адміністрацыя калёніі мусіла задаволіць, што зь ім і адбылося. Пасьля гэтага Андрэй да канца знаходзіўся ў адзіночцы, кантакты зь іншымі вязьнямі для яго былі выключаныя. Вядома, давялося цярпець ў вельмі жорсткія умовы.

Ці пісаў падобную заяву Сяргей Ціханоўскі, мне невядома. Вядома толькі, што пасьля аднаго

тэрміну ў ШЫЗА ён атрымаў наступныя дзесяць сутак. Пасьля чаго, як паведаміў турэмны тэлеграф, апынуўся ў адзіночцы ў ПКТ. У верасьні 2022 году ў атрадзе казалі, што Сяргея Ціханоўскага ўвогуле з нашай калёніі вывезьлі. Але куды — ніхто ня ведаў. Нават тыя, каму раней весткі прыносіла сарока на хвасьце.

## Беларуская мова: крок назад, два наперад

Мова павінна аб'ядноўваць, але, на жаль, бывае і так, што яна становіцца прычынай непаразуменьняў. Ну ніколі ня мог жа падумаць, што просьба «пасунься» ледзь не прывядзе да бойкі. Але так адбылося. Пачуўшы «пасунься», асуджаны вырашыў, нібыта яго абзываюць сукай — словам, якое ў турме лічыцца ажно двойчы зьняважлівым. Дзякуй, што іншы чалавек перапытаў, што ж такое прагучала на адрас сябра. «А, подвинься… Ну вы даёте, переводить надо».

Як зь беларускай мовай у вязьніцах?

Калі заяжджаў у магілёўскую калёнію, быў яшчэ цалкам беларускамоўны. Не скажу, што гэта было само сабой, без намаганьняў ці нават пэўнай барацьбы. Але ня буду хваліцца, што абышлося і без часовых паразаў ці саступак. Турма ўсё ж месца, дзе трэба выжываць, гэта ня плошча. Іншая рэч, што да перамогі можна ісьці і нябачным шляхам. Галоўнае — не саступаць у душы.

Ува ўсіх «сваіх» турмах стараўся гаварыць з сукамэрнікамі выключна па-беларуску, а вось

з турэмшчыкамі — паводле абставінаў. Усё ж у вязьніцах складаецца па-рознаму. Напрыклад, на «Валадарцы» і ў магілёўскай Т-4 да маёй беларускай мовы супрацоўнікі ставіліся спакойна. Хтосьці дэманстрацыйна не зьвяртаў увагі, хтосьці хмурыўся, але маўчаў, некалькі разоў чуў беларускамоўны адказ у адно-два словы, ня болей. Цалкам адмоўнай рэакцыі, загаду перайсьці на расейскую, бо не разумеюць, дакладна не было. Зрэдку, наадварот, беларуская мова адчыняла нейкія магчымасьці. Так, ужо ў першы вечар на «Валадарцы» ахоўнік, які выводзіў у часовую камэру, азірнуўся па баках, панізіў голас і даволі добразычліва пачаў распытваць, за што мяне арыштавалі. А пасьля гэтага пацікавіўся, колькі ўсяго на той момант палітвязьняў у Беларусі. Мой адказ пра больш як тысячу яго яўна шакаваў. Мы яшчэ пра нешта гаварылі, і, памятаю, я адчуў сябе крыху супакоеным.

Па-беларуску гаварыў і з начальнікам СІЗА, калі мяне ставілі на ўлік як схільнага да экстрэмісцкіх дзеяньняў. Дадатковай рэакцыі на мову не было, але гэта мала суцешыла, бо агульны тон быў вельмі нэгатыўны.

Калі прыйшла мая чарга дзяжурыць па камэры, адрапартаваў па-беларуску. Правяраючы, афіцэр па мянушцы «Паважаны», зьдзіўлена павярнуў галаву ў мой бок, усьміхнуўся, але ні слова не сказаў. А вось пасьля падобнага беларускамоўнага рапарту ў магілёўскай турме нейкі начальнік затрымаў на мне цяжкі позірк і з пэўнай

пагрозай пракамэнтаваў: «А, патрыёт, радзіму любіш? Ну, паглядзім».

Праз некалькі дзён мяне з той камэры перавялі ў іншую, і яўна не за мову. Бо ў новай камэры працягваў карыстацца беларускай і ніякіх перашкод не зазнаў. З ахоўнікамі камунікацыя абмяжоўвалася рапартам як схільнага да экстрэмізму: паслухаюць рапарт і пойдуць. А сукамэрнікі ўвогуле рэагавалі выдатна. Былі і такія, хто ў размове цалкам пераходзіў на беларускую, альбо спрабаваў падбіраць асобныя словы, выбачаўся, калі якое слова забыў ці ня ведае. Але агрэсіўнай рэакцыі дакладна не было ніколі. 18-гадовы Сяргей, асуджаны па 328 артыкуле, прызнаваў, што ў школе не стараўся вывучыць беларускую мову, а цяпер шкадуе. Расказваў пра настаўніцу беларускай, якая нават на занятках гаварыла збольшага па-расейску. У размовах з палітычнымі Сяргей спрабаваў ужываць беларускую мову, але выходзіла ў яго дрэнна. І ўсё ж «добрай раніцы» і «дабранач» ад яго чулі штодня.

У камэры быў яшчэ адзін журналіст, асуджаны па эканамічным артыкуле, але яўна з палітычных прычын. Зьміцер быў найлепшым знаўцам беларускай мовы. Паміж вечаровай праверкай і адбоем традыцыйна ладзіліся пасядзелкі з гарбатай і печывам. Тады тыя вязьні, хто да нас далучаўся, а часам гэта была траціна складу камэры, пяць-шэсьць чалавек, усе гаварылі па-беларуску. І гэта былі ня толькі палітычныя.

І ў 15-й калёніі сытуацыя зь беларускай мовай для мяне мала ў чым зьмянілася.

Праўда, халадком ужо павеяла. На першай праверцы рэчаў з шараговым ахоўнікам цалкам размаўляў па-беларуску, але як выклікалі на размову да афіцэраў, пачаў двухмоўнічаць. «Журналіст, кажаш? А што пісаў пра прэзыдэнта? І хто ў нас прэзыдэнт? А на маршах што рабіў?» Адказваючы на гэтыя пытаньні, ужо беларускія словы чаргаваў з расейскімі.

У карантыне зь іншымі асуджанымі зноў гаварыў выключна па-беларуску, гэтак жа запаўняў паперкі. Але праз тры дні выклікаюць на першую праверку рэчаў да начальніка карантыну. Згадваю сяброў па карантыне, якія раілі не раздражняць начальнікаў беларускай мовай, і ў размове зь ім зноў асьцярожнічаю. Праўда, усё адно не дапамагло. За дробную памылку ў сьпісе рэчаў начальнік карантыну склаў на мяне рапарт. Пішу тлумачэньне па-беларуску і выходжу з кабінэта начальніка, злосны найперш на сябе. Навошта даваў слабіну? Палёгкі захацеў?

Наступным днём на камісіі ў начальніка калёніі проста рот не даюць адкрыць. Ледзь толькі пасьпяваю ўставіць па-беларуску: «Я ж грамадзянін Беларусі», як яшчэ гучнейшы крык: «Што? Рот закрыў!», і атрымліваю першыя дзесяць сутак ШЫЗА.

## У ШЫЗА — адна дзяржаўная

І ўсё ж у штрафным ізалятары ня кінуў беларускай мовы. Першыя два дні па-беларуску вітаўся з ахоўнікамі і дзякаваў за прынесеную ежу. Нават

за венік падмятаць камэру альбо за хлёрку апрацоўваць санвузел казаў «дзякуй». Падалося, што ахоўнікі да маёй беларускасьці прызвычаіліся, і тады вырашыў пайсьці далей.

У ШЫЗА штодня раніцай і ўвечары дзяжурны па камэры робіць даклад правяраючым: «В камере номер… находится… осуждённых… Дежурный по камере… осуждённый по статье…» і так далей. Узор вісіць на дзьвярах камэры, і гэты ўзор расейскамоўны. Памыліцца нельга — за кожную памылку мае быць новы рапарт, папярэдзілі прадольныя. Вывучыўшы даклад на памяць па-расейску, цягам двух дзён двойчы на дзень (бо першыя дзесяць сутак сядзеў у камэры адзін і кожны дзень быў дзяжурным) спраўна дакладаў паводле гэтага ўзору. Але на трэці дзень адважыўся на экспэрымэнт.

Вырашыў гэтым разам дакладаць па-беларуску. Пераклаў, вывучыў, каб ад зубоў адскоквала. І вось раніца, прыходзяць правяраючыя, галоўны над імі падпалкоўнік грознага выгляду. Пачынаю дакладаць. Беларускі тэкст льецца чыста, самому прыемна. Па твары падпалкоўніка бачу, што спачатку падмены ён не заўважыў, але як дайшло да слова «артыкул» замест «статья», бровы насупіліся і папаўзьлі на лоб. «Стой!» — павышае голас і тыцкае пальцам у тэкст на дзьвярах. Адразу выказваю падрыхтаваны аргумэнт: «Беларуская — другая дзяржаўная мова». Ён зноў тыцкае пальцам у дзьверы: «Дзе тут напісана пра другую дзяржаўную? Тое, што тут напісана, тое мусіш дакладаць. Пачынай». І давялося ўсё ж

перайсьці на расейскую, каб не атрымаць лішні тэрмін у ШЫЗА.

## Мова ў штабе

З начальнікам аднойчы нават адбылася дыскусія пра наркамаўку і тарашкевіцу.

У сярэдзіне чэрвеня, у той час, калі ў ШЫЗА цягнуўся мой новы штрафны тэрмін, са скаргай у калёнію прыяжджала жонка Марыянна. Але я, натуральна, пра гэта ня ведаў, нават калі ўжо выйшаў з ізалятара.

Аказваецца, не атрымаўшы ад мяне лістоў цягам дзесяці дзён (а ў мяне было правіла пісаць іх штодня), яна праз тэлефон запісалася на прыём да начальніка калёніі, прыехала і сапраўды атрымала аўдыенцыю. Размова была пра маё здароўе, пра ўмовы ўтрыманьня, і Марыянна ўжыла слова «травень». Відаць, гаварыла пра пачатак майго знаходжаньня ў калёніі. Начальнік калёніі гэтае слова запомніў. Ва ўсякім разе, калі ў ліпені палкоўнік убачыў мяне побач са штабам, дык сам пачаў размову і аспрэчыў, што месяц май можа звацца траўнем. Аргумэнт у яго быў просты: яго ў беларускай школе вучылі казаць май, а ня травень, значыцца, травень усё ж не па-нашаму. Давялося грамадзяніну начальніку выслухаць і мае аргумэнты. Пагадзіўся ён зь імі ці не, пра тое не сказаў нічога. Але я для сябе тады адзначыў, што наша зь ім па ліку трэцяя размова, як і другая, была спакойная і карэктная. Ужо ніякіх «рот

закрыў» ды «чаго сюды прыехаў», як пры першай сустрэчы.

## «З вамі на беларускую перайду»

А ў штаб у той дзень мусіў прыйсьці на гутарку з атрадным апэратыўнікам. Той выклікаў, каб атрымаць тлумачэньні адносна жончынай скаргі. З такімі заявамі мусяць фармальна, але ўсё ж разьбірацца.

Пагаварылі мы спакойна. Прычым ад пачатку да канца па-беларуску. Я не схаваў ад афіцэра сваёй крыўды за тое, што перад зьмяшчэньнем у ШЫЗА атрымаў па карку ад ягоных калегаў. Мы працягвалі гаварыць, як раптам у кабінэт увайшоў малады супрацоўнік. «Так з вамі на беларускую перайду», — нібы апраўдваючыся, сказаў мой суразмоўца і паглядзеў на калегу.

Вядома, я ня быў адзіным, хто стала размаўляў у калёніі на роднай мове. Такіх у нашым беларускамоўным асяродку ў атрадзе было сама меней пяцёра, прычым размаўлялі ня ўціхую, недзе ў закутку, а адкрыта, пры іншых асуджаных. У суседнім атрадзе знаў яшчэ столькі ж беларускамоўных і не аднойчы чуў ад іх падзякі за магчымасьць камунікаваць на роднай мове. І ня толькі ад палітычных.

Або такі выпадак: Сяргей, яшчэ малады мужчына, асуджаны на немалы тэрмін за сур’ёзнае злачынства, паведаміў, што ўжо ў калёніі вывучыў беларускую мову па кнігах зь бібліятэкі. І сапраўды валодаў ёю на добрым узроўні.

Хто б мог падумаць, але родная мова ў калёніі гучала і са сцэны клюбу. Праўда, мне гэта пачуць не давялося, зь вельмі крыўднай прычыны. Якой?

## Дзень народзінаў Купалы

На пачатку ліпеня, калі я толькі спасьцігаў парадкі ў атрадзе, на ранішняй праверцы пачуў праз гукаўзмацняльнік, што ў нядзелю ў клюбе адбудзецца сьвята паэзіі, прымеркаванае да 140-й гадавіны з дня нараджэньня народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Нічога сабе! Зацікавіўся, якія ж вершы прагучаць са сцэны клюбу: раньняга Купалы ці часоў БССР? І як будзе ўпрыгожаная сцэна? Няўжо якой цытатай з клясыка, аўтара вядомага вокліча «Жыве Беларусь»? Зразумела, адразу вырашыў абавязкова трапіць на канцэрт. Але як гэта зрабіць?

Звычайны парадак праходу на мерапрыемства ў клюб такі. Калі мерапрыемства так званае рэжымнае — значыць, абавязковае, прапісанае ў пляне, да прыкладу, лекцыя, — тады ўвесь атрад вядзе ў клюб заўгас ці іншы актывіст. На ўваходзе ў клюбную зону асуджаных пералічваюць ахоўнікі — вось і ўся працэдура. А калі наведваньне дазволенае паводле жаданьня, як на фільм альбо канцэрт, дык тыя, хто хоча ісьці, зьбіраюцца разам у лякальнай зоне, падыходзяць да форткі і чакаюць там, пакуль іх не забярэ і не правядзе ў клюб дзяжурны ахоўнік. Альбо могуць папрасіць якога афіцэра, які будзе ісьці

міма, адчыніць фортку. Але тут як пашанцуе. Так, сказалі, будзе і перад сьвятам паэзіі Янкі Купалы.

І вось ужо шукаю тых, хто цікавіцца творчасьцю Купалы, карэктую свае пляны на дзень. Але раптам хлопцы патлумачылі, што мяне як схільнага да экстрэмізму, жаўтабірачніка, на канцэрт усё роўна не дапусьцяць. Што ёсьць правіла — на масавыя мерапрыемствы «экстрэмістаў» не дапускаць, мала што мы можам учыніць. «Можа каго ў закладнікі захопім», — сьмяяліся.

Але я не супакоіўся. Пайшоў да начальніка атраду і адмыслова папрасіўся папрысутнічаць на сьвяце паэзіі Купалы. Дадаў, што зь дзяцінства люблю паэзію Купалы, і мне цікава, як пройдзе сьвята. Але адказ быў кароткі, без абгрунтаваньня: «Нельга. Вам лепш быць у атрадзе».

Як усё прайшло, потым расказаў знаёмы з суседняга атраду. Зь ягоных словаў, творы славутага песьняра прадстаўлялі самі вязьні, і ня вельмі ўдала. «Прачыталі некалькі вершаў з памылкамі і разышліся», — падсумаваў асуджаны. Паводле яго, паслухаць вершы прыйшлі ў клюб усяго некалькі дзясяткаў чалавек, але, відаць, іх больш цікавіла не паэзія, а магчымасьць выйсьці з клюбу на трыбуну стадыёна, які мяжуе з клюбам. Бо сьвята паэзіі хутка скончылася, а мяч на стадыёне ганялі да вечара. Затое «птушачку» аб мерапрыемстве начальства і актывісты ў свае справаздачы паставілі.

## П’еса, як Беларусь устае з каленяў

А вось другое мерапрыемства, у верасьні, дзе таксама гучала беларуская мова, аказалася больш удалым і пакінула пра сябе большую памяць.

17 верасьня 2022 году ўлады Беларусі ўпершыню адзначалі «Дзень народнага адзінства», і ў калёніі № 15 таксама прайшлі ўрачыстасьці.

Зноў у клюб на канцэрт трапіць мне не ўдалося, і я моцна аб гэтым пашкадаваў. Бо, як расказвалі хлопцы на наступны дзень, тады быў сапраўдны фурор. Па выніку гучалі як ніколі шчырыя аплядысмэнты, і ўсе так радаваліся, што ледзь не дайшло да яднаньня зэкаў з адміністрацыяй.

Хоць, здавалася, канцэрт зноў будзе сумны, дзяжурны. Эстрадныя нумары ў выкананьні артыстаў магілёўскай філярмоніі, то бок перапеўкі расейскіх шлягераў і айчынная патрыётыка, яшчэ нешта — расказчыкі нават не запомнілі што. Затое потым…

А потым паказалі тэатральную пастаноўку, у якой гралі, верагодна, акторы магілёўскага драмтэатру. Гэта была аднаактовая п’еса пра сучасную Беларусь, якая ажывае, падымаецца з каленяў.

Сюжэт у пераказе хлопцаў выглядаў так. Праз шмат гадоў пасьля заканчэньня школы ў беларускай вёсцы сустрэліся два аднаклясьнікі. Адзін, які застаўся ў саўгасе, за гэты час вырас да дырэктара. А другі быў зьехаў на заробкі ў Расею, але добрай долі там не знайшоў. Шабашнічаў на будоўлях катэджаў для багатых, яго падманвалі,

і вось ён вярнуўся ў родную вёску, да каранёў, цяпер хоча жыць тут, пачаць усё наноў.

Але пытаньне: ці возьме аднаклясьнік-дырэктар яго на працу? Яны выпіваюць, згадваюць былое, і дырэктар пагаджаецца. Гаспадарка ў яго моцная, заробак у тысячу даляраў, але ёсьць умова — дыс-цып-ліна! Згодны? Згодны! Яны абдымаюцца, абодва шчасьлівыя. Карацей, адзінства народу. Вось такі спэктакль з падтэкстам, прычым на беларускай мове.

«А закончылася сьвята ўвогуле фэерычна, — згадалі гледачы. — Выйшаў на сцэну намесьнік начальніка па ідэалёгіі і нагадаў, што ўсе асуджаныя мараць пра амністыю. Дык давайце, кажа, паклічам амністыю! І тады ўся заля некалькі хвілін, як дзеці клічуць Дзеда Мароза, скандавала: «Ам-ні-сты-я, ам-ні-сты-я!»

Надзеі на амністыю насамрэч былі, але спраўдзіліся не для ўсіх.

Калі ў сярэдзіне верасьня палітычныя ў нашым атрадзе яшчэ верылі, што на іх таксама распаўсюдзіцца чаканая амністыя, дык пасьля «Дня народнага адзінства» гэтыя спадзяваньні пачалі таяць. Паводле праекту закону аб амністыі яна не закранала асуджаных па палітычных артыкулах, і стала зразумела, што паўтары тысячы вязьняў, якіх асудзілі з палітычных матываў, яшчэ застануцца за кратамі. Больш за тое, канвэер рэпрэсій не спыніўся, да нас у калёнію працягвалі заяжджаць новыя палітвязьні. Гэтую інфармацыю я атрымаў ужо пасьля вызваленьня.

## Спатканьне зь дзядулем як падарунак

Мінуў травень. Унучку Сафію, якой тады споўнілася 9 гадоў, потым папрасілі назваць лепшыя падарункі на дзень народзінаў. Дзяўчынка, толькі крыху падумаўшы, згадала: «А! Бабуля ўзяла мяне на спатканьне зь дзядулем у турму».

Ці мог калі ўявіць, што ўнучка будзе лічыць за падарунак спатканьне са мной у турме? Не хацеў бы сабе ў дзяцінстве такіх падарункаў. Падазраю, перажытае не забудзецца да канца дзён. Чаму дарагі і любімы чалавек у турме? Гэта ён дрэнны — ці тыя, хто яго не выпускае з турмы? А мне ж казалі, што гэта добрыя дзядзі…

Задумаўся, а колькі беларускіх дзяцей вымушаныя разважаць гэтаксама? Колькі зь іх зьведалі ў малыя гады расстаньне з кінутым у турму бацькам ці матуляй? Зразумела, лічбай гора не вымяраецца, для кожнага дзіцяці, якое засталося бяз роднага чалавека, гэта непазьбежна моцны стрэс, удар па псыхіцы. Пасьля такога ўдару варта чакаць адказу. Сын ня будзе асабліва разважаць, за што і наколькі справядліва пакаралі бацьку. У душы застанецца крыўда, псыхалягічная траўма.

Ці падлічваецца дзе колькасьць дзяцей, якія чакаюць бацькоў з турмаў? Гэта ўвогуле кагосьці ў нас цікавіць?

Паводле Інстытуту дасьледаваньняў у галіне крымінальнай палітыкі (ICPR), у Беларусі на 2022 год было больш за 32 з паловай тысячы зьняво-

леных. Мне, праўда, ня верыцца ў карэктнасьць гэтай лічбы. Найперш таму, што маю падставы не давяраць афіцыйным беларускім крыніцам, зь якіх замежныя дасьледчыкі бяруць дадзеныя для сваіх падлікаў. Паводле гэтых крыніц, колькасьць зьняволеных у Беларусі штогод зьніжаецца, але ў калёніі я бачыў зусім іншае — асуджаных усё больш і больш. Як заехаў у атрад, было крыху болей за 90, праз чатыры месяцы ўжо каля 110. І большасьць зь іх — людзі адносна маладога і сярэдняга веку. Ня менш як у траціны на волі засталіся дзеці.

З прычыны палітычных рэпрэсій з 2020 году колькасьць беларускіх дзяцей, якія часова асірацелі хаця б на аднаго з бацькоў, таксама павялічылася. Толькі за кошт палітвязьняў у вязьніцах паболела амаль на паўтары тысячы чалавек. Сотні сярод іх — бацькі. Часьцей гэта нечыя таты, але нямала і тых сем’яў, дзе ў няволі маці, як тая ж нязломная Паліна Шарэнда-Панасюк зь Берасьця. А дачка Ігара і Дар’і Лосік цяпер засталася і бяз таты, і бяз мамы!

Бацькі ў няволі вельмі моцна перажываюць разлуку зь дзецьмі. Бачыў на свае вочы, што гэта аднолькава тычыцца ўсіх вязьняў, ня толькі палітычных.

Згадваю такую сустрэчу ў магілёўскай турме. На просьбу асуджанага за няспалату аліментаў Мікалая давялося маляваць партрэт ягонага малога сына. Арыгіналам быў пацёрты фатаздымак. Пацікавіўся, навошта яму малюнак? Мікалай адвёў вочы і ўсё ж расказаў сваю гісторыю. З жон-

кай ён у разводзе, сына даўно ня бачыў. І нават ня ўпэўнены, што сын пазнае яго пры сустрэчы. Чаму не сустракаецца з сынам? «Ды яна настройвае яго супраць мяне», — раздражнёна прызнаўся Мікалай і дадаў, што хоча перадаць сыну ягоны партрэт як падарунак на дзень народзінаў. «А што яшчэ адсюль перадаць…»

Дарэчы, гэта вялікі і важны кавалак жыцьця ў няволі — пісаць і размалёўваць лісты і паштоўкі зь віншаваньнямі дзецям. Па руках ходзяць трафарэты з коцікамі, кветачкамі, віньеткамі і сэрцайкамі. У дэфіцыце каляровыя алоўкі і асадкі. Часам узьнікаюць гарачыя дыскусіі, як лепш размалёўваць. Напрыклад, ці могуць сэрцайкі быць ня толькі чырвонымі ці ружовымі, але і жоўтымі, блакітнымі? Пры мне такая дыскусія скончылася міравым пагадненьнем, што калі сэрцайка адрасавана жанчыне — дык хай лепш будзе чырвонае, а калі дзіцяці — можна і блакітнае, але не зялёнае. Але тое, што дзецям большасьць татаў-арыштантаў нешта малююць, складаюць вершы, — засьведчаны мною факт. Праўда, вынік не заўсёды атрымліваецца чаканы. Бывае, што адказы на лісты так і не прыходзяць. Гэта мужчыны звычайна тлумачаць падступнасьцю былых жонак.

А што да ліста з маім малюнкам, дык Мікалай адправіў яго сваёй маці, каб тая перадала ўнуку. Але чым скончылася гэтая гісторыя, ці ўдалося аліментшчыку знайсьці падыход да сэрца пакінутага сына, мне засталося невядомым.

## Як у вязьніцах лекуюць

Меркаваньне, што ў турме ня лечаць, а толькі даюць адны і тыя ж таблеткі ад любых хваробаў, правяраў на сабе фактычна ад першага дня пасьля арышту. Ці сапраўды так? І няўжо за апошні час нічога не зьмянілася?

На мэдычны агляд пры «ўезьдзе» на «Валадарку» пайшло дзьве-тры хвіліны: памералі ціск ды спыталі, на што скарджуся, вось і агляд. На той момант збольшага быў здаровы, ні на што істотнае ня скардзіўся.

Больш, чым на мэдагляд, пайшло часу на фатаграфаваньне для асабовай справы. Спачатку чакаў, каб вызваліўся адмысловы кабінэт з дапатопным фотаапаратам. Потым маладая жанчына з сумным тварам доўга ўкладала літары-трафарэты ў нейкую рамку-лінейку — набірала мае імя і прозьвішча. Потым наладжвала апарат. Нарэшце рыпуча вымавіла: «Глядзіце ў аб’ектыў, павярніце галаву. Пачакайце... Яшчэ раз».

Уявіў, як праз шмат гадоў у міліцэйскім архіве гісторык у акулярах убачыць маё фота і зьдзівіцца, што арыштант усьміхаецца. Адмыслова склаў вусны, каб не засталося ўсьмешкі… Маеце яшчэ адно фота да соцень тысяч іншых, каго здымалі на «Валадарцы».

А ў кабінэтах першага паверху Пішчалаўскага замку, дзе афармляюць новых арыштантаў, ледзь не мінусавая тэмпэратура. На аглядзе распранаюць дагала. Калі пасьля агляду выводзяць у калідор, там ня лепш: трывалы скразьняк, цягне

холадам і цыгарэтным дымам. Стаіш пры абшарпанай сьцяне, дрыжыш, чакаючы, калі па цябе прыйдуць і павядуць у корпус, у цёплую камэру зь іншымі вязьнямі. Але замест гэтага ў тым жа калідоры заводзяць у брудны пакой з мэталічнымі нарамі ўздоўж сьцен і сьмярдзючым іржавым «ачком».

У холадзе і бяссоньні мінае кароткая ноч, і натуральна, што раніцай, калі павядуць у будучую камэру, у цябе ўжо кашаль, чмыхі і смаркачы. Дзень ты змагаесься з прастудай сам, п’еш гарбату, хлопцы даюць таблетак, але не дапамагае, і ты ўжо спадзяесься на лекара. Просіш дзяжурнага паклікаць доктара, тлумачыш, што цябе зябіць… Я чакаў два дні. Нарэшце прыйшоў фэльчар, сунуў у «кармушку» руку з тэрмомэтрам у выглядзе белага пісталеціка, прыставіў да лоба. І ўжо праз сэкунду зазначыў, што тэмпэратуры няма. Уся дапамога.

## «Усё роўна пасадзяць»

Тую прастуду я перажыў на нагах, справіўся сваімі сіламі. Але яшчэ празь месяц хвароба паўтарылася з больш сур’ёзнымі наступствамі. І не ў мяне аднаго, бо ва ўмовах скучанасьці інфэкцыя перадаецца імгненна амаль на ўсю камэру. У мяне два дні трымалася высокая тэмпэратура, часам трэсла, як ад трапічнай ліхаманкі, ноччу прачынаўся ўвесь у поце і мяняў мокрую майку на сухую. І зноў рэальнай дапамогі ад валадарскага лекара не было — атрымаў толькі адну таблетку ад

тэмпэратуры, а на пасьцельны рэжым так і не далі дазволу. Недзе праз тыдзень хвароба адступіла сама, але яшчэ месяц, фактычна да этапу ў магілёўскую турму № 4, раптоўна паколвала сэрца.

Наступны кантакт з турэмнай мэдыцынай адбыўся ўжо ў магілёўскай калёніі № 15. Першае ўражаньне, у карантыне, было нават нядрэннае.

Гэта быў канец надзвычай халоднага траўня, па начах мёрз пад ваўнянай коўдрай. Натуральна, ледзь не палова зэкаў карантыну папрастуджваліся. Добра, што празь дзень да нас прыходзіў фэльчар, да якога станавілася чарга, як у сьпякоту да бочкі з квасам. Фэльчар па мянушцы Гусейнавіч даставаў з-пад пахі тоўстую барсэтку, урачыста яе раскрываў, і пачыналася раздача рознакаляровых таблетак проста ў працягнутыя рукі. Ад галавы, ад страўніка, ад тэмпэратуры, для разрэджваньня крыві.

Не абыходзілася бяз спрэчак. Прычынай было тое, што нікому ў карантыне не аддаюць лекі з уласных аптэчак, зь якімі чалавек прыехаў у калёнію. Уласныя лекі застаюцца на складзе, пакуль асуджаны ня трапіць у атрад, але патрэба ў іх можа ўзьнікнуць у любы час. А ў хранічных хворых гэтая патрэба ніколі і не зьнікае. І вось чалавек просіць даць яму адмысловы прэпарат зь ягонай аптэчкі, а фэльчар разводзіць рукамі — не магу. І ўвесь карантын становіцца сьведкам такіх дыялёгаў з фэльчарам Гусейнавічам: «Ну дзе я табе вазьму гэтыя таблеткі? Хоць назву памятаеш?» — «Такія ружовыя, у блістары. У пакунку з маім прозьвішчам». — «Ты што?! Вас такіх у мяне

сто чалавек. Як мне вас памятаць? Колькі часу я буду шукаць твой пакунак?!»

Часьцей бывала, што ў наступны візыт Гусейнавіч усё ж прыносіў тое, што ляжала на складзе, і задаволены зэк як мог дзякаваў. Нагледзеўшыся на такія сцэны, я падумаў сабе, што ў калёніі сытуацыя з мэдычнай дапамогай будзе лепшая, чым у сьледчых ізалятарах.

Зарана спадзяваўся.

Празь некалькі дзён вядзе мяне днявальны па карантыне на камісію ў штаб, дзе будуць разглядаць рапарт, які начальнік склаў за маю памылку ў вопісе рэчаў. Вось і штаб, але мы раптам праходзім далей, да шпіталя. «Навошта? — думаю. — Яшчэ ж невядома, адправяць у ізалятар ці абыдзецца якой вымовай». Пытаюся ў днявальнага, але той маўчыць, адварочваецца.

Да нас падыходзіць афіцэр, і зь ім разам заходзім у шпіталь. Спыняемся ў калідоры каля дзьвярэй, дзе за кратамі сядзіць жанчына ў белым халаціку. У гэты момант афіцэр адыходзіць некуды па калідоры, днявальны таксама зьнікае. Лекарка праз краты пытаецца, як пачуваюся, ці маю хранічныя захворваньні. Толькі бяруся адказваць, як падыходзіць малады вязень, відаць, дзяжурны па шпіталі, углядаецца ў мяне і агаломшвае пытаньнем: «Стары, а цябе за што ў ШЫЗА?».

Пакуль лыпаю вачыма, той адыходзіць: «Ясна». Праз хвіліну вяртаецца афіцэр. Кажу яму, што лекарка дала накіраваньне на здачу аналізаў, але афіцэр са словамі «Гэта ўжо неактуальна»

бярэ мяне пад руку і цягне ў штаб. Далейшае чытачам вядома. У штабе накрычыць начальнік і прысудзіць дзесяць сутак ШЫЗА, на выхадзе мне дадуць па карку і зацягнуць у штрафны ізалятар, дзе пра мэдычны агляд ніхто і не падумае спытаць. Дык навошта быў гэты спэктакль зь нібыта атрыманьнем дазволу мэдыкаў? Выходзіць, насамрэч стан здароўя таго, каму далі ізаляцыю ў нечалавечых умовах, нікога не цікавіць?

Адказ усім асуджаным відавочны. Але адметна, што ўрэшце ўсё ж удалося атрымаць думку турэмнага мэдыка.

Было гэта ў сярэдзіне верасьня. За знойдзены ў тумбачцы кавалак хлеба зноў на мяне склалі рапарт і адправілі на камісію ў штаб. Перад камісіяй начальнік атраду павёў мяне яшчэ з адным парушальнікам парадку ў тумбачцы на праверку ў шпіталь. Ага! Вядомая ўжо схема.

Для формы фэльчар пытаецца пра здароўе, але сам гатовы і без адказаў падпісаць згоду на пакараньне штрафным ізалятарам. Але я гэтым разам вырашыў лёгка не здавацца і на пытаньне пра стан здароўя адказаў, што нездаровы, ды пералічыў наступствы, якія зьявіліся пасьля мінулага ШЫЗА. Папрасіў улічыць, што верасень выдаўся надзвычай халодны, а ацяпленьне яшчэ ня ўключанае, у такіх умовах магу ня вытрымаць і проста памерці.

На гэта фэльчар крыху раздражнёна прапанаваў зрабіць мне аналіз крыві, а потым спакойна дадаў: «Няўжо незразумела? Калі вырашылі пасадзіць у ШЫЗА, усё роўна пасадзяць».

## МРТ — праз паўгода

Гэты дыягназ турэмнай мэдыцыне дапоўняць гісторыі некаторых вязьняў.

З Алегам, хворым на цукроўку, сядзеў яшчэ ў магілёўскім сьледчым ізалятары і бачыў, як яму было складана — з такім захворваньнем апынуцца ў няволі. Тры разы на дзень Алега падзывалі да «кармушкі» — гэта лекар перадаваў яму ўкол. Плюс адмысловая дыета, абмежаваньні ў харчаваньні: таго нельга, гэтага нельга, што ў вязьніцы дадае цяжкасьцяў.

Пабыўшы разам у СІЗА, мы з Алегам сустрэліся ў адной калёніі, хоць і ў розных атрадах, але па суседзтве, і я праз плот мог назіраць, як працягваюцца Алегавы пакуты. Раніцай да 6-й ён ужо выходзіць у лякалку, каб ісьці ў сталовую на ўкол. Гэта паўтаралася ў абед і перад адбоем. У параўнаньні з часам у СІЗА Алег заўважна схуднеў і мала гуляў. Размовы нашы адбываліся праз плот і былі кароткія, бо за размовы празь мяжу атрадаў можна было атрымаць рапарт і трапіць у ШЫЗА.

Я дакладна ведаў, што Алега, не зважаючы на ягоную цукроўку, у ШЫЗА зьмяшчаюць рэгулярна, таму лішні раз на размову яго не выклікаў. Але не ўяўляю, як з цукроўкай можна вытрымаць штрафны ізалятар зь ягоным холадам і адзіноцтвам. Там здароваму чалавеку невыносна, а што казаць пра хранічна хворага. Ня ведаю, ці трапляў Алег у ШЫЗА халоднай восеньню 2022-га, спадзяюся, пашанцавала. А калі трапіў, яму не пазайздросьціш. І заўважце, кідаць хворага на

цукроўку чалавека ў штрафны ізалятар дазваляюць прафэсійныя мэдыкі, якія давалі клятву Гіпакрата.

Яшчэ адзін прыклад — асуджаны Анатоль, зь якім пасьпеў некалькі разоў цікава пагаманіць. Анатоль двойчы падчас руху атраду траціў прытомнасьць і на хаду валіўся на зямлю. У чалавека шмат месяцаў моцныя болі ў галаве, яму яўна патрэбная тэрміновая дапамога, але аказаць яе ня могуць. «Паставілі ў чаргу на МРТ мозгу, але яшчэ паўгода чакаць. Ці дажыву, ня ведаю», — казаў Анатоль. На працу ён не хадзіў, але меў трывалы занятак — з усяго сэктару яму несьлі на рамонт гадзіньнікі, і ён неяк умудраўся амаль кожнаму даць рады. Залатыя рукі!

Віктар да арышту працаваў чыноўнікам у дзяржаўнай структуры, зьвязанай з абаронай вытворчасьцю. Сядзіць па карупцыйным артыкуле. Чалавеку пад 60 год, у яго рак страўніка другой стадыі. Лекары пры такой хваробе дазваляюць трымаць чалавека ў калёніі без аніякіх абмежаваньняў. Нават шараговыя ахоўнікі дэманструюць адносна Віктара большую гуманнасьць: калі на шыхтаваньні вязьню становіцца дрэнна і ён ня можа стаяць, тады дзяжурны дазваляе яму прысесьці на лавачку.

Празь нейкі час, як палягчэе, Віктар падымаецца, твар ягоны сьвеціцца такой удзячнасьцю за спагаду, нібы яго адарылі нечым неверагодным. Але так паўтаралася зноў і зноў, і ўсе баяліся, што Віктар больш сам не падымецца. Вязень трымаўся мужна, ня раз казаў: «Нічога, нічога. Усё

нармальна. У мяне няма толькі часткі страўніка, а ў астатнім усё нармальна».

Уладзімер — былы прадпрымальнік з Гомля. Падчас сьледзтва ў СІЗА перажыў мікраінсульт, што на прысуд ніяк не паўплывала, судзьдзя ўляпіў па максымуме — каля дзесяці гадоў. Прыбыўшы ў калёнію, Уладзімер амаль што нанава вучыўся хадзіць. І праз год ён ходзіць няўпэўнена, на шыхтаваньні роўна стаяць ня можа. Але ніякага лячэньня, акрамя таблетак, яму не прапісана. Нават цалкам ад працы на «промцы» ня вызвалілі, залічылі да «часткова занятых», што азначае вызваленьне толькі ад двух працоўных дзён зь пяці. Уладзімер не выключае, што ў любы момант можа атрымаць інсульт, і частковая нерухомасьць яму гарантаваная. І што тады? Няўжо не адпусьцяць дадому?

«Ні ў якім разе. Пакладуць у бальнічку, дзе будзе мучыцца, пакуль канчаткова не працягне ногі», — патлумачыў пры выпадковай сустрэчы асуджаны Ігар, які некалькі гадоў, бо актывіст, «пражыў» у шпіталі.

## Курыць ці жыць

Паводле шматгадовых назіраньняў Ігара, прыблізна раз на год у калёніі нехта памірае, вельмі часта ад раку. Вось і ўлетку, зусім нядаўна, памёр ад раку вязень, які адбыў толькі палову тэрміну. Тут я згадаў, што, магчыма, бачыў яго ў калідоры шпіталя, калі прыводзілі на мэдычны агляд перад ШЫЗА. Такі дзіўнага выгляду, чамусьці ўвесь у

бінтах, крычаў нешта няўцямнае, яшчэ падумалася — ці не вар'ят? Так, пацьвердзіў Ігар, гэта мог быць ён. Апісаньне пасуе.

Свой апошні вечар у калёніі я правёў у шпіталі, і цяпер згадваю яго як самы змрочны час, нават больш дэпрэсіўны, чым дні ў ШЫЗА. Здавалася, вакол чысьценька, італьянская плітка блішчыць. У калідоры нават і пасьля дзясятай вечара працуе тэлевізар, што ў звычайным атрадзе немагчыма. І я мог бы скакаць ад радасьці, бо заўтра мяне адпусьцяць на волю. Але выгляд пацыентаў шпіталя цалкам праганяў перадсьвяточны настрой.

Скручаныя, на мыліцах фігуры тых, хто выходзіць у калідор, — проста жах! Нейкія цені на парадзе. Шэрыя, без усьмешак твары, брытыя ў плямах патыліцы. Позіркі, зь якімі балюча сустракацца вачыма, столькі ў іх зайздрасьці і безнадзейнасьці адначасова. Так, тут не жыве ніякая надзея.

Заўважыў: перад тым як зайсьці ў прыбіральню, там не запальваюць сьвятло. Заходзіш, а ў цемры сьвецяцца агеньчыкі цыгарэт. Аказваецца, хворыя не ўключаюць сьвятла, каб ахоўнікі з вуліцы ня ўбачылі, як яны кураць, бо гэта ў шпіталі забаронена. Значыць, пакараньня за цыгарэты людзі баяцца, але не баяцца пагоршыць сваё здароўе. Ім усё роўна?

Мае змрочныя здагадкі Ігар пацьвердзіў. Сам ён у калёніі больш за дзесяць гадоў, кажа, усяго нагледзеўся і зрабіў выснову, што асуджаныя да няволі лёгка становяцца здабычай раку. Такі лад жыцьця: штодня стрэс, боязь, што за нешта па-

караюць, пасадзяць, пазбавяць элемэнтарнага. Плюс кожнага мучыць пачуцьцё віны перад сваякамі, асэнсаваньне таго, што жыцьцё мінае дарэмна і ў будучыні нічога лепшага можа не чакаць. Плюс штогадзінна вязьні кураць, і так дзевяноста працэнтаў кантынгенту. «Вось сярод ахоўнікаў заўзятых курцоў толькі палова, а нашы смаляць як паравозы», — заўважыў Ігар. Таксама ён наракаў на якасьць ежы, на недахоп сьвежага паветра. «У выніку здароўе падарванае, і нават калі ты нарэшце выйшаў на волю, рак цябе можа дагнаць».

Ігар згадаў лёс стваральніка «Данькоў-клюбу» Юрыя Данькова. Таго самага, які ў 2006 годзе спрабаваў стаць прэзыдэнтам, а праз колькі гадоў трапіў за краты нібыта за арганізацыю прытону. Данькоў адбываў свой тэрмін тут, у «пятнашцы», Ігар пазнаёміўся зь ім у шпіталі. «Вызваліўся Данькоў і праз пару год памёр ад раку. Тыповы канец, шмат такіх тут бачыў», — закончыў аповед Ігар.

## Ажно тры віды таблетак

Бывае і такое, што мэдыкі ўсё ж сумленна робяць сваю справу, насуперак сыстэме намагаюцца вылечыць хворых вязьняў, дапамагчы добрай парадай і лекамі.

Неяк на пачатку ліпеня з карантыну ў наш «кубрык» перавёўся хлопец, які вельмі моцна кашляў па начах. Тое, што побач зь ім немагчыма было спаць, палова бяды. Інфэкцыя, якую ён прынёс,

аказалася настолькі моцная, што неўзабаве закашляў увесь пакой. Мала таго — пасьля кашлю шмат у каго зьявіліся ўскладненьні. Адзін мой сусед дадаткова захварэў на вушы, другому не даваў жыцьця моцны катар.

Калі ў мяне, акрамя кашлю, таксама зьявіліся дадатковыя праблемы са здароўем, ня вытрымаў і пайшоў на прыём у мэдчастку. У той дзень тэрапэўта не было, прыём вёў фэльчар, пра якога ўсе казалі, што ў яго таблетак ня выпрасіш, ня тое што добрага лячэньня. Ужо сабраўся чакаць тэрапэўта, але потым усё ж стаў у чаргу да фэльчара. І не памыліўся.

Паслалі зрабіць аналізы, потым фэльчар уважліва выслухаў і выпісаў ажно тры віды таблетак, у тым ліку антыбіётык. Ды так шчодра, што хапіла, каб акрыяць, і ў запасе засталося. Калі ўзьнікала патрэба, дзяліўся таблеткамі зь сябрамі — ім таксама дапамагло. І ўспамінаў добрым словам фэльчара. Дарэчы, таго самага, які празь месяц скажа мне шчыра наконт шанцаў апынуцца ў ШЫЗА, што «калі вырашылі пасадзіць, усё роўна пасадзяць».

Такія яны, турэмныя мэдыкі. З выгляду суворыя, нутром добрыя, але сыстэмы не ламаюць.

## Станіслаў Шушкевіч

У канцы чэрвеня зь ліста ад жонкі даведаўся пра сьмерць Станіслава Шушкевіча.

У 1990-х гадах даводзілася зь ім шмат кантактаваць: браў інтэрвію, камэнтары, проста пры

нагодзе было цікава і карысна пагаварыць зь вядомым чалавекам. Цяпер насамрэч перажываў з прычыны гэтай сьмерці і падзяліўся настроем з суседзямі па «кубрыку».

«Ты знаў Шушкевіча? Нічога сабе! Раскажы», — хлопцам, каму за трыццаць, сапраўды было цікава. А вось маладзейшыя мой расповед спачатку слухалі няўважліва. «А гэта хто такі, Шушкевіч?»

Важна было патлумачыць маім новым сябрам ня толькі ролю Станіслава Станіслававіча ў ключавых для Беларусі падзеях, але і абмеркаваць ягоныя памылкі ды іх прычыны. Прыйдзе час, і беларусам зноў давядзецца ісьці дарогай стварэньня дэмакратычных інстытутаў, на якую мы былі выйшлі разам з Шушкевічам.

З чалавекам, якога называюць адным з трох «магільшчыкаў Савецкага Саюзу», лёс зьвёў у 1989 годзе, у час, калі пачалася кампанія выбараў на зьезд народных дэпутатаў СССР.

Зьявіўся гэты вышэйшы орган дзяржаўнай улады з ініцыятывы Міхаіла Гарбачова дзеля прасоўваньня рэформаў, якія пачалі буксаваць. «Прарабы перабудовы», як называлі ініцыятараў перамен, вырашылі, што прыйшоў час дадаткова абаперціся на народ, і прыдумалі склікаць нешта кшталту ўстаноўчага сходу, зь якога потым абяруць сапраўдны парлямэнт — Вярхоўны Савет СССР. Але атрымалася тое, чаго ніхто не чакаў.

Сапраўдныя канкурэнтныя выбары, паседжаньні з бурнымі дыскусіямі, за якімі па ра-

дыё і тэлевізіі сачыла ўся краіна, стварэньне дзеяздольнай апазыцыі ў выглядзе МГД — міжрэгіянальнай групы дэпутатаў. Ужо на першым зьезьдзе дагаварыліся да найвышэйшай крамолы — прапановы скасаваць у Канстытуцыі артыкул аб вядучай ролі кампартыі! Па тых часах — жах! Гэта як цяпер на Ўсебеларускім сходзе заявіць пра нелегітымнасьць Лукашэнкі.

Але гэта ўсё будзе крыху пазьней, а на пачатку году яшчэ належала абраць саміх народных дэпутатаў. Прарэктар БДУ Станіслаў Шушкевіч вырашыў балятавацца, яго падтрымалі калегі па ўнівэрсытэце.

Тады я працаваў адказным сакратаром самай тыражнай (за 600 тысяч экзэмпляраў) у Беларусі газэты, «Знамя юности», друкаванага органа беларускага камсамолу. На рэдкалегіі прагледзелі сьпіс кандыдатаў, і ўзьнікла ідэя зьвярнуць увагу на Станіслава Шушкевіча — яркі, цікавы чалавек, гутарка з такім абяцала журналісцкую ўдачу. А ў эпоху галоснасьці гутаркі сталі ў газэтах ледзь ня самым папулярным жанрам, бо зьявіўся вялікі попыт на новыя ідэі, сьмелыя думкі, шчырасьць выказваньняў. І вось, папярэдне сазваніўшыся, адправіўся да Шушкевіча ў БДУ.

Столькі гадоў мінула, і ўжо ня памятаю, якія дакладна пытаньні задаваў Станіславу Станіслававічу. Затое запомнілася, што быў уражаны ягоным кругаглядам, палітычнай сьмеласьцю, пачуцьцём гумару. Яшчэ ў Шушкевічу падкупляла шчырасьць. З гутаркі, якая адбылася ў ягоным

працоўным кабінэце, выйшаў зь перакананьнем, што ў нас будзе моцны палітык.

Зноў пачалі камунікаваць пасьля жніўня 1991 году, калі праваліўся путч ГКЧП і Станіслава Шушкевіча абралі старшынём Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня ўжо незалежнай Беларусі. А яшчэ праз тры месяцы адбыліся Віскулі: Шушкевіч, Ельцын і Краўчук падпісалі Белавескае пагадненьне, у якім абвясьцілі распад СССР.

Дарэчы, спачатку я быў зьдзіўлены актыўнай роляй Станіслава Шушкевіча ў распадзе «імпэрыі зла». У маім ранейшым уяўленьні Шушкевіч быў палітык не настолькі адчайны, каб увязацца ў гульню з такімі вялікімі стаўкамі. Ён жа падтрымліваў Гарбачова ў ягоных намаганьнях захаваць СССР у новым саюзе. Але тут я памыліўся.

Цяпер сваім знаёмым у калёніі тлумачыў той паварот Шушкевіча тым, што ён быў сапраўдным навукоўцам, фізыкам, і змог пралічыць, што ў СССР не засталося дастаткова рэсурсаў, каб утрымліваць далей 15 рэспублік разам. У выніку паехаў у Віскулі і падтрымаў варыянт стварэньня СНД — саюзу незалежных дзяржаў. Але абрысы новага саюзу Шушкевіч, здаецца, пэўна не ўяўляў.

Тут у мяне быў адзін успамін.

## Ядзерная зброя ў Беларусі

У сьнежні 1991 году, неўзабаве пасьля падпісаньня Белавескіх пагадненьняў, на прэсавых канфэрэнцыях у Вярхоўным Савеце, дзе

даводзілася працаваць як карэспандэнту недзяржаўнай газэты «Свабода», журналісты шмат разоў спрабавалі атрымаць ад Шушкевіча адказ, чаго чакаць далей, у штоператворыцца прастора, якую раней называлі СССР. Калі СНД, як тлумачыў Шушкевіч, гэта ня новая дзяржава, а саюз незалежных дзяржаў, то чаму пад кантролем Масквы застаецца агульнае войска і, самае галоўнае, — ядзерная зброя, разьмешчаная ў тым ліку на тэрыторыі Беларусі?

Ужо і раней Станіслаў Шушкевіч прынцыпова выказваўся за адмову Беларусі ад валоданьня ядзернай зброяй і нэўтральны, няблёкавы статус краіны. Чуў ад яго і такі аргумэнт, што ў Беларусі ў пераліку на колькасьць насельніцтва ядзерных боегаловак больш, чым у любой іншай з новых краін, апрача Расеі. Шушкевіч добра разумеў, што Беларусь, пакуль у яе застаецца гэтая зброя, будзе ў закладніках — у выпадку канфлікту Расеі з Захадам яна непазьбежна стане мішэньню для ракетнага ўдару ў адказ. «Гэта нам ня трэба», — настойваў старшыня Вярхоўнага Савету Станіслаў Шушкевіч.

Але пры гэтым не гучала тлумачэньняў, што робіцца зь ядзерным арсэналам цяпер, хто за ім даглядае, хто фінансуе абслугоўваньне, куды і калі яго перададуць і ці ня варта атрымаць за яго кампэнсацыю. Тут Станіслаў Шушкевіч адмоўчваўся альбо спасылаўся на тое, што пытаньне сакрэтнае, парлямэнт і ўрад разьбяруцца з гэтым у закрытым парадку. Шушкевіч раней кіраваў катэдрай ядзернай фізыкі ў БДУ і мог уявіць пра-

блемы, зьвязаныя з разьмяшчэньнем гэтай зброі ў Беларусі. Але мы, маладыя журналісты, маглі палічыць, што ён нешта недаацэньвае. Нам хацелася ад яго больш адказаў, больш адкрытасьці.

На пачатку 1992 году са мной зьвязаліся журналісты японскага тэлеканалу NHK з просьбай дапамагчы ў арганізацыі інтэрвію з Станіславам Шушкевічам. Тлумачылі, што як прадстаўнікоў краіны, пацярпелай ад выбухаў дзьвюх атамных бомбаў, найперш іх цікавіла менавіта ядзерная бясьпека. Усе ведалі, што на тэрыторыі Беларусі ёсьць ракеты зь ядзернымі боегалоўкамі, але хто іх кантралюе? Па-ранейшаму Масква ці ўжо Менск? Хто можа гарантаваць бясьпеку ва ўмовах, калі ёсьць два гаспадары?

Лідэр новай незалежнай Беларусі пэўна мог бы ўнесьці яснасьць у гэтае пытаньне, але да яго была чарга з прадстаўнікоў вядомых міжнародных мэдыя. Дапамагло ранейшае, яшчэ па працы ў камсамоле, знаёмства з памочнікам Станіслава Шушкевіча Іванам Сьцяпурам. Інтэрвію адбылося.

Японскія журналісты былі ў захапленьні ад размовы зь лідэрам незалежнай Беларусі — адкрыты, шчыры, кампэтэнтны, добразычлівы. «А што ён казаў пра нашу ядзерную зброю?» — паспрабаваў я распытаць калегу з NHK пасьля інтэрвію. Японскі журналіст адказаў, што Станіслаў Шушкевіч прапануе адмовіцца ад ядзернай зброі і мяркуе, што парлямэнт яго ў гэтым падтрымае. Але больш яны гаварылі пра наступствы Чарнобыльскай катастрофы. «У Японіі

вялікі досьвед ліквідацыі падобных наступстваў, у прыватнасьці, у лячэньні людзей, пацярпелых ад радыяцыі. Мы падзяляем ваш боль, што ад Чарнобылю будуць пакутаваць і будучыя пакаленьні беларусаў, і мы гатовыя дапамагаць», — дадаў японскі калега.

Мяркую, на той момант лёс беларускай ядзернай зброі яшчэ ня быў вызначаны, і задаваць пытаньні на гэтую тэму было бессэнсоўна. Дый магчымасьцяў ужо амаль не было. Станіслаў Шушкевіч як старшыня Вярхоўнага Савету краіны для журналістаў стаў дасяжны толькі на прэсавых канфэрэнцыях, а мае нефармальныя адносіны зь ім зусім спыніліся. Збольшага, гэта ўспрыняў цалкам нармальна. Новыя рэаліі.

## Ельцын — Шушкевічу: «Ну дай сказаць»

Пачатак 1992 году быў пікам папулярнасьці Станіслава Шушкевіча ня толькі сярод журналістаў. Памятаю дадзеныя сацыялягічных апытаньняў: яго тады падтрымлівалі да 50%. На жаль, гэты паказьнік далей будзе толькі зьніжацца.

Законапраекты адносна рэформаў, найперш эканамічных, у парлямэнце буксавалі, а Шушкевіч разводзіў рукамі — «Не мая справа, ня маю паўнамоцтваў». І, канечне, было вельмі балюча назіраць за тым, як ён, раней такі адкрыты і дэмакратычны, паціху мяняўся, абрастаў бюракратычным панцырам.

У 1992 годзе ў Беларусь некалькі разоў прыяжджаў першы прэзыдэнт Расейскай Фэдэрацыі Барыс Ельцын. Памятаю, як у адзін зь візытаў Ельцын наведаў Вярхоўны Савет. Яны ішлі па плошчы ў Дом ураду разам, Шушкевіч нават крыху паперадзе Ельцына. Абодва сьпяшаліся.

Акрэдытаваныя ў парлямэнце журналісты чакалі ўнутры, а іншыя, каму не дасталася акрэдытацыі, паспрабавалі распытаць палітыкаў пра мэты візыту на плошчы. Асабліва цікавіў лёс войскаў і ядзернай зброі, што засталіся на тэрыторыі Беларусі пасьля распаду «імпэрыі зла».

І вось, убачыўшы журналістаў зь мікрафонамі, Барыс Ельцын зрабіў некалькі крокаў у наш бок. Адразу пасыпаліся пытаньні. Але наблізіўся Станіслаў Шушкевіч і літаральна адцягнуў за рукаў паліто гаваркога калегу. «Барыс Мікалаевіч, гэта ж такія журналісты, ім скажы, усё перайначаць…» Але Ельцын упёрся: «Ну дай сказаць». І нешта сказаў, але так, агульныя фразы.

У журналісцкай кампаніі, якая чакала на плошчы двух палітыкаў, мацней за беларусаў расчаравана вохкалі (і ня толькі вохкалі) расейскія калегі. За тое, каб здабыць першымі кожнае слова Ельцына, яны гатовыя былі біцца з кім заўгодна, а тут такі аблом! І хто сапсаваў маліну — нейкі старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі... У мяне ж былі свае рэзоны для шкадаваньня — вось і паважаны мною Станіслаў Станіслававіч бранзавее, ад журналістаў пачынае трымацца далей і далей.

## Зянон Пазьняк: «Нават крэсла б падтрымалі»

Найбольш прынцыпова і жорстка крытыкаваў Станіслава Шушкевіча лідэр апазыцыі БНФ Зянон Пазьняк. За нерашучасьць, саступлівасьць Расеі, спробы ўлагодзіць намэнклятурную большасьць. Вочы Пазьняка проста іскрыліся, калі ён выказваўся пра непасьлядоўнасьць Шушкевіча. Пры гэтым у 1993 годзе, калі пракебічаўская большасьць першы раз спрабавала скінуць Станіслава Шушкевіча з пасады кіраўніка парлямэнту, толькі дзякуючы падтрымцы апазыцыі БНФ ім гэта не ўдалося. Быў на той прэсавай канфэрэнцыі, калі Зянон Пазьняк акрэсьліў сытуацыю наступным чынам: «Нават крэсла б падтрымалі, каб не было горш».

У Зянона Пазьняка тады, у 1990-х, было вельмі шмат прыхільнікаў, мільёны. Цяпер сярод маіх новых сяброў у калёніі таксама знайшоўся чалавек, які дагэтуль называе сябе пазьнякоўцам.

## Хто зарубіў рэфэрэндум

Вязьня звалі Сяргеем. Уласна, наша сяброўства і пачалося зь ягонага прызнаньня, што некалі ў 1994 годзе, на першых прэзыдэнцкіх выбарах, ён галасаваў за Зянона Пазьняка, а не за Станіслава Шушкевіча. Чаму былы мэханік тады зрабіў такі выбар? Таму, патлумачыў Сяргей, што Шушкевіч «зарубіў рэфэрэндум», на якім мог вырашыцца лёс краіны. «Беларусь магла стаць нармальнай

краінай. Ня стала — і ператварылася, прабач, у… гаўно!» — злаваў новы сябра. На гэтым моманце маладыя вязьні ўдакладнялі: пра які рэфэрэндум гаворка?

Паспрабаваў праверыць суразмоўцаў на веданьне гісторыі Беларусі. Якія былі ў нас рэфэрэндумы? Нехта ўспомніў рэфэрэндум 1996 году, калі Лукашэнка зьмяніў Канстытуцыю і фактычна пачаў правіць аднаасобна. Але не, ня тое. Тады згадалі, што годам раней Лукашэнка зладзіў незаконны рэфэрэндум аб дзяржаўнай мове і дзяржаўнай сымболіцы, пасьля якога расейскую мову зрабілі другой дзяржаўнай, а бел-чырвона-белы сьцяг замянілі на чырвона-зялёны. Не, яшчэ раней.

Сяргей патлумачыў, што казаў пра іншую падзею — пра ініцыятыву дэпутатаў ад БНФ правесьці рэфэрэндум аб датэрміновым роспуску Вярхоўнага Савету і выбарах новага парлямэнту. Прычына — што Вярхоўны Савет 12-га скліканьня абіраўся яшчэ ў часы СССР, а з таго моманту палітычная сытуацыя настолькі зьмянілася, што парлямэнт нават прыблізна ўжо не адпавядаў настроям грамадзтва.

Ініцыятыва была аформленая ў 1992 годзе, сябры БНФ праз свае мясцовыя арганізацыі сабралі каля паўмільёна подпісаў за правядзеньне такога рэфэрэндуму. Ва ўсякім разе, значна больш, чым патрабаваў тагачасны закон. На свае вочы бачыў вялікія кардонныя скрыні з подпісамі, якія актывісты БНФ прывезьлі ў Цэнтравыбаркам. Яму заставалася прызначыць дзень рэфэрэндуму, калі

за гэта прагаласуе Вярхоўны Савет. Якраз ішла сэсія, і настрой грамадзтва быў спрыяльны для посьпеху ідэі перавыбараў. Але Станіслаў Шушкевіч не паставіў пытаньне на галасаваньне, і дэпутаты разышліся на адпачынак. Чаму так адбылося?

Пазьней палітык спасылаўся на расклад сіл у парлямэнце. На думку Шушкевіча, ініцыятыва ўсё роўна б не сабрала патрэбнай колькасьці галасоў, а правакаваць людзей на вулічныя пратэсты ён лічыў няправільным.

Мяркую, што тагачасны Вярхоўны Савет сапраўды не прагаласаваў бы за правядзеньне плебісцыту, бо вынікам яго сапраўды маглі стаць новыя выбары. Відаць, у такім выпадку апазыцыя разьлічвала вывесьці на вуліцы тысячы сваіх прыхільнікаў і дамагчыся свайго праз грамадзкі ціск. Але нерашучасьць Станіслава Шушкевіча стала перашкодай. Як тады многія вырашылі, тагачасны старшыня Вярхоўнага Савету проста баяўся датэрміновых выбараў, бо ня быў упэўнены, што ў новым парлямэнце атрымае тую ж пасаду.

Пытаюся цяпер у Сяргея, ці быў шанец тады, у 1993 годзе, абраць парлямэнт з дэмакратычнай большасьцю? Пайшлі б людзі за Пазьняком?

Сяргей сьцьвярджае, што шанец на рэформы яшчэ быў, людзі іх чакалі, бо рэальных рэформаў яшчэ і не праводзілі. «Толькі што прэса зьявілася недзяржаўная, бізнэс крыху заварушыўся. А больш нічога. Прыватызацыя забуксавала, сялянам зямлю не даюць, як у Расеі ці Ўкраіне».

Пагаджаюся. Калі б на пачатку 1993 году, як плянавала апазыцыя, прайшлі новыя пар-

лямэнцкія выбары і па іх выніках сфармавалі б рэфарматарскі ўрад ды прынялі дэмакратычную Канстытуцыю, цяпер жылі б значна лепш. У нэўтральнай, рынкавай, дэмакратычнай краіне. Зразумела, змагаліся б з карупцыяй, тутэйшыя алігархі зводзілі б рахункі, сымпатыі выбарцаў хісталіся б улева-ўправа. Але дакладна гэта была б не прэзыдэнцкая краіна, бо ідэя прэзыдэнцтва тады збольшага не ўхвалялася грамадзтвам, расчараваным ва ўладзе камуністаў. Гэтую ідэю праціснула ў Канстытуцыю камуністычная большасьць Вярхоўнага Савету — чырвоныя дырэктары, старшыні калгасаў, вэтэраны ды партыйныя і савецкія намэнклятуршчыкі. Яны рыхтавалі прэзыдэнцкае крэсла пад тагачаснага прэм'ера, іх лідэра Вячаслава Кебіча. Але перабольшылі свае сілы і пралічыліся.

## Скрыня ржавых цьвікоў

Вяртаемся да размовы пра Станіслава Шушкевіча. Заклікаю не забываць, што гэта пры Шушкевічу стварылі беларускую армію, памежны камітэт і мытню, беларуская мова стала адзінай дзяржаўнай. Ён шмат рабіў важнага для замацаваньня фундамэнту незалежнасьці.

Альбо ўзяць адмову ад ядзернай зброі. Беларусь першай у сьвеце падпісала адпаведныя міжнародныя дакумэнты і пачала іх выконваць — яшчэ пры Шушкевічу з тэрыторыі Беларусі вывезьлі тактычную ядзерную зброю (ад стратэгічных ядзерных ракет пазбавіліся ў

1996-м, калі ўжо правіў Лукашэнка). У сьвеце Беларусь за Шушкевічам адназначна асацыявалася з прагрэсам грамадзтва, рынкавымі рэформамі і міралюбнай палітыкай. А цяпер — выключна з дыктатурай.

Кантраст паміж тым, як Шушкевіча ўспрымалі ў сьвеце і як цанілі дома, асабліва выявіўся ў гісторыі зь ягонай адстаўкай. Яна адбылася пры канцы студзеня 1994 году.

За паўтара тыдня перад тым у Беларусь зь візытам прыляцеў прэзыдэнт ЗША Біл Клінтан. Першы і пакуль апошні раз у нас пабываў лідэр дэмакратычнага сьвету. Пасьля перамоваў з кіраўніцтвам Беларусі Клінтан наведаў Курапаты, выступіў у Акадэміі навук перад прадстаўнікамі грамадзкасьці.

Для маладой краіны падобны візыт — адназначны палітычны посьпех яе лідэра, умацаваньне ягоных пазыцый. І новыя пэрспэктывы на шляху ў Эўропу. Мяркую, гэтага больш за ўсё і забаяліся. Камуністычная большасьць у парлямэнце разыграла спэктакль са «скрыняй ржавых цьвікоў», за якія нібыта не расплаціўся старшыня Вярхоўнага Савету, калі рамантаваў лецішча. Для гэтага ім і прыдаўся дэпутат Лукашэнка — абвясьціў пра «злоўжываньне становішчам». (Дарэчы, менавіта Шушкевіч годам раней рэкамэндаваў Лукашэнку на пасаду старшыні антыкарупцыйнай камісіі). Гэтым разам за адкліканьне Шушкевіча з пасады старшыні галасавалі і некаторыя дэпутаты зь ліку дэмакратаў.

## Калі Шушкевіч расчараваўся ў Ельцыну

У ліку некалькіх журналістаў наступным вечарам пасьля адстаўкі Станіслава Шушкевіча я апынуўся на ягоным лецішчы. Мы сядзелі ў сталовай, дзе над кушэткай быў умацаваны бак, звараны зь лістоў нержавеючага жалеза. Гаспадар у гэтым баку грэў ваду ацяпляць дом. Калі вада даходзіла да пэўнай тэмпэратуры, сьценка выгіналася, і гучаў хлапок. Шушкевіч супакойваў гасьцей, каб не баяліся. «Тут усталявана рэле, яно адключае награваньне пры высокай тэмпэратуры, а потым зноў уключыць», — казаў ён з гонарам за зробленую ім самім прыладу. Калі ж загаварылі пра адстаўку, гаспадар бадзёрыўся, казаў, што ня сыдзе з палітыкі. Так і атрымалася. Але тады па твары Шушкевіча было бачна, што ён вельмі перажывае, расчараваны і пакрыўджаны.

Гэта было тое самае лецішча, праз якое яго адправілі ў адстаўку з пасады сьпікера. І мы маглі пераканацца, што будынак сьціплы, рамонт даўно скончаны, і ўвогуле цьвікі ні пры чым. Сам Шушкевіч казаў, што прычынай адстаўкі стала менавіта тое, што Беларусь пры ім задалёка разьвярнулася з усходняга кірунку на заходні. Але зьдзіўляўся — дысбалянс у бок Расеі яшчэ вялікі.

Відаць, крыўдна было Станіславу Станіслававічу адразу пасьля трыюмфальнай сустрэчы зь Білам Клінтанам пазбавіцца пасады. Было бачна, што сам у гэта яшчэ ня можа паверыць. Але ані слова не сказаў пра магчымую ролю спэцслужбаў

і ролю Расеі. Проста гэта не камэнтаваў. Разводзіў рукамі — «Ня ведаю». Мяркую, ня быў з намі шчыры. На Барыса Ельцына, зь якім, здаецца, пасябраваў, ён мог крыўдаваць, бо яўна разьлічваў на ягонае заступніцтва. Што ж да ролі спэцслужбаў, дык каму, як не старшыні Вярхоўнага Савету Беларусі, было ведаць, чаго можна чакаць ад КДБ.

Пэўна, наступ на Станіслава Шушкевіча гэтая тайная арганізацыя рыхтавала даўно і па ўсіх франтах. Магу прывесьці такі факт.

## Званок з КДБ

У тыя гады, як ужо гаварылася, я працаваў парлямэнцкім карэспандэнтам «Народнай газэты». Недзе восеньню 1993 году ў газэце выйшаў артыкул, у якім даваўся аналіз дзейнасьці Вярхоўнага Савету і ягонага сьпікера за папярэдні год. Выснова была зробленая для Станіслава Шушкевіча ня надта прыемная. Рэформы буксуюць, час губляецца, расьце расчараваньне выбарцаў, а старшыня парлямэнту займаецца пражэктамі — у краіне, пацярпелай ад Чарнобылю, ён прапануе будаваць атамную станцыю.

Вядома, сярод высноваў былі спрэчныя, і аўтар не выключаў вострай размовы з Станіславам Шушкевічам альбо зь некім зь ягоных дарадцаў. (Бачыце, час быў настолькі дэмакратычны, што ў парлямэнцкай газэце можна было крытыкаваць старшыню парлямэнту, ды яшчэ разьлічваць на шчырую размову зь ім у ягоным кабінэце, а ня ў камэры на «Валадарцы»). Аўтарам быў я.

А першым, хто мне пазваніў з нагоды зьяўленьня артыкула, быў намесьнік старшыні КДБ Генадзь Лавіцкі.

Генадзь Лавіцкі назваўся і сказаў, што падзяляе шэраг маіх высноваў. Мы абмяняліся яшчэ парай дзяжурных фраз, і тады спадар намесьнік старшыні КДБ прапанаваў сустрэцца ды абмеркаваць тэму больш дэталёва. Для сустрэчы дастаткова будзе набраць нумар ягонай прыёмнай. Мне засталося падзякаваць і разьвітацца, але адразу вырашыў нікуды не званіць. Узьнікла думка, што супраць Шушкевіча сьпее змова, шукаюць ягоных антаганістаў, а я ў гэткіх справах ня ўдзельнічаю.

За наступныя больш як 25 гадоў пасьля адстаўкі Станіслава Шушкевіча яшчэ дзясяткі разоў кантактаваў зь ім як журналіст газэт «Свабода» і «Навіны», потым Радыё Свабода. Адзначу, што з гадамі Станіслаў Станіслававіч у камэнтарах і гутарках станавіўся ўсё больш рашучым і непахісным змагаром за незалежнасьць, усё больш крытычным як да рэжыму Лукашэнкі, так і да кіраўніцтва Расеі. Пры гэтым палітык дэманстраваў ясны розум, ад чаго размовы зь ім заўсёды атрымліваліся такім ж цікавымі, як і тады, у 1989 годзе, у лепшыя часы перабудовы. Ад інтэрвію ён ніколі не адмаўляўся, а пра 1992 год я не нагадваў.

## «Дзякуй за глыток сьвежага паветра!»

Станіслаў Шушкевіч памёр 3 траўня 2022 году. У гэтыя дні я ўжо быў у магілёўскім сьледчым ізалятары, пра сьмерць вядомага палітыка даведаўся зь ліста. А ў канцы траўня жонка на спатканьні расказала, як у Архікатэдральным касьцёле ў Менску праходзіла грамадзкае разьвітаньне з Шушкевічам. Больш як дзьве гадзіны да труны ішлі сотні і сотні людзей. Двойчы рабіліся кароткія перапынкі, каб расчысьціць труну ад кветак, для якіх ужо не хапала месца. А пасьля імшы, пакуль з сабору выносілі цела першага кіраўніка незалежнай Беларусі, людзі праводзілі яго воплескамі і скандавалі «Дзякуй!», «Дзякуй за глыток сьвежага паветра!». «Жыве Беларусь!» не гукалі зь меркаваньняў бясьпекі, згадала той момант жонка.

У той жа дзень пра разьвітаньне з Шушкевічам паведамілі на сайце прарасейскага інтэрнэт-рэсурсу «Спутник». У рэпартажы расказалі, што «разьвітацца з Шушкевічам прыйшлі ягоныя сваякі і сябры». Пра сотні ўдзячных беларусаў — ані слова. Беларускія дзяржаўныя мэдыя ўвогуле абмежаваліся толькі кароткімі паведамленьнямі пра сьмерць палітыка.

## Рэцэпт: як схуднець да непазнавальнасьці

За чатыры месяцы, праведзеныя пасьля СІЗА ў калёніі, схуднеў на 15 кіляграмаў. Чаму так шмат? Ніхто ня верыць, што там галадуюць, але чамусьці фігуры і твары тых шчасьліўчыкаў, хто выйшаў з калёніі на волю, такія падазрона «аптымізаваныя».

Што ж там адбываецца зь ежай?

«Харчы кладзі сюды, на стол. Будзем глядзець. Што гэта, маянэз? Альбо выціскай у пакунак, альбо выкідаеш. Не паложана».

Як трапляеш зь СІЗА ў калёнію, ужо на першай праверцы торбаў разумееш, што іншым тут будзе рэжым ня толькі ўтрыманьня, але і харчаваньня. Папярэджаньні, атрыманыя ў сьледчым ізалятары ад бывалых вязьняў, спраўджваюцца на 90% і нават болей. На тое, што празь няўважлівасьць

кантралёраў удасца пранесьці нешта забароненае, лепш не разьлічваць.

Мне трапіўся кантралёр з усьмешлівым, добрым тварам, але пасьля ягонай праверкі я застаўся без паловы прывезеных зь СІЗА прадуктаў. Пакунак парашку какавы паляцеў у сьметніцу, бо кантралёр заўважыў у ім белыя драбочкі цукру, а яго праносіць у калёнію забаронена. І сапраўды, крыху цукру было намяшана, можа ў прапорцыі 1 да 10, але каму ад таго шкода, ня мог потым уцяміць.

Цукар у калёнію не прапускаюць, каб асуджаныя не маглі зь яго зрабіць брагу. Але хіба я мог бы аддзяліць драбочкі цукру ад какавы? Гэта нерэальна, аднак — у сьметніцу пайшло цэлае кілё любімага напою. Такі ж лёс спасьціг і кіляграмовы пакунак кавы. За ім загадалі выкінуць цюбік маянэзу і пакуначак кетчупу. Ужо зь іншай прычыны. Аказваецца, гэтыя прыправы былі не ў празрыстай упакоўцы. Тлумачыў маладому ахоўніку, што набыў іх не на вуліцы, а ў краме сьледчага ізалятара, яны ўжо былі дасканала праверавыя. Аднак у адказ пачуў толькі прапанову перацiснуць усё ў празрыстыя пакуначкі. Для маянэзу пакунак знайшоўся, для кетчупу — не. Паляцеў у сьметніцу. Яшчэ цудам уратаваўся ад зьнішчэньня цюбік згушчонкі, якую таксама давялося выціснуць у пакуначак. Але пасьля ШЫЗА і яго выкінуў, бо ў атраднай лядоўні месца не дасталася, а ў торбе захоўваць — нязручна, дый якасьць прадукту пасьля маіх 20 дзён ШЫЗА выклікала падазрэньне.

Карацей, першым уражаньнем пасьля праверкі было пачуцьцё, што больш-менш адпрацаваная ў СІЗА сыстэма захоўваньня перададзеных з волі прадуктаў тут ушчэнт зламаная. І цяпер уся надзея на тыя харчы, якія табе дадуць у сталоўцы. На так званы «палажняк» — ад расейскага слова «положено». Але тут выявілася, што быццам нешта ў талерку «положено», а насамрэч есьці няма чаго.

## Каша — радасьць наша

Сьняданак для нашага атраду пачынаўся ў 7:15 і заканчваўся праз 20 хвілін новым шыхтаваньнем на пляцоўцы перад сталоўкай.

Калі шчыра, у першыя дні ўжо на выхадзе са сьняданку заўсёды адчуваў, што зноў хачу есьці. Тое, што пазьней пачуцьцё голаду прытупілася, — проста ад прыстасаваньня. Там хутка вучысься пераключаць увагу з рэчаў, якія раздражняюць, на нешта нэўтральнае.

Асноўнай стравай сьняданку заўсёды, кожны дзень тыдня без выключэньня, была каша. У панядзелак — прасяная. Потым панцак, ячная каша, сечка, зноў панцак, аўсянка на малацэ і зноў жа панцак альбо сечка. Да кашы заўсёды дадавалася па два кавалкі чорнага і белага хлеба дрэннай мясцовай выпечкі і шклянка мутнай гарбаты, у якой ніводнага разу ня бачыў чаінак — толькі карычневая вада.

Звычайна пяць разоў на тыдзень да кашы і гарбаты дадавалі альбо варанае яйка, альбо

кавалачак масла. Калі яйкі давалі тры разы на тыдзень, дык сьметанковае масла атрымлівалі іншыя два дні, але бывала, што масла канчалася, і яго замянялі яйкам.

Масла зэкі любяць больш. Невялікую шайбачку сьметанковага, амаль белага масла можна было намазаць на кавалак умоўна белага хлеба і зьесьці з гарбатай, а можна было паловай кавалка масла заправіць кашу. Атрымлівалася так сабе, але бяз масла некаторыя кашы ня лезьлі ў горла. Найперш панцак, які турэмныя кухары чамусьці так любяць скормліваць зэкам. Але ячная каша і сечка ня лепшыя. Калярыйнасьць такога сьняданку была настолькі нізкая, што ўжо блізу 11 гадзіны, яшчэ за дзьве гадзіны да абеду, страшэнна хацелася есьці. І што рабіць? Ратаваў свой дадатковы сьняданак, але яго мог сабе дазволіць ня кожны. Толькі пра гэта пазьней.

## «Шчы, хоць ... палашчы»

Пойдзем цяпер на абед. Уявім, што мы неяк пратрымаліся да 13 гадзіны дня і хуценька спускаемся ў «лякалку». Адчыняецца фортка, і вось ужо атрад пашыхтаваўся на дарозе, усе чакаюць паходу ў сталоўку, дзе ўжо накрываюць абед. Летам праз адчыненыя вокны мы нават можам унюхаць, што гэтым разам нас чакае — боршч ці суп з панцаком.

Дарэчы, збольшага інфармацыя пра тое, што асуджаны будзе есьці цягам дня, не закрытая. Ужо на сьняданак мэню вывешваецца на ўвахо-

дзе ў сталоўку. Праўда, не заўважыў, каб хто спыняўся і яго вывучаў.

Па-першае, няма магчымасьці. Ты хутка ўваходзіш у сталоўку, па пятах чорнай лявінай ідуць такія ж галодныя, як ты, таварышы, думаеш больш пра тое, каб хутчэй дабрацца да лесьвіцы на другі паверх, дзе нашы сталы. Ну, можа мімаходзь кінеш вокам, будзе кісель ці зноў несалодкі кампот, вось і ўся цікаўнасьць. Бо яшчэ трэба зрабіць крук да ўмывальні, каб памыць рукі, але гэта як атрымаецца.

Па-другое, разнастайнасьці ў прыгатаваных стравах усё роўна няма.

На першае звычайна боршч, альбо крупяны суп з салёным агурком, альбо капуста, але такая пустая, што пра яе зэкі, дарэчы, казалі: «шчы, хоць … палашчы». Ва ўсякім разе, за чатыры месяцы ніводнага кавалачка мяса з супу я ня вылавіў, бо яго проста не было. Мясны пах адчуваўся, дробненькія кружочкі тлушчу на паверхні плавалі, але самога мяса ня бачыў. І мае суседзі таксама.

На другую страву ў абед звычайна былі кашы, бульба ці ражкі, і вось тут да іх нарэшце дадавалася нешта мясное. Самай смачнай, звычайна ў суботу, была рысавая каша зь мясам, некаму больш падабаліся ражкі па-флёцку, то бок ражкі ўперамешку зь мяснымі валокнамі. Таксама на абед ня менш як два разы на тыдзень маглі падаваць «рагу з гародніны зь мясам птушкі». Насамрэч за гародніну выдавалі бульбу з цыбуляй, якія пахлі капустай. А ў якасьці «мяса

птушкі» выступала звычайная курыца, прычым дробненькімі кавалачкамі, так што асуджаныя пачыналі думаць, ці гэта не галубы ды галкі, якія сотнямі жылі на дахах карпусоў калёніі і часта рабіліся здабычай мясцовых катоў.

Напоем на абед заўсёды быў альбо кампот без аніякіх сухафруктаў, альбо напаўразбаўлены кісель.

## «Падэшва»

І засталася вячэра. Мне здаецца, што на вячэру адкладалася ўсё самае нясмачнае. Пераваранныя да склейваньня ражкі з палоскамі варанай каўбасы, вадкае рагу з гародніны з пахам мяса птушкі, а па чацьвяргах — панцак ці бульба з рыбнымі катлетамі. Але калі панцак ці бульба маглі быць яшчэ дастаткова добра прыгатаваныя, дык рыбу можна было есьці толькі зь вялікай галадухі і заплюшчыўшы вочы. Бо тая рыба ніколі не падавалася натуральнай формы, заўсёды гэта была перамолатая і падсмажаная рыбная маса з мойвы ціількі, са смакам рыбіных кішак і дробнымі косткамі. У вязьніцах такую рыбу зэкі грэбліва завуць «падэшвай» і талеркі зь ёю на стале амаль не чапаюць. Ну, можа, зьядаюць адсоткаў 20. Астатняе ідзе ў бачок з адкідамі.

Дадам, што за ўсе летнія месяцы і верасень ніводнага разу на сьняданак, абед ці вячэру не прапаноўвалі ані садавіны, ані гародніны. Ні ў якім выглядзе — ні сьвежай, ні кансэрваванай.

Толькі ў канцы жніўня пачалі зьяўляцца бульба і капуста, і то не ў такім аб’ёме, каб наесьціся.

Затое з канца лета раз на тыдзень, звычайна па суботах, на вячэру пачалі даваць пяльмені. Амаль па поўнай місцы! Да пяльменяў не дадавалася ніякай прыправы, ані масла, ані кетчупу. Нават на хлебе адміністрацыя ў такія дні эканоміла, але ўсё роўна гэта было сьвята зэкаўскага страўніка. Праўда, дабаўкі дапрасіцца ад дзяжурных па сталоўцы было немагчыма. Кожны пяльменьчык быў на ўліку. А вось калі кармілі панцаком, дык нават лішняй порцыі не шкадавалі.

Пытаньне: а чаму ў катле на раздачы часам багата заставалася панцаку альбо сечкі, калі гатаваць павінны былі паводле колькасьці едакоў? Некаторыя асуджаныя не прыходзяць есьці? Гэта дакладны адказ.

Звычайна разам з атрадам на абед не прыходзілі тыя, хто раніцай адпраўляўся на промку і абедаў па іншым раскладзе. Дзіўна, але ў ліпені-жніўні порцыі супоў і баршчоў для такіх асуджаных усё адно выстаўляліся на стол, іх ніхто не перашкаджаў есьці. Плюс на вячэру часта не прыходзілі тыя, хто вырашыў паесьці сваіх харчоў, атрыманых з дому ці купленых у турэмнай краме.

## «Кабан»

Вядома, хапае і адносна сытых хлопцаў. На пачатку верасьня Дзянісу, суседу па койцы, прыйшла з дому пасылка з харчамі вагой пад 50 кілё.

Такая пасылка ў калёніі завецца «кабан»: цэлая вялікая торба, забітая палкамі каўбасы, шматамі сала, пачкамі розных каш хуткага прыгатаваньня, збольшага грэчкай. Плюс печыва, яблыкі, гароднiна. Толькі разборам і пакаваньнем харчоў хлопец займаўся тры-чатыры дні, ды не адзін, а зь сябрамі, якіх вакол яго раптам значна паболела.

Штовечар, пакуль ішло пакаваньне — а трэба ж усё раскласьці па пакуначках, каб даўжэй захоўвалася — Дзяніс частаваў памагатых дадатковай вячэрай. Але нарэшце ўсё ж душа ня вытрымала, перайшоў на індывідуальнае паяданьне дамашніх прысмакаў. Толькі прыйдзе Дзяніс з палажняковай вячэры, а ўжо раскладае на зэдліку ручнічок і выкладае на ім шыхт невялічкіх «бутэраў з каўбасой», якія па чарзе зьнішчае, запіваючы кавай. Відаць, працэдура тая выклікала неймаверную зайздрасьць у навакольных маладзёнаў. На пах бутэраў прыходзілі нават з суседніх «хат». Памнецца, памнецца такі госьць, сорамна прасіць, але куды падзецца: «Дасі кавалак каўбаскі?» — «Ну, на…» — сусед у адказ мацюкаецца, але дае.

Паводле правілаў асуджанаму дазволена атрымліваць чатыры «кабаны» на год, але за парушэньне парадку яго могуць і пазбавіць перадачы. Кантралёры, маючы адпаведны загад, а то і з сваёй ініцыятывы, «дапамогуць». Мяне зь іх «дапамогай» так пакаралі ўжо на другі тыдзень, што я быў у калёніі.

## Атаварка

У турэмную краму па прадукты (гэта завецца ў калёніі «на атаварку») кожны атрад ходзіць тры-чатыры разы на месяц паводле раскладу, які штомесяц складаецца наноў. Расклад вывешваюць каля кожнай брыгады побач з раскладам выхаду на тэлефонныя званкі. За раскладамі трэба сачыць. Прапусьціш, спозьнісься з выхадам на шыхтаваньне — твая праблема, застанесься без «атаваркі».

Але трэба разумець, што зэкі ў краме грошай ня плацяць. Наяўных грошай у зэка няма і быць ня можа, бо лічыцца, што калі ў асуджаных на руках будуць грошы, дык яны пачнуць адзін у аднаго красьці, гуляць на іх у карты ды рабіць іншыя забароненыя рэчы. Грошы ляжаць на рахунку, адкрытым на імя кожнага вязьня. І на атаварку кожны можа патраціць штомесяц пэўную частку, ня болей. Прычым для розных групаў асуджаных — розны ліміт грошай. «Жаўтабірачнікі», каго паставілі на ўлік як схільных да экстрэмізму, маюць права штомесяц патраціць толькі дзьве базавыя велічыні, у 2022 годзе гэта было 62 рублі, то бок амаль 25 даляраў. А для большасьці асуджаных ліміт быў пяць базавых, то бок пад 75 даляраў.

Аднак шмат хто зь вязьняў у нашым атрадзе такіх грошай на рахунку ня меў, нават і дзьве базавыя велічыні для іх былі недасяжнай марай. Адкуль іх узяць? Зарабіць 60 рублёў на промцы нерэальна, там нармальным лічыцца, калі за ме-

сяц налічваюць тры-пяць рублёў. Што ж да дапамогі з волі ад бацькоў-сваякоў, дык шмат хто яе не атрымліваў увогуле, ці атрымліваў мінімальную. З гэтай прычыны мой сусед Вадзім выходзіў на атаварку не часьцей як раз на месяц. Адшкадуе яму маці з пэнсіі 20–30 рублёў, пералічыць на рахунак, вось на іх і «шыкуе». За блёк танных цыгарэт (а гэта 10 пачкаў) трэба аддаць амаль 20 рублёў. Застаецца толькі на пачак кавы (хопіць на тыдзень), можа яшчэ нейкі пакунак печыва. Ды жменю карамэлек атрымае на рэшту — вось і ўся атаварка. Ужо праз тыдзень страляе цыгарэты. І такіх у атрадзе ня менш за палову. А былі і тыя, хто ўвогуле ніякай хатняй дапамогі ня меў. Для іх падараваная цукерка — вялікая радасьць.

У нашай краме заўсёды можна было набыць наступныя прадукты: каўбасу, сасіскі ці сардэлькі, кандытарскія вырабы, рыбныя кансэрвы, сьметанковае масла, кансэрваваныя салаты, згушчонку ці сухое малако, сыр, гарбату, каву, джэмы, маянэз, кетчуп.

Паўтаруся, з цукеркамі, шакалядам, зэфірам і розным печывам праблем ніколі не было, а вось пра малочку, гародніну і асабліва садавіну гэтага ня скажаш. Але, паводле дасьведчаных зэкаў, узімку садавіны-гародніны ўвогуле няма, чаму можна паверыць. Бо нават у сярэдзіне лета 2022 году ў калёніі без абмежаваньняў я мог набываць у краме толькі цыбулю і часнык. Безь перабояў гандляваць агуркамі, памідорамі і яблыкамі крама пачала толькі ў канцы лета.

І гэта яшчэ ня ўся праблема. Таго, што зьявілася ў продажы, вязьню можа і не дастацца. Са мной некалькі разоў бывала, што пакуль да мяне даходзіла чарга, яблыкі канчаліся. Альбо рэгулярна зьнікалі тварожныя сыркі, бо на іх вельмі багата ахвотных — у калёніі шалёна адчуваецца недахоп кальцыю.

Дарэчы, каб захаваць адносную роўнасьць, у калёніі завялі адмысловую сыстэму. Паколькі асуджаныя заходзяць у краму па чарзе, складзенай адпаведна альфабэту, прыдумалі пэрыядычна мяняць адлік. То зьверху ўніз, то зьнізу ўверх. Калі першымі праходзілі ў краму вязьні прозьвішчамі ад А і ніжэй, дык наступным разам — ад Я і вышэй. Канечне, лепш бы завозілі ў краму больш тавару, яблык ці іншых дэфіцытаў, але чамусьці так наладзіць гандаль ніколі не ўдавалася. «А як тут прадугледзіш, чаго вам больш трэба?!» — адказвала прадавачка на прэтэнзіі, што сёньня няма згушчонкі. У выніку набралі сухога малака. А пазьней даведаліся, што і на волі згушчонка зьнікала з усіх крамаў і зьявілася толькі, калі значна падаражэла.

## Сталоўка

Будынак для прыёму ежы займае на тэрыторыі калёніі цэнтральнае становішча, і гэта невыпадкова. Штаб недзе яшчэ на падыходзе да галоўнай дарогі, клюб збоку, побач з стадыёнам, а сталоўка — вось яна, як некалі абкам партыі, на цэнтральнай плошчы. За «трыюмфальнай

аркай» у выглядзе брамы з калючым дротам наверсе і рыпучай форткай, толькі помніка Леніну не хапае, а так — атрыбутыка падобная. Лёзунг «Не згубі свой шанец на здаровае жыцьцё», газончыкі па баках, добра адрамантаваны фасад зь вялікімі літарамі «СТОЛОВАЯ». Відаць, каб зэкі не абазналіся, калі ў залеву ці сьнегапад будуць дабірацца сюды паасобку — гэта ў дрэннае надвор'е, дзякуй богу, дазваляюць.

Сама сталоўка двухпавярховая, з залямі памерам недзе 70 на 20 мэтраў на кожным паверсе і схаванай за сьцяной кухняй. Як байніцы, з кухні ў залю выглядаюць вакенцы, празь якія выдаюць дыетычнае харчаваньне. Зэкі, хворыя на цукроўку ці на іншыя хваробы са сьпісу Мінздароўя, прыходзяць да такіх вакенцаў па ежу паводле асобнага графіку.

На першым паверсе ёсьць куток з рукамыйнікамі — адзінае ў калёніі месца, дзе цячэ гарачая вада. Кранаў недзе восем. Але рукі перад ядой там мала хто мые, няма калі, трэба хутчэй заняць сваё месца за сталом. Часьцей мыюць лыжкі ўжо пасьля яды, тады стаіць амаль што чарга.

Ядуць зэкі за даўгімі сталамі ўпоперак залі. На бліжнім тарцы сталоў купкай стаяць кубкі з гарбатай ці з кампотам-кісялём, далей усё застаўлена міскамі з кашай. Падхопліваеш кубак і міску, прабіраесься паміж лаўкамі ўздоўж стала, кантралюеш пры гэтым кожны рух, каб, ня дай бог, не праліць каму гарбату на галаву, даходзіш да свайго месца на лаве і хуценька пачынаеш… Не, ня есьці. Яшчэ трэба пасьпець адламаць ад над-

рэзанага бохана кавалак белага хлеба. За чорны можна не перажываць, яго заўсёды хапае. І толькі потым сядаеш, дастаеш з адмысловага скуранога чахольчыка лыжку, за ёю скрыначку з прыправай-сольлю, і вось тады — бярэсься за кашу.

«Смачна есьці» ці «Добрага апэтыту» суседзям па стале — гэта ўжо як падказвае культура. Большасьці не падказвае, хоць адгукаюцца звычайна ўсе, хто побач. На яду застаецца дзесяць хвілін. Крыху болей, калі гэта абед, бо ў тую ж міску, дзе быў суп, яшчэ пакладуць кашы з варанай каўбасой, па якую прыйдзецца прабірацца да баландзёра. Але бывае, што другая страва ўжо чакае ў асобнай місцы на стале. Тады абед канчаецца хутчэй.

Дарэчы, ніякай каманды «Ўстаць!». Пакуль ядуць, усе паглядаюць на атраднага заўгаса. Той, як наесца, ідзе да вакна і глядзіць на плошчу насупраць сталоўкі. Менавіта там шыхтуецца чарговы атрад, што паеў. Як месца вызваляецца і падыходзіць чарга нашага атраду, заўгас проста ідзе да лесьвіцы. Вось гэта і ёсьць сыгнал канчаць зь ежай і выходзіць на двор. Тады ўсе хуценька падымаюцца — даеў, не даеў, але бяжы ўніз і шыхтуйся. Зразумела, ужо не зьвяртаюць увагі на лаўкі, на якіх сядзелі. Але ў карантыне вучылі, што пасьля яды лаўкі трэба падымаць на кранштэйны, прымацаваныя да сталоў. Толькі добрыя прыёмы хутка забываюць, тут іншыя рэаліі. Прыбяруць за намі баландзёры. Лічыцца, што ганарарам за дадатковую працу ім будуць лішнія катлеты. Ці чым там змогуць пажывіцца.

## Драма: катлета і баландзёр

Кажуць, што парадкі ў атрадзе, дзе жывуць баландзёры, даволі строгія. Адзін з нашых хлопцаў тры гады таму пасьля карантыну быў трапіў у той атрад. Прабыў паўтара года і дзякуе лёсу, што ўдалося перавесьціся. «Ды гэта, блін, катарга!» — закончыў Мікалай распавед пра сваю кар'еру баландзёра.

Спачатку ён лічыў, што паколькі апынуўся блізка да кухні, дык пашанцавала. Будзе ня толькі хлеб, але і масла з катлетай. Толькі тая лішняя катлета на карысьць Мікалаю не пайшла. Крывіцца, як узгадвае цяганьне па сталоўцы цяжкіх катлоў зь ежай, прыбіраньне посуду са сталоў, мыцьцё бруднай падлогі ў велізарным памяшканьні. А яшчэ — сваркі зь сябрамі за кавалак мяса.

«Бывала, за дзень не прысядзеш, ды на… той кусман! Тфу! Выносіў пад курткай паўбохана белага хлеба, дык кантралёры ўбачылі, спынілі. Пакаралі, а тады перавялі сюды. У роце меней, затое спакойны», — цяпер Мікалай турэмным лёсам больш-менш задаволены.

Сядзець яму яшчэ некалькі гадоў. Ходзіць на промку, дыхае мазутам, але трывае. З дому пераводамі ніхто яму не дапамагае, старая маці сама ледзь выжывае на малую пэнсію. Бывае, што зьбярэ невялічкую пасылку, вось і ўся падтрымка. Таму Мікалай жыве на тое, што тут заробіць. Каву купляе ў турэмнай краме на тыя некалькі рублёў, што налічаюць за працу на промцы. А цыгарэты здабывае тым, што адзін прыбірае «хату»

і мые ўмывальнікі — за гэта хлопцы штомесяц плацяць яму па пачку цыгарэт кожны.

Але вярнуся за свой стол. За ім маглі ўсесьціся чалавек шаснаццаць, калі ўпрытык, але два-тры месцы, часьцей у абед ці вячэру, пуставалі. У такім выпадку лішняя капуста ці панцак з каўбасой дасталіся як дабаўка іншым вязьням. Але не тады, калі да кашы давалі катлету (раз на тыдзень такое здаралася). Тады ўлік быў звышдакладны. Баландзёры перад раздачай па некалькі разоў пералічвалі катлеты і зьвяралі з колькасьцю едакоў. Ня дай бог хто атрымае лішнюю.

Ах! Падсмажаная да бранзаватасьці бачкоў, таўсмаценькая, блякла-ружовенькая і сакавітая ўнутры спадарыня катлета! Дагэтуль галаву кружыць ад твайго паху, які крыху нагадваў водар ад дамашняй, бабулінай патэльні.

Так, турэмная катлета — сапраўдная радасьць беднага арыштанта. Шкада толькі, што ўсяго адна на тыдзень. Зь якой асалодай паспытаў бы цябе зноў, але ня дай бог вярнуцца ў тую халодную сталоўку з расчыненым вакном, у якое нахіліўся заўгас, а мы чакаем ягонага позірку, а пакуль не павярнуўся, запіхваем тую катлету ў рот, каб яшчэ пасьпець запіць яе кіславатым кампотам. Хутчэй!

## «Запаўняем» і «Праходзім»

І коратка паразважаю пра тое, чаму заходзіць у сталовую і выходзіць зь яе пасьля прыёму ежы даводзіцца так хутка, ледзь не бягом. Здавалася б,

куды ляцець? І ўвогуле, чаму ў сталовую заходзяць па нейкім дзіўным графіку? Чаму атрады з нашага корпусу елі амаль на гадзіну пазьней за атрады з суседняга? У чым прычына такой затрымкі?

Паводле маіх падлікаў, умяшчальнасьць аднаго паверха сталовай — каля 700 месцаў. Паверхаў два, то бок адначасова могуць есьці каля паўтары тысячы асуджаных. А ўсяго іх у калёніі прыблізна дзьве тысячы.

Значыць, каб іх накарміць, трэба спачатку па чарзе завесьці ў сталоўку паўтары тысячы чалавек, усіх рассадзіць, накарміць, потым гэтаксама па чарзе вывесьці, пералічыць на плошчы і вывесьці на вуліцу, а за гэты час прыбраць частку сталоў і накрыць порцыі яшчэ прыблізна для 500 чалавек. То бок мусіць працаваць такі зладжаны канвэер, у якім кожны выконвае сваю ролю: кухары, баландзёры, заўгасы, кантралёры. І, вядома, гэты канвэер мусіць рухацца вельмі хутка. Вось таму, каб не замарудзіўся працэс выхаду з сталовай, заўгасы атрадаў мусяць адсочваць, што адбываецца на плошчы, і прысьпешваць сваіх падапечных.

Апішу, як праходзіць апошняя стадыя паходу ў сталоўку, а менавіта выхад зь яе. Нагадаю, мы выйшлі з казармы шыхтавацца на абед у 13:00, прыблізна ў 13:10 ужо сядзім за сталамі, паелі недзе за 20 хвілін, і ўжо ў 13:35 выходзім і шыхтуемся на плошчы перад сталоўкай. У шыхтах павінна быць па пяць чалавек. Наперадзе жаўтабірачнікі, апошні шыхт — на пару крокаў далей за

перадапошні — гэта тыя няшчасныя, чый статус ніжэйшы. Звычайна вязьні становяцца ў шыхты ўжо знаёмым складам, але парадак часта парушаецца, бо нехта яшчэ не дайшоў, нехта стаў не на сваё месца. А ўжо набліжаюцца кантралёры, якім трэба ўсіх пералічыць і параўнаць вынік з той лічбай, якая была да пачатку абеду. Калі кантралёр бачыць, што ў нейкім шыхце меней за пяць чалавек, гучыць каманда «Запаўняем!», пасьля якой заднія запаўняюць вольныя месцы наперадзе.

Нарэшце шыхты запоўненыя і выраўненыя амаль пад лінейку. Кантралёр праходзіць атрад з канца ў канец, лічыць пяцёркі. Складае і параўноўвае зь лічбай, якая была да прыходу ў сталовую. Калі сышлося, тады дае каманду атраду выходзіць з плошчы за браму, на дарогу. Прычым каманда тая гучыць не як у войску, «Шагом марш!», што здавалася б лягічным. Не! Чаго захацелі! Кантралёры даюць зразумець, што мы ім ня роўня і ўвогуле ня роўня звычайным грамадзянам. Мы злачынцы. Нам халоднымі, мэталёвымі галасамі камандуюць: «Праходзім!». І мы, панурыўшы галовы, цягнемся да свайго сэктару. Адно радуе, што хоць страўнікі крыху наладаваныя. Зараз прыйдзем у атрад, а там крыху цяплей, чым на вуліцы, нават нейкая ўтульнасьць, а галоўнае — няма гэтых фанабэрлівых твараў ахоўнікаў і кантралёраў. Зразумела — няма да пэўнага часу.

## Падсілкавацца ў «кубрыку»

За месяц да майго выхаду на волю ў суседнім атрадзе, на другім паверсе, пачалі рамонт. Са складу ў канцы калідора, заваленага старымі дошкамі і цэглай, начальства вырашыла зрабіць пакой для прыёму ежы. Зразумела, аформілі гэтае рашэньне як волю ўсяго калектыву атраду. І нібыта данаты сабралі. А ў нашым атрадзе, на трэцім паверсе, у гэты ж час ішоў рамонт прыбіральні, таму мы мусілі хадзіць для сваіх патрэбаў у госьці, на другі паверх. Паказваючы свой рамонт, зэкі з другога паверху задаволена пасьміхаліся: «Нарэшце нармальна паядзім, не на кукішках».

Чаму ў нас нельга было зрабіць тое самае, мне дагэтуль незразумела. Як зьяджджаў, наша рамонтная брыгада яшчэ корпалася над усталяваньнем у прыбіральні новых кабінак і заменай унітазаў, а пакоя, дзе можна будзе ў нармальных умовах паесьці, рабіць і не плянавалі. Хоць, паводле нармальнай лёгікі, умовы для харчаваньня ня меней важныя. Былі, праўда, размовы, што ў нашым атрадзе шмат асуджаных, таму няма лішняга пакоя. Аднак у суседзяў знайшоўся. Дзіўна. Ды што пакоя, у нас і сталоў нідзе ў «кубрыках» не было.

І як мы гатавалі ежу для перакусу?

На ўваходзе ў кожны пакой, пад разэткай, стаіць невялікі столік ці тумбачка. Паверхня — усяго палова квадратнага мэтра, а то і меней. На ім максымум два электрычныя чайнікі. Побач

у шафцы схаваныя плястыкавыя кубкі і міскі, якіх не павінны бачыць кантралёры ці начальнік атраду, хоць яны, канечне, ведаюць, навошта тут гэты посуд.

У місках з дапамогай кіпяцільніка хлопцы варылі каўбасу, гатавалі распушчальныя кашы, у кубках заварвалі каву ці гарбату. Кемлівыя зэкі прымудраліся нават падаграваць ежу, быццам на патэльні. Дзеля гэтага гарачая вада наліваецца, як у грэлку, у шчыльны пакет, які кладзецца на тое, што трэба разагрэць. Вось бутэрброды з сырам так можна амаль што запячы, бо сыр выдатна плавіцца ўжо пад гарачай вадой, не патрэбны кіпень.

Але трэба заўсёды сьцерагчыся. Ня толькі ў сэнсе тэхнікі бясьпекі, што таксама важна — бо кіпяцільнікі пры такім інтэнсіўным выкарыстаньні хутка псуюцца, можа ўдарыць токам. Гаворка і пра турэмныя забароны.

Паводле турэмных правілаў гатаваць у такіх непрыстасаваных умовах нельга, дазваляюць толькі заліць кіпенем каву ці гарбату, а ўсё іншае — фармальна парушэньне.

Да часу на гэтыя парушэньні закрываюць вочы, але калі ў час прыгатаваньня супу з каўбасы заявяцца кантралёры, дык могуць і кіпяцільнікі, і прыдатны посуд пазабіраць.

А кухару ўлепяць рапарт, пасьля якога — як пашанцуе.

А іншая праблема — тое, як потым гэтыя стравы паядаюцца.

Сталоў у «кубрыках» няма, ёсьць толькі маленькія зэдлікі, на якіх даводзіцца неяк разьмяшчацца са сваімі прысмакамі. Але на агульным калідоры паміж радамі шконак есьці ня сядзеш, там увесь час туды-сюды снуюць людзі.

Паесьці можна, толькі ўсталяваўшы зэдлік у праходзе паміж двухпавярховымі нарамі, а сам тады сядаеш на ложак. Прычым сядаеш недзе за мэтар ад тумбачак, каб пры жаданьні іх можна было адчыніць-зачыніць. Ну, і вось так хуценька ясі.

Прычым нават у гэтай пазыцыі ты таксама замінаеш сама меней тром суседзям, але зь імі ўсё ж можна паладзіць. Бо прыйдзе час, ім таксама захочацца перакусіць.

Галоўнае, каб вы змаглі паміж сабой усталяваць нейкі графік.

Інакш — бясконцыя канфлікты. Аднаму трэба паесьці, другі ў гэты момант палез да тумбачкі, нахіліўся над ежай, а гэта не вітаецца, лічыцца парушэньнем прыватнасьці і гігіены. Можа нават узьнікнуць крыўда, а там і сварка — быў сьведкам і такой сытуацыі.

Трэба разумець: прастора ў турме нібы ўся некаму належыць, крок управа-ўлева — і ты трапляеш на чужую тэрыторыю. Таму ад цябе патрабуецца і павага да права іншага, і гатоўнасьць абараніць свае правы, і адначасова вялікае цярпеньне, каб гэта ўсё стрываць і не злаваць па-пустому.

Вядома, калі б у кожным атрадзе быў асобны пакой для прыёму ежы, дзе можна прыгатаваць і

потым паесьці спакойна — некаторых канфліктаў паміж асуджанымі можна было б цалкам пазьбегнуць.

Але, як кажуць, ня з нашым шчасьцем! Карпусы атрадаў у 15-й калёніі — старой пляніроўкі, некаторыя напакаваныя асуджанымі пад завязку, вольнай плошчы вобмаль.

## Самім працы не хапае

Да арышту часта чуў думку, што ў асуджаных, маўляў, ёсьць заробак, яны ў калёніях усе працуюць. І таму размовы пра недахоп грошай — гэта нібыта пустая журналісцкая балбатня. «Усім усяго хапае».

Дык час разабрацца з гэтым мітам.

Паводле таго, што я бачыў у сваім атрадзе, хоць якую працу ў прамысловай зоне мелі толькі дзьве траціны атраду, астатнія фактычна не працавалі. Гэта найперш пэнсіянэры. Другая група — тыя, хто вызвалены ад працы па стане здароўя, у тым ліку праз інваліднасьць. І трэцяя група — тая, пра якую раней ужо казаў. «Недатыкальныя». Гэтыя працавалі, але не на промцы, а ў сэктарах. Прыбіральшчыкамі і «сантэхнікамі».

А яшчэ ёсьць група тых, хто працуе часткова. Тыя праз праблемы са здароўем атрымліваюць дазвол працаваць ня пяць дзён, а толькі два-тры.

Завецца такі графік аблегчаным. Дарэчы, шмат хто імкнецца атрымаць такі рэжым, але ня ўсім ахвотным удаецца. Мэдыкі ў калёніі ідуць насустрач хворым асуджаным неахвотна, выконваюць нормы запаўняльнасьці працоўных месцаў. Хоць на промцы насамрэч працы мала, вязьняў гоняць туды, абы хоць чым заняць, толькі б не сядзелі па карпусах. І сапраўды, улетку ледзь ня кожны другі дзень бывала так: пасьля сьняданку, гэта значыць а восьмай раніцы, частка атраду ідзе на промку, а ўжо да абеду ўсе вяртаюцца. Пытаюся, што сёньня рабілі? У адказ ледзь не плююцца ад злосьці: «Зноў драты чысьцілі! Яшчэ ўсім і не хапіла».

У першы ж дзень у атрадзе выказаў жаданьне таксама пайсьці на працу. Ня столькі хацелася зарабіць (тады я толькі падазраваў, што гэта нерэальна, але пэўна ня ведаў), проста з патрэбы рухацца, нешта рабіць сваімі рукамі. Але мой шчыры намер адпачатку сустрэў неразуменьне ў актыву атраду. Заўгас Аляксей, выслухаўшы такую заяўку, западозрыў няладнае і абрэзаў: «Табе лепш сядзець і ня рыпацца». А потым дадаў: «Самім працы не хапае, а яшчэ ты захацеў, пэнсіянэр».

Пачаў распытваць: што ж у іх здарылася з працай, нібыта ж раней усім хапала?

Хлопцы расказалі, што значныя праблемы пачаліся з канца 2021 году, калі праз інцыдэнт з пасадкай самалёта Ryanair на Беларусь наклалі новыя санкцыі, на дадатак да таго, што ўжо мелі пасьля разгону пратэстаў 2020 году.

«Раней зьбівалі палеты, зьбіралі ў сеткі дровы распальваць катлы і печы, прадавалі ў Польшчу. Нехта меў на гэтым вялікія грошы. А цяпер усё спынілася. Калі што і робім, дык вось драты чысьцім ды, бывае, абпальваем разабраныя старыя рухавікі, запчасткі. Таксама здабываем зь іх драты, мэталы розныя. Вось і ўсё. Яшчэ і бойкі бываюць за тыя драты паганыя!» — абураўся Сяргей.

Тады я і згадаў, як у той дзень, калі мяне прывезьлі ў калёнію, бачыў вялікія стосы памаранчавых і блакітных сетак з дровамі. Пакуль ахоўнік вёў па тэрыторыі міма промкі, цяжка было не зьдзівіцца запасам дроваў, наваленых проста пад небам.

## «Начысьціць валасоў»

І цяпер хлопцаў працягваюць выводзіць на промку, але гэта хутчэй толькі імітацыя нармальнай вытворчасьці. Сябар Сяргей апісаў працу, якой займаецца ня першы год.

«Што значыць ачысьціць драты ад ізаляцыі? Ну, глядзі. У цэху навалена куча парэзаных на кавалкі скруткаў дратоў. Хто іх да нас нарэзаў, ня ведаю, але ня тут іх нарэзалі, дакладна. Казалі, што драты прывозяць з Расеі, купляюць нібыта за капейкі, як мэталалом, а насамрэч гэта каляровыя мэталы, толькі іх яшчэ трэба здабыць. І вось мы гэтым займаемся. Спачатку як каршуны накідваемся на тую кучу дратоў, выцягваем кавалкі літаральна з рук адзін у аднаго. За што рвем жылы? За тоўстыя драты, бо тады лягчэй

начысьціць больш за кіляграм, выканаць норму. А калі не пашанцуе, нацягаеш «валасоў», то бок тонкіх дратоў, дзень патраціш, а выніку пшык, 200 грамаў якіх начысьціш», — расказваў Сяргей.

Чысьцяць драты, паводле Сяргея, цяжкім тупым нажом. Драты ў руках круцяцца, пырскаюць мазутам з-пад абмоткі, драпаюць рукі вострымі канцамі. То бок гэта праца, якая ня толькі пагражае траўмамі, яна небясьпечная і для лёгкіх, бо даводзіцца гадзінамі дыхаць «хіміяй». Ды яшчэ калі норму ня выканаеш, брыгадзір можа паскардзіцца начальству, і тады чакай рапарту ды пакараньня.

Здараюцца канфлікты паміж вязьнямі і пасьля працы. Неяк чуў разборку двух асуджаных, калі вярнуліся з промкі. Адзін абвінавачваў другога ў крадзяжы дратоў, якія ён ужо назапасіў, але мусіў некуды адыйсьці. А той бараніўся мацюкамі па схеме «сам такі» і «ня трэба было зяваць». Ледзь да бойкі не дайшло.

Нагадаю, паводле лукашэнкаўскага закону з асуджаных вылічаюць грошы, якія дзяржава траціць на іх утрыманьне ў калёніі. Вось гэтыя траты чалавек у няволі мусіць кампэнсаваць.

Другі вязень, Анатоль, былы прадпрымальнік, падзяліўся ўласнымі разьлікамі наконт заробкаў вязьняў і вылічэньняў з гэтых заробкаў. Як так выходзіць, што людзі месяц працуюць на шкоднай вытворчасьці пяць дзён на тыдзень, а зарабляюць па 10 рублёў?

Анатоль падлічыў, што ўтрыманьне аднаго вязьня ў калёніі абыходзіцца ў суму каля 200 руб-

лёў: харчаваньне, вопратка, ацяпленьне. Вось ад гэтага ліміту, паводле Анатоля, і адштурхоўваецца бухгальтэрыя калёніі, калі налічвае заробак. Маўляў, няма розьніцы, дзе працуе чалавек: на дратах, на вырабе паддонаў ці іншай прадукцыі. Напішуць, што зарабіў дзьве сотні, і будзь задаволены. Але наступны крок — адлічэньне 200 рублёў на кампэнсацыю выдаткаў.

І што ж тады застанецца? Трэба ж пакінуць вязьням якія капейкі, інакш могуць і забунтаваць. Таму налічаюць у якасьці заробку крыху болей за 200 рублёў, ну, можа 210–215, у залежнасьці ад фінансавай сытуацыі ў дадзены пэрыяд. І тады адразу 2 сотні вылічваюць. Застаецца пяць, дзесяць ці крыху болей рублёў — столькі і пераводзяць на грашовы рахунак. На некалькі пачкаў цыгарэт ці на бляшанку кавы хопіць, а на астатняе рот не разяўляй.

## «Яшчэ будзеце ячэйкі ствараць»

Спробу ўсё ж трапіць на працу паўтарыў у ліпені. Скарыстаўся падачай заявы пра дазвол мне наведваць стадыён для фізычных заняткаў. У атрадзе сказалі, што такі дазвол мне, «жаўтабірачніку», можа даць толькі начальнік калёніі. Ну што зробіш, вырашыў пайсьці да яго на прыём. Заадно было цікава паглядзець, як мяне сустрэне.

Гэтым разам палкоўнік прымаў «чалабітныя» ня ў штабе, а на другім паверсе пункту, дзе асуджаных правяраюць перад заходам і выхадам з прамысловай зоны. Чаму там, мне было няў-

цям. Увогуле налічыў тры месцы, дзе адбываліся падобныя прыёмы. У штабе, у клюбе і вось тут. Можа, заадно інспэктаваў розных сваіх падначаленых?

Параўноўваў свае пачуцьці з тымі, калі стаяў у чарзе перад дзьвярыма начальніка першы раз. Страху, што зноў нарвуся на крык і пагрозы, дакладна не было, але нейкі мандраж часам зьяўляўся. Згадаў, як яшчэ ў карантыне днявальныя папярэджвалі, што начальнік — чалавек настрою, да таго ж кожнага ня проста памятае ў твар, а нібыта ведае ўсю паднаготную. «Ведае, на якім баку любіш спаць», — на поўным сур’ёзе казаў сусед Вадзім. Можа, сапраўды лепш не рызыкаваць?

Але начальнік сустрэў зусім нэўтральна, ніводным рухам не паказаўшы, што была калісьці тая сустрэча ў штабе, пасьля якой мне далі ў карак ды закінулі ў ШЫЗА. «Што ў вас?» — працягнуў руку да маёй заявы пра стадыён, прабег па ёй вачамі і нібы з палёгкай усьміхнуўся. «Не, на стадыён вам пакуль ня трэба хадзіць. Яшчэ будзеце там ячэйкі ствараць… Займайцеся фізкультурай у сваім атрадзе, гэта ж не забараняюць? Ну вось. А потым паглядзім».

Тут я ўпёрся: «Дык нельга ці потым паглядзім?» У адказ усьмешка, прымружаныя вочы. «Паглядзім, але не, на стадыён вам ня трэба».

Канчаткова асьмялеўшы, спытаў, ці магу атрымаць якую працу. Маўляў, адчуваю сябе здаровым, а фізычнай нагрузкі не хапае. Мог бы пра-

цаваць і на промцы, і на якім рамонце, будоўлі. Сваімі рукамі лецішча пабудаваў, дык і тут змагу.

Зноў у адказ усьмешка, і надзіва спакойным голасам палкоўнік пачынае тлумачыць, што мне як пэнсіянэру лепш сядзець і адпачываць, а працаваць мне нібыта нявыгадна, бо тады зь мяне будуць адлічаць на харчаваньне і вопратку столькі, колькі я і не зарабіў. «Дык лепш сядзіце. Кніжкі чытаць любіце? Ну вось і чытайце».

Вяртаючыся ў атрад, перабіраў у памяці былыя сустрэчы з грамадзянінам палкоўнікам. Падчас трэцяй сустрэчы, якая адбылася ў штабе, начальніку калёніі падначаленыя паказалі аркуш з майго нататніка. Яго знайшлі ў маёй тумбачцы, пакуль сядзеў у ШЫЗА. Гэта былі першыя запісы пра калёнію, пра карантын, уражаньні ад сустрэч з асуджанымі. Тады начальнік хуценька азнаёміўся з расшыфроўкай маёй пісаніны (запісы адмыслова рабіў драбнюткім почыркам, пабеларуску, ды яшчэ скарачаючы словы), і выдаў такое рэзюмэ: «Грузьдзіловіч! Хопіць тут займацца выведнай дзейнасьцю! Ты зразумеў?!»

І вось новае табу. Цяпер не засталося сумневу, чаму мне нельга ня толькі на промку, а нават і на стадыён.

## Ня дай страху табой авалодаць

Часта пытаюцца, як у калёніі выжыць? Ці ісьці на нейкія саступкі, пагаджацца на гульню па тых правілах, якія існуюць у калёніі, ці спрабаваць стаяць на сваім? Але ж гэта непазьбежна

прывядзе да аргвысноваў з боку адміністрацыі — ШЫЗА, ПКТ, 411-ы артыкул, паводле якога дадуць новы тэрмін. І тады ўжо пад пагрозай апынецца само фізычнае існаваньне. І навошта тады тая мараль, калі з калёніі можна ўвогуле жывым ня выйсьці?

Так, вельмі цяжкі выбар. І кожны сам мусіць шукаць залатую сярэдзіну, якая дазволіць і фізычна захавацца, і маральна, як кажуць, ня скурвіцца. Дык ці ўдалося напрацаваць якія асабістыя правілы?

Так, і сярод іх ёсьць правіла, якое для сябе сфармуляваў так: «Ня дай страху табой авалодаць».

Можна было б сказаць прасьцей — «не баяцца», працытаваўшы першую частку вядомага катэхізісу савецкіх палітзэкаў: «Ня вер, ня бойся, не прасі». Але лічу, што гэта ілюзія ці пазёрства — казаць, нібыта ў вязьніцы ты можаш не адчуваць страх. Зразумела, будзеш баяцца. Застацца аднаму. Застацца безь лістоў. Застацца без паветра. Больш ня ўбачыць сонца, травы, птушак. Нарэшце — памерці там, у вязьніцы, каб потым у мяшку кінулі ў якую яму, названую магілай нумар такі і такі.

Мяркую, гэтага ўсе баяцца. Іншая рэч — як справіцца з гэтым страхам? Мне дык дапамагаў прыклад людзей, таксама вязьняў, якіх я даўно ведаў і якімі захапляўся.

## Вітольд Ашурак

Першы раз па крымінальнай справе аб грубым парушэньні грамадзкага парадку («народны» 342 артыкул Крымінальнага кодэксу) мяне арыштавалі ў ліпені 2021-га. Скажу шчыра, быў напалоханы, баяўся, што за краты трапіў надоўга, калі ўвогуле выберуся. Бо адразу згадаў лёс актывіста зь мястэчка Бярозаўка Вітольда Ашурка, які незадоўга да таго загінуў у шклоўскай калёніі.

Вітольду Ашурку было 50 гадоў, да турмы ён ня скардзіўся на здароўе, але раптам памёр у ШЫЗА. Відэастужкі, якія запісалі апошнія хвіліны жыцьця Вітольда, маюць дзіўныя нестыкоўкі. Пра прычыну сьмерці сваякам спачатку, праз тэлефон, сказалі, што спынілася сэрца. Потым у даведцы прычыну сьмерці не пазначылі, а цела выдалі з забінтаванай галавой — патлумачылі, што «ўранілі», як даставалі зь лядоўні.

І ты думаеш: а хіба з кожным, хто трапіў да іх за краты, такая дзіўная сьмерць ня можа здарыцца? Вядома, можа. Мяркую, лёс Вітольда Ашурка прымяраў на сябе кожны, каго арыштоўвалі ў гэтыя акаянныя гады і працягваюць хапаць сёньня.

Мне не даводзілася сустракацца зь Вітольдам Ашуркам, але знаў яго як журналіст. Некалькі разоў браў праз тэлефон невялікія інтэрвію — пасьля чарговых Вітольдавых паездак у райцэнтар Сьвіслач на Горадзеншчыне, дзе на магіле Віктара Каліноўскага, брата паўстанцкага правадыра, традыцыйна ладзіліся акцыі памяці.

Там ускладалі кветкі, стаялі ў ганаровай варце зь бел-чырвона-белым сьцягам з Пагоняй.

А потым удзельнікаў тых акцый хапала міліцыя, суды каралі іх суткамі ў сьмярдзючай мясцовай вязьніцы. Вітольда таксама шмат разоў затрымлівалі і судзілі.

Неяк задаў яму пытаньне: ці вартая была паездка ў Сьвіслач перажытых пакут? Вітольд расьсьмяяўся і адказаў, што вартая, ды патлумачыў чаму. Я ж адзначыў для сябе, што ён незвычайны чалавек. З тых, хто сапраўды здольны ахвяраваць сабой.

Калі ў 2022 годзе я трапіў у ШЫЗА, часта ўяўляў побач не каго іншага, а якраз Вітольда Ашурка. Згадваў ягоны вытанчаны ганарлівы твар, добрую ўсьмешку і, вядома, ня мог ня згадваць ягоны крылаты выраз «беларус беларусу заўсёды беларус». Прыгожым і трагічным перабольшаньнем аказаліся гэтыя словы для самога Вітольда. У турме яму навакол не хапіла сапраўдных беларусаў. Але пры ўсіх пакутах, як ні было цяжка, не прыніжаўся, не прасіў літасьці, іначай бы застаўся жывы.

Калі падступаў страх, мне такія думкі дапамагалі. Прыходзіла разуменьне, што няма іншага выбару, як не баяцца, не даваць страху авалодаць табой.

І вось зноў ШЫЗА, каля пятай раніцы. У кароткі сон паміж падыманьнямі ў прыбіральню ўрываецца брэх сабак. Затым — бразгат мэталічных нараў. Зрабіў зарадку, пахадзіў па камэры, мабілізаваўся маральна. І ўжо калі падыходзіць

да камэры праверка і ахоўнік крычыць з-за дзьвярэй — «Рапарт!» — сустракаеш афіцэра з паднятай галавой і разьмерана, як мэтраном, дзяўбеш: «У камэры знаходзіцца… артыкул… пачатак тэрміну… заканчэньне тэрміну…» Заканчваеш коратка, жорстка: «Заўваг і скаргаў ня маю». У галаве думка: падавіцеся сваімі дурнымі рапартамі, як і гэтым сьмярдзючым таўчком, рыпучымі нарамі, палярным холадам, абшукваньнямі ў пазыцыі прылепленай да сьцяны птушкі! Адсяджу і выйду, а вы тут усё жыцьцё праведзяце разам з сваімі пацукамі!

І ўсё, адразу становіцца лягчэй, зьяўляюцца сілы працягнуць да вечаровай праверкі. Дзякуй табе, Вітольд, за прыклад. Ты сапраўдны беларус.

## Ня быць як яны

Яшчэ адно важнае правіла сфармуляваў так: «Ня быць як яны». Прычым яны — гэта ня толькі ахоўнікі, антыподы вязьняў, але і асуджаныя, калі тыя паводзяць сябе насуперак маральным правілам, якіх ты прытрымліваесься. Але гаворка не пра тое, што нібы апранаеш на сябе нейкую маральную бронекамізэльку. Галоўнае — не дазваляеш падобных учынкаў сабе.

Крык, мацюкі, інтрыгі, плёткі. У адносінах паміж вязьнямі гэта таксама ёсьць. Але бязь іх можна абысьціся, нават калі спрачаесься, канфліктуеш, адстойваеш сваё права. Трэба ведаць, што вынік хай не адразу, але будзе.

У сьледчым ізалятары здарылася паканфліктаваць з адным вязьнем. Дзьмітрый сядзеў за кратамі ўжо каля году, і пэрспэктыва ў яго была цьмяная — пасьля суду мог трапіць за краты яшчэ гадоў на восем, па артыкуле, і блізка не зьвязаным з палітыкай. Ясна, што нэрвы ў чалавека былі на мяжы зрыву, і вось такі зрыў адбыўся. Падчас прагулкі ў сьлізкім дворыку я выпадкова зачапіў яго плячом, і ў адказ — выбух эмоцый.

Заўважу, што калі ў дворыку тры на пяць мэтраў ходзяць туды-сюды восем чалавек, тым больш пад нагамі сьлізкі лёд, зачапіцца адзін за аднаго — элемэнтарна. І зразумела, што гэтая выпадковая сутычка ўзьнікла ня толькі праз цесны дворык. Відаць, у Дзьмітрыя назапашваліся нейкія прэтэнзіі, і вось цяпер знайшлася нагода іх выплюхнуць. Наслухаўся мацюкоў, абразаў, нават пагроз.

І што рабіць у такой сытуацыі? Збольшага турэмны закон патрабуе даць адэкватны адказ, інакш цябе перастануць лічыць мужыком, і так потым кожны захоча зрываць на табе свае нэгатыўныя эмоцыі. Але, з другога боку, слоўны канфлікт можа лёгка выліцца ў бойку. Ня толькі зь ягонага боку.

Ведаючы сваю натуру, скажу, што за пэўнае крыўднае слова магу і рукам даць волю. Але канфлікт з сукамэрнікам у СІЗА — гэта ня проста бойка з пэрспэктывай адправіцца ў карцар, пасьля якога ў сваю камэру ня вернесься. Галоўнае, што да цябе як да палітычнага асаблівая ўвага, і простая бойка можа стаць падставай для

дадатковага артыкула. Для пэўных людзей у пагонах — гэта чаканы падарунак, каб потым сказаць: ну які ён палітычны, глядзіце, гэта ж звычайны хуліган, дэбашыр, скандаліст. Маўляў, правільна яго адправілі за краты, хай пасядзіць, падумае над паводзінамі.

Карацей, я мо якую сэкунду падумаў, выбачыўся за штуршок, а потым некалькімі жорсткімі, але карэктнымі словамі ацаніў паводзіны маладога чалавека, папярэдзіў яго пра адказнасьць за абразы — і замаўчаў. Хаджу туды-сюды. Унутры ўсё кіпіць, але трываю. І на тое, што ён потым казаў, а ён яшчэ не адразу супакоіўся, больш ні словам не адрэагаваў.

Вынік? Праседзелі ў адной камэры мы яшчэ зь месяц, і за гэты час паміж сабой не размаўлялі. Кожны дэманстраваў нежаданьне. Трымаць гэткую блякаду ў малой камэры цяжка, але магчыма. Галоўнае, што больш сутычак не было. І яшчэ важна, што абодва зрабілі пэўныя высновы.

Я — што трэба быць больш уважлівым да пабытовых правілаў у камэры. Ужо ў першыя дні турэмнага жыцьця ты мусіш перагледзець звычкі, якія на волі табе не падаюцца істотнымі, але ў турме могуць спарадзіць да цябе нечыю непрыязь. Асабліва гэта можа тычыцца людзей ва ўзросьце. Ім ад ранейшага ладу жыцьця адмаўляцца складаней, чым моладзі.

Але і маладзёнам трэба ўсьвядоміць, што значна старэйшыя людзі побач зь імі — гэта людзі зь іншым досьведам, мэнталітэтам, зь іншымі фізычнымі магчымасьцямі.

Неяк яшчэ адзін маладзён з нашай камэры, Валер, хваліўся веданьнем прынцыпаў турэмнага жыцьця і паўтараў: «Тут усе роўныя». Паводле правоў — так. Але адначасова ўсе розныя, і менавіта ў турме гэта яскрава выяўляецца. Ёсьць маладыя і старыя. Дасьведчаныя і навічкі. Разумныя і ня вельмі. Сьмелыя і асьцярожныя. Грубыя і выхаваныя. Розныя. І адзінае, што можа ўсіх аб'яднаць, ня даць дайсьці да стану азьвярэньня, — павага да чалавека.

Здаецца, гэты ўрок мой візаві цягам месяца ўсё ж вывучыў. Ва ўсякім разе, калі камэра са мной разьвітвалася — а гэта цэлая працэдура, з чыфірам і пажаданьнямі, — дык ён першым працягнуў мне руку і моцна пацiснуў маю. А іншыя сядзельцы падзякавалі за «ўрок мудрасьці».

## Хто зачапіў зэдлік?

У калёніі яшчэ з адным маладзёнам, Дзянісам, які адзін час быў маім суседам па нарах, таксама апынуўся на мяжы канфлікту.

Пачалося з заўвагі зь ягонага боку ўжо на другі дзень майго зьяўленьня ў атрадзе. Заўвага была пабытовага характару: ня там пакінуў тапкі. Мяне заўвага крыху зьдзівіла, але ладна, падумаў, у людзей розныя паводзіны. Карацей, на канфлікт я не пайшоў, да заўвагі адразу прыслухаўся і свае звычкі скарэктаваў.

Але наступным днём пачуў ад Дзяніса іншую прэтэнзію. Потым яшчэ: то я не пасунуўся, калі ён праходзіў міма, то не на тым месцы апынуўся

ягоны зэдлік, то ня там паставіў кубак з вадой. Не мінала і дня, каб ён не знаходзіў нешта новае, з нагоды чаго выказваў незадавальненьне, прычым у дэманстрацыйна грубай форме. Дый прэтэнзіі станавіліся ўсё сьмяшнейшыя.

Некалькі дзён яшчэ трываў, але потым пры ўсіх суседзях сказаў, што падазраю яго, Дзяніса, у працы на опэра. Маўляў, магчыма, ягонае заданьне — справакаваць мяне на канфлікт, а можа і бойку, інакш бы не чапляўся па дробязях зь дзіўнай рэгулярнасьцю.

Што вы думаеце? Падзейнічала. Прэтэнзій ад Дзяніса больш не гучала, а вось іншыя суседзі загаварылі пра тое, што хлопец сапраўды можа быць «стукачком», бо так паводзіў сябе і раней. Праз тыдзень мяне перавялі ў іншую «хату», зь ім больш не сутыкаўся.

## Стукачы

У сэктары — тры атрады, у кожным прыблізна па сто чалавек. Гэтыя трыста асуджаных гуляюць, шыхтуюцца, кураць, рэжуцца ў нарды, чытаюць, прымасьціўшыся на лавачках, кнігі і лісты. І ўсё гэта на адной невялікай тэрыторыі з трох бакоў будынку, якую завуць «лякалкай» — значыць, лякальнай зонай. Прыблізна 300 квадратных мэтраў на 300 чалавек! То бок калі ты выходзіш проста прагуляцца, дык можаш сустрэцца зь любым з гэтых людзей твар у твар зусім выпадкова. Павітацца, папрасіць цыгарэту, загаварыць, паступова пасябраваць. І адкуль ты будзеш ведаць,

што пазнаёміўся з чалавекам, які рэгулярна сустракаецца з опэрам, піша яму справаздачы ці расказвае вусна пра ўсе падзеі ў атрадзе (ня ведаю, як яны гэта робяць). Карацей, з стукачом. І як засьцерагчыся ад такога непажаданага кантакту?

Падчас ужо першага выхаду на прагулку вакол сэктару некалькі разоў ад розных людзей пачуў адно і тое ж папярэджаньне: «Ты вось з гэтым лепш не кантактуй, ён стукач. Будзь зь ім асьцярожней». Чым з большай колькасьцю людзей знаёміўся, тым часьцей гучалі падобныя «сыгналы». Дайшло да сьмешнага. Неяк мне паказалі на асуджанага зь іншага атраду і запэўнілі пра яго, што «пэўна стукач». Ну, стукач дык стукач. Я іх не калекцыяную.

Але потым гэты чалавек падышоў да мяне, назваўся па імені, нагадаў, дзе і калі мы былі знаёмыя. Прыгледзеўся да яго, і праўда — 20 гадоў таму былі знаёмыя. Ёсьць што згадаць пра агульнае мінулае. Размаўляем, і вось ужо ён мне паказвае якраз на таго чалавека, які раіў зь ім ня мець спраў, бо ён стукач. Тут маё цярпеньне лопнула, і я сказаў: «Усё, хопіць! Вас усіх паслухаць, дык вакол адны стукачы. І што цяпер, ні з кім не гаварыць і ня бачыцца? Не, я так ня буду».

Дарэчы, да апошняга дня ў калёніі добра камунікаваў з абодвума тымі нібыта стукачамі. У чым праблема? Ня хочаш нешта казаць пра сябе — не кажы, але штучна сувязяў перарываць ня варта, бо без чалавечых адносінаў у вязьніцы не пражыць. А з пэўнасьцю, што нехта стукач, усё роўна не даведаесься.

Хоць — так, стукачоў, тым больш калі ты палітычны, сапраўды вакол можа быць нямала. Калі б была магчымасьць паглядзець у асабовую справу, прачытаць складзеныя пра мяне справаздачы, дык, можа, дзіву б даўся!

Кажу так упэўнена, бо на камісіі перад першым ШЫЗА начальнік пытаўся ў супрацоўніка апэратыўнага аддзелу: «Што ёсьць на яго?» І той, разгарнуўшы нейкую тэчку, відаць, маю справу, гучна зачытаў зь яе: «У размове… чысла… час… сказаў…». Пэўна ведаю, што ў той час я не сядзеў дзе ў сталоўцы ці кубрыку, а прагульваўся зь сябрам у дворыку, а побач гулялі іншыя асуджаныя. Толькі нехта зь іх мог падслухаць нашу размову і працытаваць яе ў сваім даносе, прычым шмат што пры гэтым пераблытаўшы. Упэўнена магу сказаць, хто быў тымі вушамі апэратыўнікаў. Але што тут зробіш? У стукачоў такая натура, калі пагаджаюцца на брудную працу. Калі-небудзь ім гэта абавязкова адгукнецца.

Выпадак, пра які згадаў, адбыўся ў карантыне. Але пільнае сачэньне, ня проста сачэньне, а сапраўднае шпіёнства будзе суправаджаць асуджаных увесь тэрмін і паўсюль: у «кубрыку», на промцы, у спартовым гарадку.

## Уціраюцца ў давер

Што так будзе, мяне ў першы ж дзень атраднага жыцьця папярэдзіў сусед па шконцы Вадзім. Сказаў, што як толькі новенькі зьяўляецца ў атрадзе, стукачам аддаецца загад зьбіраць пра яго ўсе

магчымыя зьвесткі, каб было вядома нават, «на якім баку спаць любіць». Таму будзь пільным у словах і дзеяньнях.

Толькі самае цікавае, што той самы Вадзім, найхутчэй, пра мяне таксама стучаў. Упэўнены ў гэтым, бо праз тры месяцы пасьля гэтай размовы яго неасьцярожнай рэплікай выдаў афіцэр з нашага атраду. Цяпер думаю: навошта сусед тады пускаўся ў шчырасьць, папярэджваў пра стукачоў вакол, калі сам быў такі? Адказ адзіны: вязень ён быў ужо дасьведчаны, а калі нібыта клапоцісься, лягчэй за ўсё ўцерціся ў давер. Дык я і без таго ставіўся да яго нармальна, дзяліўся салам, кавай, цукеркамі. Вадзіма было шкада. Яшчэ малады, арганізм патрабуе калёрый, а з дому дапамогі амаль ніякай, дык як не падзяліцца? Калі табе за 60, ты ва ўсіх вакол схільны бачыць дзяцей, толькі што ў кожнага сваё захапленьне, свае гульні. Адзін хаваецца, другі даганяе, трэці гуляе ў шпіёна.

Вядома, у любы момант тая ўмоўная «ідылія», якой падтрымліваеш у сабе чалавека, можа скончыцца, і часам гэта здараецца зусім раптоўна. Калі другім разам апынуўся ў ШЫЗА, да мяне ў камэру пасадзілі хлопца. Марат падзяліўся турэмным досьведам: «Ніколі ў атрадзе нікому не адкрывай душу. Тут вакол усе стучаць. Вось я мацюкнуўся на аднаго д... з нашага атраду, побач былі толькі самыя блізкія сябры, а ўжо праз гадзіну я тут, у ШЫЗА. І цяпер, найхутчэй, страчу добрую працу, мяне перавязуць у іншы атрад, а могуць і ў ПКТ кінуць з пэрспэктывай на 411 артыкул. І гэта ўсяго за адно матнае слова!»

То бок разьвітая сыстэма стукацтва ў калёніі — гэта ня забаўка опэраў, якім нібыта няма чаго рабіць, як толькі зьбіраць зьвесткі, хто як любіць спаць. Гэта, як казалі за савецкім часам пра прафсаюзы, «прывадны мэханізм» сыстэмы рэпрэсій. Прыйшоў сыгнал — на яго трэба адрэагаваць — адрэагуюць.

І на сто працэнтаў праўда, што гэтая сыстэма працуе найперш супраць палітычных вязьняў. Нават кантакты ў калёніі, з кім размаўляеш, як часта размаўляеш, адсочваюцца, і з гэтых назіраньняў робяцца высновы. Так, палітычныя ў нашым сэктары добра ведалі, што адзін каля аднаго надоўга лепш не затрымлівацца, інакш пачнуцца непрыемнасьці. У жніўні «жаўтабірачнік» Яўген, зь якім раней мы шмат што абмяркоўвалі, найперш падзеі ва Ўкраіне, перасьцярог: «Опэр ужо пацікавіўся ў аднаго нашага, чаму мы з вамі так часта размаўляем. Давайце радзей сустракацца. Лепш не прыцягваць увагі». Давялося так і зрабіць.

Цікавае пытаньне, а як опэрупаўнаважаныя супрацоўнікі камунікуюць з сваімі агентамі? Гэта нешта тайнае, запіскі закладаюцца ў тайнікі, ці яны кантактуюць праз адмысловы тэлефон?

Цяжка адказаць, калі сам у гэтай скуры не пабываў. Але магу меркаваць, што асабліва працэс не прыкрываюць, чым прасьцей, тым лепш. Асуджаных, асабліва ў першыя месяцы адбыцьця пакараньня, часта выклікаюць на ўручэньне розных дакумэнтаў. Лістоў з суду, адказаў з пракуратуры і гэтак далей. Выклікаюць чалавека з

атраду, а што зь ім адбываецца далей, куды ён пайшоў пасьля наведваньня пэўнага кабінэта, дзе ўручаюць гэтыя паперы, — хто за гэтым можа прасачыць? Ніхто. Такія думкі, відаць, усіх асуджаных наведваюць, бо заўважыў, якое падазрэньне зьяўляецца, калі некага шмат разоў запар выклікаюць у клюб ці ў штаб.

Са мной была падобная гісторыя. Акрамя крымінальнага абвінавачаньня, мне выставілі матэрыяльны пазоў на вялікую суму, якую суд пастанавіў цалкам прызнаць. Потым пазоў падзялілі на тры часткі ў адпаведнасьці з колькасьцю эпізодаў і адправілі на разгляд у тры розныя суды. Пазовы разглядаліся, калі ўжо сядзеў у магілёўскай калёніі. Цягам майго знаходжаньня там ішла бясконцая перапіска: інфармаваньне пра паседжаньні, пра іх пераносы, пра рашэньні, а таксама адказы на мае скаргі.

Звычайна ў клюб, дзе ўручаюць чарговую паперу, выклікаюць ужо пасьля восьмай раніцы. Хутка сабраўся і пайшоў. І заўсёды, як вяртаюся ў атрад, чую насьцярожаныя пытаньні суседзяў: а чаго выклікалі? Нешта ты зачасьціў… І хлопцаў зразумець можна: каму хочацца жыць побач з стукачом, усе такога суседзтва асьцерагаюцца. Даводзілася дзясяты раз усё тлумачыць.

Насамрэч кантакты опэра і ягонага агента могуць увогуле быць навідавоку, і большасьць пэўна нічога не западозрыць. Пару разоў, гуляючы перад адбоем каля той сьцяны сэктара, дзе «лякалка» заканчваецца спартовай пляцоўкай, бачыў у сьвятле месяца такую карціну: на вуліцы

стаіць наш опэр, падазваў да сябе нейкага вязьня (той стаіць адвярнуўшыся, твару не відаць), і яны нешта праз крацяны плот «пераціраюць». Хіба гэта ня можа быць справаздачай? Вядома, можа.

## Як дапамог опэр

А можа і ня быць.

Самому давялося аднойчы зьвярнуцца да опэра са скаргай-просьбай. Збоку такая размова магла выклікаць падазрэньне. А было так, што ў мяне ўзьнікла праблема зь перапіскай. Ад жонкі, сыноў і ўнукаў лісты даходзяць, а ад роднага брата Сяргея — не. Хоць дакладна ведаў, што ён піша. Паколькі за кантроль над ліставаньнем адказвае опэрупаўнаважаны, замацаваны за атрадам, вырашыў да яго зьвярнуцца. І вось падчас прагулкі бачу яго на вуліцы. Падыходжу да плота, зьвяртаюся, прашу мяне выслухаць. Афіцэр мог бы прайсьці міма, але спыніўся і падышоў, уважліва выслухаў. Зрабіў, праўда, выгляд, што ні пры чым, бо «лістоў ніхто не затрымлівае», чаму я, зразумела, не паверыў. Але таксама прыкінуўся: «Ну, можа. Яшчэ пачакаю».

І ўжо праз пару дзён дачакаўся. Ліст ад брата прыйшоў, і наступныя прыходзілі без затрымкі. А іншыя лісты, ад сяброў, калегаў і незнаёмых мне людзей са словамі падтрымкі, так і не даходзілі. Што яны былі, даведаўся ўжо пасьля вызваленьня. То бок саступку опэр усё ж зрабіў, дазволіў атрымліваць лісты ад брата, а ўсё іншае па-ранейшаму засталося пад забаронай.

## Стукацтва пачынаецца на волі

Вярнуся да тэмы стукацтва ў турмах. Тут варта разумець, што гэта ня ў вязьніцах узьнікае практыка пагалоўнага даносьніцтва, яна ідзе ад парадкаў на волі, проста ў турме для яе росквіту самыя спрыяльныя ўмовы. І тое, што агентамі пранізана і наша вольнае жыцьцё, у турме хутка пачынаюць разумець тыя, хто на волі ў гэта ня надта верыў.

У камэры СІЗА, яшчэ да калёніі, лёс зьвёў з былым дырэктарам фірмы, якога асудзілі за махлярства. Віктар расказаў сваю гісторыю.

Меў будаўнічую фірму, бізнэс ішоў няблага, але ў тым ліку таму, што падаткі ён сплачваў ня цалкам — ужываў распаўсюджаную ў будаўніцтве схему. Калі ўрэшце яго выкрылі, дык прысудзілі ўмоўны тэрмін, плюс забаранілі займаць кіроўныя пасады. Але ён не супакоіўся. Аформіўся ў той жа фірме шараговым супрацоўнікам, а сам працягваў кіраваць фінансамі. І зноў папаўся.

Новае сьледзтва павесіла на Віктара мільённую страту, а суд даў дзесяць гадоў калёніі, хоць ягоная віна зусім не была даказаная. Натуральна, бізнэсмэн абураўся: як так? Ніводнага ягонага подпісу пад фінансавымі дакумэнтамі няма, ніяк не ўстаноўлена, што ён некага прымусіў выконваць незаконныя дзеяньні, а яго ўсё роўна асудзілі. І ўвогуле, адкуль даведаліся, што ён працягваў кіраваць фірмай? Можа хто здаў?

Сукамэрнікі на такія развагі сьмяяліся, прапаноўвалі згадаць і прааналізаваць працу і паво-

дзіны кожнага супрацоўніка. Для камэры было відавочна, што нехта з падначаленых быў завэрбаваным агентам, і менавіта ён праінфармаваў адпаведныя органы пра актыўнасьць былога дырэктара.

Сукамэрнік Анатоль, былы сьледчы, а цяпер палітвязень, пацьвердзіў: у кожнай арганізацыі згодна з указам Лукашэнкі, прынятым яшчэ ў канцы 90-х гадоў, дзейнічае агент спэцслужбаў. Не выключэньне і прыватныя фірмы.

Паводле Анатоля, тэхналёгія ўсеагульнай распрацоўкі бізнэсу такая:

«Сыгналы ад агентаў назапашваюцца, але загад на тое, каб даць ход справе, аддае зусім іншая «кантора». Калі ўжо загад атрыманы, сьледчыя пачынаюць шукаць законную падставу, каб пасадзіць чалавека. Ня знойдуць доказаў па адным артыкуле, пасадзяць па іншым, на які нешта накапаюць. І прысуд гарантаваны. Гэта і ёсьць правасудзьдзе не па законе, а па паняцьцях: нехта наверсе прызнаў цябе вінаватым — і ўсё, ужо нічога ня зьменіш».

Дарэчы, паводле Анатоля, ён таму і сышоў з працы сьледчага, што абрыдла на загад начальства і паводле даносаў «кляпаць» на людзей крымінальныя справы. «Абрыдла, дый несумленна гэта. Мне сумленьне не давала спакойна жыць, а як сышоў, стаў сябе адчуваць нармальным чалавекам», — казаў гэты вязень.

## Па Гарбачову калёнія ня плача

У апошні летні дзень 2022 году з тэлевізіі калёнія даведалася, што памёр Міхаіл Гарбачоў. Мы сядзелі ў «ленцы», глядзелі навіны па расейскім канале, не запомніў па якім. Толькі што на трагічнай ноце скончыліся навіны пра вайну ва Ўкраіне. Маўляў, «нэафашысты абстралялі Данецк»… А далей ужо будзённым голасам вядучая адбарабаніла: «У Маскве… памёр… былы першы прэзыдэнт СССР… Міхаіл Сяргеевіч…».

Ледзь стрымаў вокліч жалю, а вось вакол нікога сумная навіна не зачапіла. Ня ўбачыў аніякай рэакцыі. «О, — кажу суседу па лаўцы. — А я ж у яго інтэрвію браў». Ні слова ня кажа, падымаецца і сыходзіць, ледзь не ўцякае. Прыходжу ў «хату»: «Чулі? Гарбачоў памёр». Адказы блізкія да такіх: «А хіба ён яшчэ жыў?». «Дык пажыў нармальна». Нават сябры-аднадумцы не падзялілі смутку. Адзін завёў быў дыскусію: «Ведаеце, у мяне да Гарбачова стаўленьне супярэчлівае. Паглядзіце, як ён адрэагаваў на вайну — ніяк».

Шчыра скажу, чуць такія водгукі было ніякавата, хоць яны і былі справядлівыя. Хіба вырвеш з сэрца вялікі кавалак жыцьця, зьвязаны з Гарбачовым, распачатую ім перабудову? Апрача таго, давялося пры даволі незвычайных абставінах зь ім размаўляць (пра гэта пазьней), адчуць шчырасьць і адкрытасьць першага прэзыдэнта былой агульнай краіны, а потым зноў і зноў параўноўваць гэтыя ўражаньні з эмоцыямі ад сустрэч зь іншым першым прэзыдэнтам — Беларусі.

Вельмі хацелася з хлопцамі абмеркаваць ролю Гарбачова ў нашым жыцьці, у гісторыі. Схітрыў, закінуў кручок: «А я ж зь ім сустракаўся калісьці». Не з такой ужо вялікай зацікаўленасьцю, хутчэй проста па зэкаўскай звычцы бавіць час размовамі, але адгукнуліся: «А ну, раскажыце. Інтэрвію бралі, ці як?»

Прылёг на ложак. Пачаў так: калі падводзіць нейкі вынік, дык Гарбачоў для мяне быў палітыкам, які даў майму пакаленьню ня толькі свабоду, але і крылы, адчуваньне сваёй, нацыянальнай, а не агульнай савецкай радзімы, разуменьне адказнасьці за яе далейшы лёс. Гэта дзякуючы Гарбачову я, як і мільёны грамадзянаў, уцягнуўся ў палітычнае жыцьцё, а да таго, хоць і працаваў журналістам найбуйнейшай газэты Беларусі, у палітычным сэнсе плыў па цячэньні. Сям'я, праца, кватэра, адпачынак. І зноў па тым жа коле: сям'я, праца, кватэра, адпачынак…

## Дарога ад Радзівілаў

У кожнага, хто ўжо жыў у сярэдзіне 80-х, свае ўспаміны пра тое, як пакацілася з гары кола, якое потым назавуць брэжнеўскім застоем.

У які ж канкрэтна момант гэта адбылося?

Мне памятаецца вяртаньне з камандзіроўкі ў Нясьвіж. Сакавік 1985 году. Я яшчэ не перайшоў у «Знамя юности», працую інструктарам-лектарам у Менскім абкаме камсамолу. Некалькі дзён правёў у паездках па раёне, правяраў, як наладжана праца лектарскіх гурткоў у нізавых

арганізацыях — калгасах, райспажыўсаюзе ды іншых канторах. Кожны камсамолец мусіць праслухаць хаця б адну лекцыю на актуальныя тэмы: барацьба за мір, атэізм, выкананьне пляну пяцігодкі.

Вось яшчэ тэма — дысцыпліна і парадак. Юрый Андропаў распачаў змаганьне за дысцыпліну, але ня скончыў справу, памёр. Ну, і само сабой — «эканоміка павінна быць эканомнай». Гэты мудры лёзунг, яшчэ брэжнеўскі, асабліва загрымеў, калі краінай пачаў кіраваць апошні з брэжнеўскай кагорты генсекаў, Канстанцін Чарненка. Таксама ёсьць пра што расказаць таварышам камсамольцам.

Направяраўся, нядрэнна пачаставаўся сьвежым півам у кампаніі з сакратаром райкаму камсамолу, і вось еду дамоў рэйсавым аўтобусам. Дома чакае жонка, трое малых сыноў, малодшаму зь якіх менш за год. У камандзіроўцы, натуральна, адпачыў ад сямейных турбот, бо насамрэч успрымаў іх больш важнымі за сваю працу. Еду і думаю: ну якая розьніца, колькі лекцый прачыталі камсамольцы якойсьці там базы гародніны ці шпіталя ў мястэчку Сноў? Мне ж вядома, што гэта фікцыя, што ніякіх лекцый там ніхто не чытае, але ў справаздачы ўсё роўна напішу, што прачытана іх больш, як летась. І ў райкаме камсамолу добра вядома, што я так напішу, таму і частавалі мяне шчодра півам з салёнай рыбкай. Ну такі ён, наш савецкі сацыялізм — хлусьлівы і цынічны, але добры і хмяльны. Ня тое каб вельмі сыты, але ж і не галодны. Прыстасаваліся.

Аўтобус імчаў па дарозе зь Нясьвіжа на Менск, у вакне мільгалі разгалістыя сосны. Цяпер такіх ужо няма на ўзбочынах, на пачатку 2000-х іх усе пры рамонце трасы пазразалі. А тады гэтыя сосны ўперамежку з дубамі былі галоўнаю аздобаю старой нясьвіскай дарогі, якая яшчэ памятала апошніх князёў Радзівілаў. Прыгожа… Як раптам кіроўца аўтобуса на ўсю моц выкруціў гук радыё. «Сёньня на… годзе жыцьця памёр… генэральны сакратар ЦК КПСС Канстанцін Усьцінавіч Чарненка…»

Добра памятаю сваю рэакцыю. Што зусім не засмуткаваў, не зьдзівіўся. Наадварот, настрой нават падняўся. Чарговае пахаваньне абяцала новыя анэкдатычныя гісторыі кшталту той, што адбылася з труной Леаніда Брэжнева. Падчас ягонага пахаваньня магільшчыкі з аднаго боку яміны не ўтрымалі вяроўкі, і ўся краіна праз жывую трансьляцыю чула, як труна бразнулася ў магілу. Ужо празь некалькі дзён зьявіўся жарт пра савецкі народ, які так смуткаваў па «дарагім Леаніду Ільічу», што адразу ўключыўся ў спаборніцтва, хто хутчэй выкіне ягоную труну. Цікава, што складуць пасьля сьмерці пра Чарненку?

## «Моладзь Меншчыны смуткуе»

З Канстанцінам Чарненкам разьвіталіся незаўважна. У маёй памяці дык ніякай карцінкі не засталося, акрамя гісторыі з жалобнымі тэлеграмамі ад імя моладзі Меншчыны. Апавяданьне

пра гэтыя тэлеграмы заўсёды ішло на ўра ў маіх турэмных сяброў што ў ізалятарах, што ў калёніі. Паўтараў яго з натхненьнем.

Першую такую тэлеграму мне даручылі скласьці, як толькі стала вядома пра сьмерць Леаніда Брэжнева. На календары быў 1982 год. Памятаю, да заданьня паставіўся надзвычай сур'ёзна. Пабег у бібліятэку, доўга корпаўся ў падшыўках партыйных газэт, нешта скапіяваў, нешта дапісаў ад сябе. Тэкст тэлеграмы пра тое, як моладзь Меншчыны разам з усім савецкім народам смуткуе з прычыны страты «выбітнага дзеяча сусьветнага камуністычнага руху…», аднёс на подпіс сакратару па прапагандзе Аляксандру. Сакратар той даволі часта ўжо пад абед быў у вясёлым настроі, і гэтым разам сваю рэпутацыю пацьвердзіў. «Ну ты яго размаляваў!» — хмыкнуў Аляксандар і, прыхапіўшы тэлеграму, сабачкам пабег да першага сакратара абкаму Людмілы. Празь пяць хвілін тэлеграма паляцела ў Маскву.

Паўтара года ляжаў чарнавік той тэлеграмы пад іншымі паперамі ў скрыні майго стала. Чаму не даходзілі рукі пачысьціць стол, ня памятаю. Можа, калі б павысілі на пасадзе, перавялі ў іншы аддзел, даўно б выкінуў зь іншымі паперамі ў сьметніцу, але бяз членства ў кампартыі на падвышэньне разьлічваць не выпадала, а каб уступіць у КПСС з апаратнай працы, а не з вытворчасьці, трэба было дачакацца чаргі. Карацей, у лютым 1984 году памірае наступны пасьля Брэжнева генсек, Юрый Андропаў, і зноў я атрым-

ліваю заданьне хутчэй-хутчэй скласьці тэлеграму са спачуваньнямі ад моладзі Меншчыны.

Ну, і, вядома, згадваю пра брэжнеўскую тэлеграму, якая недзе пыліцца пад стосам пастаноў пленумаў і рэзалюцый канфэрэнцый. Дастаю той чарнавік, скарачаю некалькі эпітэтаў і трохі сопляў пра смутак, і ўжо праз паўгадзіны з тэкстам тэлеграмы — у таго ж Аляксандра. Таварыш сакратар па ідэалёгіі гэтым разам у строгім і дзелавым настроі — усё ж дала сябе знаць андропаўская кампанія змаганьня супраць п’янства і за дысцыпліну на працоўных месцах. Старанна ўсё прачытаў, паківаў галавой, нешта нават паправіў, перад тым як паставіць загагуліну пад тэлеграмай, але гэтым разам нікуды зь ёй не пабег, аддаў мне: «Нясі хутчэй у прыёмную». Страх перад Андропавым на вачах зьнікаў.

Няма чаго казаць, што як толькі стала вядома, хто стаў новым генэральным сакратаром ЦК КПСС, што абралі самага нямоглага з магчымых кандыдатаў — апаратчыка Канстанціна Чарненку, чарнавік андропаўскай тэлеграмы быў прыкладзены да брэжнеўскай і адпраўлены ў асобную тэчку чакаць свайго часу. Які і наступіў яшчэ праз год, у сакавіку 1985-га.

Тады, 10 сакавіка, мне заставалася ўсяго толькі адразу па прыбыцьці аўтобуса зь Нясьвіжа ў Менск пабегчы на працу, дастаць тыя тэлеграмы, яшчэ больш абкарнаць тэкст у бок стрыманага смутку — і гатова. Моладзь Меншчыны зноў смуткуе. Ну, ня так шчыра, як раней, але ўсё ж.

Пройдзе літаральна год, пачнецца гарбачоўская перабудова, і некаторых з нас будзе не пазнаць. Асабіста пра сябе скажу, што наступныя дзесяць гадоў будуць самымі цікавымі, насычанымі і радаснымі ў маім жыцьці. Гэта ж такі кайф адчуваць смак свабоды! Учора ты ня ведаў, што гэта такое, а сёньня ён усё мацнейшы, мацнейшы, ты ўжо ня можаш безь яго жыць. А галоснасьць! Прыходзіш вечарам з працы, трэба класьціся спаць, а ты да раніцы запоем чытаеш чарговы нумар «Огонька», дзе што ні артыкул — усё сэнсацыя.

З галоснасьцю нам адкрылася праўда пра рэпрэсіўную сутнасьць камуністычнай эпохі, і яна ж адчыніла фортку ў новую эпоху — дэмакратычную. У маёй біяграфіі гэтая перамена зьвязаная ў тым ліку зь імем Міхаіла Гарбачова.

## Хто «ня мог пастугіацца прынцыпамі»

У Беларусі перабудова буксавала праз кансэрватызм і замшэласьць мясцовай камуністычнай намэнклятуры, якую пісьменьнік Алесь Адамовіч аднойчы трапна назваў «Вандэяй перабудовы», і гэтая назва засталася ў гісторыі. Вандэя — правінцыя на захадзе Францыі, дзе ў часы Вялікай французскай рэвалюцыі мясцовыя арыстакраты падбухторылі сялян на паўстаньне супраць рэвалюцыйнага Парыжу.

Аналёгія зь Беларусьсю сярэдзіны і канца 1980-х гадоў мінулага стагодзьдзя была вельмі дарэчная, але з той розьніцай, што на адкрытае

супрацьстаяньне з Масквой чырвоны намэнклятурны Менск не адважыўся, духу хапіла толькі на маўклівы сабатаж. Мясцовыя камуністычныя начальнікі рабілі выгляд, што перабудоўваюцца, а самі трымалі дуліны ў кішэні ды чакалі, калі ж Гарбачоў на чымсьці пасьлізьнецца.

Шанец выпаў увесну 1988 году, пасьля таго як у газэце «Советская Россия» зьявіўся артыкул «Не могу поступаться принципами» Ніны Андрэевай. Ленінградзкая выкладчыца Андрэева абяляла дыктатара Сталіна, асабліва ўсхваляючы ягоны ўнёсак у перамогу ў Айчыннай вайне, а вось лібэральную прэсу чыхвосьціла за пошукі праўды пра войны і рэпрэсіі. Артыкул Ніны Андрэевай пазьней справядліва назавуць маніфэстам антыперабудовачных сілаў. Нездарма яго ўхваліў сакратар ЦК КПСС Ягор Лігачоў, які вёў кулюарную барацьбу зь Міхаілам Гарбачовым. Мяркуецца, што якраз на прапанову Лігачова ягоныя аднадумцы ў ЦК кампартыі Беларусі вырашылі шырока распаўсюдзіць той артыкул у беларускіх газэтах.

Тады я працаваў адказным сакратаром газэты «Знамя юности» — друкаванага органа беларускага камсамолу, якому, як і ўсесаюзным выданьням, дазвалялі свабоды крыху больш, чым газэтам абласным, а тым больш раённым. Нагадаю, недзяржаўных мэдыя ў той час увогуле яшчэ не было. «Знамёнка», так коратка называлі нашу газэту, лічылася адной з самых дэмакратычных у рэспубліцы і, на маю думку, гэта было справядліва. Мы не абміналі актуальных палітычных

і грамадзкіх тэмаў, якіх іншыя газэты пазьбягалі, баючыся атрымаць па шапцы ад куратараў з аддзелу прапаганды ЦК КПБ. Загадчыкам там сядзеў такі Савелій Паўлаў, заўзяты сталініст, адно імя якога выклікала ў беларускіх рэдактараў нэрвовую дрыготку.

Але не ў «Знамёнцы». Мы нават першымі ў рэспубліцы ўмудраліся паведамляць пра дзейнасьць народных франтоў, што ўзьніклі і імкліва набывалі папулярнасьць у прыбалтыйскіх рэспубліках. Ідэя стварэньня народнага фронту і ў Беларусі ўжо лунала ў паветры, нездарма начальства з ЦК кампартыі нават словазлучэньне «народны фронт» ужываць на старонках газэт катэгарычна забараніла.

## Ідэі не спыніць, не стрымаць

Тут я крыху адхіляўся ўбок ад асноўнай тэмы і апавядаў маім слухачам пра асабісты сакрэт, які дапамагаў абыходзіць забарону друкаваць зьвесткі пра народныя франты Эстоніі, Латвіі і Літвы.

Паводле службовых абавязкаў трэцюю газэтную паласу для заўтрашняга нумару я павінен быў фармаваць самастойна. Звычайна гэтая паласа забівалася матэрыяламі і навінамі з стужак саюзных інфармацыйных агенцый ТАСС і АПН. Зрэдку яшчэ і БелТА. Зрэдку, бо айчынны аналяг ТАСС працаваў надта нецікава, фактычна на сьметніцу. Выкарыстаньне матэрыялаў інфармагенцый давала рэдакцыям магчымасьць

эканоміць ганарарны фонд і разнастаіць тэматыку артыкулаў, таму ў нашай моладзевай газэце «блёку замежжа» аддавалі ажно адну з чатырох палос. Я вынайшаў яшчэ адзін плюс.

Кожная паласа пасьля набору ў тыпаграфіі, выпраўленьня памылак рэдакцыйнымі карэктарамі і дзяжурнымі, адносілася яшчэ на чытку цэнзару. Чалавек з такой пасадай сядзеў у Доме друку ў асобным кабінэце, ягоным абавязкам было праверыць усе сыгнальныя экзэмпляры газэт, перад тым як іх пачнуць друкаваць тысячнымі тыражамі. Найперш цэнзар шукаў хаця б намёкі на сакрэты вайсковай службы альбо службаў бясьпекі, а палітычныя памылкі яго цікавілі меней, бо лічылася, што гэта зона адказнасьці рэдактара. І я паступова заўважыў, што трэцюю паласу з матэрыяламі пра замежжа цэнзар праглядае мімаходзь, адным вокам. Можа, таму, што матэрыялы агенцый ужо правяраліся іхнымі ўнутранымі цэнзарамі, ці таму, што цікаўнасьць да падзей за мяжой стала ў той час мінімальнай.

Прыйшло ў галаву скарыстацца такой магчымасьцю, і ў выніку некалькі разоў, макетуючы чарговую трэцюю паласу, я сьвядома ставіў у «замежны блёк» артыкул пра дзейнасьць у Эстоніі «Народнага фронту». Альбо пра літоўскі «Саюдзіс».

Але вернемся ў сакавік 1988 году. Дакладна ведаю, што гэта з аддзелу прапаганды ЦК КПБ прыйшоў загад у рэдакцыю неадкладна перадрукаваць артыкул Ніны Андрэевай.

Але чаму, насуперак рэпутацыі самага дэмакратычнага выданьня, чыноўнікі з ЦК вырашылі разьмясьціць свой маніфэст менавіта ў «Знамени юности»? Чаму не ў падпарадкаванай ім наўпрост «Советской Белоруссии» ці хаця б «Сельскай газеце»?

Мяркую, найперш з прычыны вялікага накладу. Нагадаю, «Знамя юности» тых часоў мела тыраж, большы за 600 тысяч экзэмпляраў, і выходзіла 5 разоў на тыдзень. Тады людзі жартавалі, што з кожнай паштовай скрыні ў рэспубліцы тырчыць «Знамёнка». То бок ахоп аўдыторыі з аднаго разу быў бы ўнушальны. Другая прычына — разьмяшчаць яўна антыгарбачоўскі артыкул у вядучых партыйных газэтах беларускія камуністычныя начальнікі забаяліся: а раптам Гарбачоў даведаецца, пазбавіць пасадаў? Вось і вырашылі запусьціць пробны шар праз нашу моладзевую газэту. І час для публікацыі падабралі ўдалы — нядзельны нумар, калі чытачоў найбольш.

Добра памятаю тую пятніцу, калі выканаўца абавязкаў рэдактара Аляксандар С., сыходзячы пад вечар з працы, нібыта як нешта другаснае, неахайна кінуў на стол гранкі нейкага артыкула. «На другую паласу пастаў. Ну, я пайшоў». Далей, як адказнаму сакратару, мне заставалася толькі па гэтых гранках падлічыць радкі, знайсьці артыкулу месца на макеце будучага нумару, аздобіць загалоўкам і рубрыкай, а потым таксама можна зьбірацца дадому. Сам артыкул можна было і не чытаць, бо карэктура над ім ужо папрацавала —

гэта было бачна па выпраўленьнях, пазначаных асадкай.

Пачаў рабіць сваю справу, і калі дайшло да загалоўка, раптам усьвядоміў: ці ня той гэта скандальны артыкул з «Совраски» (так называлі цэнтральную газэту «Советская Россия», з намёкам на яе асаблівую пазыцыю), пра які ўжо чуў? Пачаў перачытваць. Асабліва зачапіўся вокам за ўспамін Уінстана Чэрчыля пра Сталіна. За той кавалак, дзе прэм'ер-міністар Вялікай Брытаніі надзвычай камплімэнтарна згадвае «правадыра ўсіх народаў»: «Когда он входил в зал Ялтинской конференции, все мы, словно по команде, вставали. И странное дело — держали руки по швам»…

Гэта ўжо пазьней даведаўся, што ўспамін Чэрчыля, які цытавала Андрэева, быў суцэльнай падробкай, але і тады прачытанае насьцярожыла, узьнік моцны недавер да ўсяго артыкула. Падумалася, што наўрад ці гэткі спрэчны артыкул будзе да месца ў нашай дэмакратычнай газэце. Але што рабіць?

Такіх паўнамоцтваў, каб зусім ня ставіць у нумар артыкул, ухвалены рэдактарам, я ня меў. Паводле службовых абавязкаў мусіў гэта зрабіць без развагаў, і так было б яшчэ год таму. Але на календары быў ужо 1988 год. Мы ўжо паверылі, што мы ня вінцікі, што ад нас таксама нешта залежыць, не баяліся абурацца, калі нам падсоўвалі нейкую сталінскую мярцьвячыну. Можа, гэта і была адказнасьць, якую абудзіла распачатая Міхаілам Гарбачовым перабудова.

Тут сваю ролю выканалі і дэкляраваныя Гарбачовым новыя нормы жыцьця. Ня толькі галоснасьць, але і ўдзел грамадзтва ў кіраваньні. Спачатку гэта было на ўзроўні дэклярацыі, але паступова людзі сапраўды пачалі нібы прачынацца, сьмялей браць адказнасьць на сябе. У нашай газэце, напрыклад, заявіла пра сябе рэдакцыйная калегія — выбарны кансультацыйны орган пры рэдактуры. Раней рэдкалегію склікалі, калі трэба было прыструніць каго за нядбайнасьць і памылкі, але цяпер рэдкалегія пачала ўмешвацца і ў рэдакцыйную палітыку.

Вось да гэтай рэдкалегіі і вырашыў тэрмінова зьвярнуцца — добра, што з працы журналісты яшчэ не разышліся. Ужо празь дзесяць хвілін большасьць рэдкалегіі сабралася на сход, кожны прачытаў артыкул Андрэевай, потым выказаліся. Здаецца, нават галасаваць не давялося, бо ніхто ня быў за тэрміновую публікацыю артыкула. Знайшліся тыя, хто прапаноўваў яе адкласьці, а за гэты час падрыхтаваць дыскусійныя матэрыялы. Але так зьнянацку аддаць паласу нумара пад гэты артыкул — катэгарычна не!

## «Малайцы! Я ў вас верыў!»

Тыя, хто быў супраць, заявілі пра сябе ў панядзелак, калі грымнуў скандал: у нядзельным нумары артыкула Андрэевай не аказалася. Для выканаўцы абавязкаў рэдактара гэта быў магутны ўдар. Аляксандар хадзіў па рэдакцыйным калідоры з шэрым тварам, кабінэты некаторых

супрацоўнікаў абмінаў. Намесьнік ягоны, Уладзімер Б., таксама нэрвова кусаў губы і адводзіў вочы. Нас па адным сталі запрашаць у рэдактарскі кабінэт даваць тлумачэньні. Калі прыйшла мая чарга, за даўгім сталом убачыў інструктара аддзелу прапаганды ЦК КПБ таварыша К., куратара рэспубліканскай моладзевай прэсы. Той ані слова не прапраніў, пакуль я тлумачыў, навошта склікаў рэдакцыйную калегію. Але як выходзіў, К. падняўся, дагнаў мяне ўжо ў калідоры і там зашыпеў, каб ніхто ня чуў: «Гадзяня, ды я цябе…»

Цягам дня сытуацыя была ўсё ж дзіўная. З аднаго боку, не спыняўся разбор, ішлі размовы за зачыненымі дзьвярыма зь сябрамі рэдкалегіі, і быў даволі моцны псыхалягічны ціск, асабліва на маладых журналістаў. Ім пагражалі вымовамі, нават звальненьнем. Але пры гэтым наўпрост зьмяніць рашэньне рэдкалегіі ці адмяніць яго зусім начальства не наважвалася. Нібыта за калектывам усё ж прызнавалі права на самастойную пазыцыю. Мяне нават не адхілілі ад працы адказнага сакратара, у той дзень, як звычайна, маляваў макет трэцяй паласы будучага нумару. Прычым маглі ж паставіць скандальны артыкул у нумар і безь мяне, знайшлося б каму зрабіць сакратарскую працу, але такога загаду супрацоўнікам не аддалі.

Наступным днём сытуацыя зьмянілася. К. у рэдакцыю больш не прыходзіў, мы адпрацавалі, як у ранейшыя часы, спакойна, і паводле графіку здалі нумар. Назаўтра тое самае. Ужо пазьней стала вядома, што якраз на час, калі Міхаіл Гар-

бачоў быў зь візытам у Югаславіі, прыпалі спробы публікацыі артыкула Андрэевай у розных савецкіх газэтах. Дзесьці ўдалыя, дзесьці не. Верагодна, гэта была кампанія, сплянаваная праціўнікамі Міхаіла Гарбачова ў ЦК КПСС, а беларуская «Вандэя», як заўсёды, і тут вызначылася, узяўшы пад казырок.

Мы ў «Знамёнцы» зрабілі такую выснову. А ўжо потым даведаліся, што па вяртаньні зь Югаславіі Гарбачоў склікаў паседжаньне Палітбюро ЦК, на якім абмяркоўвалі артыкул Андрэевай, і што па выніках таго паседжаньня паплечнік генсека Аляксандар Якаўлеў напісаў артыкул, у якім палемізаваў зь Нінай Андрэевай, а яе публікацыю назваў «маніфэстам антыперабудовачных сілаў». Адтуль і пайшоў гэты крылаты выраз.

Што да нашых разважаньняў пра замову на артыкул Ніны Андрэевай у беларускай мэдыйнай прасторы, дык вось яшчэ адзін ускосны доказ. Праз некалькі дзён, як наступ на нас скончыўся, той жа в.а. рэдактара Аляксандар С. пры ўсім калектыве ціснуў мне руку і дзякаваў за «праяўленую ўвагу». І таксама хваліў за пільнасьць усю рэдакцыйную калегію. Казаў нам нешта кшталту: «Малайцы, не саступілі! Я ў вас верыў, не падвялі!»

Ну, так. Каб не рашучасьць маладых сябраў рэдкалегіі, хадзіў бы спадар в.а. рэдактара па высокіх кабінэтах з бледным выглядам і пісаў бы тлумачальныя запіскі, чаму адмовіўся ад прынцыпаў, пайшоў супраць «лініі партыі». А так пранесла, ды яшчэ выставіў сябе героем!

Згадваў тую даўнюю гісторыю сваім турэмным сябрам, каб паказаць, як усяго за некалькі гадоў гарбачоўскай перабудовы маглі зьмяніцца палітычныя погляды, манаполія камуністычнай ідэалёгіі саступала месца палітычнаму плюралізму. Вядома, гэта быў яшчэ не сапраўдны плюралізм поглядаў, у рэальнасьці мы адзін знак памянялі на другі і так жа некрытычна падхапілі новыя ідэі, як раней прапагандавалі былыя. Паварот да ідэі дэмакратычнай нацыянальнай дзяржавы быў яшчэ наперадзе. Але рэдакцыя «Знамёнкі» ўзору 1988 году яўна была сярод тых, хто рушыў да гэтай мэты.

Менавіта ў той час сярод маладых супрацоўнікаў газэты зьявіўся Алесь Ліпай, з ініцыятывы якога частка матэрыялаў пачала друкавацца па-беларуску. Аляксандар С. так і ня быў зацьверджаны рэдактарам газэты і ўцёк на працу ў ЦК КПБ, ягоны намесьнік Уладзімер Б. ня змог паладзіць з калектывам і таксама звольніўся.

Рэдактарам «Знамени юности» стаў Аляксандар Класкоўскі, пры якім газэта працягнула курс на разьвіцьцё дэмакратыі ў рэспубліцы.

«А што цяпер? А цяпер — жопа! Вось і цана вашых рэформаў!» — так мой сябар у калёніі Сяргей паставіў сваю тлустую кропку пад гісторыяй пра гарбачоўскую перабудову.

Хлопцы доўга рагаталі. А я злаваў, не пагаджаўся, хоць па сутнасьці запярэчыць нічога ня мог.

У запасе ў мяне была яшчэ адна гісторыя, ужо непасрэдна зьвязаная зь перабудоўшчыкам Гар-

бачовым і ягоным прыездам у Беларусь праз два гады ад згаданых падзей, на пачатку 1990-га.

## Гарбачоў едзе ў Менск

У канцы 1980-х гадоў мінулага стагодзьдзя адносіны Менску з Масквой заўважна разладзіліся.

Да адкрытай канфрантацыі беларускай «Вандэі» зь Міхаілам Гарбачовым і ягоным атачэньнем не даходзіла, усе кампаніі, ініцыяваныя Масквой, у сталіцы Беларусі, дзе кіраваў камуністычны артадокс Яфрэм Сакалоў, нібыта старанна дубляваліся, але заўважна было нават на ўзроўні моладзевай прэсы, што паразуменьня паміж саюзным і рэспубліканскім начальствам ужо няма. Паказчыкам было хоць бы тое, што Гарбачоў настойліва абмінаў Сакалова ўвагай і не прыяжджаў у Менск, пакуль той заставаўся першым сакратаром ЦК КПБ. Прыходзілі зьвесткі, што Гарбачоў настойвае на вышэйшых кадравых зьменах у Беларусі. Між тым у самой Маскве ўлада з рук кампартыі высьлізгвала. Калі ў лістападзе 1990 году Сакалова адправілі ў адстаўку, Гарбачоў ужо быў абраны прэзыдэнтам СССР і менавіта ў гэтай якасьці ў канцы лютага 1991 году прыехаў з працоўным візытам у Беларусь.

Першым пунктам ягонай праграмы было наведваньне Менскага трактарнага заводу, другім — Вярхоўнага Савету, трэцім — сустрэча з прадстаўнікамі навуковай і творчай інтэлігенцыі ў Акадэміі навук. Нават асобнага наведваньня ЦК КПБ прадугледжана не было.

Навошта ўзгадваў такія акалічнасьці? Каб суразмоўцы разумелі палітычны фон і асаблівасьць тых падзей: Гарбачоў ужо прэзыдэнт СССР, ён з усіх сілаў спрабуе ўтрымаць рэспублікі ў адзіным саюзе, але гэта ўжо, найхутчэй, немагчыма. Толькі што, у студзені 1991-га, у суседняй зь Менскам Вільні савецкія войскі стралялі па абаронцах незалежнай Літвы, загінулі 14 чалавек. У адказ на тую трагедыю ў Маскве прайшоў паўмільённы мітынг салідарнасьці зь Літвой.

Дэмакратычныя сілы ў Расеі гуртуюцца вакол Барыса Ельцына, які выступае з ідэяй незалежнасьці Расейскай Фэдэрацыі. Але гэта шлях, які разбурыць СССР і непазьбежна прывядзе да краху палітычную кар'еру Гарбачова. Наколькі ініцыятар перабудовы гэта ўсьведамляе?

Што сытуацыя пагаршаецца, можна было бачыць і падчас візыту Гарбачова ў Менск. Знаёмы журналіст, які працаваў на прыезьдзе Гарбачова на МТЗ, падзяліўся зьвесткамі пра тое, як яго сустрэлі. Як ужо бывала раней, Міхаіл Гарбачоў зламаў падрыхтаваную схему і сам знайшоў суразмоўцаў сярод рабочых. І яму паскардзіліся на разрыў гаспадарчых сувязяў, што не хапае камплектуючых. А што будзе яшчэ праз паўгода? Гарбачоў на гэта зацягнуў любімую песьню пра новую саюзную дамову, але рабочыя рэагавалі на яго словы без энтузіязму. «Няма таго, што раньш было», — падсумаваў калега.

Мы размаўлялі за пару гадзін да таго, як прэзыдэнт СССР прыехаў у Акадэмію навук на сустрэчу з інтэлектуальнай элітай. Было вядома,

што пасьля выступу Гарбачоў дасьць прэсавую канфэрэнцыю, і мне ў «Знамени юности» даручылі зрабіць рэпартаж ды па магчымасьці задаць яму пытаньне. Гарбачова трэба было чакаць у Акадэміі, куды прапусьцяць па журналісцкім пасьведчаньні.

## «Не зьвяртайце на Ельцына ўвагі»

Ужо было цёмна, калі чорны лімузін Гарбачова павольна пад'ехаў да калянады Акадэміі навук. Да аўтамабіля падбеглі ахоўнікі ў цывільным, адзін адчыніў дзьверцы. Пад калянадай шчыльным паўколам стаялі менчукі, некаторыя з плякатамі. Бліжэй да ўваходу людзей не пускала ахова ў цывільным і міліцыянты.

Прэзыдэнт СССР выйшаў зь лімузіна і пайшоў да ўваходу ў Акадэмію праз натоўп. Яму пляскалі ў ладкі, ён у адказ махаў рукой, шырока ўсьміхаўся, але не спыніўся, каб зь некім пагаварыць, як раней. Вось ён ужо на сярэдзіне паўкруглай пляцоўкі. Сярод журналістаў стаю ля ўваходу знутры, назіраю за набліжэньнем Гарбачова празь дзьвярное шкло. Нейкі строгі чалавек у цывільным, відаць, гэбіст, загадвае нам адыйсьці ад дзьвярэй, зрабіць праход.

Раптам у натоўпе нехта падымае плякат, на якім напісана «Ельцын». І адначасова некалькі чалавек пачынаюць скандаваць усё гучней: «Ельцын! Ельцын!» А далей адбываецца непрадказальнае. Гарбачоў, нібы атрымаўшы стрэл у сьпіну, спыняецца, рэзка разварочваецца і

такім жа хуткім крокам ідзе да тых, хто скандуе прозьвішча ягонага антаганіста. Вось ён у натоўпе, здалёк бачна, што там пачалася размова, але пра што? Са сьпіны Гарбачова закрываюць ягоныя целаахоўнікі, наблізіцца немагчыма, і я прымаю рашэньне выйсьці зь дзьвярэй, але не ісьці бліжэй да Гарбачова, бо ўсё роўна не падпусьцяць, а чакаць тут, на пляцоўцы. Пройдзе ж міма.

Праз пару хвілін так і адбылося. Гарбачоў набліжаўся, але ўжо без усьмешкі, відаць было, што нэрвуецца. Набіраюся сьмеласьці і задаю сваё пытаньне: «Міхаіл Сяргеевіч, можна даведацца, пра што вы размаўлялі з гэтымі людзьмі? Чаму яны скандуюць «Ельцын»? Як вы гэта ацэньваеце?»

Гарбачоў на імгненьне затрымаўся. Спытаў, хто я, а пачуўшы, што журналіст, махнуў рукой. «А, не зьвяртайце на Ельцына ўвагі! Які там Ельцын! Вось зараз пра ўсё буду гаварыць, закрытых тэмаў ня будзе».

Выступаючы з трыбуны Акадэміі навук, Міхаіл Гарбачоў, аднак, абмінуў тэму рознагалосьсяў з Барысам Ельцыным і ўвогуле ў прагнозах і мэтах стараўся быць як мага больш аптымістычным. Між тым кіраваць краінай яму заставалася меней за год, а рэальную ўладу ён страціць ужо праз паўгода, у жніўні 1991-га. Прычым калі той, першы ўдар Гарбачоў атрымае ад паплечнікаў, дык другі, вырашальны, — ад Барыса Ельцына, якога яўна недаацаніў.

У жніўні 1991 году здарыўся путч ГКЧП.

Падзея засталася ў памяці ў выглядзе карцінак з тэлевізара і таго, што бачыў на свае вочы ў Менску, але ў зьмененым храналягічным парадку.

Вось танцуюць балерыны зь «Лебядзінага возера», а вось ужо брыфінг апазыцыі Вярхоўнага Савету Беларусі, лідэры БНФ абураюцца старшынём Мікалаем Дземянцеем.

Цяпер перад вачыма прэсавая канфэрэнцыя путчыстаў, у віцэ-прэзыдэнта СССР Генадзя Янаева дрыжаць рукі. І адразу іншае — як шукаю на прымачы хвалю «Голасу Амэрыкі», рэпартаж пра абарону Белага дому.

Новая карцінка — целаахоўнік партфэлем закрывае Ельцына, калі той выступае перад натоўпам. А наступная — я за Домам ураду, побач з грузавіком з узброенымі вайскоўцамі. Жанчыны пераконваюць салдацікаў, каб не стралялі па людзях, калі такі загад паступіць, але нас адганяюць афіцэры.

І зноў з тэлевізара: Гарбачоў сыходзіць па трапе самалёта, на якім вярнуўся з Фаросу, але нешта такі нявясёлы…

## Уладзімір Пуцін. Адзін

Мой успамін пра Міхаіла Гарбачова будзе няпоўны, калі не падзялюся ўражаньнем ад сцэны, якую ў Магілёўскай калёніі ўбачыў у тэлевізары. Гэта быў кароткі рэпартаж расейскага тэлеканала з грамадзянскага разьвітаньня з апошнім генсекам і прэзыдэнтам СССР.

У абсалютна пустой залі да труны зь нябожчыкам, да якой не было ўскладзена яшчэ ніводнай кветкі, вельмі павольна, кароткімі крокамі наблізіўся прэзыдэнт Расеі Ўладзімір Пуцін, паклаў у труну букет цёмна-пунсовых руж, пастаяў і выйшаў з кадра.

Глядзеў на гэтую сцэну ашаломлена. Нібы хавалі надзею, а яе забойца прынёс кветкі. Нехта з хлопцаў побач хмыкнуў, настолькі недарэчна выглядаў адзінокі Пуцін у пустой залі сам-насам з труной Гарбачова.

Далей тэлевізар паказаў кароткую чараду тых, хто прыйшоў разьвітацца з ініцыятарам перабудовы. Рэпартаж быў зьняты так, каб не было зразумела, колькі яшчэ людзей зьбіраюцца аддаць Міхаілу Гарбачову апошнія знакі павагі.

# 6.
# Зона аховы




КАЛІ ШЭРЫЯ ВАРОНЫ, ГАЛКІ, ГАЛУБЫ І ВАРАБ'І ЖЫВУЦЬ МІРНА

## Эйджызм у калёніі

Да зьняволеньня думаў, што ўсе асуджаныя за кратамі маюць мянушкі, якія становяцца іх новымі імёнамі. Але гэта праўда толькі напалову. Шмат хто сапраўды мае мянушкі, прычым даволі сьмешныя і дзіўныя. Некаторыя заяжджаюць у калёнію ўжо зь мянушкай, атрыманай яшчэ на волі ад сяброў.

Зьявіўся ў нашай камэры ў СІЗА хлопец. Імя чалавечае ёсьць, а назваўся Агурчыкам. Усім сьмешна, яму таксама. Пытаюся, ці ня крыўдна табе? Так, крыху ёсьць, адказвае, мянушку атрымаў у дзіцячым доме, дык ужо прызвычаіўся і згодны, што панясе, мабыць, гэтае імя праз усё жыцьцё.

Другому хлопцу ўжо ў СІЗА далі мянушку Шлёмка. Так на турэмным жаргоне завецца алюмініевая міска. Хлопец аднойчы надрапаў на ёй нейкі надпіс, і ў выніку да яго прыклеілася та-

кая крыўдная мянушка. Якой ён, дарэчы ня быў рады і прасіў называць яго па імені. У камэры да просьбы прыслухаліся, Шлёмкам хлопца называлі адзінкі, і то зрэдку.

То бок я пра тое, што калі асуджаны супраць мянушкі, якая яму дасталася ад калег па няшчасьці, дык гэтаму можна працівіцца. І пасьпяхова. Унутраныя турэмныя законы такі супраціў дазваляюць. Трэба толькі быць настойлівым, прапаноўваць называць цябе па імені ці прозьвішчы, не адгукацца на мянушку і не баяцца праз гэта ісьці нават на жорсткі канфлікт. У выніку абавязкова прагучыць: «Добра, я цябе пачуў». У перакладзе з зэкаўскай мовы гэта азначае, што з табой пагадзіліся і абавязваюцца выправіцца.

Ну, а хто згодны зь мянушкай, той застанецца да канца тэрміну Барбосам, ці Чукчам, ці яшчэ некім, як было ў нашым атрадзе. Чалавеку пад пяцьдзясят гадоў, а навакольныя ўсё будуць дражніць яго, як сабачку.

У асобным становішчы людзі старэйшага веку. Гэтым маладзейшыя зэкі адразу прыклейваюць мянушкі «дзед» ці «стары», і змагацца з такой практыкай надта цяжка. Бо гэта нават не мянушкі, а такая форма звароту. «Дзед, ты чаго тут стаў?», «Стары, а цябе за што пасадзілі?» — чуеш у першыя дні з усіх бакоў. Аднак дрэнна тое, што калі пакінуць справу без рэагаваньня, дык хутка станеш «дзедам» і для сяброў, а тваё сапраўднае імя стане непатрэбным.

Асуджанаму ж вельмі важна захаваць сваё «я», сваю індывідуальнасьць, якая пачынаецца з імя,

дадзенага бацькамі, а не сукамэрнікамі. Мяркую, толькі так можна захаваць пачуцьцё годнасьці, а зь ім, адпаведна, павагу да цябе звонку. У тым ліку і з боку турэмнікаў.

## Змагаюся зь «дзедам»

За краты я трапіў у 63 гады, і зь «дзядоўствам» давялося змагацца літаральна ва ўсіх вязьніцах. На Акрэсьціна, на «Валадарцы», потым у магілёўскай Т-4 і ў калёніі № 15 — адно і тое ж. Паўсюль знаходзіўся маладзён, які вымяраў аўтарытэт найперш фізычнай сілай і для якога ўдвая старэйшы чалавек — значыць удвая слабейшы. А калі ты старэйшы ўтрая, дык з табой увогуле ня варта лічыцца. Ты — «тфу», заткніся і маўчы. У скрайнім выпадку скажа з падзелам на склады «Дзя-ду-ля».

На «Валадарцы» давялося такому «ўнучку» паабяцаць пераканаўчым тонам, што наступным разам «конаўка прыляціць яму ў галаву», каб адразу дайшло. На гэтым нашы «сваяцкія адносіны» скончыліся.

У магілёўскім ізалятары сытуацыя паўтарылася, зноў давялося паўдзельнічаць у абмене рэплікамі. «Унучак» зь імем Васіль сам быў з майго роднага гораду Маладэчна, але гэта мяне не спыніла. Праўда, Васіль аказаўся больш адэкватны, да таго ж зь веданьнем турэмнага «кодэксу». «Добра, я цябе пачуў», — сказаў хлопец па выніку дыскусіі аб ужываньні мянушкі «стары», і больш да гэтай тэмы мы не вярталіся.

Збольшага для камэры Васіль быў проста скарбам! Пазьней ён вельмі падрабязна, з прыкладамі і парадамі тлумачыў нам, як трэба сябе паводзіць у калёніі, чаго баяцца, а чаго, наадварот, не баяцца. Ягоны першы ўрок быў пра тое, што свае правы, свой гонар трэба не баяцца адстойваць.

Але спачатку скажу, што азначае для беларускага арыштанта другое СІЗА. У першым ты сядзіш падчас сьледзтва і суду. Калі прысуд вынесены, цябе адпраўляюць у другое СІЗА, звычайна блізкае да тваёй будучай калёніі, дзе будзеш чакаць апэляцыі. А ўжо калі пройдзе апэляцыя, якая ў Беларусі ў 99% выпадкаў заканчваецца пацьверджаньнем прысуду, вось адтуль ты паедзеш адразу ў калёнію. І гэтага моманту, вядома, усе чакаюць зь вялікім хваляваньнем, за якім хаваецца пэўная боязь. Што цалкам натуральна, бо да ўмоваў сьледчага ізалятара чалавек ужо прызвычаіўся, а вось што будзе ў калёніі — для ўсіх загадка. І для камэры добра, калі знаходзіцца сукамэрнік, які ўжо пабываў у калёніі і можа да яе падрыхтаваць.

Якія яшчэ парады мы пачулі ад Васіля?

## Быць карысным

Важным урокам было такое правіла: трэба быць карысным для людзей, якія вакол цябе. І тут якраз неістотна, якога ты веку ці якой нацыянальнасьці, зямляк ты ці ўвогуле зь іншай краіны, якую маеш мянушку. Але што значыць быць карысным?

У адносінах з суседзямі па нарах, па стале, на працы — аказваць дапамогу, не «хамячыць» — дзяліцца цыгарэтамі, прадуктамі, бытавымі рэчамі, асабліва калі маеш нейкі лішак гэтага дабра. Дарэчы, у гэтым навічка праверыць «на вошы» вельмі хутка. Падыдзе сусед па «хаце», папросіць канвэрт, альбо новыя шкарпэткі, альбо гарбаты, кавы, прыправы да кашы. Адмовіш раз, другі, і ўсё — ты ўжо запісаны ў жмінды, а з такім ніхто па-сапраўднаму сябраваць ня стане.

У магілёўскай турме з намі сядзеў Юры, былы забесьпячэнец на вядомым абаронным прадпрыемстве, які ў турму трапіў за хабарніцтва. Мужчына быў мажны, з волі рэгулярна атрымліваў перадачкі. Уласнымі харчамі сілкаваўся толькі на сваім ложку, да агульнага стала не падсаджваўся, і тым, што захоўваў у торбе пад нарамі, ні з кім не дзяліўся. Калі на ноч і выкладваў уласную нарэзку на падваконьне, дзе трымалі так званы «абшчак», дык раніцай забіраў — а раптам што скрадуць? У размовах з сукамэрнікамі былы забесьпячэнец сваё меркаваньне старанна хаваў. «А што, я ня супраць. Я нічога», — пасьміхаючыся, казаў Юры, калі заходзіла пра палітыку.

Праўда, ад удзелу ў агульных справах, як штодзённая прыборка ў камэры ці суботнік, Юры не ўхіляўся.

У камэрах магілёўскага ізалятара, як і на «Валадарцы», штодня прызначаліся новыя дзяжурныя, у абавязкі якіх уваходзіла ня толькі прыбіраць падлогу тры разы на дзень, але і рыхтавацца да прыёму ежы: нарэзаць ніткай хлеб, памыць

лыжкі, прыбраць са стала, як усе паядуць. У магілёўскай Т-4 мне давялося пасядзець у трох камэрах, 23-й, 17-й і 16-й, і паўсюль двум прызначаным дзяжурным браліся дапамагчы яшчэ два-тры добраахвотнікі. Іх ніхто не прымушаў, не прасіў, не кантраляваў. Самі далучаліся, у тым ліку да прыборкі санвузла. Юры і ў гэтым удзельнічаў, не цураўся. Правіла «быць карысным» засвоіў моцна, і гэта, відаць, дапамагае яму ў калёніі, дзе жміндаў усё ж не паважаюць.

## Экалёгія на зоне

Раней, яшчэ да турмы, чуў ад былых палітвязьняў расповеды пра дрэнную экалёгію ў беларускіх калёніях. Найчасьцей «чэмпіёнкай» называлі зону ў Наваполацку і тлумачылі праблему яе месцазнаходжаньнем — паблізу ад нафтаперапрацоўчага заводу. Але цяпер, пасьля таго як пабываў за дротам у Магілёве, магу меркаваць, што калёніі ў Беларусі ня толькі ахвяры дрэннай экалягічнай сытуацыі ў навакольлі, але самі яе і спараджаюць.

Чаму не выключаю, што гэта ўласьціва ўсім калёніям? Бо гаворка пра два агульныя фактары: вытворчасьць і сыстэма ацяпленьня. І тое, і другое ў тэхнічным сэнсе на вельмі нізкім узроўні, не кантралюецца мясцовымі ўладамі і цалкам закрытае ад увагі грамадзкіх экалягічных арганізацый. Ну, хіба што іх прадстаўнікі ў выніку падзей 2020–22 гадоў самі могуць аказацца вязь-

нямі гэтых калёній і на свае вочы пабачыць, што там творыцца.

Ужо згадваў, як быў шакаваны ілюзіяй свабоды, калі ўпершыню з атрадам карантыну прайшоў па зоне. Гэта было ў панядзелак, праз тры дні, як прыбыў у калёнію. Нас пашыхтавалі і павялі ў лазьню. А яна побач з стадыёнам, зусім непадалёк ад кацельні.

Мы ідзём, глядзім на ўсё вакол, як дзеці з адкрытымі ратамі, якіх упершыню вывелі ў вялікі горад. Амаль што сапраўдная вуліца з трохпавярховымі дамамі, стадыён, трава газонаў, блакітнае неба над галавой. Калі пяць месяцаў праседзіш амаль нерухома ў цеснай камэры — такія карціны і пачуцьці могуць ап’яніць.

Але было і вельмі непрыемнае ўражаньне. Не ад выгляду ахоўнікаў на вышцы, не ад змучаных, зморшчаных твараў у вокнах карпусоў. Ад шэрага дыму, які падымаўся зь вялікага коміна кацельні, накрываючы ўсё вакол хімічным смуродам. Нос адразу пазнаў гэты густы пах. За тры дні карантыну ўжо чуў яго з-за высокага мура, прычым звычайна ў адзін і той жа час. Раніцай, недзе пасьля дзявятай. Але бывала, што хімічны пах накрываў і пасьля абеду. У чым справа, ня мог зразумець, а вось цяпер бачу на свае вочы. Дым ідзе з коміна, што тырчыць над чорным дахам нізкіх прамысловых карпусоў за кантрольнай паласой і калючым дротам.

Пакуль набліжаліся да лазьні, дык наперадзе комін дыміў чорным, нібы расейскі авіяносец. А калі праз гадзіну выйшлі з лазьні, чорнага дыму

над галавой ужо не было, над комінам віўся толькі блакітна-белы ланцужок. Затое ў другім баку, каля трыбуны, нізка па зямлі слалася сіняя смуга і сьмярдзела палёнай гумай.

Ужо апісваў, як у гэты час на стадыёне адны вязьні гулялі ў футбол, другія намотвалі кругі вакол футбольнай пляцоўкі, а некаторыя прымалі душ пад бочкай зь цёплай вадой, усталяванай за варотамі. На сіні дым, што поўз ад промкі, зэкі-спартоўцы не зьвярталі ўвагі. Бронзавыя біцэпсы ад поту ажно блішчэлі на сонцы. А з трыбуны на гэта пазіралі дзясяткі два гледачоў у чорных і палінялых шэрых зэкаўскіх строях. Дыхалі тым жа паветрам, ды яшчэ і дабаўлялі свайго дымку ад цыгарэт.

Празь месяц ужо добра разумеў, што адбываецца. Комін над дахам промкі — гэта і ёсьць кацельня, якая штодня забясьпечвае калёнію цяплом і дымам. У печ ідуць ня толькі нармальныя дровы і адкіды ад дрэваапрацоўчага цэху, але і рэшткі вокнаў, дошкі ад падлог, рам, блёкаў. Зразумела, ад старой фарбы матэрыял ніхто не ачышчае. Таму спачатку комін дыміць чорным, а потым паступова пераходзіць на шызы дым.

Але і пазьнейшы дым — вельмі смуродны. Паказальна, што ў тыя дні, калі вецер дзьмуў у наш бок і нас накрывала сіняе воблака з коміна, вязьні значна менш гулялі вакол корпусу. Нават некаторыя аматары фізычных практыкаваньняў, хто ня быў у гэты час на промцы, пакідалі спартовы куток і хаваліся па «хатах».

## Вейна стамілася

Але наша кацельня труціла ня толькі нас, вязьняў і супрацоўнікаў калёніі. Ружа вятроў «пятнашкі» такая, што пераважна вецер дзьме ў заходнім кірунку, дзе пасёлак Вейна. Зусім непадалёк ад плота, у зоне бачнасьці з вокнаў нашага сэктару — дамы, сучасныя катэджы, золатагаловая царква, гаспадарчыя пабудовы. І вось штодня ў іх бок цячэ рака смуроднага дыму. Хіба жыхарам пасёлку можа падабаецца такое суседзтва? Мне цяжка ў гэта паверыць.

Калі падзяліўся сваімі назіраньнямі зь сябрам Мікітам, пачуў ад яго цікавы расповед. Спасылаўся Мікіта на зьвесткі з волі ад сваякоў іншых вязьняў, якія рэгулярна кантактуюць з жыхарамі Вейна, калі прыяжджаюць на спатканьне. Паводле гэтых сваякоў, жыхары пасёлку шмат гадоў змагаюцца з кіраўніцтвам калёніі і Дэпартамэнтам выкананьня пакараньняў МУС праз дрэнную экалёгію ў пасёлку. Скардзяцца на бруднае паветра, на тое, што ня могуць нармальна дыхаць, бо на іх рэгулярна ідзе моцны дым з коміна калёніі, а таксама з прамысловай зоны. Там пляцоўка, на якой ачышчаюць часткі старой тэхнікі — проста абпальваюць мэталічныя часткі на адкрытым агні. У выніку яшчэ адна плынь шкодных адкідаў ня толькі разыходзіцца па ўсёй калёніі, але трапляе і на пасёлак.

За шмат гадоў вяйнянцы чаго толькі не рабілі. Складалі скаргі, хадзілі на прыёмы да высокага начальства, праводзілі сходы і прымалі пэты-

цыі — нічога не дапамагае. То шкоду проста не прызнаюць, то спасылаюцца на недахоп грошай для замены кацельні. Але да лепшага нічога не мяняецца. Жыхары Вейна, па зьвестках Мікіты, стаміліся змагацца — «склалі лапкі».

Цяпер магу пэўна сказаць, што з той жа праблемай штодзённа сутыкаюцца жыхары іншых паселішчаў, якія суседнічаюць з калёніямі. У Беларусі падобных калёній больш за дваццаць, значыць, гаворка можа ісьці пра тысячы чалавек па ўсёй краіне, якіх закранае тая ж праблема. Бо ў большасьці калёній сыстэма ацяпленьня амаль тая самая, што і ў «пятнашцы» — аўтаномная, на паліве з забруджаных адкідаў, ніяк не арыентаваная на выкананьне экалягічных нормаў. І кіраўніцтву гэтых калёній таксама «да ліхтара» здароўе асуджаных, ахоўнікаў і мясцовых жыхароў. Галоўнае для іх, каб не было бунтаў і ўцёкаў.

## Уцёкі зь «пятнашкі»

Тэму ўцёкаў з калёніі там, за калючым дротам, можна абмяркоўваць толькі зь вельмі праверанымі, сапраўднымі сябрамі. Інакш «закладуць» опэру, і потым даказвай, што гэта быў толькі «літаратурны інтарэс». Калі на другі месяц у мяне зьявіўся такі сябар, гэта Сяргей, якому можна было цалкам давяраць, я і задаў правакацыйнае пытаньне: адсюль хто-небудзь уцякаў?

Легенда, якую пачуў, выглядала наступным чынам: за мінулыя 15 год сама меней двойчы зэкі

спрабавалі ўцячы, і кожны раз — з прамысловай зоны калёніі, так званай промкі.

Чаму адтуль? Промка — гэта адзінае месца ў калёніі, дзе можна схавацца, бо там шмат цэхаў, вытворчых памяшканьняў, абсталяваньня, складоў і звалак. На промку асуджаныя праходзяць арганізавана, пасьля пільнага кантролю і пайменнага пералічваньня, і гэтаксама выходзяць. І калі на выхад прыходзіць на аднаго чалавека меней, гэта і азначае, што нехта ўдарыўся ва ўцёкі.

Сяргей быў перакананы, што насамрэч уцячы з калёніі немагчыма, і пры гэтым не называў тых вязьняў дурнямі, а тлумачыў іх учынкі нэрвовым зрывам. Чалавека маглі давесьці да скрайняга стану сямейныя абставіны, стаўленьне ахоўнікаў, зьдзекі іншых асуджаных. Калі ў такім стане згубіш галаву і знойдзеш нейкае месца, дзе ўдасца пераседзець, дык можа ўзьнікнуць ілюзія, што вырвацца магчыма.

Але якім чынам? «Магу толькі здагадвацца, на што яны спадзяваліся, бо назад ніхто не вяртаўся. Уцекачоў спачатку кідалі ў ШЫЗА, адтуль у ПКТ, а адтуль па новым тэрміне за ўцёкі вывозілі ад нас у іншую калёнію. Але што ведаю пэўна — спадзяваліся неяк прабрацца і схавацца ў аўтамабілях, якія нас абслугоўваюць. Штодня ў калёнію заяжджаюць сьмецьцявозы, грузавікі, будаўнічая тэхніка. Але ўцячы так нікому і не ўдалося, адназначна», — казаў Сяргей.

Паводле Сяргея, аднаго разу ўцекача шукалі на промцы ажно тры дні. І знайшлі толькі пасьля здрады іншых асуджаных.

«Ахоўнікі аблазілі ўсе закуткі, прыводзілі на промку службовых сабак, але ўсё безвынікова. І тады зэкаў пашыхтаваў начальнік калёніі і паабяцаў датэрміновае вызваленьне таму, хто пакажа месца, дзе хаваецца ўцякач. Так бы мовіць, спакусіў воляй. І сапраўды, знайшліся двое асуджаных, якія падказалі. Начальнік сваё слова стрымаў, тыя вязьні выйшлі з калёніі датэрмінова. Папраўдзе, інакш было і немагчыма, бо калі б засталіся, іншыя зэкі іх бы прыдушылі. Але па выніку атрымалася, што адзін спрабаваў уцячы, ды ня змог, затое вызваліліся два іншыя. Хоць гэтым дапамог», — пасьміхнуўся Сяргей.

## Жахлівая калючка

Зэк — гэта чалавек з разьвітай практычнай кемнасьцю, як знойдзе, што тырчыць цьвічок ці яшчэ якая жалязяка, паспрабуе пад нешта прыстасаваць. Так насуперак парадку каля сэктараў на шыпах калючага дроту асуджаныя вешаюць сушыць бялізну і памытую адзежу, бо ўсім месца ў сушылцы пад дашкам не хапае. Зразумела, што і каля лазьні, дзе па чарзе мыюцца ўсе атрады, сушыцца на калючцы памытая адзежка, і там тая ж карціна. Але там усё ж інакш.

Уявіце ўражаньні чалавека, які ў той лазьні ўпершыню памыўся. Выйшаў з-пад душа, адчуў, як крыху памаладзеў, скінуў нэрвовую напругу, назапашаную за тыдзень шмонаў і праверак. З будынку лазьні трапіў у дворык, застаўлены лаўкамі, на якіх можна нават прылегчы і пагрэцца

на сонейку. Да заканчэньня часу, адпушчанага на мыцьцё, яшчэ паўгадзіны, мо і гадзіна. У дворыку пахнуць кветачкі-аксаміткі, пад нягучную музыку, якую запусьціць брутальнага выгляду лазеншчык, можна пагуляць у нарды. Курыць можна хто дзе хоча, бо наглядчыкаў на тэрыторыі лазьні ня бачна. Карацей — можна расслабіцца. Але перад вачыма не прыгожы «далягляд у барвах бэзу», а калючы дрот, які зэкі завесілі памытымі адзежкамі — чорнымі курткамі і штанамі, палінялымі кашулямі. Пустыя калашыны ды рукавы матляюцца на ветры, як ногі-рукі пудзілаў, але хутчэй карціна нагадвае ня лазьню, а месца пакараньня сьмерцю: строгі шэраг шыбеніц, даўгія целы павешаных, праз якія тырчаць калючкі.

Змрочна, жахліва. Вось табе і расслабіўся. У галаву лезуць цяжкія думкі, успамінаюцца расказы пра тых, хто засіліўся ў калёніі, ня вытрымаў гора, пакутаў уласнага сумленьня альбо зьдзекаў.

## Аблога з сабакамі

А як у прынцыпе арганізавана ахова — звонку і знутры?

З уласнай ахвоты па калёніі не паходзіш, толькі калі вядуць некуды ахоўнікі. Або туды, дзе штаб, шпіталь і ШЫЗА, або ў процілеглы бок — дзе клюб, сталоўка і корпус першага атраду, дзе трымаюць пэнсіянэраў і працаўнікоў сталовай. Так мне і ўдалося пабываць у розных месцах калёніі і скласьці ўяўленьне пра яе форму і памеры. Гэта прастакутнік прыблізна кілямэтар на 800

мэтраў. З усіх бакоў ён акружаны, як вузкай дарогай, разаранай паласой зямлі і двума платамі калючага дроту вышынёй пад два мэтры. На ўсіх кутах — вышкі з ахоўнікамі.

На паўднёвым баку гэтага прастакутніка — прамысловая зона, якую ўсе завуць промкай. Гэта некалькі даўгіх будынкаў у адзін шэраг, накрытых нізкім чорным дахам, са сваёй прылеглай тэрыторыяй. Над промкай узвышаецца высокі комін кацельні і яшчэ пару невялікіх вэнтыляцыйных комінаў. Ад жылой зоны промку аддзяляе кантрольна-сьледавая паласа — шырынёй з дарогу, старанна прабаранаваная, ані паперчыны, нават недакурка на ёй не пабачыш, нібы яе штодня старанна вымятаюць. Вельмі падобная да КСП (кантрольна-сьледавой паласы) на дзяржаўнай мяжы. Кажу гэта як былы жыхар памежнага Берасьця, які калісьці знаўся з памежнікамі мясцовага атраду і сёй-той аб'ект як госьць наведваў. Адзінае адрозьненьне, што ўздоўж КСП ня бачна сьлядоў службовых сабак. Але гэта — паміж жылой зонай і промкай, а па пэрымэтры калёніі ахоўнікі, найхутчэй, дзяжураць з сабакамі. Нездарма ж упрытык да калёніі — сабачы гадавальнік.

На іншым, заходнім баку калёніі, таксама ўпрытык да плота, — казарма часткі ўнутраных войскаў. Задача вайскоўцаў, па-першае, несьці рэгулярнае дзяжурства вакол калёніі, а па-другое, падаўляць сілай магчымыя бунты асуджаных. Пакуль такі бунт ня здарыўся, унутр калёніі вайскоўцы не заходзяць. Аднак увесь час да гэтага рыхтуюцца і праводзяць трэніроўкі. Ува ўсякім

разе, ад штабу і ад будынку ШЫЗА можна пачуць галасы салдатаў, якіх ганяюць на пляцы за плотам калёніі.

Яшчэ што чуваць з штрафнога ізалятара — гэта ранішні брэх службовых сабак, якіх трымаюць у гадавальніку. Мяркуючы па шматгалосьсі, сабак там дзясяткі, можа і паўсотні. Ва ўсякім разе, з трэцяга паверху нашага будынку бачыў дзясяткі сабачых домікаў, але няясна было, ці ўсе яны заселеныя. Паводле зэкаў, гадуюць там выключна аўчарак — усходнеэўрапейскіх і нямецкіх.

Казалі, што яшчэ гадоў дзесяць таму магілёўскі гадавальнік быў самы вялікі ва Ўсходняй Эўропе, але ці так гэта, не праверыш. Дакладна, што частку сабак задзейнічаюць на начным патруляваньні вакол калёніі, а другую частку рыхтуюць для службы на іншых пэнітэнцыярных аб’ектах. Працы ў чатырохлапых сяброў ахоўнікаў хапае і, відаць, яна вельмі нэрвовая. Бывае, што ўвечары яны брэшуць да дванаццатай ночы, а раніцай пачынаюць брахаць ужо пасьля чацьвёртай.

## У калёніі бяз зброі

Што да захадаў аховы ўнутры калёніі — яны традыцыйныя. Кожны будынак акружаны сваім двухмэтровым плотам з вэртыкальных прутоў вышынёй два мэтры, прымацаваных да некалькіх гарызантальных мэталічных рэек. Зьверху нацягнуты калючы дрот. Будынак і тэрыторыя вакол яго, акружаныя такім плотам, завуцца сэктарам,

а прастора вакол будынку — лякальнай зонай, або «лякалкай».

Дзьверы ў сэктар зачыняюцца на электронныя замкі. Ахоўнікі на вышцы і кантралёры, якія ходзяць па калёніі, маюць пульты, якімі могуць адмыкаць замкі нават на адлегласьці ў дзясяткі мэтраў. На просьбу асуджанага ахоўнік можа праз пульт выпусьціць яго, каб прайшоў у клюб да юрыстаў, у сталоўку, па нейкай замове начальства ці яшчэ па якой патрэбе. Але можа і ня выпусьціць. Тады трэба чакаць, калі прыйдзе днявальны, і прасіць ягонага дазволу.

Зброі ахоўнікі і кантралёры з сабой ня носяць, але рознымі прыстасаваньнямі бясьпекі экіпаваныя добра. На кожным ахоўніку вісяць кайданкі, балёнчык зь сьлезацечным газам, ліхтарык, у некаторых — гумовыя палкі. Шмат хто з афіцэраў на куртцы носяць відэакамэры.

Кожная лякальная зона абсталяваная некалькімі відэакамэрамі. Запісы могуць выкарыстоўвацца і як доказ парушэньняў, але часьцей парушэньні фіксуюць супрацоўнікі калёній праз пратакол. Перад складаньнем пратаколу ахоўнік абавязаны папярэдзіць пра гэта парушальніка і ўзяць у яго тлумачэньне. Але, бывае, абыходзіцца і без тлумачэньняў. На маіх вачах кантралёры заявіліся ў лякалку, калі некалькі хлопцаў курылі цыгарэты не ў курылцы, а каля пад’езду, да таго ж адзін быў у тапках на босую нагу.

«Ага, тут курым? Пратакол. А ты чаму ў тапках? Таксама пратакол», — абвясьціў кантралёр. Пасьля гэтага адразу завярнуліся — справа

зроблена, плян па пратаколах выкананы — і сышлі з сэктару, нават не заходзячы ў будынак. Наступным днём начальнік атраду ўжо браў у парушальнікаў тлумачэньні. Адзін з хлопцаў, той, што выйшаў з будынку ў тапках, потым адправіўся ў ШЫЗА.

## Нэўтральная паласа

Усе сэктары адзін ад аднаго аддзеленыя двума паралельнымі платамі з вэртыкальных мэталічных прутоў прыблізна двухмэтровай вышыні, зьверху якіх яшчэ нацягнута некалькі палос калючага дроту. Паміж платамі пракладзеная дарога шырынёй тры мэтры, з старым, у шчылінах і выбоінах, асфальтам.

Гэтую прастору некаторыя зэкі завуць нэўтральнай паласой, але падазраю, што яе асноўнае прызначэньне не зусім мірнае. Кожная «нэўтралка» мае вароты з боку галоўнай дарогі. Ключы ад варот, зразумела, толькі ў ахоўнікаў. І можна меркаваць, што ў выпадку бунту, калі тэрыторыю сэктару захопяць асуджаныя (а ўявіць такое нескладана, бо звычайна ахоўнікаў у сэктары няма), праз гэтыя вароты на нэўтралку і маюць прайсьці салдаты ўнутраных войскаў, каб атачыць, лякалізаваць бунт, а калі будзе такі загад, ужыць спэцсродкі, зброю. З нэўтральнай паласы гэта рабіць зручна і для сябе бясьпечна.

Але, вядома, калі і ёсьць гэткі плян, ён прадугледжаны на скрайні выпадак. Пакуль жа нэўтралка — даволі мірная нічыйная тэрыто-

рыя. Празь яе зэкі суседніх атрадаў перакідаюць цыгарэты, перагаворваюцца, дзеляцца навінамі, спрачаюцца, часам лаюцца. Карацей, актыўна камунікуюць. А яшчэ раз на тыдзень, перад тым як на сэктар з праверкай прыйдзе нехта з начальства калёніі, туды зь мятлой запускаюць прыбіральшчыка. Абавязкова зь ліку тых зэкаў, каму нельга камунікаваць з усім атрадам, а толькі са сваёй групай. Прыбіральшчык хуценька вымеце недакуркі, прыбярэ рэчы, якія з сушылкі занесла ветрам (звычайна гэта зэкаўскія шкарпэткі ды майкі), і зноў нэўтралку зачыняць на замок. Да новай праверкі гаспадарамі гэтых палосак зямлі застануцца толькі гадаванцы калёніі, каты, якія бессаромна, ва ўсіх на вачах будуць лавіць і жэрці галубоў, што залятаюць сюды падзяўбці накіданага ім хлеба.

Не абысьціся без хаця б прыблізных падлікаў: а колькі міліцыянтаў служыць у калёніі? Лічу: начальнік у званьні палкоўніка і тры ягоныя намесьнікі, падпалкоўнікі. Плюс у кожным з 20 атрадаў па адным начальніку атраду. Плюс у кожным з сэктараў па адным адказным за рэжым афіцэру і па адным апэратыўніку, гэта яшчэ прыблізна 15 афіцэраў. Плюс кантралёры, звычайна ў званьні сяржантаў. Гэтых, як падказвае зрокавая памяць, яшчэ чалавек 20. Каля 10 ахоўнікаў служаць толькі ў блёку ШЫЗА-ПКТ, бо на іншай тэрыторыі іх ня бачыў. Разам, мяркую, набярэцца чалавек восемдзесят. Але гэта без цывільных службоўцаў — лекараў, фэльчараў, кіроўцаў, працаўнікоў крамы, тэхнічных спэцыялістаў.

Магу і памыляцца ў сваіх разьліках у бок зьмяншэньня. Бо актавая заля, у якую мяне завялі ўжо пасьля таго, як уручылі даведку аб вызваленьні, была разьлічаная чалавек на дзьвесьце. Праўда, не магу выключаць, што гэта была актавая заля суседняй часткі ўнутраных войскаў, бо заводзілі туды праз асобны двор, вялі калідорамі празь нейкі вялікі будынак. А я гэты шлях амаль не запомніў. Спачатку быў спакойны, пасьміхаўся, але як зачыталі ўказ і выдалі даведку аб вызваленьні, раптам сэрца закалацілася, і ў вачах — заслона. І замест радасьці ад блізкага вызваленьня зноў адчуў ліпучы страх.

Пра апошнія хвіліны ў калёніі трэба расказаць дакладна. Але пазьней.

## Чаго каштуе вызваленьне?

Кажуць, няма асуджанага, які б не хацеў датэрмінова выйсьці на волю. Цяпер мяркую, што трэба ўдакладніць: няма асуджанага, які б ня думаў пра датэрміновае вызваленьне. Бо іншы падумае, паразважае, а ў выніку прыме такое рашэньне, якое шараговага вязьня шакуе. Гэта пра тых палітычных, якія любой цаной на волю выходзіць ня згодныя.

Упершыню сутыкнуўся з гэткім настроем у вязьніцы на Акрэсьціна ўлетку 2021 году, падчас першага затрыманьня па сваёй крымінальнай справе. За дзесяць сутак чатыры разы перакідалі з камэры ў камэру. Сядзеў то з наркаманамі, то з хуліганамі, але больш за ўсё, вядома, з палітыч-

ымі. Ім, як і мне, не выдавалі матрац, пасьцельныя рэчы, не дазвалялі атрымліваць перадачы і нават не перадавалі зубных шчотак.

Сярод палітычных у апошняй з чатырох маіх камэр быў і Вячаслаў — яшчэ малады мужчына, добразычлівы, разважлівы і — о дзіва! — настроены адносна сваёй будучыні аптымістычна. Хоць, як высьветлілася, пэўна ведаў, што з Акрэсьціна на волю яму ня выйсьці, бо пасьля 15 сутак зноў закінулі ў камэру і рыхтуюць да выстаўленьня абвінавачаньня па 342 артыкуле Крымінальнага кодэксу — за ўдзел у маршах пратэсту.

Вячаслаў, як і мы ўсе, пэўна ж, не імкнуўся пераехаць з Акрэсьціна на «Валадарку», але ўсё ж ставіўся да гэткай пэрспэктывы неяк інакш, чым, скажам, я. Спакойна. Даволі нават бестурботна.

Спачатку падавалася, што ён такі спакойны, бо недаацэньвае небясьпеку. Але потым пераканаўся: гэтая пазыцыя — ад усьведамленьня сваёй праўды.

Перад вачыма стаіць сцэна, як Вячаслаў ходзіць па камэры і пасьміхаецца, калі сукамэрнікі кажуць яму пра будучыню ў калёніі.

«Слухайце, можа каму ёсьць чаго баяцца, а мне — не. Я добра працаваў, зарабляў, плаціў немалыя падаткі. Пасадзяць мяне на тыя два ці тры гады, і такім чынам самі сябе пазбавяць маіх падаткаў. Ужо страта для рэжыму. Я ж пацярплю. Я гатовы адбыць гэты тэрмін, і ніякай міласьці ад іх не чакаю. Мне гэта не патрэбна».

Хлопцы ўсё ж ад Славы не адчапляліся, распытвалі: ці варта прызнаваць віну, каб выйсьці датэрмінова? Тады я згадаў яшчэ адну гісторыю.

## Гатовыя сядзець

«Мы ўсе будзем закладнікамі, і некалі намі абавязкова пачнуць гандляваць», — гэта я ўспомніў, як выходзілі на волю палітвязьні пасьля прэзыдэнцкіх выбараў 2010 году. Апавядаў таварышам, як было, калі ўлетку 2011-га пачалі выпускаць тых, каго нахапалі на плошчы 19 сьнежня і ў наступныя дні.

Спачатку праз памілаваньне выйшла першая партыя палітвязьняў, чалавек дваццаць, якія прызналі віну і падпісалі прашэньні. Потым была другая партыя, яшчэ столькі ж. Гэта тыя, хто не прызнаў віны, але прашэньні падпісаў. А трэцяй чаргой вызвалілі яшчэ чалавек дзесяць. Тых, хто нічога не прызнаў і нічога не падпісваў. Але гэта Лукашэнка зрабіў у абмен на паслабленьне санкцый, цяпер дакладна вядома.

«Ці шмат будзе тых, хто пагодзіцца такой цаной выйсьці на волю?»

Вячаслаў першым адказаў, што ён гатовы адбыць увесь тэрмін, але каб санкцыяў з рэжыму Лукашэнкі ні ў якім разе не здымалі.

«Мая мэта — каб за ўсе ягоныя злачынствы ўрэшце яго судзіў трыбунал у Гаазе», — цьвёрда казаў Вячаслаў і пералічаў учынкі Лукашэнкі, якія павінен разгледзець міжнародны суд: зьніклыя палітыкі, фальшывыя рэфэрэндумы і вы-

бары, узурпацыя дзяржаўнай улады, перасьлед апазыцыі, забойствы і рэпрэсіі супраць дэманстрантаў.

## Перамовы з рэжымам?

Вячаслаў сваёй пазыцыі не здаваў.

«У 2020 годзе мы выходзілі на вуліцы дзеля таго, каб зьмяніць гэты рэжым на дэмакратычны. У мяне падрастае дачка. І я не хачу пакідаць ёй краіну, у якой праз дваццаць гадоў яе арыштуюць за ўдзел у выбарах, як цяпер мяне.

Мае бацькі пакінулі мне якраз такую краіну, у якой можна падрабляць галасы, у якой за крытыку кідаюць за краты. Дык усё, хопіць. Калі коштам нашай свабоды зь яго зноў здымуць санкцыі і ён захавае ўладу — дык за што мы тады пакутавалі? Каб ён зноў прыстасаваўся, зноў улагодзіў Эўропу і зноў выйшаў сухім з вады? Не. Таму я гатовы пасядзець. І, думаеце, я такі адзін? Спытайце іншых», — прапанаваў сукамэрнік.

І пазьней шмат разоў абмяркоўваў з палітвязьнямі, ці не прыйшоў час пачынаць перамовы з уладамі пра вызваленьне палітвязьняў у абмен на скасаваньне санкцый. А калі пачынаць, дык хто гэта мае рабіць? Заўсёды ўзьнікалі рознагалосьсі.

Большая частка казала, што перамовы ўвогуле непатрэбныя, бо іх вынікам стане зьняцьцё санкцый, а гэта аўтаматычна будзе азначаць падаўжэньне рэжыму Лукашэнкі. Так думаў, да прыкладу, палітвязень Дзяніс, зь якім давялося сядзець на «Валадарцы». Малады чалавек згад-

ваў, што патрабаваньне вызваліць палітвязьняў было выстаўленае яшчэ разам з патрабаваньнем адстаўкі Лукашэнкі. «Трэба толькі іх не разьдзяляць, не саступаць. Рэжым абрынецца пасьля эканамічнага каляпсу, які непазьбежна наступіць у выніку санкцый. І тады, каб уратавацца, Лукашэнка сам пачне адпускаць палітвязьняў», — даводзіў Дзяніс.

Тая размова адбывалася ў канцы 2021 году, калі эканамічныя санкцыі яшчэ толькі пачыналі дзейнічаць. Тады літоўскія чыгуначнікі яшчэ вазілі беларускія грузы, а нарвэская кампанія «Яра» яшчэ не адмовілася ад супрацоўніцтва зь «Беларуськаліем». У нас былі вялікія спадзяваньні, што як толькі санкцыі набяруць моц, беларуская эканоміка хутка забуксуе.

Але праз паўгода гэта выглядала ўжо ілюзіяй. Стала зразумела, што санкцыі навучыліся абыходзіць, дый самі яны не такія ўжо і моцныя. Апрача таго, рэжым скарыстаўся вайной Расеі супраць Украіны, каб атрымаць ад Пуціна чарговую фінансавую падтрымку. Знайсьці новыя эканамічныя нішы Лукашэнку ўдалося, але гэтым Беларусь канчаткова прывязала сябе да Расеі, так што ў выпадку каляпсу расейскай эканомікі, таксама абкладзенай санкцыямі, абедзьве дыктатуры патонуць разам. Або разам нейкім цудам застануцца на плыву.

Але ў дзеячоў апазыцыі за мяжой недастаткова рычагоў, каб прымусіць рэжым сесьці за стол перамоваў. Дый самім у іх удзельнічаць — сябе скампрамэтаваць.

У перамоўнікаў застаецца адзіны шанец — прасіць аб пасярэдніцтве кагосьці на Захадзе. І каго? Вядома, можна адшукаць на ролю мэдыятара нейкую нэўтральную краіну ці структуру, але незразумела, чым яна будзе спакушаць дыктатара. Зноў адменай санкцый, як у 2011 годзе? Дык аб'яднаны Захад на гэткі варыянт ужо сам ня пойдзе, а іншых выгод Лукашэнку ніхто прапанаваць ня зможа.

## Гаворым пра амністыю

Так мы спрачаліся, абмяркоўвалі і прыходзілі да высновы, што рэальна спадзявацца можна толькі на перамогу Ўкраіны над расейскімі агрэсарамі, за якой можа наступіць абвал рэжыму Пуціна, а за ім і ягонага сатэліта Лукашэнкі.

Тым часам скончылася лета 2022 году, і першага верасьня Лукашэнка, прамаўляючы ў нейкай школе, сам загаварыў пра амністыю, у тым ліку і для некаторых палітычных. Але, маўляў, толькі для тых, хто адумаўся, асэнсаваў, і з умовай, што павіняцца.

Навіна з хуткасьцю ракеты абляцела калёнію. Пра будучую амністыю гаварылі ў кожным кутку, на кожнай лаўцы, у кожнай курылцы. Палітвязьні не дапускалі думкі, што калі ўжо пачнуць выпускаць на волю, дык абмяжуюцца толькі тымі, хто прызнае віну. Хацелася верыць, што дойдзе чарга і да нас, палітычных. Ня можа быць, каб улада не зразумела, што шлях рэпрэсій тупіковы і час рабіць разварот. Пра гэта гаварылі ўслых.

Вядома, некаторыя пачалі вагацца, задумвацца пра саступкі. Адзін са знаёмых палітвязьняў, Дзьмітрый, у прыватнай размове прызнаўся, што гатовы хоць заўтра пісаць прашэньне на імя Лукашэнкі з прызнаньнем віны. «Проста ўжо няма сіл тут сядзець, гэта ж канцлягер!» — паніклым голасам скардзіўся Дзьмітрый на ўмовы ў калёніі. Асудзілі яго на два гады ўсяго за адзін крытычны камэнтар у сацсетках, актывістам апазыцыі ён ніколі ня быў, нават у маршах ня ўдзельнічаў, і цяпер вельмі перажываў, што «трапіў у замес». Было відаць, што калёнія яго проста выпусташыла.

У «пятнашцы» я заставаўся яшчэ амаль месяц, і за гэты час надзея на амністыю для палітвязьняў цалкам выпарылася. Спачатку мы заўважылі, што па Беларускай тэлевізіі ўсё радзей гавораць пра будучы закон аб амністыі, а потым пачулі, што палітычныя артыкулы ў яго ўвогуле не зьбіраюцца ўкладаць.

Што цяпер думаюць палітычныя пра шанцы датэрмінова выйсьці на волю, на каго спадзяюцца? Мяркую, па-ранейшаму не на перамоўнікаў з рэжымам Лукашэнкі, а ўсё больш — на змагароў за незалежную Ўкраіну, у тым ліку на беларусаў-добраахвотнікаў з палку Каліноўскага.

## «Як удалося вырвацца?»

Ужо дзясяткі разоў у мяне пыталіся: як удалося раней за канец тэрміну выйсьці на волю? Але я магу толькі апісаць гэты працэс, падзяліцца сваімі меркаваньнямі. Што ж да сапраўдных прычын таго, чаму мне прапанавалі памілаваньне — яны для мяне застаюцца невядомыя. Здагадкі ёсьць, доказаў няма. А асноўныя доказы могуць ніколі і не зьявіцца — такая думка прыйшла пасьля раптоўнай сьмерці ў канцы лістапада 2022 году тагачаснага міністра замежных спраў Уладзімера Макея. Пазьней патлумачу, пры чым тут ён.

А пакуль — жнівень 2021 году.

Недзе ў канцы лета, сярод дня, Андрэй, днявальны па атрадзе, як звычайна подбегам урываецца ў нашу «хату» і торкае мне ў руку дзяжурны мабільны тэлефон: «Гавары! Толькі назавіся! Хутчэй!»

Андрэй заўсёды такі імпэтны. Сядзіць за падвойнае забойства. З адной стрэльбы «заваліў» спачатку маладую жонку, потым — яе бацьку. Тэрмін у Андрэя вялізарны, сьпяшацца быццам няма куды. Яго і днявальным паставілі таму, што мусіць паводзіць сябе нетаропка. Але ён не такі чалавек — можна сказаць, нават седзячы бегае. Цяпер жа па твары бачу — насамрэч нешта незвычайнае.

Называюся. Незнаёмы мужчына на другім баку гаворыць па-дзелавому, але ўсё ж ня звыклым турэмна-начальніцкім тонам, а нэўтральна-паважліва: «Грузьдзіловіч Алег? Скажыце, кім вы працавалі?» Адказваю, што ўжо пэнсіянэр. «Ведаю. А да арышту кім працавалі? Гэта праўда, што на Радыё Свабода?» — Пацьвярджаю. — «Ясна. Усё».

Цяпер вернемся назад, у сярэдзіну жніўня.

У нас, палітычных, зьявіўся новы імпульс пашаптацца падчас прагулкі, паўсьміхацца нейкім сваім высновам, пра якія іншым — маўчок. За вайной ва Ўкраіне мы сочым, гледзячы расейскія «60 хвілін» з прапагандысткай Скабеевай — і параўноўваючы з тым, што нам пішуць сваякі ў лістах, што кажуць жонкі праз тэлефон. Мы памятаем, як сказіўся твар Скабеевай, калі ў жывы этэр праскочыла навіна, што баі ідуць непадалёк ад Ізюму, хоць сьпікер Мінабароны Расеі толькі ўчора казаў пра наступ расейскіх войскаў пад Харкавам. А яшчэ праз колькі дзень жонка аднаго з нашых паведаміла мужу, што расейцаў гоняць ад Ізюму. Мы зь Сяргеем ходзім па «лякалцы» як

заведзеныя. Нам проста месца не хапае: «Пагналі нашы гарадзкіх! Пагналі!»

На тле такіх падзей у атрадзе зноў узьнікаюць размовы пра тое, што нас, палітычных, цяпер пачнуць выпускаць. Праз амністыю, праз памілаваньне, праз прызнаньне віны ці яшчэ як — ня важна, галоўнае, што сытуацыя патрабуе ад Лукашэнкі манэўру, і ён мусіць дзейнічаць.

Мне бліжэйшая такая вэрсія, бо яна лягчэйшая: што нас трымаюць як закладнікаў і зьбіраюцца некалі выгадна прадаць. Лукашэнка бачыць, што вайну расейцы прайграюць. Значыць, наперадзе ў Расеі вялікі крызіс, калі не развал, і яе падтрымка будзе зьмяншацца. Самы час улагодзіць Захад, каб аслабіў санкцыі. Захад таргавацца з Лукашэнкам пакуль ня хоча, але той можа прапанаваць хаця б «разрадку напружанасьці», як некалі Брэжнеў. Якім чынам? Простым — некага адпусьціць, каб паказаць, што хоча дамаўляцца. Пачне з больш вядомых асобаў, а далей будзе глядзець на рэакцыю: павядзецца Захад ці не?

Не скажу, што са мной усе сябры былі згодныя. Сяргей, які ня быў палітычным, папярэджваў, каб ня цешылі сябе ілюзіямі. «Глупства! Хутчэй забойцаў пачне выпускаць датэрмінова, чым палітычных. Навошта яму новыя праблемы? Выпусьціць, калі нож да горла нехта прыставіць, не раней», — злосна камэнтаваў Сяргей нашы надзеі на хуткі пачатак торгу рэжыму з Захадам. Але пагаджаўся, што на некаторых палітычных можа і праверыць гэты плян.

Затое Кастусь, яшчэ адзін мой сябар з палітычных, якраз дапускаў амністыю палітзьняволеных, прычым у блізкім часе: «Санкцыі прыціскаюць, гандаль з Захадам вось-вось пачнецца. А тады — па схеме 2011 году, прыйдзе і наша чарга. Можа, і да новага году».

## Спрабуюць «сплавіць»

…І вось той дзіўны званок у канцы жніўня. Як яго разумець? Чаму невядомы супрацоўнік цікавіцца дадзенымі, якія можна знайсьці ў маёй пэрсанальнай справе? Проста яе разгарнуць і прачытаць?

Яшчэ адна падзея замінала зрабіць адназначную выснову.

За тыдзень да таго атрадны начальнік выклікаў мяне да сябе ў кабінэт. Заходжу. Папівае каву. Даслухаў рапарт і, яшчэ прыцмокваючы, агаломшвае прапановай у форме загаду: «Хочаце напісаць заяву на перавод у першы атрад, да пэнсіянэраў? Там будзе лепей, а з маладымі складана. Пішыце».

Спрачацца ня мела сэнсу, бо калі захочуць, перавядуць самі, але ўжо праз ШЫЗА. Падпісаў, выйшаў і, канечне, разважаю: з чаго раптам такі клопат пра маю пэрсону? Згадалася, як літаральна за два дні да таго палітзьняволены Кастусь параіў радзей кантактаваць падчас прагулак. «Перадалі, каб меней з вамі сустракаўся, зачаста бачаць побач. Увогуле палітычным непажадана «кучкавацца». То давайце пакуль… пачакаем».

Спыніўся на вэрсіі, што мяне загадана сплавіць да пэнсіянэраў, каб тут, у працоўным атрадзе ня вёў, як яны кажуць, палітычнай агітацыі.

І зноў разважаю пра дзіўны званок. Хто гэта быў? Тут два варыянты: альбо званіў начальнік пэнсіянэрскага атраду, вывучаў маю пэрсанальную справу і нешта вырашыў удакладніць. Кіраўніцтва атрадаў вывучае сваіх асуджаных загадзя. Мой начальнік да мяне ажно ў ШЫЗА прыходзіў, праз «вочка» пазнаёміліся.

Альбо магчымы другі варыянт — сапраўды пачынаецца той самы торг, які палітычныя столькі абмяркоўваюць. Няўжо нарэшце прыпякло? Так ці не, хутка ўсё павінна вырашыцца. Пачакаем.

## Хутчэй у штаб!

Чакаць давялося дзён дзесяць. Выдатна памятаю той надзвычай халодны аўторак, 6 верасьня. У звычайны год такой парой людзі яшчэ ў кашулях ходзяць, а тады нібыта прыйшла позьняя восень. За два дні пахаладала да плюс пяці ўдзень і ледзь не да нуля ўначы. Са складу зэкам выдалі целагрэйкі, але ўсё роўна мы мерзьлі і пачалі нацягваць пад форменныя курткі, хто што меў у торбах — джэмпэры, камізэлькі, швэдры. Заправіш такую паддзёўку ў штаны — добра грэе. Але думаеш і пра тое, каб каўнер не тырчаў з-пад кашулі, бо гэта ўжо парушэньне формы адзеньня, як заўважаць — ШЫЗА. Праўда, узьнікала іншая праблема. Ад пранізьлівага халоднага ветру пад-

дзяваньне дапамагала, але ў памяшканьні хутка запарваўся. Асабліва ў сталоўцы, калі яшчэ пасёрбаеш цёплага супчыку ды асіліш шлёмку панцаку. А там жа цесна, ужо не распранесься.

Якраз у такім млявым стане падчас абеду чую раптам сваё прозьвішча. Крычыць нехта гучна, з праходу. Дзіва дый годзе! Першы раз бачу, каб апрануты ў жоўтую камізэльку днявальны заявіўся, каб некага адшукаць, ажно ў сталоўку падчас абеду. «Дзе Грузьдзіловіч?! Ты? Хутчэй у штаб!» Лыжкі амаль ва ўсіх на імгненьне завісаюць у паветры. Можа, найбольш зьдзіўлены заўгас Аляксей ды іншыя актывісты, на тварах выразна чытаецца пытаньне: «Чаго яму такі прывілей?»

Да штабу ідзем так хутка, што ледзь пасьпяваю за днявальным. Звычайна днявальны падбірае некага зь іншых атрадаў, і ўжо такім цягнічком зэкі прыходзяць да двухпавярховага будынку штабу, у якім заўсёды нешта рамантуюць. І потым доўга стаяць, пашыхтаваўшыся перад ганкам, чакаюць выкліку. Але цяпер днявальны прыводзіць да штабу мяне аднаго, і, нікога не чакаючы, мы падымаемся на другі паверх. Там — па знаёмым ужо калідоры, да дзьвярэй таго самага кабінэта. Недзе пад сэрцам пачынае калоць прадчуваньне нядобрага: колькі вачэй зараз у мяне ўвап’ецца, акрамя тых, з партрэта Лукашэнкі? І зноў пачнецца крык: «Ды я цябе!.. ты ў мяне!.. Маўчаць!»

Заходжу ў кабінэт, а там за сталом усяго адзін чалавек — сярэдняга веку мужчына ў сінім пракурорскім мундзіры. Іголачка, што калола пад

сэрцам, зьнікае. Значыць, спрацаваў другі варыянт: размова пойдзе пра вызваленьне.

Далей дакладна ня памятаю, ці адрапартаваў пра сябе, як патрабуюць правілы ў калёніі. Магчыма, і пачаў, але быў спынены прапановай прысесьці за стол. Яшчэ адна добрая прыкмета ў пацьверджаньне маёй здагадкі. Пракурор пачынае задаваць дзяжурныя пытаньні: як умовы, стаўленьне адміністрацыі, здароўе? Адказваю коратка і без зачэпак, каб суразмоўца перайшоў да галоўнага. Але гучыць пытаньне, якога зусім не чакаў, калі дарогай прыкідваў магчымы сцэнар размовы: «А як вы ставіцеся да ад’езду за мяжу? Пасьля вызваленьня не зьбіраецеся зьехаць?»

## За мной гналіся кітайскія салдаты

Увогуле з замежжам у мяне адносіны простыя. Яшчэ лежачы на шконцы на «Валадарцы», неяк падлічыў, што за сваё жыцьцё, у асноўным як журналіст, пабываў у 21 краіне сьвету, ня лічачы ўжо няіснай ГДР. Амаль усе краіны, у якіх давялося пабываць, — эўрапейскія ды з былога СССР. З далёкіх двойчы быў у ЗША і адзін раз, у канцы 1990-х, занесла мяне як гандлёвага турыста ў Кітай, адкуль праз тыдзень выехаў, як калісьці з ГДР, з пачуцьцём, што вырваўся з канцлягера на свабоду.

Чаму маю супярэчлівыя ўспаміны пра Кітай? А як інакш, калі па кітайскім горадзе за мной як за шпіёнам гналіся салдаты Народна-вызваленчай арміі Кітаю, бо, бачыш ты, а шостай раніцы

зьняў на фота падняцьце на гарадзкой плошчы чырвонага сьцяга зь пяцьцю жоўтымі зоркамі. Аказваецца, у камуністычным Кітаі на такія здымкі дазвол патрэбны!

І з журналісцкай вандроўкі па ЗША ў 1993 годзе я вярнуўся заўчасна, ня вытрымаўшы ньюёрскай мітусьні — проста памяняў квіток на дзень раней. Карацей, заўсёды вяртаньне дадому было мацнейшай радасьцю, чым хваляваньне перад цікавай вандроўкай. І больш як на месяц з радзімай ніколі не разьвітваўся. Яшчэ на пачатку дзевяностых, калі зьехаць зь Беларусі стала справай і моднай, і адносна простай, канчаткова вырашыў для сябе, што буду жыць толькі дома. Ды ня проста жыць, а спрабаваць рабіць так, каб наша Беларусь станавілася дэмакратычнай, вольнай, эўрапейскай, а значыць, прывабнай.

І вось табе пытаньне ў лоб, ды яўна з падтэкстам: «Не зьбіраецеся зьяжджаць з краіны пасьля вызваленьня?» Чытай: лепш табе зьехаць куды далей.

Адказаў, зразумела, бяз гэтых доўгіх разваг, коратка: ніколі не зьбіраўся і не зьбіраюся. А ў галаве пакінуў дадатак: «І не спадзявайцеся!»

Ніводзін мускул на твары пракурора не зварухнуўся, але па той паўзе, якую ён вытрымаў перад наступным пытаньнем, стала зразумела, што мой адказ яго не задаволіў. Хоць чаго ён чакаў? Што кінуся яго запэўніваць, маўляў, зьеду, толькі адпусьціце?

Што сілавікі ды іхны верхавод сьпяць і мараць, каб мы ўсе пазьяжджалі — у гэтым даўно

пераканаўся. Шмат разоў чуў такія прызнаньні, у тым ліку і на свой адрас. 23 сьнежня 2021 году, у першы дзень арышту, гэта паўтарылася.

## Выціскалі за мяжу

Тады тры бамбізы з сталічнай управы міліцыі пракалоліся на маіх вачах тройчы.

Спачатку, як павезьлі са сьледчага камітэту, супрацоўнік за стырном рвануў на скрыжаваньні на чырвонае сьвятло, ледзь не ўчыніўшы аварыю. Мне, кіроўцу з 35-гадовым стажам, засталося толькі хмыкнуць, ледзь утрымаўся ад камэнтару. Але далей бачу, што едуць не туды, мы ўжо на праспэкце Дзяржынскага непадалёк ад Акрэсьціна. «Куды вы едзеце? У дакумэнт паглядзіце — мяне ж на «Валадарку» трэба, абвінавачаньне ўжо выстаўленае!»

Што пачалося: «Б…! Ты куды глядзеў!» — зрываюцца адзін на адным. Разварочваюцца амаль на поўнай хуткасьці і гоняць у процілеглы бок, да «Валадаркі». І вось тут, як чакалі каля варот, пакуль валадарскія вертухаі адвячэраюць, відаць, спрацавала ў іх галовах нейкае забытае спачуваньне. «А чаго ты, — кажуць, — ня ўцёк за мяжу? У цябе было чатыры месяцы, даўно мог уцячы. Вось цяпер пасядзіш».

Добрыя такія хлопцы, увайшлі ў становішча і адкрылі сакрэт, што ўсіх такіх, як я, загадана альбо саджаць, альбо выціскаць за мяжу. Атрымліваецца, мне гэтыя чатыры месяцы паміж затрыманьнем у ліпені і цяперашнім арыштам у

сьнежні на тое і даваліся, каб уцёк. А я тады не зразумеў.

## Заява на імя Лукашэнкі

Выходзіць, у кабінэце начальніка калёніі сам-насам з супрацоўнікам пракуратуры зноў будзем мусоліць гэтую тэму — пра адʼезд за мяжу. Але спачатку чалавек мусіць вызваліцца, а ўжо тады вырашаць праблему адʼезду. Думаю пра гэта, толькі выгляду не падаю, чакаю наступнага пытаньня. Паўза зацягнулася.

І тады кароткае, як стрэл, пытаньне. «Як вы ставіцеся да прашэньня аб памілаваньні?»

Цяпер мая чарга браць паўзу. І яна патрэбная, каб узважыць «за» і «супраць» ды не памыліцца. Стаўлюся да памілаваньня, вядома ж, складана. Бо таксама мучаць сумненьні, ці варта прымаць свабоду з рук дыктатара, які тысячы людзей празь беззаконьне кінуў за краты. А прашэньне аб памілаваньні давядзецца падаваць на ягонае імя, бяз гэтага не абыдзесься. Значыць, сумленьней не хлусіць сабе, не пагаджацца.

Аднак з гэтай маральнай пазыцыяй ува мне змагаецца практык, які разважае інакш: ад таго, што застанесься за кратамі, калі мог бы выйсьці на волю, нікому лепш ня будзе. Калі не вызваляесься коштам здрады, дык не скараесься, не саступаеш і не крывадушнічаеш. Проста нібы ўцякаеш з-за дроту ў дзірку, якая нечакана адкрылася і праз хвіліну мае закрыцца. Празяваеш — будзеш шкадаваць. Дый на волі нешта можаш зрабіць

карыснае, хаця б для сваіх родных. А ў вязьніцы ты толькі пакутнік і закладнік.

Чалавек ува мне з такой пазыцыяй перамагае таго, бескампрамісната, і рашэньне, што адказаць, прынятае: «Нармальна стаўлюся. Але мне як журналісту даводзілася пісаць пра выпадкі вызваленьня палітзьняволеных праз памілаваньне, і таму ведаю, што ад іх патрабавалі прызнаньня віны. Дык вось я віну не прызнаў і не прызнаю. Таму — як хочаце».

З адказам мой візаві не цягнуў. «Добра, не прызнавайце. Пішыце без прызнаньня. Але ведайце: ці падпішуць такое прашэньне, сказаць не магу. Гэта як лятарэя. Дык напішаце?»

«Так, на гэта я згодны», — кажу як мага спакайней.

Прадстаўнік пракуратуры даў мне аркуш паперы, асадка ў мяне была свая. Пачатак заявы складаў сам, але далейшы тэкст часткова надыктоўваў пракурор. «Прэзыдэнту РБ Лукашэнку А.Г. асуджанага па артыкуле 342 Грузьдзіловіча А.Г. заява…»

Пра тэкст прашэньня памятаю дакладна, што трэба было пазначыць прысуджаны судом тэрмін і колькі рэальна зь яго адбыў. Напісаў пра паўтара года і задумаўся на сэкунду, што пазначыць далей. Паводле закону дзень утрыманьня падчас сьледзтва і да заканчэньня працэсу апэляцыі залічваецца за паўтара дня, і таму фармальна я адбыў за кратамі ўжо ня дзевяць месяцаў, а ледзь ня год. І ўсё ж пазначыў дзевяць месяцаў. Асобным сказам дадаў, што не прызнаю сябе вінаватым,

бо працаваў на пратэстах як журналіст. Яшчэ запомніў такую дэталь: у канцы заявы пракурор прасіў упісаць словы: «Абавязваюся больш закон не парушаць». У гэтым сказе сьвядома ня стаў ужываць слова «больш», і атрымалася: «Абавязваюся закон не парушаць». Падумаў, што тут маральнай саступкі ня будзе: гэта ж нармальна, што грамадзянін абавязваецца не парушаць закон.

Паставіў унізе подпіс, дату і перадаў тэкст заявы супрацоўніку пракуратуры. Той прабег па ім вачыма, пры мне нічога ня правіў. «Да пабачэньня». — «Да пабачэньня».

## Папека: «Абыдуся без памілаваньня»

Празь дзесяць хвілін ужо быў у атрадзе. Сэрца зноў калацілася як шалёнае. Хацелася хутчэй падзяліцца навіной з кім заўгодна.

Пасьля абеду ў памяшканьнях дзяжурныя робяць вільготную прыборку, таму да 14 гадзіны ўсе мусяць таўчыся вакол корпусу. Як па мне, дык гэта найлепшы час дня ў калёніі — пасьляабедны. Хлопцы гуляюць у нарды ці шахматы, чытаюць лісты і кнігі, абмяркоўваюць навіны, гуляючы ўздоўж плота. Большасьць, як заўсёды пасьля абеду, адразу хапаюцца за цыгарэты і дымяць, дымяць, дымяць пад парасонам курылкі. Праходжу паўз празрысты воблак і скурай адчуваю, як дзясяткі вачэй сустракаюць насьцярожанымі позіркамі. Такімі ж праводзілі ў сталоўцы. А сябры не даюць спыніцца, закідваюць пытаньнямі: «Што? Выклікалі да начальніка?»

Расказ пра тое, дзеля чаго выклікалі і з кім сустракаўся, паўтараў да вечара яшчэ некалькі разоў розным людзям з абодвух атрадаў сэктару, і ва ўсіх выпадках рэакцыя была толькі станоўчая. У вязьніцах увогуле не прынята крытыкаваць учынкі сяброў, нават калі яны таго вартыя, але тут усё сустракалася сапраўды шчырымі і ўхвальнымі водгукамі. Адзін зь сяброў падсумаваў навіну такой высновай: «Значыць, нешта зрушылася. Будзем чакаць». Другі зь ім пагадзіўся: «Згодны. І за вас вельмі рады. І гэта толькі пачатак, дойдзе і да нас». Настрой ува ўсіх сяброў адразу падвысіўся.

А ўвечары ўдалося больш даведацца пра прыезд у калёнію таго супрацоўніка пракуратуры, зь якім сустракаўся, і ягоную місію. Адбылося гэта падчас прагулкі перад адбоем. Пашанцавала. Раптам у хлопцу, які падышоў з боку галоўнай дарогі да плота нашага сэктару, пазнаў таго самага днявальнага, які ўдзень вадзіў мяне ў штаб. Наблізіўся да яго і спытаў праз плот, ці вадзіў ён яшчэ каго на размову ў той жа кабінэт? Можа, запомніў прозьвішчы? Днявальны згадаў, што нас такіх было трох. «Ты ж Грузьдзіловіч? Вось. А яшчэ быў такі Папека, пісьменьнік, вунь з таго атраду. А прозьвішча трэцяга ня памятаю».

Атрад, на які паказаў днявальны, суседнічаў з нашым у сталоўцы, і праз пару дзён я бязь цяжкасьцяў змог перакінуцца з Папекам парай словаў. Спадар Мікалай пазнаў мяне і ня стаў сакрэтнічаць. «Так, вадзілі да пракурора, прапаноўвалі падпісаць прашэньне аб памілаваньні.

Але я адмовіўся, не хачу. Мне меней як да канца году засталося, і ўсё, абыдуся бязь іхнага памілаваньня».

Яшчэ праз некалькі дзён даведаўся і прозьвішча трэцяга асуджанага, каму прапаноўвалі напісаць прашэньне аб памілаваньні, як мне і спадару Папеку. Малады чалавек быў з атраду ў нашым сэктары. Таксама палітычны. Пры сустрэчы ён расказаў, што віну на судзе прызнаваў і ў прашэньні гэта таксама пазначыў. Упэўненасьці, што прашэньне будзе падпісанае, у яго няма, але «паспрабаваць трэба».

## Чаравікі — да бляску!

Наступная падзея, перадзаключная, адбывалася 19 верасьня, за два дні да майго выхаду на волю.

Гэтым разам па мяне прыйшоў нават ня проста днявальны па атрадзе, а заўгас Аляксей — другая асоба ў атраднай герархіі пасьля начальніка. Пэрсона ня надта калярытная, тыповы гаспадарнік. Сядзіць Аляксей за забойства шмат гадоў, і яшчэ шмат яму тут мучыцца.

Як і ўсе заўгасы, Аляксей на кароткай назе з ахоўнікамі — часам чуў, як тыя зьвярталіся да яго па імені. Звычайна зэкаў завуць па прозьвішчы і тыкаюць. Таксама і Аляксей да некаторых ахоўнікаў мог зьвяртацца па імені і на ты, без усялякіх дакладаў і цырымоній. З калегамі па няшчасьці, з асуджанымі з атраду, Аляксей паводзіў сябе выбарачна. З аднагодкамі мог пабала-

каць, на маладых — прыкрыкнуць, часам дапускаў зрывы і на адрас людзей старэйшага веку. Са мной у асноўным трымаўся роўна, хоць і раздражняўся хутка, асабліва калі я нешта «тупіў» як навічок. Але дастаткова было агрызнуцца, і адносіны выпраўляліся — быццам, апёкшыся, больш да гарачага не дакранаўся.

Абавязкаў у заўгаса больш, чым у шараговага зэка, але і ня скажаш, што чалавек надта перанапружваецца. На праверках падносіць дзяжурнаму ахоўніку карткі з нашымі прозьвішчамі, пры гэтым усьміхаецца ды стараецца жартаваць, нібы роўны. Яшчэ заўгас выводзіць атрад у сталовую, у клюб і на тэлефонныя званкі. Вось тады, калі хто спазьніўся ці зазяваўся, можа і мацюком абкласьці. Ну, яшчэ як пачаўся рамонт сарціра, дык гэта заўгас разьмяркоўваў заданьні і кантраляваў працы. А ў астатнім — жыцьцёмаліна.

Разы тры па справах (перадаць якую паперу, нешта спытаць, узгадніць) заходзіў да яго ў «хату», дзе жылі ўсяго тры чалавекі, і кожны раз заставаў адну і тую ж карціну: ляжыць заўгас на сваім зручным аднапавярховым ложку, чэрава дагары, вочы ў столь. Яшчэ можна было знайсьці яго ў «ленцы» каля тэлевізара — глядзіць разам з хлопцамі фільмы пра монстраў. Ніколі ня бачыў Аляксея з кнігай ці хаця б з газэтай, дый зь лістом у руках ня бачыў. Зрэшты, адносіны зь ім яшчэ не пасьпелі скласьціся, больш істотныя размовы прыйшліся якраз на той час, калі давялося разьвітвацца.

«Грузьдзіловіч, у штаб цябе выклікаюць. Чаравікі начысьці да бляску, каб усё было добра. Прадставісься як трэба», — вымаўляючы гэта, Аляксей сьвяціўся клапатлівай усьмешкай, нібы бацька праводзіць сына на важную гутарку.

Засьпяшаўся, апранаюся як мае быць па форме. Пазычыў у хлопцаў анучу націраць абутак і драю, драю. А заўгас усё не сыходзіць, таўчэцца побач. Па новых нотках у голасе чую, што нешта ведае пра маю будучую сустрэчу ў штабе, можа нават больш, чым я сам. Мяне гэта, праўда, ужо ня дзівіць. Пару разоў, як выклікалі на «разгон» у кабінэт начальніка атраду, заставаў там Аляксея разам з гаспадаром кабінэта. Абодва паглядалі з дрэнна схаванай пагардай. Калі начальнік нешта злосна цадзіў праз зубы на мой адрас, Аляксей ліслівa пасьміхаўся.

Цяпер жа ў яго вочы прамяністыя, усьмешка ласкавая. «Давай, давай, хутчэй. Калі пра атрад што спытаюць, дык ведаеш, што казаць».

## Перамовы пра вызваленьне

І гэтым разам днявальны ледзь ня бег, як вёў да штабу, а выканаўшы заданьне, адразу зьнік, не сказаўшы ані слова. Стаю на той жа пляцоўцы, дзе чакаюць выкліку на камісію перад ШЫЗА. Пазнаю тыя ж пліткі пад нагамі, спакваля вяртаецца пачуцьцё трывогі, а зь ім успамін, як кожны раз спрабаваў пераканаць сябе ў маральнай пераваже: «Ну і пасадзіце! Пратрымаюся, а вы…»

Няўжо дапамагала? Ну, хіба захаваць зьнешнюю прыстойнасьць, але ж каленкі ўсё роўна торгаліся.

Час ідзе, а ніхто не падыходзіць. Дзіўлюся на свае начышчаныя да бляску чаравікі. Ніколі ў такіх чыстых па калёніі не хадзіў, лічыў няварtым драіць чаравікі, каб дагадзіць начальнікам. Пратру мокрай анучкай, і хопіць. Але рызыкаваў, бо штотыдзень, а то і часьцей жаўтабірачнікам ладзяць праверкі зьнешняга выгляду: афіцэр прыходзіў да сэктару і выклікаў да сябе па чарзе ўсіх, хто стаіць на прафіляктычным уліку як схільны да экстрэмізму. Прычым сам заходзіць на сэктар ленаваўся, агляд праводзіў праз плот, але прыдзірліва.

Падыходзіш, прадстаўляесься. Прымушае зьняць кепку, ці не зарасла макаўка больш як на тры мілімэтры. Потым паглядзіць на твар, ці паголены, і, канечне, утаропіцца вачыма ў абутак — ці не запылены. Неяк праносіла, — згадаў і ў думках усьміхнуўся. Няўжо сапраўды больш такой праверкі не зазнаю? Стала нават шкада, гэткая заўсёды дуэль, нэрвы казыча. А цяпер нібы нешта ўнутры пачало адрывацца і адлятаць, як іржавае лісьце з адзінага дрэва ў «лякалцы».

Між тым у штаб ніхто ня кліча і прэч ня гоніць. Што адбываецца? Як раптам бачу: уздоўж мура штрафнога ізалятара ідуць трое. Адзін — наш афіцэр у пясочнага колеру форме, а два другія — цывільныя. Абодва высокія, сярэдніх гадоў. У модных строях — няйначай замежнікі. Адзін круціць галавой, блішчыць на сонцы акулярамі

ў чорнай аправе. Другі, падхорцісты, пра нешта пытаецца ў афіцэра.

Наблізіліся да мэдчасткі, за альтанкай павярнулі ў мой бок, набліжаюцца. Твар у афіцэра, як мяне пабачыў, пасмутнеў. «Грузьдзіловіч? Праходзім наверх!»

Падымаемся моўчкі па тым самым пралёце, зь якога 4 месяцы таму ледзь не кулём скаціўся, атрымаўшы кухталёў па карку ад ахоўнікаў. Разважаю, што за пэрсоны прыехалі па маю зэкаўскую душу? Адзін яўна замежнік, відаць, будзе выконваць ролю пасярэдніка. Другі, найхутчэй гэбіст, — кантраляваць перамовы. Хоць, можа, і памыляюся, бо нешта афіцэр ставіцца да яго роўна, безь лісьлівасьці, а перад гэбістам бегаў бы «на цырлах».

Заводзяць у кабінэт, дзе раней ня быў. Там таксама вялікі лякаваны стол, пры ім мяккія крэслы. Афіцэр маўчыць, аднак і з кабінэта не выходзіць. Пасярэднік называе сваё імя, М., потым імя свайго спадарожніка, А. Насамрэч А. не гэбіст, а супрацоўнік беларускага МЗС, але для мяне ў той момант, зрэшты, гэта было адно і тое ж.

Без прэлюдый пераходзяць да справы, пачынае М.: «Алег, ваша прашэньне будзе падпісанае пры ўмове, што вы адразу зьедзеце за мяжу. Менавіта такую ўмову ставяць беларускія ўлады. Калі вы пагодзіцеся, мы ўзгоднім дэталі. Дзеля гэтага і прыехалі. Якое будзе ваша рашэньне?»

## Жонка — у шпіталі

Зноў мушу зрабіць адступленьне. Пра тое, што мне будзе прапанавана ў абмен на вызваленьне паводле памілаваньня зьехаць за мяжу, ужо ведаў ад жонкі. Мы размаўлялі праз тэлефон за два дні да таго. Напярэдадні званка Марыянну паклалі ў шпіталь у перадынфарктным стане і зьбіраліся рабіць апэрацыю — ставіць стэнт. Гэта такая мэталічная прыладка, якую падводзяць да сэрца, каб пашырыць артэрыю, калі тая ўжо не спраўляецца зь перадачай крыві.

Што жонка захварэла на сэрца, я ня ведаў. Яшчэ з канца жніўня Марыянна пісала ў лістах, што стала дрэнна пачувацца пасьля невялікіх фізычных нагрузак: баліць у грудзях і ногі слабнуць, ледзь не адключаюцца. Але агляд у лекара, электракардыяграма і аналізы прычын такога стану ня выявілі. Жонцы прапанавалі легчы ў шпіталь, але праз маё зьняволеньне яна адмовілася.

«Можа, прычына ў перанесеным на нагах ковідзе, можа, гэта зашчамленьне шыйных пазванкоў. Разьбяруся. А ты не хвалюйся, мне ўжо лепей», — напісала Марыянна ў лісьце, які дайшоў на пачатку верасьня. Зразумела, напісала так, каб мяне супакоіць. І ў яе атрымалася. У калёніі чалавек мае столькі нэгатыўных уражаньняў, што ў любую, нават неймаверна аптымістычную вестку хочацца верыць. Тым больш калі вестка тычыцца здароўя блізкага чалавека.

Сапраўды крыху супакоіўся, даў сабе веры, што ўсё будзе добра, маленечкую хмарку разьвее ветрам, бура нас міне.

Але хмары нікуды не падзеліся. Аказваецца, з кожным днём Марыяньне станавілася горш. «Ужо і па дому крыху толькі папрацую, як стамляюся і не магу рухацца», — пазьней згадвала пра тыя часы. Урэшце ў чарговым відэа, якія здымала для сваякоў, каб інфармаваць пра мае турэмныя справы, жонка крыху расказала і пра свой стан, апісала сымптомы.

Першым, хто адгукнуўся на гэты расповед, быў Ігар, мой стрыечны брат, прафэсійны лекар, які жыве ў Гомлі. Ігар патэлефанаваў і патлумачыў Марыяньне, што яе сымптомы вельмі падобныя да ішэмічнай хваробы. Яна разьвіваецца хутка, таму нельга губляць час. А праверыць падазрэньні, параіў брат, можна, калі зрабіць кардыяграму двойчы, каб параўнаць вынікі.

Жонка зноў пайшла ў паліклініку, і пасьля ЭКГ адразу апынулася ў клінічным шпіталі № 1. На чацьвер, 15 верасьня, ёй прызначылі тэрміновую апэрацыю.

## Званкі з калёніі

Пра гэтую апэрацыю, ды ўвогуле пра тое, што жонка трапіла ў шпіталь, натуральна, у той час нічога ня ведаў.

Апынуцца ў ШЫЗА, калі па начах нуль градусаў, а яшчэ ня ўключанае ацяпленьне, для чалавека майго веку — катастрофа. А тут за пяць дзён

цябе двойчы цягаюць на камісію, і кожны раз на кану менавіта штрафны ізалятар. Значыць, перад кожнай камісіяй гарантаваны стрэс — думаеш толькі пра тое, пасадзяць ці не ў «лядоўню», ужо есьці нармальна ня можаш.

На 14 верасьня ў мяне быў чарговы тэлефонны званок дадому. Як гэта адбываецца, тэлефанаваць з калёніі?

Штомесяц вязьню дазволена пяць тэлефонных альбо пяць відэазванкоў праз скайп. Яны аплачваюцца з рахунку вязьня. Усё гэта нібыта нескладана, але страшэнна зафармалізавана. Адно добра, што званкоў нельга пазбавіць, як перадач ці спатканьняў.

На кожнага асуджанага, які карыстаецца гэтай платнай паслугай, заведзены адмысловы ліст, у якім чалавек сам пазначае, куды будзе званок. Званіць можна толькі асобам, якія папярэдне ўнесеныя ў заяўку, правераную спэцаддзелам і падпісаную начальнікам калёніі. Найперш — блізкім сваякам. Максымальная працягласьць званка — восем хвілін, але ў рэальнасьці больш за пяць-шэсьць не выходзіць. Звоняць з адмысловага тэлефоннага пункту ў клюбе, куды прыходзяць групамі ў адпаведнасьці з раскладам, што вывешаны ў атрадах (дарэчы, тыя расклады можна знайсьці ў інтэрнэце). Размовы кантралююцца. На пачатку кожны асуджаны мусіць перадаць слухаўку кантралёру, каб той спраўдзіў, хто на другім канцы дроту. І падчас званка кантралёр далёка не адыходзіць, прыслухоўваецца.

На відэазванках працэдура амаль такая ж, але там кантралёры сочаць яшчэ і за карцінкай на дысплеі, каб ніхто лішні з арыштантам не размаўляў і нават не стаяў побач. «Даходзіць да абсурду, — апісваў парадкі на відэазванках сябра Мікалай. — Могуць спыніць званок, калі збоку ўзьнікне незаяўлены твар, хоць бы дзіцячы. Рапартам пагражаюць».

Акрамя чарговых, рэжымных званкоў здараюцца і пазачарговыя, бо ў асуджаных бываюць і надзвычайныя сытуацыі. Але каб атрымаць такі званок, заявы начальніку твайго атраду недастаткова, патрэбная згода намесьніка начальніка калёніі па рэжыме. Падстава для пазачарговага званка павінна быць важкая, інакш адмовіць.

## «Чакай гасьцей»

Тады мне і давялося спраўдзіць, як гэта дзейнічае.

У сераду 14 верасьня падчас размовы з жонкай праз плянавы званок раптам пачуў ад яе ашаламляльную навіну: што трапіла ў шпіталь з хворым сэрцам і на чацьвер, то бок ужо на заўтра, прызначаная апэрацыя.

Добры настрой адразу зьнік. Марыянна ніколі на сэрца ня скардзілася, здавалася, лёгка вытрымлівала любыя нагрузкі, якія на яе выпадалі як на жонку палітвязьня. І вось табе маеш! Што зь ёю цяпер?

Таму мне і спатрэбілася на наступны дзень абавязкова атрымаць пазачарговы званок, каб

патэлефанаваць жонцы ўжо пасьля апэрацыі. І яшчэ добра, што бегаць-мучыцца з заявай амаль не давялося. Намесьнік начальніка калёніі, калі адстаяў да яго належную чаргу, задаў толькі адно пытаньне: адкуль ведаю пра апэрацыю жонкі? Атрымаўшы адказ, адразу дазволіў кароткі званок у бальніцу. Яшчэ і параіў, што можна зрабіць, калі сёньня не датэлефануюся.

Атрадны начальнік, зь якім адносіны да таго ніяк ня ладзіліся, паспачуваў і таксама дапамог чым мог. Знайшоў час, каб адвесьці на тэлефонны пункт, і дамовіўся, каб пусьцілі без чаргі. Жонка адразу зьняла слухаўку. Выявілася, што яе апэрацыя адкладзеная на пятніцу, 16 верасьня, бо ў шпіталі праз памылку пэрсаналу не пасьпелі падрыхтавацца.

Коратка абмеркавалі апошнія падзеі ў краіне і ці ёсьць шанцы на хуткае вызваленьне. З часу, як нам дазволілі зьвязвацца праз тэлефон, гэтая тэма ўзьнікала рэгулярна. Жонка перадавала і звычайныя прывітаньні ад калегаў. Дзеля канспірацыі называла іх толькі па імёнах, а нашага кіраўніка, тагачаснага дырэктара Беларускай службы Радыё Свабода Аляксандра Міхайлавіча Лукашука, літарамі А. М.

І вось у той размове Марыянна раптам кажа: «Чакай гасьцей. Твой калега А. М. перадае, што днямі да цябе прыедуць па згоду, але з умовай, каб зьехаў за мяжу. І што нам рабіць? Я не змагу, у мяне апэрацыя і потым невядома што. А ты едзь. Як папраўлюся, можа, выпусьцяць да цябе».

На гэта адразу адказаў, што безь яе нікуды не паеду, толькі разам. А калі яна ня зможа па стане здароўя, дык увогуле адмоўлюся ад прапановы.

«Яшчэ не хапала зьехаць! Тут горшае можа адбыцца, і што тады? Прымаць спачуваньні на чужыне і нават не пабыць на пахаваньні самага блізкага чалавека?» — гэтую думку, зразумела, жонцы не агучыў, але разважаў прыблізна так. Пажадаў на заўтра добрай апэрацыі, і разьвіталіся.

Атрымаць дазвол яшчэ на адзін пазачарговы званок, ужо ў панядзелак, не пасьпеў — выклікалі ў штаб. На тую самую сустрэчу з пасярэднікамі.

## Умова ад Лукашэнкі

Зноў панядзелак, 19 верасьня. Нас у кабінэце чацьвёра. А. і М. сядзяць насупраць мяне, афіцэр ходзіць па кабінэце. Утрох яны чакаюць майго адказу на прапанову, якую прывезьлі зь Менску: Лукашэнка падпіша маё памілаваньне, толькі калі пагаджуся зьехаць за мяжу.

І вось, крыху для бачнасьці падумаўшы, адказваю, што мушу адмовіцца. Тлумачу зноў, што за мяжу ніколі зьяжджаць не зьбіраўся, тым больш цяпер, калі мая жонка трапіла ў шпіталь. «У яе прайшла апэрацыя, я нават ня ведаю, у якім яна стане. Таму мушу адмовіцца».

Але, бачу, перамоўнікі саступаць ня хочуць. М. выказвае такі аргумэнт: акрамя перамоваў аб маім вызваленьні, адначасова вядуцца перамовы аб вызваленьні двух маіх калегаў па Радыё Свабода, Ігара і Андрэя, і калі я адмоўлюся ад

прапановы, дык тыя перамовы могуць спыніцца. «Бо іншы бок вырашыць, што далей няма сэнсу дамаўляцца. Падумайце», — настойваў М. Гаворыць ён на добрай расейскай мове і ўсяляк, вачыма і мімікай, дэманструе, што спачувае, хоча дапамагчы і яму варта давяраць.

Адказваць было цяжка. Нарэшце я сабраўся з думкамі. «Ведаеце, — кажу, — гэта нават выглядае падобным да шантажу. Калі хочаце мяне вызваліць, дык калі ласка. Але калі не — я даседжу».

«Не сьпяшайцеся, падумайце», — прапануе М. і раптам зьвяртаецца да афіцэра з адміністрацыі калёніі: «Дазволіце нам паразмаўляць сам-насам?»

Але той з катэгарычным выглядам паматаў галавой: «Нельга!»

Пасядзелі яшчэ моўчкі. Зноў паўтараю, што ад'езд за мяжу мне не падыходзіць, бо жонка ехаць са мною ня можа, таму — не.

Разьвітваемся, дзякую за дапамогу і жадаю добрай дарогі. Госьці падымаюцца, расчаравана разводзяць рукамі. «Як хочаце, але калі перадумаеце, можа быць запозна».

Наступны кадар, які захавала памяць, такі. Выходжу на вуліцу, у вочы б'е сонца, залівае срэбрам купал цэркаўкі, што прытулілася каля штабу. (Дарэчы, ніколі за чатыры месяцы ня бачыў, каб у тую царкву нехта заходзіў ці выходзіў зь яе. Для каго яе пабудавалі? У атрадзе хлопцы жартавалі, што толькі каб нябожчыкаў адпяваць.) Абмінаю царкву з правага боку, кіруюся да варот са шлягбаўмам, якія выводзяць на

галоўную дарогу. Бакавым зрокам бачу гасьцей і афіцэра, калі тыя, абышоўшы царкву зьлева, набліжаюцца да ўваходу ў ШЫЗА. Нас разьдзяляе ўжо мэтраў трыццаць, і адлегласьць усё павялічваецца. І раптам бачу, што М. махае мне рукой, чую голас афіцэра: «Сюды!»

## Пільны чыноўнік Макей

Зноў мушу зрабіць перапынак і вярнуцца ў мінулае, ажно ў 1994 год, каб паспрабаваць знайсьці адказ на пытаньне, чаму менавіта мне выпала стаць аб'ектам гэтых складаных закулісных перамоваў аб вызваленьні групы палітвязьняў. І ў абмен на што такое вызваленьне магло адбыцца.

Спачатку патлумачу, пры чым тут 94-ы?

Ключ да магчымай адгадкі — імя Ўладзімер Макей, на момант апісанай сустрэчы міністар замежных спраў Рэспублікі Беларусь.

Тады, увесну 1994 году, малады супрацоўнік амбасады Беларусі ў Францыі Макей сустракаў у Страсбуры афіцыйную дэлегацыю кіраўніцтва Беларусі на чале з старшынём Вярхоўнага Савету Мечыславам Грыбам. У журналісцкім пуле, набраным асьвятляць візыт спадара Грыба, быў і я, карэспандэнт парлямэнцкай «Народнай газеты».

Дарэчы, той візыт беларускай дэлегацыі на вышэйшым узроўні ў Раду Эўропы быў першы і апошні ў гісторыі краіны.

Напярэдадні Беларусь атрымала нібы аванс — статус назіральніка ў парлямэнцкай асамблеі Рады Эўропы. Старшыня Вярхоўнага Савету

ўпершыню прысутнічаў на паседжаньні асамблеі, сустракаўся з кіраўніцтвам, даваў прэсавую канфэрэнцыю. Празь некалькі месяцаў прэзыдэнтам Беларусі абяруць Аляксандра Лукашэнку, і ўсе дасягненьні маладой беларускай дэмакратыі пасыплюцца, як костачкі даміно. Але пакуль мала што кажа пра будучыя праблемы, ганьбу і санкцыі. У Страсбуры беларускую дэлегацыю сустракаюць на высокім узроўні, прыстойна, паважліва, і пры гэтым без асаблівай помпы, па-эўрапейску — як роўных па культуры і мэнтальнасьці.

Зь беларускага боку намі апякуецца амбасадарка ў Францыі Ніна Мазай — жанчына разумная, стрыманая. Мне яна знаёмая з тых часоў, калі працавала сакратаром ЦК ЛКСМБ. Бывала, бачыў яе ў будынку на Карла Маркса насупраць танка, бо ў тым жа доме месьціўся і Менскі абкам ЛКСМБ, дзе працаваў я. Цяпер мы хутка закамунікавалі зноў, і зь яе боку ніякай фанабэрыстасьці — добразычліва адказвае на пытаньні, дае карысныя парады.

Амбасадару дапамагае супрацоўнік беларускага прадстаўніцтва Ўладзімер Макей. Яму, відаць, даручылі апекавацца менавіта журналістамі, і ён аказаўся на вышыні. Стрыманы, дакладны, пільны да дробязяў, уважлівы да нашых просьбаў. Рэальна дапамагаў са зборам інфармацыі пра візыт, з камэнтарамі ці інтэрвію. Плюс да гэтага быў нашым гідам па горадзе, нават адвозіў у недарагі супэрмаркет — а як жа вярнуцца з Эўропы без сувэніраў і падарункаў?

Сярод іншага Ўладзімер Макей знайшоў час для інтэрвію і мне.

Памятаю, ён яўна нэрваваўся, хацеў бы хутчэй завяршыць размову, але я не адыходзіў ад яго, усё задаваў і задаваў пытаньні. У тым ліку пытаўся пра асабістае стаўленьне да сувэрэнітэту Беларусі, верагодныя пагрозы незалежнасьці, пра стасункі з NATO. Калі шчыра, пытаўся ўжо ня дзеля газэты. Каму з чытачоў былі б цікавыя асабістыя меркаваньні малазначнага чыноўніка МЗС? Хацелася самому ўцяміць, якой будзе новая беларуская ўлада пасьля прэзыдэнцкіх выбараў? (Да іх заставалася месяцы тры-чатыры.) Што за людзі працуюць на «дыпляматычным фронце», у які бок яны гатовыя весьці Беларусь — на Ўсход ці на Захад? Гэта тыя ж камсамольцы 80-х, якіх ведаў, толькі перафарбаваныя, ці незалежнасьць і дэмакратыя для іх ужо ня проста словы?

## Страсбурскі сабор як сымбаль Беларусі

Калі гаварыць пра Ўладзімера Макея, дык адно зразумеў пэўна — гэта чалавек разумны, але «ў футарале». Вырашыў, што як чыноўнік-дыплямат Макей на сваім месцы. Ён, вядома, мяне таксама «прасканаваў» і зрабіў свае высновы. Магчыма, і такія, што перад ім тыповы нацыяналіст-заходнік. Хаця — гадаць не выпадае.

Ніна Мазай таксама асьцярожна размаўляла з журналістамі з пулу старшыні Вярхоўнага Савету, але ўсё ж трымалася шчыра і добразычліва, дэманстравала роўнае стаўленьне да мэдыя з роз-

ымі палітычнымі пазыцыямі. А тады так і было: «Народная газета» — на адной пазыцыі, «Советская Белоруссия», БелТА — усё ж на іншай. Але ўсе мы прыляцелі ў Страсбур на адным самалёце зь бел-чырвона-белай паласой празь фюзэляж. І на сталах, дзе ў афіцыйнай абстаноўцы сустракалі беларускую дэлегацыю, стаялі дзяржаўныя бел-чырвона-белыя сьцяжкі. Прадстаўнікі Рады Эўропы атрымлівалі ад беларускай дэлегацыі сувэніры з нацыянальным арнамэнтам, з Пагоняй.

Сябры афіцыйнай дэлегацыі, як і журналісты, прытрымліваліся розных палітычных поглядаў, гэта праўда, але праўдай было і тое, што мы адчувалі сябе адзінай камандай, прадстаўнікамі аднаго народу.

У Менску ў маім журналісцкім архіве ёсьць фота той дэлегацыі, зьнятае на фоне Страсбурскага сабору.

Высачэзны гатычны сабор — адзін такі на ўвесь сьвет, бо яму за пяць стагодзьдзяў так і не дабудавалі другую вежу. Цяпер у маім уяўленьні гэтае фота — сымбаль недабудаванасьці беларускай дзяржавы. На фоне сабора стаяць Грыб, Мазай, вядомы вучоны і вынаходнік акадэмік Лабуноў, Макей, журналісты, яшчэ твары… На жаль, іншых прозьвішчаў не магу згадаць, а паглядзець на фота цяпер няма як.

На стале беларускай дэлегацыі ў Радзе Эўропы тады стаяў бел-чырвона-белы сьцяжок. Дакладна такі міліцыянты знайшлі падчас вобшуку ў маёй кватэры ў 2021-м і скарысталі як доказ маёй віны.

Уявіць сабе тую бездань, якая пралегла паміж тагачаснай і цяперашняй Беларусьсю, тады было немагчыма.

## Макей і КДБ

Прамінула ўсяго некалькі гадоў, і гэтае імя — Уладзімер Макей — для мяне ўзьнікла зноў. Спачатку — як імя дарадцы Аляксандра Лукашэнкі, потым — як кіраўніка ягонай адміністрацыі. Вось тады пачаў распытваць знаёмых пра новага прызначэнца, зь якім калісьці пазнаёміўся ў Страсбуры, і раптам выявілася, што маладога Макея крыху ведае мая жонка Марыянна. Яны ў адзін час вучыліся ў Менскім інстытуце замежных моваў, на ангельскім факультэце.

«Ён быў на курс ці нават на два старэйшы. Упершыню яго пабачыла ў калідоры інʼяза, мне яго сяброўка паказала, якая са мной жыла ў адным інтэрнаце. Пра Макея казалі, што ён зьвязаны з КДБ, але чаму і што, ужо ня памятаю. І ніколі ня бачыла яго ні ў якіх кампаніях — увесь час аднаго. Але прозьвішча такое чамусьці добра запомніла», — згадала жонка, калі ўбачыла фота Ўладзімера Макея, кіраўніка адміністрацыі Лукашэнкі.

## Усеагульны адабрамс

Акрамя некалькіх нязначных сустрэч на прэсавых канфэрэнцыях, з Макеем зноў перасекліся толькі аднойчы — напярэдадні прэзыдэнцкіх

выбараў 2010 году. Нагадаю, тыя выбары скончыліся чарговай фальсыфікацыяй на карысьць Лукашэнкі, плошчай, на якую выйшла да 50 тысяч пратэстоўцаў, брутальным разгонам і пасадкай на розныя тэрміны каля сотні актывістаў, у тым ліку арыштам пяці зь дзесяці кандыдатаў на прэзыдэнта.

А за некалькі дзён да выбараў у Палацы Рэспублікі праходзіў так званы Ўсебеларускі народны сход — прапагандысцкі форум, пакліканы імітаваць шырокую народную падтрымку Лукашэнкі. Удзельнікаў гэтага мерапрыемства, нібыта вылучаных працоўнымі калектывамі, прывозілі на аўтобусах з розных рэгіёнаў краіны за дзяржаўны кошт. Іх абавязкам было праслухаць прызначаных выступоўцаў, вытрымаць шматгадзінную прамову Лукашэнкі і аплядысмэнтамі выказаць яму «ўсеагульны адабрамс». Дакладна як у савецкія часы.

Але часы былі ўсё ж іншыя, канчаўся 2010 год, і грамадзянская актыўнасьць у Беларусі яшчэ не была зьнішчаная.

Гады за два да таго ў Менску пачала актыўнічаць група пад назвай «Жанчыны за справядлівасьць у судах і пракуратуры», у якую аб’ядналіся некалькі дзясяткаў актывістак, незадаволеных судовымі рашэньнямі па справах іхных сыноў, мужоў, сваякоў. Група не была зарэгістраваная як арганізацыя, уваходзілі ў яе ў асноўным жанчыны. Відаць, таму, што разважалі: мужчын арыштуюць, а нас, жанчын, да часу будуць цярпець.

Пакуль актывісткі займаліся толькі тым, што складалі скаргі і адпраўлялі паперы па розных сілавых і судовых інстанцыях, іх асабліва не чапалі. Але і выніку ад гэтай актыўнасьці амаль не было. Апрача таго, што ўладныя ўстановы паступова спынялі з жанчынамі перапіску. Цярпеньне ў актывістак лопнула ўвосень 2010 году, яны вырашылі дзейнічаць больш рашуча. У прыватнасьці, склалі пэтыцыю, сабралі пад ёй дзясяткі подпісаў і паспрабавалі аднесьці ў Палац Рэспублікі на Ўсебеларускі народны сход.

Сход праходзіў на пачатку сьнежня. Ён быў ужо чацьвёрты па ліку. Скажу па шчырасьці, мяне гэтае мерапрыемства не зацікавіла б, каб ня зьвесткі, што актывісткі панясуць сваю пэтыцыю ў Палац Рэспублікі. Карацей, ніколі б туды не пайшоў, але жанчыны самі запрасілі. Угаворвалі, што перададуць пэтыцыю, каб яе зачыталі з высокай трыбуны, ці аддадуць «самому Лукашэнку» ў рукі, і той ня зможа не адрэагаваць.

Давялося з дыктафонам ісьці на Кастрычніцкую плошчу, але на ўсякі выпадак прыхапіў і відэакамэру, бо чакаць можна было чаго заўгодна. Перад прэзыдэнцкімі выбарамі 2006 году на такі самы сход, па ліку трэці, спрабаваў прайсьці для выступу кандыдат у прэзыдэнты, былы рэктар БДУ Аляксандар Казулін. Скончылася гэта для яго бойкай з аховай і затрыманьнем. Што ж будзе цяпер?

## Барсукоў у дзеяньні

Як і чакаў, у Палац Рэспублікі жанчын не дапусьцілі, не далі нават падысьці — будынак па пэрымэтры быў шчыльна ачэплены міліцыянтамі і супрацоўнікамі ў цывільным. У палацы ж сабраліся 2,5 тысячы «лепшых прадстаўнікоў народу» — ня жартачкі! Праўда, на плошчы актывістак і не затрымалі, проста адціснулі далей. У выніку яны спыніліся ля скрыжаваньня вуліц Інтэрнацыянальнай і Энгельса, бліжэй да плошчы Свабоды, і прастаялі там некалькі гадзін. Разам зь імі чакалі ды мерзьлі і мы, журналісты недзяржаўных мэдыя, а таксама міліцыянты ў цывільным, якія за намі наглядалі.

Асабліва вылучаўся сярод іх тагачасны начальнік аддзелу сталічнай міліцыі Аляксандар Барсукоў, які праз дзесяць гадоў ужо будзе намесьнікам міністра ўнутраных спраў і засьвеціцца ў гісторыі са зьбіцьцём «дыджэяў перамен». У той дзень будучы генэрал быў апрануты ў кароткую куртку, нібы выйшаў на прагулку, і дзеяньнямі сваімі зусім не дэманстраваў, што настроены да нас варожа. Падыдзе, паслухае, пра што гаворым, і адыдзе.

У выніку мы ўжо і ўвагу на яго перасталі зьвяртаць, як раптам зноў падскочыў ззаду і — бац! — ударыў па руцэ, у якой я трымаў відэакамэру. Нібы чакаў, што адмахнуся ня гледзячы, і тады можна будзе абвінаваціць мяне ў нападзе на міліцыянта.

Я проста азірнуўся і паглядзеў яму ў вочы. Барсукоў на час сьцішыўся.

## «Добра хоць у кутузку не забралі»

Пачало цямнець. І толькі тады да жанчын падышоў чалавек у цывільным. Сказаў, каб дэлегацыя з пэтыцыяй ішла за ім да бакавога пад'езду Палаца Рэспублікі. «З вамі там пагавораць».

Хто быў тым чалавекам, мне невядома. Затое ведаў дакладна, што адказвала за арганізацыю і правядзеньне Ўсебеларускага народнага сходу менавіта адміністрацыя Лукашэнкі, а значыць, галоўным арганізатарам быў якраз Уладзімер Макей, тагачасны галава адміністрацыі.

І праўда. Твар Макея ў профіль пазнаў праз шкло бакавога пад'езду, калі падышоў туды ўсьлед за групай жанчын. У фае за дзьвярыма таўкліся дзясяткі людзей. Сярод людзей вылучалася група ахоўнікаў з каменнымі тварамі, а паміж іх — Уладзімер Макей і яшчэ некалькі чалавек у дарагіх строях, яўна чыноўнікаў.

Дзьвюх актывістак з пэтыцыяй прапусьцілі ўнутр, журналістам уваход забаранілі. Праз шкло было бачна, як жанчыны падышлі да Макея, ён узяў іхны ліст, пачаў нешта казаць. Сьвятло ўнутры дазваляла здымаць праз шкло, і я наставіў відэакамэру. Але ў гэты момант у праходзе зьявіўся ахоўнік і з рашучым выглядам пасунуўся да мяне. Потым з-за пляча ахоўніка ўзьнік твар Уладзімера Макея. Той глядзеў у мой бок, але я б не сказаў пэўна, што ён мяне пазнаў. Проста па-

чулася кароткая каманда: «На відэа не здымаць!», і ахоўнік працягнуў руку да маёй камэры.

Я адразу адскочыў на некалькі крокаў назад, апусьціў камэру. А неўзабаве зь дзьвярэй выйшлі і тыя жанчыны, што адносілі пэтыцыю. Журналісты кінуліся да іх па камэнтар і пачулі расчараванае: дакумэнт Макей узяў, але нічога ад сябе не абяцаў. Толькі дзяжурнае, сто разоў імі чутае ад чыноўнікаў: «Вывучаць і вам адкажуць». «Добра хоць у кутузку не забралі», — казалі жанчыны.

У выніку ані слова пра пэтыцыю з сотнямі подпісаў ад пакрыўджаных на суды і пракуратуру жанчын на 4-м Усебеларускім народным сходзе сказана не было. Чарговая спроба дамагчыся справядлівасьці скончылася пшыкам.

## Усе дарогі вядуць да Макея

Але вернемся да разваг пра тое, чаму маю асобу абралі кандыдатам на вызваленьне праз памілаваньне.

Як бачым, знаёмства з Макеем у мяне хоць і было, але даўняе і кароткае. Эпізод 2010 году ўвогуле мог адкласьціся толькі ў маёй памяці, а для Макея гэта быў звычайны працоўны момант — пазбавіўся ад чарговых просьбітаў, ня больш за тое.

Застаецца адзін нюанс — мая прыналежнасьць як журналіста да амэрыканскага Радыё Свабода. А гэта вельмі вядомае ў сьвеце мэдыя, нават знакавае. RFE/RL уваходзіць у структуру Міжнароднай мэдыйнай карпарацыі ЗША, якая

фінансуецца Кангрэсам ЗША, выконвае важную місію прасоўваньня свабоды слова і дэмакратычных каштоўнасьцяў. Ад часу майго арышту ў сьнежні 2021 году рэдакцыя Радыё Свабода няспынна змагалася за маё вызваленьне. Заявы, патрабаваньні, лісты падтрымкі — усё было пераправабаванае. Плюс вялікі розгалас у мэдыя.

У вязьніцах на верасень 2022 году, акрамя мяне, былі яшчэ два свабодаўскія журналісты — Ігар Лосік і Андрэй Кузьнечык. Тое, што пра нас не забыліся, не пакінулі без падтрымкі, у тым ліку палітычнай, ведаў у турме дакладна. Ведаў і тое, што пра наш лёс вядуцца перамовы. Пра гэта пісала ў лістах жонка, зразумела, эзопавай мовай, кшталту «калегі вас не забываюць, робяць усё магчымае», альбо «за вас тут і там змагаюцца».

Дык хто зь беларускага боку мог весьці адносна мяне перамовы і навошта? Калі я разважаў пра гэта адразу пасьля сустрэчы з пасярэднікам Х. і супрацоўнікам МЗС А., у мяне ўзьнікла адна вэрсія — што тут не абышлося безь міністра замежных спраў Уладзімера Макея. Па-першае, без дазволу міністра ніводзін супрацоўнік МЗС не паехаў бы ў калёнію выконваць такое заданьне. Па-другое, гэты супрацоўнік ня столькі вёў размову, колькі яе кантраляваў, а непасрэдна дамаўляўся са мной прадстаўнік замежнай структуры М. (ён прасіў ні ў якім разе не называць ні яго, ні краіну, якую прадстаўляў).

Аднак хто мог запрасіць гэтую структуру для ўдзелу ў перамовах аб вызваленьні журналістаў, як не беларускі МЗС? І, найхутчэй, гэты высока-

пастаўлены чыноўнік дзейнічае па гэтай схеме ўжо не ўпершыню, бо пасярэдніцтва магчымае толькі пры ўмове даверу, а давер напрацоўваецца гадамі.

## Козыр у Нью-Ёрку

Ужо праз дзень пасьля майго выхаду на волю вэрсію пра датычнасьць Уладзімера Макея да маёй гісторыі ўскосна падмацавала інфармацыя зь беларускіх дзяржаўных крыніц.

22 верасьня ў Нью-Ёрку адкрылася сэсія Генэральнай Асамблеі ААН, у якой брала ўдзел і беларуская афіцыйная дэлегацыя на чале з Макеем. Паведамлялася, што ягоны візыт працягнецца ажно чатыры дні і будзе насычаны сустрэчамі, кансультацыямі, перамовамі.

Цяпер не выключаю, што знаходжаньне ў Нью-Ёрку беларускі міністар замежных спраў мог выкарыстаць і для выкананьня асобнага заданьня Лукашэнкі — прамацаць магчымасьці для перамоваў аб зьняцьці, ці хаця б зьмякчэньні, санкцый у абмен на вызваленьне палітвязьняў. Месца і час для такой місіі былі прыдатныя. Зразумела, што ў такім выпадку Макею трэба было б дастаць з рукава нейкі козыр, «праплаціць аванс». Бо рэжым Лукашэнкі на той час страціў апошнія рэшткі даверу ў вачах кіраўніцтва ЗША, а дамаўляцца найперш трэба з амэрыканцамі.

І вось ён пачынае дзейнічаць. Маўляў, глядзіце, насамрэч мы дамоваздатныя і самастойныя, можам дзейнічаць і без аглядкі на Расею.

Мы адпусьцілі некалькі вязьняў, у тым ліку журналіста, пра якога вы прасілі, магчыма, потым адпусьцім іншых. Дык давайце пагаворым пра нашы справы…

## Вячорка пра сакрэты «Беларуськалію»

Зрэшты, сам Уладзімер Макей падчас паездкі ў Нью-Ёрк пахваліўся, што меў у кулюарах сэсіі закрытыя размовы з заходнімі палітыкамі. Але не ўдакладніў, з кім менавіта.

Затое падрабязнасьцямі падзяліўся Франак Вячорка, дарадца Сьвятланы Ціханоўскай, якая таксама прыехала ў Нью-Ёрк на сэсію Генасамблеі ААН і, у адрозьненьне ад Уладзімера Макея, мела сустрэчы з кіраўнікамі шэрагу заходніх краін — з прэзыдэнтамі Польшчы і Літвы, з прэзыдэнтам Эўракамісіі Урзуляй фон дэр Ляен, а таксама зь міністрамі замежных спраў васьмі краін Эўропы. Паводле зьвестак Франка Вячоркі, падчас сустрэч з заходнімі палітыкамі Ўладзімер Макей за адмену санкцый супраць «Беларуськалію» абяцаў пастунова адпускаць на волю палітвязьняў і сьцьвярджаў, што ўжо вызвалена 35 чалавек.

Ці не залічыў спадар Макей у гэты сьпіс і мяне? Магчыма. А магчыма, яшчэ і праваабаронцу зь «Вясны» Тацяну Ласіцу, якая выйшла на волю з гомельскай жаночай калёніі праз тры дні пасьля мяне, 24 верасьня. Таксама датэрмінова.

## Пагаджаюся на выгнаньне

Але пра гэтыя падзеі я даведаюся пазьней, праз некалькі дзён па вызваленьні. А тады, 19 верасьня, так разважаць было яшчэ немагчыма. Ды мне ў першыя хвіліны пасьля апісанай сустрэчы ў штабе было і не да развag. Ужо рассталіся, і вось зноў клічуць: «Падыдзі!»

Падышоў. Прадстаўнік МЗС у гэты момант гаварыў з афіцэрам, і М. адводзіць мяне ўбок. Найхутчэй, ён дамовіўся пра размову са мной сам-насам і зараз выкладзе новы аргумэнт на карысьць сваёй прапановы.

Так і ёсьць: «Алег, калі заканчваецца ваш тэрмін? 30 сакавіка. Вы думаеце, што вас вызваляць, але гэта няпраўда. Вам працягнуць тэрмін, і будзеце сядзець далей. Пакуль ня позна, пагаджайцеся. Заўтра можа быць позна».

Пытаюся, адкуль у яго такія зьвесткі? Але адказу не атрымліваю, толькі разьведзеныя ў бакі рукі і спачувальная ўсьмешка.

«Добра. Калі мне ўдасца ўгаварыць жонку выехаць разам са мной, тады пагаджуся. Але яшчэ пры ўмове, што лекары дазволяць ёй такі адʼезд», — кажу гучна, каб чулі і два іншыя ўдзельнікі размовы. Асобна зьвяртаюся да афіцэра: «Дазволіце пазваніць жонцы?»

Вяртаемся ў штаб. Афіцэр заводзіць у кабінэт псыхоляга, дае мабільны тэлефон, а сам з кабінэта выходзіць. Набіраю нумар жонкі: «Марыянна?»

Да галоўнага пераходжу не адразу. Жонка кажа, што апэрацыя прайшла пасьпяхова і яна

адчувае сябе лепш. Ужо падымаецца з ложка. «А як у цябе справы?»

Расказваю пра сёньняшнюю сустрэчу і прапанову. Кажу, што гатовы яе прыняць, але пры ўмове, што паедзем разам. «Вырашай».

«Ужо і сама думала, што будзем рабіць. А. М. званіў, угаворваў і пераканаў. Заставацца ўсё роўна нельга, у любы момант захочуць і арыштуюць. Таму пагадзілася, што трэба зьяжджаць разам», — адказвае жонка. І дадае, што дагэтуль ня ведае, на які час ёй рыхтавацца і ці дадуць час на зборы дома.

Гэтага і я яшчэ ня ведаў, але запэўніў, што ёй патэлефануюць і ўсё патлумачаць. «Да сустрэчы», — сказаў упэўненым голасам і завяршыў размову. Але сам ніякай упэўненасьці ня меў.

Калі перадаў перамоўнікам, што жонка на ад’езд разам са мной пагадзілася, іх твары засьвяціліся. М. запэўніў, што ўсё будзе падрыхтавана.

«Слушна вырашылі! Усю падрыхтоўку мы бяром на сябе, пра вашу жонку таксама паклапоцімся. Вы ідзіце і чакайце. Мяркую, цягам дня ўсё вырашыцца. Нам трэба яшчэ ваш пашпарт знайсьці, у калёніі кажуць, што яго тут няма. Вы ня ведаеце, дзе пашпарт?»

Мой пашпарт, наколькі мне было вядома, на пачатку верасьня яшчэ знаходзіўся ў магілёўскай 4-й турме. Але гэта недалёка, прывезьці пашпарт у калёнію не было праблемай.

Пасьля гэтай размовы ў атрадзе заставаўся яшчэ суткі. Сябры, калі ім паведаміў пра ўльтыматум зьехаць за мяжу ў абмен на вызваленьне,

усе ўхвалілі маё рашэньне. Адзін з палітычных, Мікалай, да віншаваньняў дадаў: «Маё спачуваньне. Не хацеў бы апынуцца перад такім выбарам. Але як ёсьць».

Усе пагаджаліся, што збольшага гэтая навіна — добрая прыкмета, якая, магчыма, сьведчыць пра пачатак працэсу вызваленьня, і цяпер толькі пытаньне часу, калі палітвязьні пачнуць выходзіць на волю масава.

## Макей пакідае сцэну

Але ў гэтых прагнозах мы з палітычнымі памыліліся.

Пасьля майго выхаду на волю 21 верасьня і вызваленьня праваабаронцы гомельскай «Вясны» Тацяны Ласіцы больш ужо нікога датэрмінова не адпусьцілі. А вось рэгулярнае кіданьне за краты новых і новых палітвязьняў працягнулася і нават набыло рысы, так бы мовіць, штучнага адбору. Бо, відаць, адмыслова, з рэгулярнасьцю ня менш як раз на тыдзень падбіралі для арышту знакавых асобаў: прафэсара, выкладчыцу, сьвятара з жонкай, журналіста, музыку. Тых, каго шырока ведаюць у грамадзтве, чый арышт стане рэзанансным і пэўна падвысіць агульны ўзровень страху.

Ужо праз два тыдні, як апынуўся на волі, стала зразумела, што перамовы з Захадам, якія плянаваў распачаць Макей, не ўдаліся. Забуксавалі на самым пачатку, альбо нават увогуле не пачаліся. Верагодней за ўсё, Захад не паддаўся на лукашэнкаўскія хітрыкі, а застаўся на ранейшай пазыцыі:

спачатку вызваліць усіх палітвязьняў без выключэньняў, і толькі потым — нейкія перамовы. Гэта якраз той адказ Макею ў Нью-Ёрку, пра які папярэджваў дарадца Сьвятланы Ціханоўскай Франак Вячорка.

А ў канцы лістапада Ўладзімер Макей нечакана памёр. Афіцыйна пра ягоную сьмерць заявілі, што яна наступіла ад раптоўнай сардэчнай хваробы. Магчыма, і так. І, вядома, гэтая сьмерць у такі складаны момант не магла не спарадзіць вэрсіі пра забойства, пра тое, што дзейнічае «рука Масквы», а Лукашэнку, маўляў, гэтым забойствам вернага служкі паслалі чорную метку — каб ня думаў падмануць.

Час пакажа, ці так гэта. Але ў любым выпадку роля Ўладзімера Макея — быць «адвакатам д'ябла», якую ён узяў на сябе добраахвотна і не ў 2020 годзе, а значна раней, — у маім уяўленьні скончылася для яго трагічна. Ва ўсякім разе, не авацыямі, а суцэльным правалам. Што, дарэчы, павучальна для тых, хто пагаджаецца падыгрываць, а не бярэцца выконваць самастойную ролю.

## Пяць хвілін на зборы

20 верасьня пасьля вячэры, блізка да сёмай вечара, падчас прагулкі ў дворыку мяне знайшоў днявальны. «Хутчэй, хутчэй, цябе кліча дзяжурны па калёніі!»

Накіраваўся да форткі, але выявілася, што гэтым разам выклікаюць ня ў штаб, а трэба ісьці ў корпус, у свой пакой. Дзяжурны чакае там. Усё

стала зразумела. Але замест радасьці ахапіла скруха: «Вось табе маеш! — падумаў крыху расчаравана. — А як жа разьвітаньне?»

Адна з традыцый жыцьця за кратамі, можа адзіная добрая, — гэта паважлівае разьвітаньне з тым, хто зьяжджае. Прыезд новенькага таксама стараюцца адзначыць, але гэта не заўсёды атрымліваецца, а вось калі арыштанта праводзяць, напрыклад, зь СІЗА ўжо ў калёнію, а тым больш з калёніі на волю, — гэта падзея для ўсіх.

Чалавеку трэба сказаць на дарогу добрыя словы, выслухаць ад яго падзяку і добрыя ўспаміны. Гэта ўсім прыемна, стварае абстаноўку, хоць крыху падобную да дамашняй, для кожнага набліжае той чароўны момант, калі ён таксама паедзе дамоў.

У СІЗА праводзіны ладзяць у любы зручны час перад ад'ездам чалавека на новае месца. Кубак з моцнай гарбатай пускаецца па коле, усе па чарзе робяць па глытку і прамаўляюць пажаданьні. Хто коратка і стрымана, хто больш удала і цікава — залежыць ад узроўню інтэлекту і выхаваньня. Але абавязкова пасьля пажаданьняў дадаецца: «…і сьвятой свабоды!».

У калёніі выхад на волю адзначаўся пасьля адбою. Спачатку трэба было дачакацца першага начнога абходу кантралёраў, якія праходзяць па «хатах» недзе праз паўгадзіны па адбоі. І вось яны прайшлі з сваімі ліхтарыкамі, праверылі, ці ляжаць асуджаныя на ложках, пагаманілі з тымі, хто любіць пагаманіць, ды, як кажуць, звалілі. Цяпер трэба дзейнічаць. Бо калі праводзіны

зацягнуцца, можна натрапіць і на другі абход, гэта недзе а трэцяй-чацьвёртай гадзіне ночы, і тады прыязнай размовы з кантралёрамі можа не атрымацца.

Хуценька выстаўляюць на праход упрытык некалькі зэдлікаў, чымсьці іх засьцілаюць і «накрываюць паляну» — цукеркі, печыва, але можа быць і парэзаная каўбаска, бо заўсёды галодным зэкам любая ежа даспадобы. Крута завараная ў вялікім кубку гарбата ўжо настаялася, чакае прамоваў. Цымусам разьвітальнага застольля можа быць самаробны торт — вафляныя кружэлкі насычаюць згушчонкай, аздабляюць шакалядам альбо какава-парашком, і торт гатовы.

Дык вось загатоўкі для такога торта ў мяне былі купленыя, торба зь імі, ужо вынятая з кладоўкі, чакала пад ложкам. У апошнюю, сёньняшнюю ноч у калёніі я плянаваў зладзіць разьвітаньне, але замест падрыхтоўкі да сьціплага зэкаўскага сьвята мяне чакаюць ліхаманкавыя зборы пасьля каманды: «У цябе ёсьць пяць хвілін».

## «Гарэцкага перадайце мне»

Дзяжурны афіцэр напускае на твар няўмольнасьць. Мы ўжо знаёмыя. Гэта ён чатыры месяцы таму забіраў мяне з другога ШЫЗА і адводзіў па прапісцы ў атрад. Перад самай форткай я згадаў, што пакінуў у ізалятары свае шлёпанцы, і з надзеяй паглядзеў на праважатага — «Можна вярнуцца?». Але той ледзь не расьсьмяяўся: «Ну ты

даеш. Ты ў калёніі, прывыкай. Тут за цябе ніхто думаць пра тваe рэчы ня будзе. Ідзі ў атрад».

І вось мы зноў разам. «А можна зайсьці ў суседні пакой, хачу цыгарэты перадаць?» — прашу афіцэра, але той няўмольны. «Нельга. А ты чаго сюды? Давай ідзі хутчэй!» — так ён яшчэ і адганяе ад мяне хлопцаў зь іншых пакояў, якіх зацікавіла, што ў нас адбываецца. Мне непрыемна, настрой ня той, але наперадзе воля, не ШЫЗА. Ну, не разьвітаюся, але чаго перажываць?

Проста далоньню, як саўком, звальваю ў торбу ўсё, што ляжыць у тумбачцы: недапісаныя лісты, мыла з памазком, станок, асадкі, алоўкі. Непрачытаныя кнігі прашу хлопцаў за мяне аднесьці ў бібліятэку, але некаторыя тут жа разьбіраюць. «Гарэцкага перадайце мне», — просіць сябар Уладзімер.

Ёсьць яшчэ харчы, загатоўкі для торта, цыгарэты. Гэта пакідаю на ложку — «Падзяліце». Згортваю трубкай свой худы матрац і, разьвітаўшыся — «Усім хутчэйшага выхаду на волю!» — выходжу з рэчамі на калідор.

Яшчэ праз гадзіну той жа дзяжурны заканчвае агляд маіх рэчаў у тым самым будынку на выхадзе з калёніі, дзе прымаюць новых вязьняў. На маё дзіва, ён не забірае маю пошту — што я пісаў і маляваў у калёніі, а таксама лісты і малюнкі ад унукаў, якія сам атрымліваў. Прагледзеў, пракамэнтаваў — «Твой дробны почырк мяне тады памучыў» — і вяртае. (Разумею, што «тады» — гэта паміж двума ШЫЗА, калі лазілі да мяне ў тумбачку і правяралі, што пішу пра калёнію.) Але

тое ў мінулым, а цяпер мяне ўсё больш запаўняе прадчуваньне волі — ажно лёгка магу жартаваць з сваім ахоўнікам. Праўда, адно бянтэжыць: на гадзіньніку ўжо дзявятая вечара, і мой выхад на волю сёньня ўжо не выглядае верагодным.

## Апошняя ноч — у лякарні

Так і ёсьць. Замест выхаду мяне зноў вядуць на тэрыторыю калёніі, але ўжо ня ў свой сэктар, а проста ў шпіталь. Стаю там зноў каля таго ж вакенца ў дзьвярах дзяжуркі, дзе стаяў перад накіраваньнем у ШЫЗА. Згадваю хлопчыка-нявальнага, які прабягаў міма і ўперыўся ў мяне са зьдзіўленьнем: «Стары, а цябе чаго сюды?» Добра ведаў, што калі «сюды» прыводзіць афіцэр, дык далей будзе ШЫЗА.

Але цяпер мне выпадае казырная карта. Чую, як днявальны размаўляе пра мяне праз тэлефон, потым падзывае да слухаўкі і шэпча, што гэта начальнік калёніі.

«Вас пакуль прызначаем у бальнічку, — чую голас, які калісьці роў на мяне і пагражаў праз 411-ы адправіць на другі тэрмін, а то і ў „петушатню“. — І самі разумееце: каб не было лішніх размоваў. Пераначуеце, а раніцай вамі зоймуцца. І ў бальніцы — без асаблівых размоваў. Усё зразумела?»

Ноч выдалася кароткая, бо некалькі гадзін запар прагаварыў з чалавекам, які правёў у калёніі трэцюю частку жыцьця. Ігар шмат гаварыў пра лёсы асуджаных (пра гэта я расказваў вышэй) і

не абмінуў парадкі ў калёніі. Адзін маналёг Ігар прысьвяціў яе начальніку.

## «Нармальны начальнік»

Пачалася гэтая частка гутаркі з майго расказу пра першую сустрэчу з грамадзянінам палкоўнікам, якая скончылася для мяне штрафным ізалятарам.

«Апраўдваць ня буду. У іх такі мэтад — адразу запалохаць, зламаць волю. Калі чалавек моцны, не згінаецца, яны крыху адступяць, але з-пад увагі ўсё роўна ня выскачыш. Гляджу, ты нібыта трымаесься добра. Але яшчэ невядома, што б з табой было, калі б сядзеў далей. Ня ўсе вытрымліваюць, калі шмат гадоў сядзяць, людзі мяняюцца. Загад прыйдзе зламаць, дык зламаюць», — сумна заўважыў Ігар і перайшоў да пэрсоны начальніка.

«Палкоўнік, ён чалавек настрою. Што ты хочаш? Былы намесьнік па ідэалёгіі, гэтым усё сказана. Пашкадуеш, калі трапіш яму пад гарачую руку, але ў большасьці выпадкаў ён нармальны, па-свойму справядлівы. Ён і мянтоў сваіх трымае ў руках, ня толькі зэкаў. Свавольства тут няма.

І што яшчэ добрага зрабіў — пры ім крымінальнікі тут не верхаводзяць, з мужыкоў ня зьдзекуюцца. Крымінальныя паняцьці ў нас не працуюць. А раней і разборкі былі, і «смотрящие» розныя. Пры ім няма такога, як на іншых зонах, дзе «сінія», гэта значыць крымінальнікі, верхаводзяць. Вось скажы: цябе хто з крымінальнікаў прыціскаў? Грошы патрабавалі? Ці каб цыгарэ-

тамі дзяліўся, харчамі? Не. Вось я і кажу — навёў парадак. Нармальны начальнік».

На гэта я згадаў тое, што чуў ад хлопцаў у сваім атрадзе: у 2021 годзе, калі ў калёніі пачалі зьяўляцца першыя палітычныя, іх для «прафіляктыкі» ня проста зьмяшчалі ў ШЫЗА, як мяне, а моцна білі. Ці было такое?

Але далей размова не атрымалася.

Наступнай раніцай з «нармальным начальнікам» давялося сутыкнуцца зноў. І добра, што апошні раз за ўвесь час у калёніі. Але спачатку мяне з рэчамі зноў прапусьцілі праз праверку, ды такую, што не ішла ў параўнаньне з праверкай днём раней, якую праводзіў афіцэр.

## Разьвітальны шмон

Гэтым разам два сяржанты абшукалі звышпільна, нібы на мяжы злоснага кантрабандыста: праверылі кожную рэч, кожны шоўчык адзеньня прамацалі, кожны аркушык і канвэрт прагледзелі на сьвятло.

А вось зь лістамі і малюнкамі, наадварот, не цырымоніліся. Усё паляцела ў сьметніцу. Дакладней, ня так. Лісты, малюнкі, паштоўкі былі складзены горкай, потым пасунуты ў бок, бліжэй да сьметніцы. А калі я абурыўся, што раз няма шрэдэра, машынкі рэзаць паперу, дык хай парвуць на кавалкі, выйсьце знайшлося лёгка.

«Вам трэба, вы і рвіце, а ня то выкінем так», — прыдумаў самы кемлівы, пэўна, лайдак. І давялося ўласнымі рукамі зьнішчаць больш за 50

лістоў ад жонкі і сыноў, сваякоў, сяброў і знаёмых, уключна з расказамі старэйшай унучкі Евы, вершамі сярэдняй унучкі Сафіі, малюнкамі ўнучка Кастусіка. Усё, што цягам дзевяці месяцаў так сагравала душу, пра што марыў больш, чым пра цёплую батарэю ў камэры, яркі сонечны прамень, любімую зь дзяцінства мэлёдыю. Цудам уратаваў толькі пару дзіцячых допісаў, з памылкамі, сьмешным почыркам. «Дедушка, эта…»

«Ладна, можаце пакінуць», — зрабіў саступку пільны кантралёр і ажно плечы распрастаў ад гонару за самога сябе.

## Салодкае слова свабода

І нарэшце пачалося самае чаканае, самае-самае запаветнае. Пра што марыў кожны дзень, кожную ноч, а цяпер здаецца, і кожную хвіліну. Тое, што чалавек на волі хацеў бы зьведаць, але яму гэтага ня дадзена, пакуль там не пабудзе. А туды добраахвотна ніхто ня хоча. Вось і атрымліваецца, што зэк у хвіліну выхаду на волю — самы шчасьлівы чалавек на сьвеце, дакладна шчасьлівейшы за ўсіх па той бок турэмнага плота. Можа, толькі акрамя людзей, якія яго чакаюць. Бо яны таксама вызваляюцца.

У вязьніцах чамусьці вельмі хочацца ўявіць свае пачуцьці ў момант выхаду на волю. Як яно будзе? Ці ня выскачыць з грудзей сэрца?

Таму раней спакваля прыглядаўся да паводзінаў тых, хто неўзабаве будзе вызваляцца, ча-

сам і распытваў, што адчуваюць, што думаюць пра будучае жыцьцё.

У Віталя заканчэньне гадавога тэрміну прыпала на сядзеньне ў магілёўскім сьледчым ізалятары. Перад выхадам на волю малады чалавек стаў заўважна нэрвавацца. Відаць, забаяўся, што тэрмін пералічаць, дададуць яшчэ колькі дзён няволі, і тады давядзецца ехаць у калёнію, праходзіць праз новыя пакуты. Настрой у Віталя зусім сапсаваўся, ён стаў маўклівым, нібы замкнуўся ў сабе — гадзінамі сядзеў нерухома на ложку, па мінімуме кантактаваў з аднадумцамі. І толькі як пачуў ад кантралёра, што заўтра пэўна выйдзе на волю, аднавіўся. Зноў ветлівы, усьмешлівы, гаваркі. Напісаў прыгожы верш.

Праводзілі хлопца з «хаты» па ўсіх традыцыях: з гарбатай, пажаданьнямі і моцным высьпяткам. Зэкі вераць, што чым мацнейшы высьпятак, тым менш шанцаў зноў апынуцца на нарах. Той, хто біў, выканаў апошняе правіла дасканала. Дзьверы замкнуліся, а ў калідоры яшчэ рагаталі.

Наступнага кандыдата на хуткае вызваленьне, Дзьмітрыя, які адбываў тэрмін па 328-м артыкуле, сустрэў у калёніі. За месяц да ягонага выхаду пачалі штораніцы, пры сустрэчы на шыхтаваньні, весьці адлік да ягонай свабоды. Замест «добрай раніцы» казалі: «30», потым «29», потым «28»… Напярэдадні апошняга дня Дзьмітрый проста сьвяціўся ад радасьці і кляўся, што больш — ані! З наркотыкамі назаўсёды парваў, толькі б хутчэй на волю!

Яшчэ віншаваў з вызваленьнем асуджанага, які адбыў пакараньне за злоснае хуліганства. З хлопцам размаўляў у калідоры, за хвіліну да ягонага выхаду з сэктару. Спартовы строй, белыя красоўкі, на ўвесь твар усьмешка — усё на кантрасьце з выглядам звычайнага зэка. «Ну так, радуюся, вядома! Жыць тут можна, але гэта ненармальна. Па хлопцах буду сумаваць, а мянтоў выкіну з галавы».

Апошнім у калёніі бачыў Тамаша, зь якім пачыналі агульныя турэмныя маршруты. Разьвітальная ўсьмешка сябра кальнула сэрца: «А ён застаецца».

## Подпіс Лукашэнкі не паказалі

Усё тое самае адчуваў, калі сам з торбай рэчаў і ўжо ў цывільных шараварах ішоў за ахоўнікам па лябірынце праходаў да выхаду з калёніі.

Нават пахі памятаю. Каля павароту раптам запахла мокрым дрэвам — так і ёсьць, падсыхае на сонцы гара чырвоных сетак з дровамі.

А вось дэталяў дарогі на волю амаль не запомніў. Адно засталося ў памяці: раптам чарговы калідор звузіўся да цеснага шлюзу, збоку стаіць начальнік калёніі, глядзіць на мяне і даволі ветліва пасьміхаецца. Пазнаю яго па постаці, але твар амаль ня бачу, можа таму, што паўцемра. Ці ў вачах памутненьне. Наперадзе, перад дзьвярыма, на адлегласьці пары крокаў стаіць маладая жанчына ў вайсковай форме. «Глядзіце сюды. Слухайце!» — кажа мужчынскі голас

збоку, і жанчына пачынае ўрачыста чытаць па паперцы: «Указ прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь аб памілаваньні…»

Словы льюцца прыблізна такія, але дакладны тэкст у галаве не застаецца. Затое памятаю, што адразу ўсьвядоміў: гэта пра мяне, і прашэньне аб памілаваньні сапраўды падпісанае. Уфф… Вяртаецца нармальны зрок, бачу перад сабой сымпатычную бляндынку, праўда, у пагонах. Усьміхаюся: «А подпіс Лукашэнкі пакажаце?»

«Падпісана, падпісана, не сумнявайцеся», — начальнік калёніі кідаецца на дапамогу падначаленай. Тая ківае галавой, але паперу так і не паказвае. «Цяпер павярніцеся туды. Слухайце!»

Паварочваюся налева да шкла, за якім у паўцемры бачу таўсматага афіцэра. Твар круглы, чырвоны. Вочы жорсткія. Адказваю па чарзе на гулкія пытаньні з-за шкла: «Прозьвішча? Год нараджэньня? Прысуд?» І вось з шчыліны пад шклом, нібы ў банку рахунак на подпіс, выпаўзае даўгая і вузкая даведка аб вызваленьні, у канцы ўклеены фатаздымак. Голеная галава, даўгі нос, сумны позірк. Але пашпарт не выпаўзае. «А пашпарт?» — пачынаю думаць, ці не падманваюць мяне.

Замест адказу начальнік ідзе ў дзьверы наперадзе, паказваючы кіўком галавы, што трэба ісьці за ім. Выходзім на ганак — і мы ўжо на сонцы. Я агаломшаны. Торбы падаюцца лёгкімі, як пух, ногі самі бягуць наперад. Але начальнік ідзе ня ў бок брамы, а вядзе праз пляц у нейкі высокі будынак.

Зноў цягнемся лесьвіцамі, калідорамі і прыходзім у вялікую актавую залю зь мяккімі адкіднымі крэсламі, як у тэатры. Відаць, гэта клюб той самай часткі ўнутраных войскаў, што побач з калёніяй. Мне дазваляюць сесьці, непадалёк сядаюць два ахоўнікі ў цывільным.

## Не дагаварылі

Праходзіць мо хвілін дваццаць, цягам якіх я разважаю, што будзе далей, і не магу ўявіць нічога пэўнага. Тут зачытаюць новае абвінавачаньне і арыштуюць, ці павязуць у магілёўскае СІЗА і зробяць гэта там? Ці ўсё ж сапраўды адпусьцяць? А як мне дабірацца да дому, грошай жа няма?

У залю вяртаецца начальнік калёніі і ад парога абвяшчае, што трэба яшчэ пачакаць, зараз мне выплацяць пэнсію за час, які правёў у няволі. Калі ён падыходзіць бліжэй, падымаюся, на што палкоўнік зь лёгкай усьмешкай паблажліва заўважае: «Вы можаце сядзець, вы ж ужо вольны чалавек». Мне няёмка тлумачыць, што і на волі падымаюся, калі хто набліжаецца для размовы.

Паўза зацягваецца, начальнік зараз сыдзе, а я так і не задам яму сваё галоўнае пытаньне. Згадваю, як ён крычаў, што я ўва ўсім вінаваты і мушу за гэта адказаць. Пытаюся: у чым жа я асабіста быў перад ім вінаваты? Так і не зразумеў.

У адказ чую, што прэтэнзія тычыцца шмат каго з журналістаў. Маўляў, праз іх пісаніну людзі выходзілі з пратэстамі на вуліцы, а міліцыянты мусілі працаваць без выходных. Ён таксама.

А хто кампэнсуе гэты страчаны час? Вось таму і вінаватыя, — патлумачыў палкоўнік. І дадаў пра нейкага журналіста, які сядзеў раней у калёніі, а калі выходзіў на волю, ён, начальнік, спытаў, што той напіша пра ягоную калёнію. Сваю згадку палкоўнік скончыў парадай: пісаць трэба толькі праўду.

Разумею, што так начальнік закамуфляваў параду і на мой адрас. І тады кажу яму пра тое станоўчае, што ўбачыў у 15-й калёніі. Тут не сустрэў свавольства крымінальных «аўтарытэтаў» над вязьнямі, у тым ліку палітычнымі. Мне і зэкі пра гэта казалі, і сам пераканаўся. Але было і тое, што мяне білі па карку, як вялі ў ШЫЗА, і магу ўявіць, як абыходзяцца зь іншымі палітычнымі.

Але тут размова абарвалася. У залю ўвайшла бляндынка з пагонамі, у руцэ — папяровы пакунак. Аказалася, гэта мая не атрыманая за дзевяць месяцаў няволі пэнсія. Крыху больш за 3 тысячы беларускіх рублёў, часткова соткамі, а збольшага зялёнымі купюрамі па 50 рублёў. Пачаў іх пералічваць і ад хваляваньня памыліўся адзін раз, другі. Тады грошы ўзяў у рукі начальнік калёніі, і ў яго ўсё сышлося — рубель да рубля, у тым ліку некалькі рублёў манэтамі.

Памятаю, яшчэ падумаў: як ім гэта ўдалося — забраць з банку маю пэнсію? У раённай сацабароне бажыліся, што пэнсію гатоўкай ніхто, акрамя мяне, зьняць з рахунку ня зможа. Значыць, хлусілі?

А ў наступнае імгненьне ўжо было не да разважаньняў — у залю ледзь не бягом урываюцца

два ўзброеныя міліцыянты ў цёмнай вопратцы. Такой формы ніводнага разу ня бачыў у калёніі, таму ўнутры адразу пахаладзела — зноў па мяне?

## Падобна да новага арышту

Так і ёсьць. Адзін, які з аўтаматам, груба мацае па руках, бярэ за плечы і разварочвае, абмацвае сьпіну і ногі, зноў паварочвае да сябе. Бачу на ім бронекамізэльку, чорныя боты-берцы, на поясе яшчэ нейкія жалезкі. Другі, яўна старэйшы ўзростам, таксама апрануты ў бронекамізэльку, пад курткай тырчыць кабура пісталета. На галаве непамятая афіцэрская фуражка, якія носяць высокія чыны. Званьня не разьбярэш, бо пагоны прыкрытыя адмысловымі абрэзкамі зь цёмнай тканіны. Твар вялікі, падбародзьдзе наперад, нос бульбай, агульны выгляд такі, што толькі адзін рух — і атрымаеш у пысу, залысіны. Прычым, здаецца, гэты твар я недзе раней бачыў, яшчэ да часу маршаў і разгонаў.

Мяне, узяўшы пад рукі, міліцыянты хуткім крокам выводзяць з другога паверху ўніз, у двор, і там садзяць у цёмны бусік з такімі ж цёмнымі фіранкамі на вокнах. Нават не пасьпяваю разьвітацца з грамадзянінам палкоўнікам. Толькі заўважаю краем вока, што ён зусім не зьвярнуў увагі на імпэт маіх новых канваіраў.

Ужо з машыны чую размову пра пашпарт, які аддадуць мне на мяжы. Адразу супакойваюся.

Усё далейшае — як у прыемным паўсьне пасьля лазьні. Згадваю карцінкі падчас дарогі ў калёнію.

Везьлі ранютка аўтазакам, у «стакане», і праз краты вакенца мог бачыць толькі шэрую сталь праходу. Потым на хвіліну карцінка зьмянялася на пільныя вочы ахоўніка. Яшчэ праз хвіліну — зноў шэрае вакенца.

Цяпер жа ўпершыню гляджу на дарогу ад пасёлку Вейна да Магілёва і дзіўлюся, якую сілу ўзяла за лета зялёнка, як зарасьлі травой узбочыны, якія шырокія цені паўстаюць уздоўж дарогі ад магутных дрэваў. Ці гэтае буяньне прыроды мне толькі падаецца, а насамрэч за вакном — будзённы шлях уздоўж сумных палёў?

На гадзіньніку 14:00, і мы, ужо за Менскам, спыняемся на аўтазапраўцы. Машына і тая хоча есьці, і мой страўнік, настроены на графік калёніі, падказвае, што час абеду даўно мінуў. Гадзіну таму, калі папрасіў у канваіраў даць мне папіць вады, адказу не дачакаўся. Спрабую яшчэ раз: «Скажыце, калі мы ўжо спыніліся, дык можа пайсьці хоць кавы папіць? У мяне ёсьць грошы, я пачастую».

І зноў у адказ усе чатыры ахоўнікі маўчаць, як вады ў рот набраўшы. Праўда, той, мардаты, з схаванымі пагонамі, не стрымаўся, хмыкнуў і адвярнуўся да процілеглага вакна. «Усё ж: дзе я цябе бачыў? Дакладна ж бачыў».

Больш не спрабую зь імі загаварыць і таксама адварочваюся.

Казаў жа Вітольд Ашурак, гэта беларус беларусу заўсёды беларус. А астатнія — так, як загадаюць.

Непадалёк ад мяжы, ужо за Ашмянамі, да мяне раптам даходзіць, што, можа, апошні раз любу-

юся роднымі краявідамі. У гэты момант імчымся па даўгім узвышшы, адкуль у два бакі зямля паступова паніжаецца, і таму ўзьнікае ілюзія, быццам ляцім на самалёце. На даляглядзе — моцныя аблокі зь белымі і блакітнымі разрывамі. Найхутчэй, там недзе дождж, а то і залева. Адно крыўдна, што магу глядзець толькі ўлева па ходу буса, бо з правага боку сядзяць канваіры і сваімі жалезнымі профілямі псуюць далягляд.

## Этап як катаваньне

Успамінаць перажытае не было ніякага жаданьня, але карцінкі зь мінулага самі лезьлі ў галаву. Цяпер ведаю, што перавозка арыштантаў з адной вязьніцы Беларусі ў другую — асобны від катаваньня. Раней пра гэта і ня думалася.

Калі ў сьнежні 2021 году мяне везьлі са сьледчага камітэту на «Валадарку» на легкавіку, зь ветрыкам, сам падказваў дарогу. А вось праз тры месяцы пераезд цягніком зь Менску ў Магілёў заняў усю ноч і пакінуў шмат цяжкіх успамінаў.

Пра тое, што вязьня ізалятара сёньня забяруць на этап, паведамляюць ахоўнікі. Прыносяць паперу і загадваюць скласьці вопіс рэчаў, а праз пару гадзін, як забіраюць дакумэнт, папярэджваюць, калі быць гатовым «з рэчамі на выхад». Са мной на «Валадарцы» гэта адбылося пад вечар 26 сакавіка.

Ведаў, што пакуль выведуць з турэмнага замка, яшчэ патрэплюць нэрвы, але каб настолькі!.. Спачатку трэба зацягнуцца з рэчамі і матрацам у так

званую «падводную лодку» (калідор на першым паверсе старога корпусу), дзе знаходзіцца склад.

Уласных рэчаў і харчоў у мяне былі дзьве торбы сярэдніх памераў. Матрац я перавязаў прасьцінай, каб можна было перакінуць цераз плячо, унутр запхнуў падушку і «кругаль»(турэмны кубак). Падхапіў торбы адной рукой, другой закінуў на сьпіну матрац і пачэпаў за хлопцамі, якіх таксама павялі на этап блытанымі валадарскімі калідорамі. Як праходзіў міма, апошні раз глянуў на камэру № 57.

Што гэта за камэра?

## Маша, трымайся!

У першыя дні на «Валадарцы» пачуў ад сукамэрнікаў, што там трымаюць Марыю Калесьнікаву — адмыслова пасадзілі ў адзіночку, каб ні з кім не кантактавала. У Калесьнікавай, кіраўніцы выбарчага штабу Віктара Бабарыкі, якая стала сымбалем пратэстаў 2020 году, я браў інтэрвію падчас аднаго зь першых маршаў. Гэта было на праспэкце Пераможцаў, каля гатэля «Вікторыя».

На «Валадарцы», як вялі на прагулку, заўсёды згадваў той дажджлівы верасьнёўскі дзень. Тысячы людзей пад парасонамі. А яна самая яркая, прыгожая, сьмелая і неверагодная! А тут — змрочны калідор, шэрыя дзьверы заўсёды пад замком, вакенца «кармушкі» зачынена, ані прыкметы руху ўнутры.

Праходзячы міма, я звычайна ціха казаў: «Маша, трымайся!». Наўрад ці яна мяне чула, бо

гучна вымаўляць было немагчыма — недзе ззаду плёўся ахоўнік, але і моўчкі прайсьці па калідоры я ня мог.

Месяцы праз два турэмны тэлеграф данёс навіну, што Калесьнікаву з «Валадаркі» забралі на этап. І сапраўды, неяк убачыў дзьверы яе камэры адчыненымі. З камэры выйшаў і стаў да сьцяны, паклаўшы на яе паднятыя рукі, бляклы хлопец. Значыць, сапраўды там новы сядзелец. Але ўсё роўна кожны раз, праходзячы міма, па звычцы згадваў пра Марыю. Куды яе перакінулі? Што прыдумалі новага, каб пазьдзекавацца?

## «Радуйся, што не пятнаццаць далі»

І вось 57-я камэра засталася ззаду, а мы нарэшце дацягнуліся да «падводнай лодкі» і сталі ў чарзе ля складу. Пакуль пазбываліся матрацаў, з процілеглага боку калідора, дзе выхад на двор, прывялі дзяўчыну. Зграбная бляндынка, прыгожы, але нібы акамянелы твар. У блакітных вачах сьлёзы. Як атрымлівала са складу матрац, трэсьліся рукі. У чым справа? Толькі што прывезьлі з суду. Прысуд — дзесяць гадоў. Артыкул — 328-ы, наркатычны.

Хлопцы падбадзёрваюць: «Радуйся, што ня ўсе пятнаццаць далі». А дзяўчына глядзіць на іх, не разумее, чаму ёй радавацца. Па твары бачна, толькі нядаўна гадоў дваццаць споўнілася.

Як жа шкада іх, зьняволеных жанчын, асабліва дзяўчат! Палітычных, не палітычных, усіх. Не жаночы гэта занятак — вандраваць па беларускіх

турмах. Якімі вернуцца дамоў, калі яшчэ ўвогуле вернуцца?

## Куды падзеўся мільён беларусаў?

А нас вядуць на двор, адтуль — у тыя самыя кабінэты на першым паверсе, дзе калісьці прымалі. Як і тады, зноў разьдзяваюць дагала, праводзяць агляд, у тым ліку зазіраюць у рот і ў дзірку паміж ног — а раптам схаваў там што недазволенае? Таксама прапускаюць праз мэталашукальнікі і старанна аглядаюць усе рэчы, а потым усіх адпраўляюць у душ. Па выхадзе з душу зьмяшчаюць у асобную вялікую камэру, дзе загадваюць чакаць этапу.

Там, сярод іншых, сустрэў маладога чалавека, Марка, пра якога хачу расказаць асобна, бо вельмі быў зьдзіўлены сьмеласьцю, якую ён выяўляў у тых складаных турэмных умовах. Малады арыштант пры ўсіх уголас не пабаяўся заявіць, што за час Лукашэнкі Беларусь страціла больш за мільён жыхароў і адказнасьць за гэта ляжыць якраз на ім як на кіраўніку краіны.

«Ёсьць статыстычныя дадзеныя за 1993 год — насельніцтва тады было больш за 10 мільёнаў 300 тысяч чалавек. А цяпер нас на мільён менш. Куды падзеліся людзі? Памерлі, разьбегліся, забітыя, закатаваныя па турмах, не нарадзіліся. Хіба гэта не палітычнае злачынства?»

У камэры ў той момант было некалькі дзясяткаў вязьняў. Да таго стаяў гул, нібы рой пчол заварушылі, а тут усе замаўчалі. Некаторыя нават

перавялі з Марка позірк на дзьверы. Нібы чакалі, што вось-вось у камэру ўварвуцца турэмнікі з гумовымі палкамі.

## Даехаць да суду

Але нічога такога не адбылося. А праз гадзіну нас вывелі з рэчамі на калідор і паставілі да сьцяны ў шэраг тых, каго раніцай адпраўляюць у суд. Пра гэтых вязьняў у мяне таксама ёсьць асобныя назіраньні.

Працуючы карэспандэнтам Радыё Свабода, шмат разоў рабіў рэпартажы з судоў. Над палітвязьнямі, чыноўнікамі-карупцыянэрамі, фігурантамі гучных крымінальных спраў. Лічыў сябе даволі дасьведчаным у працэсуальных дэталях, але ніколі ня мог уявіць (проста не хапала фантазіі), якое гэта для вязьня выпрабаваньне — даехаць да суду. Цяпер ведаю і магу падзяліцца ўласным досьведам.

Гэта жах! Спачатку цябе раніцай, адразу пасьля сьняданку, забіраюць па камандзе «з рэчамі на выхад». Цягнесься з матрацам па падзямельлі. Але гэта ладна. Потым праходзіш ажно дзьве праверкі з разьдзяваньнем і прысяданьнем. Адну праводзяць турэмнікі, другую, праз пару гадзін, канвой, які павязе цябе ў суд. Потым амаль гадзіну займае дарога ў цесным «стакане» аўтазаку. Зразумела, з зашпіленымі на руках кайданкамі, седзячы на жалезнай лавачцы, да якой узімку прымярзае задніца.

У выніку, калі давязуць да суду, ужо будзеш ледзь жывы, а яшчэ трэба набрацца сілаў дасе-дзець на канца судовага дня. І ня проста адбыць нумар, а думаць, спрачацца, бараніцца. І ў абед цябе, вядома, першай-другой стравай карміць ня будуць. Добра, калі дадуць бутэрброд з каўба-сой ці кавалак жорсткага мяса, а бывае, і нічога не атрымаеш. Як прыйдзеш з суду ў камэру — турэмны ложак падасца родным.

І так штодня. Мой працэс быў тры дні, лічу, праскочыў імгненна, і то я жудасна стаміўся. А некаторыя вязьні езьдзяць у суд месяцамі! Ка-жуць, гэта ўжо нясьцерпная пакута.

Калі на працэсе вы бачыце ў жалезнай клетцы чалавека, ведайце: толькі што ён вытрымаў не-магчымае і ўжо таму варты вашага спачуваньня.

## Турэмны канвэер

Нарэшце пачынаецца выхад у двор на этап, і тут для нас, палітычных, прыпасены яшчэ адзін сюрпрыз. Паколькі мы ўсе прызнаныя «схіль-нымі да экстрэмісцкай ды іншай дэструктыўнай дзейнасьці», нас належыць перавозіць з забра-нымі ў кайданкі рукамі. А гэта значыць, што «этапнікаў» чакаюць пакуты праз усю доўгую дарогу на новае месца зьняволеньня. Прый-дзецца неяк выварочвацца, несьці свае торбы фактычна паміж ног, інакш замкнёнымі рукамі іх не ўтрымаць.

Залезьці ў аўтазак альбо ў цягнік — таксама праблема. Бывае, канваір дазволіць падняць з

плятформы ў вагон торбы па адной, але найчасьцей такой паблажкі не дачакаесься. Потым праседзіш усю ноч у замкнёным купэ таксама ў кайданках. Аднаго разу выведуць у прыбіральню, але і там кайданкі з рук ня здымуць — упраўляйся з патрэбай як хочаш.

Толькі этап з магілёўскага сьледчага ізалятара ў калёнію № 15, паміж якімі, можа, якія дзесяць кілямэтраў, у маім выпадку заняў больш за гадзіну, што можна лічыць рэкордам хуткасьці. Ну, яшчэ нагледзеўся на аўчарку, якая ўсю дарогу гыркала, лежачы на падлозе аўтазаку. Пакамунікаваў, так бы мовіць, з жывой прыродай.

Як прывезьлі з этапу ў калёнію, пачуцьцё было — гэта ўсё, капец! А ноччу стома зьмянілася азарэньнем: затое гэта мой апошні этап, далей толькі на волю!

Праўда, гэта мне так пашанцавала. Сотні вязьняў, шмат хто зь іх палітычныя, з калёніі едуць не дамоў, а ў новую вязьніцу з больш жорсткім рэжымам. Такі турэмны канвэер.

## Разьвітаньне з Радзімай

І ўсё ж апошняе з таго, што запомню пра радзіму, гэта былі ня твары канваіраў. Гэта была вялікая, на палову неба, вясёлка, падобная да той, што апошнім разам у ліпені бачыў над калёніяй.

Тады назіраў за стыхіяй з вакна трэцяга паверху сэктару, цяпер гляджу з вакна адмысловага міліцэйскага мікрааўтобуса. Тады па зоне беглі рэкі шэрай дажджавой вады, па іх, зламаўшы

шыхт, уцякалі ад залевы мокрыя зэкі. За імі з-пад дашка назіраў афіцэр, схаваны ад стыхіі яшчэ і плашч-палаткай.

Тады мне заставалася сядзець у калёніі палову тэрміну, за плячыма два ШЫЗА, наперадзе невядома колькі. А цяпер я ў бусе, які пад'яжджае да літоўскай мяжы, і мяне сьцерагуць толькі чатыры ахоўнікі. Аднаго зь іх у канцы падарожжа я ўсё ж пазнаў. Ён палкоўнік, бачыў яго ў Менску. Гэты твар я ніколі не забуду.

Як не забуду велізарную вясёлку, якая ўсё ня хоча зьнікаць, усё льецца і льецца ў вочы скрозь зацемненае шкло. Страшэнна захацелася верыць, што гэта добры знак.

Каля запраўкі, дзе ўжо пачынаецца памежны пункт Каменны Лог, бус зноў спыніўся. Пад'ехаў незнаёмы аўтамабіль з іншаземнымі нумарамі, зь яго выйшаў прадстаўнік Міністэрства замежных спраў А. Тады канваіры загадалі мне выходзіць і моўчкі аддалі даведку аб вызваленьні. А. уручыў мой пашпарт і разьвітаўся.

У аўтамабілі мяне чакалі пасярэднік М. і Марыянна. Мы зь ёй абняліся і, пакуль не заехалі ў Літву, рук ужо не расчаплялі.

## Паказьнік асобаў

У паказьнік ня ўключаныя асобы,
названыя толькі іменем і/або ініцыялам.

## Пра аўтара

Алег Грузьдзіловіч нарадзіўся ў 1958 г. у Маладэчне, дзяцінства і школьныя гады правёў у Берасьці. У 1981 г. скончыў факультэт журналістыкі БДУ. Працаваў у газэтах «Интеграл» і «Знамя юности». У 1986 г. добраахвотнікам паехаў у Чарнобыльскую зону, часова працаваў у брагінскай раёнцы «Маяк Палесся». У 1988 г. арганізаваў у рэдакцыі «Знамя юности» суполку БНФ, удзельнічаў у выпуску першых нелегальных нумароў газэты «Навіны Беларускага Народнага Фронту», як дэлегат браў удзел ва ўстаноўчым зьезьдзе БНФ «Адраджэньне».

Працаваў парлямэнцкім карэспандэнтам «Народнай газеты», адкуль у 1995 г. звольніўся на знак пратэсту пасьля зьбіцьця дэпутатаў Апазыцыі БНФ.

Быў палітычным аглядальнікам газэт «Свабода», «Навіны», «Наша свабода». З 1995 г. пачаў супрацоўнічаць, а з 2000 г. стала працаваць карэспандэнтам Радыё Свабода.

Аўтар кнігі «Хто ўзарваў менскае мэтро?», якая выйшла ў сэрыі «Бібліятэка Свабоды» ў 2013 г. Ляўрэат прэміі «Праваабарончага альянсу» Беларусі за 2009 г. у намінацыі «Журналіст году», прэміі «Надзея свабоды» Саюзу журналістаў Літвы і Сейму Літвы за 2022 г.

У 2021 г. быў арыштаваны, асуджаны на 1,5 года зьняволеньня і прызнаны палітвязьнем. Адбываў

пакараньне ў папраўчай калёніі № 15 пад Магілёвам.

Цяпер жыве і працуе на Радыё Свабода ў Вільні.

У 2023 г. разам з палітвязьнямі Ігарам Лосікам і Андрэем Кузьнечыкам абвешчаны ляўрэатам прэміі імя Дэйвіда Бэрка «За выдатную журналістыку» Агенцыі глябальных мэдыя ЗША.

РЕСПУБЛИКА БЕЛАРУСЬ
МИНИСТЕРСТВО ВНУТРЕННИХ ДЕЛ

Серия ЖЗ

Форма Б

СПРАВКА № 0223839

ИУ „ИК № 15"
г. Могилев Могил. обл.
"21" сентября 2022 г.

Выдана гражданину(ке) Уруджиловичу
(фамилия)
Олегу Анатольевичу
(имя, отчество)
дата рождения 16.12.1958
(число, месяц, год)
уроженцу(ке) г. Молодечно Минской
(город (селение), район,
области
(область, край, республика)
гражданство Республики Беларусь
семейное положение женат ЗАГС г. Бреста
(если состоит в браке,
24.11.1979 Уруджилович Марианна
указать, каким органом ЗАГСа, когда и с кем
Рыгоравна (20.04.1959 г.р.)
(фамилия, имя, отчество, год рождения) зарегистрирован брак)
отношение к военной службе не в/о
осужденному(ой) 03.03.2022 судом Советского
района г. Минска по ч.1 ст.342
УК РБ к 1 году 6 месяцам
л/свободы в ИК в условиях
общего режима. Зачтено
в срок: 224 дня
имеющему(ей) в прошлом судимости
не судим

в том, что он(а) отбывал(а) наказание в местах лишения свободы
с "10" мая 2022 г. по "21" сентября 2022 г.,
откуда освобожден(а) по в порядке помило-
вания от 19.09.2022 г. № 327рп. Осво-
божден от отбывания основного
наказания Указом Президента
Республики Беларусь



Начальник учреждения
(подпись)

Начальник отдела
(подпись)


З
Новым
2022
годам
ВАЛАДАРКА. НОВЕНЬКІ А.Г. 2022


МАГІЛЁЎ, Т-4
СЛУШАЙ СЮДА! А.Г. 2022

## Summary

«My Prison Walls» is a memoir by Aleh Hruzdzilovich in which the veteran Radio Svaboda journalist recounts his 2021 arrest, trial and nine months of incarceration in a Belarus jail. In frank and unsparing detail, Hruzdzilovich describes the interrogations and torture he was forced to endure, the relationships forged with fellow inmates and guards, the hours of suffering and moments of small triumph. Despite the subject matter, Hruzdizlovich's prose is imbued throughout with a firm optimism in the democratic future of his country. Intrinsic to the text are Hruzdzilovich's descriptions of meetings with such key political figures as Mikhail Gorbachev, Stanislau Shushkevich, Zianon Pazniak, Henadz Karpenka, Yury Zakharanka, Viktar Hanchar, Anatol Liabedzka and Uladzimir Makei. After his release from jail, Hruzdzilovich was forced to leave Belarus. He currently lives in Vilnius and continues to work for Radio Svaboda.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.** *Пераклады Веры Рыч.* Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА
ў Беларусі.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2005. —
500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд.,
дапоўненае.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2005. —
662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2005. —
520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская
Атлянтыда.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2006. —
504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—
25.03.2006.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2006. —
400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2007. —
232 с.: іл.




**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.* **Імёны Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.* **Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.* **Мой шыбалет.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.




**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў.**
**Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
**Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.*
**Птушкі пералётныя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.**
Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Сто адрасоў Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.**
Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка. Сто песень. 2010-2012.** Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012




*Альгерд Бахарэвіч.* **Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.* **Справа Бяляцкага.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.* **Турма і здароўе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.* **Хто ўзарваў менскае мэтро?** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.* **Жывая мова.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.




**Жыцьцё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.




*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста чацьверты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 350 с.: іл.




**(НЕ :)**
**вясёлыя карцінкі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
3-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 668 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Мой Картаген.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста пяты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 324 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 722 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 364 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 544 с.: іл.




**Светлана Алексиевич на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 744 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Быў у пана верабейка гаварушчы...**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 326 с.: іл.




**100 словаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 346 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Не сьмяшыце мае прыназоўнікі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста другі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 388 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Высьпятак ад Скарыны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 500 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога.**
2-е выд., дап. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 174 с.: іл.




*Сяргей Шупа.*
**Падарожжа ў БНР.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 282 с. + 56 с. укл.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Нечаканы Скарына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 328 с.: іл.




*Алена Струвэ.*
**Турма, жанчына і мужчына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 434 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста трэці.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 536 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Клініка кітайскага дантыста.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 284 с.: +24 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч. 100 цытатаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 268 с.




*Сяргей Дубавец.*
**Тантамарэскі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 356 с.




*Алесь Пілецкі.*
**Казкі па целефоне.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 298 с.




*Сяргей Абламейка.*
**Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 132 с.: іл.




*Дзьмітры Гурневіч.*
**Забойства ў цэнтры Эўропы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 248 с.: іл.




*Сяргей Астраўцоў.*
**Спадар Свабода.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 328 с.: іл.




**Каліноўскі на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 830 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 140 с.: іл.




**Гаворыць Радыё ВЫЗВАЛЕНЬНЕ...**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 172 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
4-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 826 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Невядомы Менск. Гісторыя зьнікненьня.**
Кніга першая.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 476 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста шосты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 540 с.: іл.




**Галасы Беларусі – 2020.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 434 с.




**Неверагодны 2020-ы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 170 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Невядомы Менск. Гісторыя зьнікненьня.**
Кніга другая.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 374 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста шосты.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 540 с.: іл.




**Галасы Беларусі – 2021.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2022. — 386 с.




**Станіслаў Шушкевіч на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2022. — 412 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Забіць упалмінзага.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2022. — 360 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Чаму Беларусь не Расея.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2022. — 324 с.: іл.




**Алесь Бяляцкі на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2022. — 444 с.: іл.




**Вянок Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2022. — 200 с.: іл.




**Галасы Беларусі – 2022.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2023. — 346 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
5-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2023. — 906 с.: іл.